# Ад укладальніка

Сборнік «Народныя казкі-байкі, апавяданні і мудраслоўі» — чарговы том з серыі «Беларускі фальклор у сучасных запісах», падрыхтаваны на кафедры беларускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна. У адрозненне ад папярэдніх, якія былі прысвечаны песеннай творчасці беларускага народа («Песні сямі вёсак», 1973, «Песні народных свят і абрадаў», 1974, «Лірычныя песні», 1976, «Лірыка беларускага вяселля», 1979), у гэты том увайшлі творы апавядальных і афарыстычных жанраў фальклору, а менавіта: казкі, эпічныя няказачныя творы і мудраслоўі.

Казкі, за нязначным выняткам, прадстаўлены тут пераважна адным жанрам гэтага віду народнага эпасу, а менавіта — сацыяльна-бытавымі, да якіх натуральна прымыкаюць анекдоты. Няказачныя творы ў зборніку — гэта легенды, прымхліцы, паданні, бываліцы і вусныя апавяданні-ўспаміны. Творы афарыстычныя, або мудраслоўі, гэта — прыказкі, прымаўкі і прыгаворкі, устойлівыя народныя параўнанні. Да гэтага ж раздзелу далучаны і загадкі, хаця яны і ў меншай ступені падпадаюць пад узятае намі агульнае азначэнне. Азначэннем «казкі-байкі» аб'яднаны апавядальныя жанры фальклору, пазначаныя ў большай ці меншай ступені элементам мастацкай выдумкі. Дарэчы, слова «байка» ў нашай жывой гутарковай мове калісьці і азначала ўсякі вуснапаэтычны апавядальны твор з выдумкай. Яно было сінонімам не толькі да слова «казка», але відочна замяняла і такія назвы, як легенда, паданне, анекдот, тым больш што назвы гэтыя народнай мове былі невядомы, яны — літаратурна-кніжнага паходжання і ўведзены ў навуковы ўжытак параўнаўча нядаўна. Можна сказаць, што пад словам «байка» ў народзе разумелі ўсякі цікавы, дасціпны расказ, выдуманую і не цалкам выдуманую забаўную або павучальную гісторыю. У Беларусі і да гэтага часу досыць пашырана прозвішча Бахар — што азначае баечнік, казачнік, апавядальнік, умелец расказваць па-мастацку, таленавіта і займальна. Бахар (або баяр) паходзіць ад баяць, бахары баялі байкі. Гэта засведчана ў многіх казках, змешчаных у акадэмічным 30-томным выданні беларускай народнай творчасці. «Быў сабе багаты пан, а любіў ён вельмі слухаць байкі трымаў на сваім двары баяра» («У якім небе пан быў»); «...Паны і таго на той ахт напрасілі, хто гэту байку казаў» («Аб токару і злотніку»); «Вот у цара баяшнік быў — ведама, цар спіць, а баяшнік байкі бае» («Міхей-кравец і Марцін-шавец»); «Нут-ка, баяшнік, ізбай мне новую

гэту баячку, што січас баяў» (Там жа). Несумненна, што ва ўсіх гэтых выпадках мелася на ўвазе не толькі казка ў сённяшнім навукова-тэрміналагічным разуменні гэтага слова, але і ўсякі іншы блізкі да казкі наяўнасцю выдумкі вусны расказ, «апавяданне якога-небудзь баечніка-дзеда аб падзеях мінулага, дзе праўда і фантазія пераплятаюцца ў дзіўных злучэннях» (Колас). Дарэчы, вялікі паэт і пісьменнік, дасканалы знаўца мовы свайго народа Якуб Колас гэта вельмі добра і адчуваў і разумеў. У яго знакамітым «Савосі-распусніку» чытаем: «Потым дзеду ён на печы казкі-байкі варкаваў...». «Казкі-байкі» пастаўлена Коласам у радок як адно цэлае, як семантычна-лексічнае зрашчэнне, якім ён аб'ядноўваў розныя жанры апавядальнай народнай творчасці. Пра «добрых байкароў, якія ўмеюць «складна» зманіць», згадваў у адным са сваіх твораў і выдатны знаўца беларускага фальклору Іван Мележ. Пазней слова «байка» замацавалася ў літаратурнай мове як навуковы тэрмін для абазначэння пэўнага жанру кніжнай паэзіі — алегарычных вершаваных твораў фабульнай пабудовы і павучальнага характару. Трэба думаць, што пачатак гэтаму літаратурнаму жанру далі народныя казкі-байкі, у прыватнасці — казкі пра жывёл, у якіх заўсёды ёсць пэўны павучальны сэнс — прыхаваны хітры намёк на чалавечыя ўчынкі і паводзіны.

З такіх меркаванняў зыходзіў укладальнік-рэдактар кнігі, калі вырашыў у мэтах сцісласці скарыстаць у загалоўку даўняе народнае словаспалучэнне «казкі-байкі», спадзеючыся, што з такой умоўнасцю пагодзяцца і калегі-фалькларысты і чытачы; зрэшты, усякі навуковы тэрмін ёсць у пэўнай ступені ўмоўнасць, прынятая і замацаваная ў свядомасці людзей, у грамадскім ужытку. Запрашаем чытача прыняць у якасці фалькларыстычнага тэрміна азначэнне — «мудраслоўе», якім мы аб'ядноўваем творы народнай парэміялогіі і загадкі. Увогуле знайсці такое адно слова-азначэнне, якое б несла ў сабе характэрную, агульную для ўсіх, істотную адзнаку, вельмі і вельмі нялёгка; можа быць, і прапанаванае намі — не самы лепшы варыянт з магчымых. Вядома, што фальклор як творчасць, у якой выяўлены багаты жыццёвы вопыт народа, яго розум і светапогляд, яго філасофія і мараль, вельмі часта ў абыходку называюць народнай мудрасцю. Асабліва справядліва гэта ў дачыненні да жанраў парэміялагічных — прыказак, прымавак, прыгаворак, паколькі сапраўды гэтыя творы, будучы сціслымі вобразнымі выразамі, уяўляюць сабой скандэнсаваныя формы духоўна-творчай, разумовай энергіі чалавека працы, своеасаблівыя згусткі яго жыццёвай мудрасці. Слова прыказак, прымавак і іншых блізкіх да іх

фальклорных жанраў — гэта слова разумнае, трапнае, дасціпнае, карацей кажучы — мудрае слова. Адсюль і выбар азначэння для ўсёй гэтай групы твораў малых апавядальных жанраў — мудраслоўі. Думаю, нельга не пагадзіцца, што ў параўнанні з тэрмінам «парэміялогія» і іншымі падобнымі такое азначэнне мае несумненную перавагу і ў сэнсе даступнасці, зразумеласці: тлумачыць яго, шчыра кажучы, патрэбы няма, яго сэнс схопліваецца адразу.

Асобнае пытанне можа выклікаць у чытачоў уключэнне ў зборнік гэтак званых вусных апавяданняў: у якой меры гэтыя творы ёсць фальклор і ці фальклор наогул? Прызнаюся, што пытанне гэтае застаецца пытаннем і для ўкладальніка. Сучасная айчынная фалькларыстыка адназначнага адказу на яго не дае, ва ўсякім разе — адзінай згоднай думкі наконт гэтага няма. Сталыя крытэрыі фальклорнасці, на жаль, не выпрацаваны. Зрэшты, зусім непарушнымі, «жалезнымі» і канчатковымі гэтыя крытэрыі, мабыць, ніколі і не будуць, бо фальклор — арганізм жывы, ён развіваецца, многае з таго, што ўзнікла і ўзнікае сёння ў рэчышчы масавай мастацкай творчасці, яшчэ недастаткова асвоена і даследавана (напрыклад, надзвычай модныя як з'ява песні сучасных «менестрэляў»). Але паколькі апавяданні-ўспаміны бывалых людзей нярэдка ўяўляюць сабой несумненную ідэйна-мастацкую каштоўнасць — яны павінны падавацца «на свет божы», на людзі, замацоўвацца, як усякая іншая духоўная спадчына, на старонках друкаваных выданняў і, калі хочаце, такім чынам пашырацца. Можа стацца, што лепшыя з іх, дзякуючы менавіта публікацыям, будуць пераходзіць у сферу вуснага бытавання і фалькларызавацца, як гэта часта здаралася і здараецца з напісанымі ў народным духу творамі кніжнай паэзіі. Іначай кажучы, мы зможам назіраць працэс, невядомы ў часы далёкамінулыя: фальклор будзе нараджацца і сцвярджаць сябе пры дапамозе спосабаў і сродкаў жыццядзейнасці прафесіянальнага мастацтва.

Пры адборы тэкстаў для зборніка ўкладальнік арыентаваўся на два галоўныя крытэрыі: па-першае, навізна матэрыялу, па-другое, узровень мастацкіх вартасцей твора. Значыць, месца ў кнізе дадзена тэкстам або зусім новым, якія раней не змяшчаліся ў фалькларыстычных выданнях, або, прынамсі, такім варыянтам, якія маюць пэўнае самастойнае ідэйна-мастацкае значэнне. І ў першым і ў другім выпадку абавязкова ўлічвалася вартасць тэксту як твора паэзіі.

Заслугоўваюць увагі некаторыя асаблівасці мовы апавядальных фальклорных твораў у сучасных запісах: рэалістычнае «апрашчэнне»

стылю, выяўленне індывідуальнай манеры апавядальніка, захаванне характэрных рысаў мясцовай гаворкі, уплыў двухмоўнага культурнага асяроддзя і інш.

Творы для гэтага выдання збіраліся на працягу дваццаці гадоў — як студэнтамі стацыянарнага навучання ў час фальклорнай практыкі, так і студэнтамі-завочнікамі па маёй просьбе, у тым ліку завочнікамі-дыпломнікамі, якія прадстаўлялі Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі багатыя калекцыі фальклору са сваёй мясцовасці. Практычна запісы ахопліваюць усю тэрыторыю рэспублікі, хаця іх колькаснае размеркаванне па абласцях не роўнае: багацей пададзены фальклор Міншчыны, Віцебшчыны, Гродзеншчыны, бядней — Брэстчыны, Гомельшчыны, Магілёўшчыны. Лічу абавязаным адзначыць актыўную працу выкладчыка кафедры В. В. Каладзінскага па арганізацыі збірання фальклору студэнтамі ў час вучэбнай практыкі, у гэтак званых палявых умовах, і па ўпарадкаванню запісаных матэрыялаў у архіве кафедры, за што і выказваю яму шчырую падзяку.

*Ніл Гілевіч*

# Казкі і анекдоты

## КАЗКІ

На календары вечнасці — канец XX стагоддзя, эпоха навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, эпоха пранікнення ў бясконцасць атама і космасу, эпоха біёнікі і электронікі... Узброены ведамі чалавек ужо абганяе сёння самую смелую казачную фантазію, самыя няўрымслівыя мары. Фантазію казак абганяе, а сама казка, як ні дзіўна, не старэе, у нябыт не адыходзіць. Можна нават сказаць — наадварот, у апошні час попыт на гэты від вуснапаэтычнай народнай творчасці прыкметна ўзрос і працягвае павышацца. Гэта датычыць, зразумела, і беларускага казачнага эпасу, беларускай казкі.

Жывая цікавасць, якую выклікае беларуская народная казка ў сучаснага чытача, не выпадковая: яна абумоўлена, несумненна, яе высокімі ідэйна-мастацкімі якасцямі і непаўторнай нацыянальнай своеасаблівасцю. Глыбокая народная мудрасць, высокая паэтычнасць вобразаў, нязломная і светлая вера ў чалавека, у яго сілы і магчымасці, маральная цнатлівасць і чысціня, непараўнаны, непераймальны гумар і вострая сатыра, прастата і даступнасць зместу, займальнасць апавядання і, нарэшце, сапраўднае моўнае чарадзейства, — вось некаторыя з гэтых вартасцей, якія заўсёды прываблівалі і прывабліваюць да беларускай казкі ўдзячных чытачоў і слухачоў. І як тут не ўспомніць вядомыя словы прафесара С. В. Саўчанкі — аўтарытэтнага спецыяліста ў галіне народнай творчасці, які пісаў: «Мы можам смела сцвярджаць, што па жывасці і прыгажосці расказу беларускія казкі не маюць сабе роўных».

Усе беларускія казкі, якія змяшчаюцца ў зборніках, класіфікуюцца звычайна па трох асноўных раздзелах: казкі пра жывёл, чарадзейныя казкі і сацыяльна-бытавыя. Казкі пра жывёл лічацца найбольш старажытнымі па паходжанні, змястоўнай сутнасцю сваёй яны ўзыходзяць яшчэ да такіх ранніх форм першабытнага светапогляду, як анімізм (адушаўленне) і антрапамарфізм (ачалавечванне). Трэба бачыць у іх таксама і далёкія водгукі татэмізму — адной з самых старажытных рэлігій чалавецтва, сутнасць якой складала вера ў татэма — агульнага для данага роду і якой-небудзь жывёлы ці расліны продка. Аднак галоўны змест гэтых казак складаюць не перажыткі ці водгукі старажытных рэлігійных уяўленняў, а сацыяльныя і маральныя погляды людзей працы, выпрацаваныя імі за доўгія стагоддзі як у працэсе пакарэння

прыроды, так і ў барацьбе з сацыяльнай несправядлівасцю і грамадскім злом.

Чарадзейныя казкі па сваім паходжанні таксама належаць да найбольш старажытных. Галоўнае ў іх змесце — гэта мары і спадзяванні людзей на лепшае жыццё ў будучым, іх імкненні пакарыць сабе сілы прыроды і перамагчы сацыяльнае зло, а таксама іх барацьба з чужаземнымі ворагамі-заваёўнікамі. Гэты змест раскрываецца своеасабліва — у вобразах і карцінах фантастычных, звышнатуральных, цудадзейных. Аднак неабходна помніць, што нараджаліся гэтыя творы ўсё-такі з рэальнай рэчаіснасці, з працоўнай і сацыяльнай практыкі народа, таму што «няма фантазіі, у аснове якой не ляжала б рэальнасць» (М. Горкі).

Сярод навелістычных сацыяльна-бытавых казак найбольшую каштоўнасць у беларускім фальклоры маюць, несумненна, казкі антыпрыгонніцкія (антыпанскія) і антырэлігійныя (дакладней — антыцаркоўныя), пазначаныя вострай сацыяльнай накіраванасцю. Колькасць і тых і другіх у нас вельмі значная, пра што сведчыць і гэты зборнік. Прычыну гэтага трэба бачыць у тым, што беларускі селянін цярпеў не толькі жорсткі сацыяльны прыгнёт, увасоблены ў вобразах пана-прыгонніка і яго памагатых, але таксама цярпеў і жахлівы ўціск нацыянальны і рэлігійны. Адмоўны персанаж беларускіх антыпрыгонніцкіх казак — амаль заўсёды — пан-чужаземец, заваёўнік-чужак, які не толькі лупіў тры скуры з мужыка, але яшчэ і таптаўся па ягонай душы, насміхаўся з яго мовы і звычаяў, бесперапынна абражаў яго нацыянальную годнасць. Беларускі народ вёў няспынную барацьбу супроць прыгнятальнікаў, і натуральна, што многія эпізоды і перыпетыі гэтай барацьбы знайшлі сваё адлюстраванне ў казках. У некаторых з іх створаны цудоўныя вобразы народных герояў, якія заўсёды і неадменна атрымліваюць фізічную або маральную перамогу над панамі. Гэтым самым народ выказваў упэўненасць, што і ў рэальнай барацьбе з прыгнятальнікамі ён выйдзе нарэшце пераможцам.

Гэтак жа бязлітасна, як з панамі, абыходзіцца герой беларускіх казак і са «святымі айцамі» ўсіх масцей: папамі, ксяндзамі, дзякамі, манахамі. Народ выкрываў і выстаўляў на пасмешышча гэтых «божых слуг на зямлі», добра бачачы і разумеючы іх сацыяльна-класавую прыроду і сутнасць. Прадметам сатырычнага адлюстравання ў антыклерыкальных казках часцей за ўсё з'яўляюцца такія тыповыя рысы духоўнікаў, як ханжаства і крывадушнасць, прагавітасць і нахабства, паразітызм і амаральнасць.

Значную частку беларускага казачнага эпасу складаюць творы,

у якіх высмейваюцца і ганьбуюцца розныя заганы ў чалавечым характары — такія, скажам, як непачцівыя адносіны да бацькоў, нетактоўнасць, зайздрасць, дурнота, Імкненне пажывіцца за чужы кошт і многія іншыя. Гэтыя творы, адлюстроўваючы этычныя погляды народа, яго маральныя прынцыпы, яго разуменне дабра і зла, называюць усе рэчы сваімі імёнамі, недвухсэнсоўна і ясна, не прыбягаючы да алегорыі, не карыстаючыся намёкамі. Многія з іх з'яўляюцца ўзорамі сатырычнай і гумарыстычнай творчасці народа. Мы знаходзім у іх і бліскучы ў сваёй бязлітаснасці сарказм, і з'едлівую іронію, і нязлосны, дабрадушны, разумны смех, які сведчыць пра маральную сілу і душэўнае багацце чалавека працы.

Чалавечнасць, сцвярджэнне праўды і справядлівасці, сімпатыі да бедных і абяздоленых, да сумленных і працавітых, пагарда да сытых -і жорсткіх, да хцівых і крывадушных, — вось тыя галоўныя ідэйныя якасці, якія беларуская сацыяльна-бытавая казка пранесла праз далячыні часу і якімі яна прываблівае чытача (слухача) сёння. І канешне ж — мова! Мова, у якой арганічна спалучаны дзве стыхіі: паэтычная стыхія традыцыйнай казачнай мовы і стыхія жывой гутарковай мовы, — спалучаны ў адно непадзельнае цэлае, пры адчувальнай перавазе другой, гутарковай, багатай лексічна і інтанацыйна, сакавітай, трапнай, дасціпнай, смакаваць якую ўжо само па сабе найвялікшая асалода.

Лёс розных жанраў беларускага казачнага эпасу склаўся неаднолькава. Сярод сучасных запісаў казак пра жывёл і чарадзейных новых, не вядомых раней сюжэтаў, амаль не сустракаецца. У параўнанні з гэтымі казкамі, жывыя традыцыі якіх відочна затухаюць, пэўнай жыццястойкасцю і жыццяздольнасцю вылучаюцца казкі сацыяльна-бытавога зместу і рэалістычнага характару (зразумела, у фальклярыстычнай трактоўцы паняцця рэалізм). Характэрныя змены назіраюцца ў змесце і паэтыцы тэкстаў, якія бытуюць: прыкметнае парушэнне і разбурэнне кананічнай формы, адаптацыя фабулы ў адпаведнасці з сучаснымі ідэйна-эстэтычнымі патрабаваннямі, адчувальныя, з аднаго боку, страты ў апісальнасці, у маляўнічасці, у казачнай абраднасці і, з другога боку, узмацненне прытчавасці, прыспешванне цікавасці і скарачэнне шляху да закладзенага ў творы маральна-філасофскага сэнсу, жыццёвага ўрока, павучання. Тлумачыцца гэта не толькі сучаснымі ўмовамі бытавання казак (калісьці ў доўгія зімовыя вечары казкамі бавілі час — куды спяшацца?), але і псіхалогіяй сённяшняга спажыўца фалькору.

На многіх канкрэтных творах казачнага эпасу, запісаных ад

сучасных выканаўцаў, адбіўся ўплыў «прачытанага», засвоенага праз кнігу, і наогул — уплыў прафесійнай мастацкай культуры.

За доўгія стагоддзі свайго існавання народная казка ўвабрала ў сябе пачуцці і думкі многіх пакаленняў, абагульніла сацыяльны і мастацкі вопыт тысяч і мільёнаў людзей, і таму набыла такія ідэйна-мастацкія вартасці, такую глыбіню зместу і дасканаласць паэтычнай формы, што і сёння можа служыць адным з магутных сродкаў маральнага, сацыяльнага і эстэтычнага выхавання моладзі.

## ДУРНЫ ВОЎК І РАЗУМНАЯ ЛІСА

Жыў-быў сабе воўк і была ў яго знаёмая ліса. Жылі яны, хлеб адзінакава дабывалі. Дзе ліса ўкрадзе, дзеваўчыдла ўрве курчыну. Да ліса была за ваўка хітрай і таму ўсюдых старалася абмануць яго. Ваўчыдла па дурной галаве сваёй і не разбіраўся. Залезла неяк адзін раз ліса ў куратнік, падушыла ўсіх курэй, зацягнула ў нару, колькі ёй трэба, а тады пабегла за ваўком.

— Пойдзем, кум, трохі падкрэпімся.

Залезлі зноўку ў куратнік. Воўк давай жэрці курэй. Жраў, жраў, раздуўся ўвесь. Ліса кажа:

— Пачакай, кум, я выйду ды пагляджу, ці не ідзе хто.

Сама выбегла ды нарабіла сполаху. Прыбеглі людзі і пачалі ваўка дубасіць. Наеўся ж ён — у дзірку не пралезе. Насілу ў дзверы вырваўся, увесь абабіты.

«Ну, — думае, — ужо лісе дам». Пабег жа яе шукаць. Бяжыць, аж бачыць: ліса стаіць ля калдобіны ды ў ваду глядзіць. Хацеў ужо хапануць, ды з дурной цікавасці глянуў у калдобіну. Аж адтуль ашчэраная морда ваўкова глядзіць, лісіная нейкая таксама. Сапраўдная ліса і кажа:

— Вунь глядзі, дурань, тыя воўк з лісіцай усё ліха табе і твораць.

Рыкнуў воўк ды па дурасці сваёй утапіўся.

## ЧАМУ САБАКА З КАТОМ НЕ СЯБРУЕ

Жыў кот. Вельмі быў багаты, бо мышэй у яго было многа ўсякіх. Столькі, што ён ажно сам не мог з імі справіцца. Дык ужо і жырным стаў. Мышы і разбрыліся па палях. Тады ўзяў кот ды і пазваў сабаку, ды і кажа яму: «Папасі маіх мышэй вясну, лецейка, увосень сабяры ды гані да мяне. І атрымаеш ты мышыну з быка ды шкуру на нашыйнік».

Думаў, думаў сабака ды і сагласіўся. Бегаў лета на лугу. Восень калоў ногі па ржышчу. Шэрсць кускамі з яго лезе, язык высулупіў, а мышы па палях разбягаюцца, куды каторая. Усё-ткі сабраў сабака мышэй. Прыбягае да ката, а той яшчэ жырнейшым стаў, муркае сабе. Просіць сабака награду, а кот сабе ў вусы смяецца ды і кажа яму: «Калі ты вырасціў мышыну з быка, дык бяры яе сабе, здзяры шкуру і зроб нашыйнік».

Падхапіўся сабака ды на ката, хацеў растрыбушыць, а кот на дрэва ўскочыў. З тых пор яны і не дружаць.

## КАЛІ ЎСІМ БЯДА — ДЫК УСІМ БЯДА

Жыў дзед з бабай. Была ў іх курачка-раба. Знясла яна яечка пад палком. Ды не простое, а залатое. Бегла мышка-карантышка і разбіла яго сваім хвастком. Дзед у тугу, баба ў плач.

Пайшлі яны к варотам, селі і плачуць. Вароты пытаюць:

— Дзед ды баба, чаго вы плачаце?

А дзед ды баба адказваюць варотам:

— Бяда стала, вароты. Была ў нас курка-раба. Знясла яна яечка, ды не простое, а залатое пад палком. Бегла мышка-карантышка, узяла ды і разбіла яго хвастком. Дзед у тугу, а я ў плач.

А вароты кажуць:

— Калі ўсім бяда, дык усім бяда.

Узялі яны ды заваліліся.

Прыляцела якраз у гэты час сарока-белабока. Села на варотах і крычыць:

— Вароты, вароты! Што ж гэта з вамі стала? Не так даўно я ляцела, на вас сядзела, і вы яшчэ стаялі, а цяпер заваліліся?

Вароты кажуць:

— Сарока, сарока, бяда стала! Жыў дзед ды баба. Была ў іх курачка-раба. Знясла яна яечка, не простое, а залатое пад палком. Бегла мышка-карантышка, узяла ды разбіла яго хвастком. Дзед у тугу, баба ў плач, а мы — заваліліся.

А сарока кажа:

— Калі ўсім бяда, дык усім бяда.

Узяла яна і зламала сабе нагу.

Паляцела сарока к рацэ ваду піць. І пытае рэчка ў сарокі:

— Сарока, сарока! Што з табой стала? Нядаўна была, ваду піла, ножка твая цэла была.

А сарока кажа:

— Рэчка, рэчка, бяда стала. Жылі дзед з бабай. Была ў іх курачка-раба. Знясла яна яечка, не простое, а залатое пад палком. Бегла мышка-карантышка і разбіла яго хвастком. Дзед у тугу, баба ў плач, вароты заваліліся, а я — ножку сабе зламала.

А рэчка кажа:

— Калі ўсім бяда, дык усім бяда. Вазьму ж я ўся кроўю заплыву.

Прыйшла к рэчцы дзеўка ваду браць. Глядзіць, а рэчка кроўю заплыла. Пытае дзеўка:

— Рэчка, рэчка, што з табой стала? Нядаўна была, ваду брала, ты чыстая была.

А рэчка ў адказ ёй:

— Дзеўка, дзеўка, бяда стала.

— А якая? — пытае ў яе дзеўка.

— Жылі дзед ды баба. Была ў іх курачка-раба. Знясла яна яечка, не прастое, а залатое пад палком. Бегла мышка-карантышка і разбіла яго хвастком. Дзед у тугу, баба ў плач, вароты заваліліся, сарока нагу зламала, а я — кроўую заплыла.

А дзеўка кажа:

— Калі ўсім бяда, дык усім бяда.

Узяла ды вёдры свае пабіла.

Прыйшла дамоў з пабітымі вёдрамі. Маці пытае:

— Ганна, Ганна, што з вёдрамі стала?

А яна ў адказ:

— Мама, мама, бяда стала. Жылі дзед ды баба. Была ў іх курачка-раба. Знясла яна яечка, не прастое, а залатое пад палком. Бегла мышка-карантышка і разбіла яго хвастком. Дзед у тугу, баба ў плач, вароты заваліліся, сарока нагу зламала, рэчка кроўую заплыла, а я — ўзяла і вёдры пабіла.

Маці ў гэты час цеста ў дзяжы мясіла. Як паслухала дачку, дык кажа:

— Калі ўсім бяда, дык усім бяда.

Узяла яна і вывернула цеста.

Прыйшоў дзед у хату, прынёс лапату хлеб садзіць. Глядзіць — а дзяжы нідзе ў хаце не відаць. Ён хутчэй да бабкі:

— Бабка, дзе твая дзяжа?

А бабка яму ў адказ:

— Не гавары, дзедка, бяда стала.

А дзед пытае ў яе:

— А якая ж?

— Жылі дзед з бабай. Была ў іх курачка-раба. Знясла яна яечка, не прастое, а залатое пад палком. Бегла мышка-карантышка і разбіла яго хвастком. Дзед у тугу, баба ў плач, вароты заваліліся, сарока ножку зламала, рэчка кроўую заплыла, Ганна наша вёдры пабіла, а я кажу: «Калі ўсім бяда, дык усім бяда» — і ўзяла ды дзяжу з цестам вывернула.

Вось і казцы канец, а хто ўважліва слухаў — маладзец.

## ПРА ДЗЯЎЧЫНУ-ГУЛЬТАЙКУ І ЗОЛАТА

Жыла-была адна жанчына, мела яна дачку. Дачка была прыгожая, але рабіць нічога не хацела. Маці страшыла яе і

ўгаварвала, але нічога не дапамагала. Аднаго разу маці так раззлавалася на яе, што выкінула на страху, каб бачылі людзі, што маладая, прыгожая дзяўчына сядзіць на страсе без работы — то, можа, пасароміцца іх.

Сядзела, сядзела дачка на страсе і нават не звяртала ні на што ўвагі.

А ў той дзень ехаў па вёсцы малады паніч. Угледзеў ён дзяўчыну на страсе і пытаецца ў мацеры:

— Што гэта там ваша дачка робіць?

Маці адказвае:

— Золата з саломы робіць.

Паніч здзівіўся і сказаў, што калі гэта праўда, то ён возьме яе замуж. Маці тады сказала дачцы, каб злазіла са страхі, бо паедзе да панскага палаца, будзе рабіць з саломы золата і будзе жонкай паніча.

Прывёз паніч гультайку ў свой палац. Прынёс ёй саломы, палажыў і сказаў, каб рабіла золата, а ён пойдзе на паляванне. Сказаў:

— Як наробіш з гэтай саломы золата, то будзеш маёй жонкай.

Асталася дзяўчына-гультайка адна. Сядзіць і плача над саломай. Прыйшла ноч, сон яе не бярэ, ажно пасля дванаццаці гадзін адкрываюцца дзверы, уваходзіць карлік. Паглядзеў ён на дзяўчыну і пытаецца:

— Чаго плачаш, дзяўчына?

Яна расказала яму сваё гора. Тады карлік дастаў рукавічкі і аддаў ёй і сказаў:

— Наробіш золата з саломы, калі не будзеш ведаць майго імя і будзеш маёй жонкай, а па рукавічкі я прыйду другой ноччу.

Сказаў і знік. Дзяўчына налажыла рукавічкі, і адразу золата з саломы насыпалася.

Прыехаў паніч з палявання, убег у палац, глянуў і бачыць, што ляжыць куча золата насыпаная. Зарадаваўся паніч, што будзе мець жонку-красавіцу, якая ўмее золата рабіць. Але яна не сціхае плакаць, бо перажывае, што не будзе жонкай паніча, а жонкай карліка. Суцяшаў, суцяшаў яе паніч, нічога не дапамагае. Расказваў пра здарэнні на паляванні — і гэта не дапамагло. Нарэшце расказаў ён пра маленькага чалавечка, які бегаў навокал куста і спяваў: «Дзяўчына не знае майго імя і будзе маёй жонкай, а я называюся Тылілі-Тылюлю». Зарадавалася дзяўчына і папрасіла, каб яшчэ раз паўтарыў тое, што расказваў, а сама яму больш нічога не сказала.

Прыйшоў час, калі павінен з'явіцца карлік. Сядзіць дзяўчына і чакае яго. Толькі ён адкрыў дзверы, а яна гаворыць:

— Наце вашы рукавічкі, Тылілі-Тылюлю!

Карлік узяў рукавічкі, стукнуў дзвярыма і пайшоў са злосцю.

Дзяўчына пасля таго ўмела золата рабіць і асталася жонкай паніча.

## ЛЕСНІКОВА ЖОНКА

Была ў аднаго лесніка жонка. Ды вельмі ж ужо зайздросная. Што ні ўбачыць у другіх — усё ёй хочацца.

І вось аднойчы едзе муж па лесе. Убачыў пад елкай яму. Паглядзеў на яе — нічога не ўбачыў, так і паехаў дамоў. Прыязджае, а жонка адразу да яго і пытае:

— Ну, дзе ж ты быў? Што бачыў? Можа што знайшоў?

— Нідзе, акрамя лесу, я не быў. Нічога, акрамя ямы пад елкаю, не бачыў. Нічога не знайшоў.

— Што ты бачыў? Яму пад елкаю? — здзівілася жонка. — Ах ты, чорт стары. Гэта ж мо хто клад там закапаў. Хутчэй збірайся, паедзем, пакажаш, дзе тая яма, — усхапілася жонка і пачала завязваць хутчэй хустку і надзяваць ватоўку. — Запрагай хутчэй каня, — кажа мужу.

Запрог мужык каня. Баба толькі засланіла печ, накарміла дзяцей, селі на воз і паехалі. Прыязджаюць да таго месца. Муж ужо сабраўся лезці ў яму, але жонка не пусціла яго.

— Што ты там, стары чорт, знойдзеш. Давай я палезу.

Засадзіў мужык жонку ў яму, а сам і паехаў дамоў.

Дзень бабы няма, другі няма. І дзеці ўжо пачалі плакаць, клічуць матку. Запрог муж зноў каня і паехаў па жонку. Пад'язджае да таго месца, прывязаў да вяроўкі камень і апусціў у яму. Чуе — нешта прычапілася. Стаў цягнуць. І як ён здзівіўся, калі замест бабы выцягнуў... чорта.

— Дзякуй табе, братка, што ты мяне выцягнуў. Укінуў нехта ў наша пекла шалёную бабу. Разагнала яна ўсіх нас. Дык у другіх чарцей здаровыя ногі, дык яны паўцякалі, а ў мяне раматуз у нагах, дык я вось і застаўся. Як жа цябе аддзякаваць? А, вось што, скажы, хто ў вас самы багацейшы. Я залезу яму ў комін, а ты нібыта прыдзеш мяне праганяць. Толькі прасі, каб той добра табе заплаціў.

Згадзіўся мужык.

Пайшоў чорт да аднаго багатага чалавека. Залез у комін і не дае нікому спакою. “Што рабіць? — думае багаты. — Мо папа паклікаць?» Прывёў папа. Той памахаў кадзілам, але не выгнаў чорта. Каго толькі

ён ні прыводзіў — няма рады і ўсё. І вось прыходзіць гэты мужык.

— Я, — кажа, — выганю чорта, толькі заплаці сто рублёў золатам.

Выгнаў мужык чорта. Багаты ўсё, як патрэбна, заплаціў яму, яшчэ й падзякаваў добра.

Пайшоў тады чорт да памешчыка. І зноў прыйшоў мужык выганяць чорта. Памешчык надзяліў яго зямлёй, даў многа грошай.

Потым пайшлі да князя. Той таксама даў многа падарункаў і грошай. Разбагацеў мужык.

— Ну, годзе, — кажа чорт. — Хопіць з цябе. Я пайду зараз да цара, але ты ўжо не ідзі мяне выганяць.

Пайшоў чорт да цара. І ніяк не дае яму спакою. Не спіць цар начамі. Грукае нешта над галавой, хапае яго за галаву нейкая невядомая сіла. Бегае цар з кута ў кут па сваіх пакоях, зусім ужо занямог. Заве папоў, знахароў, каб збавілі яго ад гэтай невядомай сілы. Але ніякай рады няма. Дазнаўся цар, што мужык можа выгнаць чорта. Загадаў паклікаць мужыка.

Прывялі яго да цара. Няёмка стала мужыку перад чортам.

— Ну, я ж казаў табе, каб ты не прыходзіў, — кажа чорт.

— Ды не, я не выганяць цябе прыйшоў, я толькі прыйшоў сказаць, што вярнулася з пекла і прыйшла сюды мая жонка.

— Ну, дык добра. Зараз я пакіну цара і паеду за граніцу.

А жонка, як пабыла ў пекле, дык стала вельмі добрай і ніколі болей не зайздросціла.

## ДЗЕД І ЧОРТ

Жылі дзед і баба. Вельмі бедна жылі: з куском хлеба і капляй солі. А аднойчы і хлеба кусочка не стала. Пайшла баба ў амбар, змяла мукі прыгоршчыкі-другія, нашла пару печак, спякла бліноў пару штук. Была справа на дзяды. Паставіла баба ўсё гэта ў сенцах на жарэнцах і дажыдаць пачала вечара, каб адправіць дзяды.

Адкуль браўся чорт. Узяў усё і паеў. Прыйшла бабка за блінамі, а іх ужо няма. Прыйшла ў хату і гаворыць дзеду:

— Дзеду, дзеду, нічога няма, адправіць дзядоў нечым, нехта бліны ўзяў і з'еў.

А дзед у адказ:

— Ну, і бог з ім.

У гэты час стаяў пад вакном чорт і пачуў гэтыя словы. Прыходзіць ён дамоў і гаворыць старому чорту, што так вось і так:

з'еў я ў бабы ўсё, а дзед сказаў, што бог з ім, хто гэта зрабіў. Тады стары чорт і гаворыць яму:

— Ідзі і працуй да таго часу ў гэтага дзеда, пакуль ён не назаве цябе чортам.

Пайшоў чорт к дзеду. А дзед адразу не згаджаўся яго браць, бо самім не было чаго есці, а тут яшчэ адзін лішні рот. Але потым згадзіўся:

— Ну, бог з табой, жыві сабе.

Пачаў чорт угаворваць дзеда ехаць у лес па дровы. Ехаць не было на чым, і пайшлі яны пяшком. Прыйшлі ў лес, а чорт давай дубы з корнем рваць і ў кучу складаць, а потым заваліў на плечы, пасадзіў дзеда на дровы і панёс сабе дахаты. Прынёс, пасек усе дровы, злажыў у касцёр. А дзед глядзіць на яго і гаворыць:

— А бог з табою, гэта ж трэба такую сілу мець!

Купіў дзед маленькую кабылку. Сеў чорт на яе і гоніць з усяе сілы. Скача кабылка так шпарка, што пан, які ехаў ззаду, чуць дагнаў яе на сваіх жарабцах. І прамяняў пан сваіх жарабцоў на чортаву кабылку: падумаў, што, адкарміўшы яе, яна яшчэ хутчэй пабяжыць.

Прыехаў чорт к дзеду і кажа:

— Ідзі, дзед, па людзях, па сёлах і збірай вяроўкі.

Пайшоў дзед. Ці доўга прайшло, ці мала, але прыносіць дзед многа вяровак. Узяў гэтыя вяроўкі чорт і пайшоў да пана:

— Даў мне жарабцоў, — гаворыць яму, — а цяпер дай сена, бо трэба нечым скаціну карміць.

Павёў пан чорта да стога і гаворыць яму:

— Бяры, сколькі панясеш.

Узяў чорт вяроўкі, абкруціў імі стог, узваліў на плечы і панёс дамоў.

Прыйшла вясна. Няма ў дзеда зямлі. А чорт паехаў і ўзараў балота, засеяў яго аўсом. І ўрадзіў авёс у дзеда такі, што дагэтуль такога аўса не было ні ў кога.

На другі год ужо ўсе мужыкі балота аруць, а чорт — гарушачкі. У чорта зноў авёс вырас, а ў мужыкоў прапаў. Дзед багаты стаў. Жыве сабе і гора не ведае. Бачыць чорт, што нічога не будзе. За ўсе гэтыя гады дзед ні разу не назваў яго чортам. І вырашыў ён напаіць дзеда і бабу. І сам трохі выпіў. Пусціўся чорт у скокі, ды так пачаў прыгаць, круціцца, што дзед не ўтрымаўся і сказаў:

— Але ж і танцуеш ты — як чорт!

З гэтага часу чорт і перастаў жыць у мужыка.

## ПРА ЧОРТА Ў КАЛОДЗЕЖЫ

Жылі-былі маці, бацька і дачка. Праз некаторы час маці памерла. Бацька ўзяў другую жонку. Гэта была багатая і злая жанчына. У яе была дачка, якая была вельмі лянівая. Яна нічога не рабіла. Што трэба было рабіць — усё рабіла падчарыца: і дровы насіла, і ваду, і ў хаце прыбірала.

Аднойчы пайшла яна за вадой. Выцягвае яна вядро з калодзежа, а яго хтосьці не адпускае. Нагнулася дзяўчынка і ўбачыла там чорта. Чорт ёй і кажа:

— Дзяўчынка, дзяўчынка, дай пальчык, пойдзем у танчык.

А яна адказвае:

— Як я пайду, калі ў мяне добрай сукенкі няма?

Чорт даў ёй сукенку, а дзяўчынка схапіла вядро і сукенку і пабегла,

На другі дзень пайшла дзяўчынка зноў за вадой, а чорт зноў ёй кажа:

— Дзяўчынка, дзяўчынка, дай пальчык, пойдзем у танчык.

А дзяўчынка адказвае:

— Як жа я пайду, калі ў мяне няма добрых боцікаў.

Даў ёй чорт боцікі, а яна ўзяла іх і зноў уцякла.

Прыбегла дзяўчынка дадому, а тут мачыха і ўбачыла, што падчарыца разадзетая: у прыгожай сукенцы і прыгожых боціках. Яна распытала ў падчарыцы пра тое, дзе яна ўзяла сукенку і боцікі. Дзяўчынка і сказала, што ёй усё гэта даў чорт, калі яна хадзіла за вадой.

Тады мачыха адправіла за вадой сваю любімую дачку. Падышла тая да калодзежа, апусціла туды вядро і ўбачыла там чорта. Ён ёй і кажа:

— Дзяўчынка, дзяўчынка, дай пальчык, пойдзем у танчык.

Яна і сунула палец чорту, а той і пацягнуў яе на дно.

Мачыха разгневалася і пакінула бацьку. А бацька з дачкой сталі шчасліва жыць.

## ЯК ЧОРТ У ПОЛІЎКУ ЎВАЛІЎСЯ

Было гэта даўным-даўно. У вёсцы аднойчы было вяселле. Сустрэліся каля вёскі мужык і чорт. Мужык і пытае ў чорта:

— Куды гэта ты ідзеш?

— Іду ў маладой здароўя адбіраць, — адказвае чорт.

— А як ты будзеш адбіраць здароўя?

— Маладая чыхне, ніхто не скажа «будзьце здаровы», а вось і будзе маё здароўя. А ты куды ідзеш? — спытаў чорт.

— Іду хамуты красці, — адказаў мужык. Прыйшлі яны ў хату, дзе было вяселле. Мужык застаўся стаяць у парозе, а чорт палез на печ.

Вось маладая чыхнула. Мужык і кажа:

— Будзьце здаровы!

А чорт узлаваўся на мужыка і давай крычаць з печы:

— Хамутнік ты, хамутнік!

Усе людзі паўскаквалі з мест, а мужык і кажа:

— У вас на печы сядзіць чорт. Людзі пытаюцца:

— А як яго адтуль прагнаць? Мужык і кажа:

— Трэба яго пасвянціць.

Як сталі людзі свянціць качаргой, чорт круціўся, круціўся на печы ды як скоча на прыпечак, а там стаяла поліўка, і ўваліўся чорт. Падбеглі людзі і давай біць чорта, чуць жывы выбраўся чорт з гэтай хаты. Больш ніколі чорт не хадзіў на вяселле.

## МУЖЫК І ЧОРТ

Ідуць мужык з чортам і бачаць: ляжыць куча золата. Пачалі яны думаць, як гэтае золата падзяліць. Чорт і кажа:

— Давай так: хто каго апярэдзіць, таму і золата будзе.

Мужык адказвае:

— Э, чортава насенне, у мяне сынок трохгадовы і той цябе апярэдзіць.

А мужык узяў двух зайчыкаў, аднаго пад палу, а другога на руках дзержыце І пусціў разам з чортам. Заяц і пабег. Лётаў, лётаў чорт, прыбягае, а зайчык у мужыка на руках.

Чорт тады і кажа:

— Давай будзем біцца. Хто каго паходае, таму і золата застанецца.

А мужык і кажа:

— Э, чортава насенне, у мяне бацька стогадовы і той цябе паходае.

А ў мужыка быў мядзведзь. Прывёў ён яго, і пачалі яны з чортам біцца. Паходаў мядзведзь чорта.

Чорт ізноў кажа:

— Давай яшчэ так: хто каго зрагоча, таму і золата будзе.

— Э, чортава насенне, у мяне маці на божай пасцелі і тая цябе зрагоча.

А ў мужыка кабыла здохла, ляжыць сярод двара, зубы выскаліўшы. Чорт рагатаў, рагатаў і лопнуў. І ўсё золата мужыку асталося.

## ПРА ДЗЕДА І ВАЎКА

Былі дзед і баба. Была ў іх лазня. Дзед у суботу выцепліў лазню, памыўся, пабрыўся і пайшоў у грыбы. Набраў кошык грыбоў, спатыкацца з ваўком.

— Ой, дзедзька, які ты стройны, а чаму ж я гэткі касматы?

— Прыхадзі ў суботу, я цябе памыю і пабрыю.

Дзед лазню выцепліў, накіпяціў кіпятку. Прыходзіць воўк.

— Ну, ці скора, дзядуля, мяне будзеш мыць?

— Ну, сійчас буду мыць. Вот, кумок, садзіся тут, я буду мыць.

— Мусіць, будзіць горача?..

— Садзіся смела!

І воўк як шохнуў у цэбар з варам, а дзед яшчэ і папхнуў.

Пакуль воўк выскачыў з цэбара, дык вылез голы — аблез увесь. Воўк завыў і панёсся ў лес. А дзед із бабай памыліся.

Вот у нядзелю дзед пайшоў ізноў у грыбы, набраў грыбоў, спатыкацца з тым самым воўкам.

— Я цябе, дзед, іззем!

— Ну, добра, еш. Ідзі толькі аб камень зубы натачы.

Пакуль воўк зубы навастрыў, а дзед на высокую сасонку ўзлез. Воўк глядзіць: няма дзеда. Лятаў, лятаў воўк, глядзіць: дзед на сасне. Як завыў, дык можа сто ваўкоў сабралася. Ну, дык што яны надумалі? Воўк на ваўка лезці, каб дастаць дзеда. А той воўк, голы, быў паднізом. А дзед увідзеў: каб яшчэ адзін воўк, дык бы ўжо яго і досталі.

А дзед як крыкнуў:

— Баба, вару!

А ніжні воўк знаў «смак» у вары, тузануўся — і ваўкі абрыліся. Каторы насмерць забіўся, каторы скалечыўся.

Дзед злез, скуры пазнімаў і папрадаваў.

Дык і цяпер із бабай багата жывуць.

## ЯНУК І СМЕРЦЬ

Не ведаю, калі гэта было, даўней ці цяпер, а можа і саўсем не было. Мне аб гэтым расказваў мой бацька, а вам раскажу я. Ну дык слухайце, што гэта за гэта.

У адным маёнтку жылі пан з паняю. Гэтыя паны былі вельмі скупыя. Аднаго дня да іх прыйшоў адзін хлопец і папрасіў, каб яго ўзялі на работу. Звалі гэтага хлопца Януком. Пан з паняю адразу запыталі, колькі ён возьме за работу. Янук адказаў, што будзе ў іх працаваць год за адзін абед. За такую плату паны з радасцю прынялі Янука на работу.

Вот прайшоў год, і Янук прыйшоў за сваёй платай. Радзяцца пан з паняю, што б ім сабраць Януку на абед. Сала ды мяса яны пашкадавалі і далі яму капусты, бульбы і трохі хлеба. Узяў Янук ежу, падзякаваў і пайшоў сваёй дарогай. Па дарозе ён напаткаў сабе папутчыка. Калі настаў полудзень, Янук дастаў свой клунак і пачаў частаваць свайго новага сябра. За час полудня ён расказаў, што гэты абед ён зарабіў у пана за год. «Ты, відаць, добры чалавек, — адказаў яго папутчык, — калі не пашкадаваў таго, за што ты працаваў цэлы год. За гэта я цябе аддзякую. Ты будзеш на свеце першым лекарам».

Дзівіцца Янук, як ён раптам можа стаць вялікім лекарам?

Адказаў яму яго новы сябра, што ён не просты чалавек, а імя яму Смерць. Сказала яму Смерць, што яе ніхто не бачыць, але яму яна будзе паказвацца. «Калі я буду стаяць у хворага ў нагах, то ты зразу прыступай да лячэння. Калі ж я буду ў хворага ў галавах, то знай, хвораму ўжо нічога не паможа. А цяпер ідзі на луг, нарві жоўтых і чырвоных кветак, намачы іх у вадзе, настойка іх будзе табе лякарствам».

Сказала так Смерць і знікла. З таго часу стаў Янук лекарам, вядомым на ўвесь свет.

У гэты самы час занядужаў пан, у якога раней служыў Янук. Ніякія лекары не маглі яму дапамагчы. Пачуў ён пра новага лекара і вырашыў наканец звярнуцца к яму. Калі ён убачыў Янука, то зразу пазнаў, што гэта той хлопец, які ў яго служыў. Паглядзеў Янук на пана і бачыць, што ў таго Смерць у галавах. Адказаў ён пану, што яму не дапаможа ніякі лекар. Кінуўся пан Януку ў ногі і пачаў прасіць дапамагчы яму, абяцаючы ўсё сваё багацце. Ён думаў, што Янук

помсціць яму за службу. Нічым не мог дапамагчы пану Янук.

Сеў пан у каляску і паехаў у маёнтак. А нядзель цераз дзве пана ўжо не стала.

Пражыў так Янук восемдзесят год. Тут да яго прыходзіць Смерць і кажа, што паміраць і яму ўжо пара. Не хацелася Януку паміраць, і вырашыў ён абхітрыць Смерць. Зрабіў ён такое ложка, якое магло круціцца. Прыходзіць да яго Смерць і наравіць стаць у галавах, а ён за ручку пацягне, ложка перакруціцца — і Смерць ужо ў нагах. Бараўся ён так з Смерцю чатыры гады. Раззлавалася ўканец Смерць і кажа: «Ты думаеш, што хітры, а ўсё роўна табе мяне не абхітрыць. Я табе паказвалася, а цяпер не пакажуся, і ўсё роўна ты памрэш».

Заплакаў Янук, бо знаў, што нічога ўжо ён не зробіць. Сказала Смерць, што прыдзе праз тыдзень па яго. І так яно і было.

## БЕДНЫ ЧАЛАВЕК І СМЕРЦЬ

Быў адзін чалавек — бедны-бедны. Ніколі не еў яешні, увесь час хадзіў на падзённую работу. Аднойчы прыйшоў да багатых людзей і гаворыць:

— Хоць бы раз паесці яешні.

Гаспадыня гаворыць:

— А што, ты не еў ніколі?

— Не, — адказаў чалавек, — яйкі трэба і на газу і на соль.

Гаспадар гаворыць гаспадыні:

— Што ж, раз яны такія бедныя, то спячы яешню, а ён няхай занясе дзецям.

Гаспадыня спякла, а ён панёс дзецям. Ідзе ён, насустрач яму — стары-стары чалавек. Пытаецца:

— Дзе ты быў?

— Я быў на заробку, — кажа мужык.

— А што нясеш?

— Яешню.

— А я ж таксама не еў, галодны ўвесь дзень. Можа б ты мне даў?

Бедны чалавек кажа:

— А хто ты такі, каб я табе даў?

— Я — Бог!

— Калі ты Бог, то нічога не дам табе, не дам яешні.

— А чаму ж ты не дасі?

— А таму, што ты няроўна даеш. Адным — каб елі пірагі, яешню, другім — нічога.

Пайшоў бедны чалавек далей. Сустракае яго баба, і яна таксама просіць у яго яешні. Чалавек адказвае ёй так, як і Богу, і пытаецца:

— А хто ты такая?

— Я — Смерць!

— Вот раз ты Смерць, то табе дам яешні, бо ты найсправядлівейшая за ўсіх. Усім ты роўна даеш, усіх пад адно адзеяла кладзеш, не раздзяляеш на багатага і беднага.

— Вот, — кажа Смерць, — ты даў мне яешню, то я так зраблю, каб ты быў багаты. Але помні, што і на цябе не забуду, і не адказвайся паміраць, калі надыдзе твой час.

Смерць дала яму тры зярняткі.

— Ты будзеш мець такую сілу, — кажа Смерць, — што будзеш бачыць мяне. Калі я буду ў нагах стаяць, то той чалавек, які хварэе, — паправіцца, а калі я буду стаяць у галаве, — то памрэ, і ты не зможаш яго вылечыць.

Прыйшоў бедны чалавек дамоў. Насустрач выбягае яму суседка і гавора:

— Максім, захварэў мой Мікалай. Схадзі, паглядзі, можа трэба па доктара збегаць.

Прыходзіць: Мікалай ляжыць і енчыць жыватом. Успомніў бедны чалавек, што сказала яму Смерць. Бачыць: стаіць смерць у нагах Мікалая. Палез тады ён у кішэню і дастаў семя і гаворыць:

— Спар гэта семя, можа і паправішся.

Спарыла жонка семя, Мікалай і паправіўся.

Разнесліся слухі, што паявіўся знатны лекар.

Пачалі да яго з'язджацца людзі, сталі несці яму, хто сала, хто хлеб. Стаў гэты бедны чалавек багатым. З цягам часу ён пачаў прыпамінаць словы Смерці, і пачаў ён думаць, як збавіцца ад смерці. Чалавек заказаў такую кравацць, якая магла круціцца. Прыйшоў час яму паміраць. Бачыць ён: Смерць стаіць у яго ў галаве. Тады ён круць кравацць так, каб Смерць стаяла ў нагах, але Смерць аказалася спрытнейшай. Яна хуценька аббегла і стала ў галаве і сказала:

— Круці не вярці, але і табе трэба памярці!

## ПРА ДВУХ БРАТОЎ І ГОРА

Жылі-былі два браты, адзін бедны, другі багаты. У беднага брата не было дажа і акрайчыка хлеба. Азін раз бедны і гаворыць сваёй жонцы:

— Пайду к брату, папрашу хлеба, а то дзеці ўжо галодныя.

Прыйшоў ён да брата і гаворыць:

— Брацец, дай мне хлеба, а то і дзеці, і жонка есці захацелі.

Брат гаворыць:

— Паработай, тады дам.

Бядняк паработаў у свайго малодшага брата, даў брат бедняку крайчык хлеба згарэўшага. Бядняк прыйшоў дадому, падзяліў гэты хлеб і гаворыць сваёй жонцы, што брат зваў на гулянку.

На другі дзень пайшлі к багатаму на гулянку. Прыйшлі, а там ужо сядзяць за сталамі ды гуляюць. Бедны з жонкай пасядзелі ў парозе, а як пачалі выходзіць усе госці з хаты, і яны пайшлі. Вось ідуць яны дадому, а бедны і гаворыць на жонку:

— Давай запяём.

А жонка гаворыць:

— Мы ж не п'яныя.

— Ну, як хочаш, а я запяю.

І запеў. Тут хто-та падмагае. Ён спрашвае ў жонкі:

— Ці чуеш ты: хто-та падмагае пець.

Яна гаворыць:

— Чую.

І вось к беднаму падбегла Гора. Яно гаворыць:

— Я з табой буду жыць.

А бядняк яму гаворыць:

— У мяне няма што есці.

Гора і гаворыць:

— Я знаю клад, вось запрагай каня, паедзем.

Бядняк запрог каня, і паехалі. Вось пад'ехалі яны к бальшому камню. Гора і гаворыць: — Падмагні падняць гэты камень.

Яны паднялі камень і палажылі каля ямкі. Гора і гаворыць:

— Ну, лезь, выграбай золата.

Бядняк выграб усё і гаворыць на Гора:

— Лезь, паглядзі, ці ўсё.

Гора толькі падлезла пад гэты камень, а бядняк узяў ды камень

катнуў у гэтую яму. Так Гора і асталося пад каменем.

Бядняк прыехаў дадому і гаворыць жонцы:

— Хадзі пamажы зняць золата.

Вось яны знялі золата і пачалі памаленьку купляць за гэта золата, пабудавалі новую хату, панакуплялі ўсяго.

Ну, вось аднажды мужык і гаворыць:

— Давай здзелаем гульну.

Жонка і гаворыць яму:

— Давай.

Пайшоў бядняк да свайго малодшага брата і гаворыць:

— Прыхадзі ка мне на гульну.

Багаты брат і гаворыць:

— У цябе есці няма чаго, а на гульну завеш. Ну, ладна, прыду.

На другі дзень прыехаў малодшы брат і вачам не верыць, што ў беднага брата такая хата прыгожая. Калі ўсе сядалі за стол, то багаты брат запытаўся ў беднага, як мог ён так разжыцца. Бедны брат расказаў пра ўсё, што было, і расказаў пра той клад, які паказала яму Гора.

Багаты брат і паехаў туды к таму каменю, пад каторым сядзела Гора. Багаты прыпадняў камень, а Гора адтуль ды яму на шыю.

Так і пачаў багаты брат бяднець і бяднець. І сейчас бедны.

## ЯК ГАЛУБЫ ПАМАГЛІ БЕДНАМУ БРАТУ

Жылі-былі два браты. Адзін быў багаты, а другі — бедны. У беднага было многа дзяцей. Нездарма ж кажуць: «Багатаму хлеб, а беднаму дзеці». І вось настаў час, калі ў беднага не стала чаго есці. Жонка і кажа яму:

— Схадзі да брата і пазыч у яго пуд мукі.

Той паслухаў жонкі і пайшоў. Прыходзіць к брату і просіць у яго пуд мукі. Багаты кажа:

— Добра, але за гэта я ў цябе выкалю вока.

Бедны згадзіўся. Багаты выкалаў у беднага вока і даў пуд мукі.

Так прайшло некалькі тыдняў. Потым зноў прыйшоў дзень, калі ў беднага не стала чаго есці. Ён пайшоў зноў да багатага, каб ён пазычыў яшчэ пуд хлеба. Багаты кажа:

— Я табе дам, але за гэта выкалю табе другое вока.

Бедны зноў згадзіўся. Так ён стаў сляпым. Працаваць ён ужо не

мог. Ён сядзеў каля царквы, і яму ў шапку кідалі грошы.

Аднойчы ён так сядзеў, як сюды прыляцелі галубы і сталі гаварыць паміж сабой. Адзін кажа:

— Калі гэты чалавек выйдзе на ўсходзе сонца на поле і перапаўзе тры мяжы на чацвёртую і там прамые вочы расой, то стане бачыць.

Другі голуб кажа:

— Ёсць у пана дачка прыгожая. Яна хварэе. І колькі ўжо дактароў розных прыязджала, але ніхто не можа яе вылячыць. А вылячыць яе трэба вось як: у яе пад падлогай ляжыць рак. Вось ён і цягне сокі з дзяўчыны. Трэба падняць дошкі, забіць рака і дзяўчына выздаравее. Пан жа за гэта дасць многа дабра.

Трэці голуб кажа:

— Ёсць сяло, дзе няма вады. Людзі вельмі пакутуюць. І каб была вада, трэба за сялом камень павярнуць на другі бок. Там, пад камнем, ёсць крыніца. Людзі дадуць таму чалавеку многа дабра.

Пагаварылі так галубы і паляцелі. Сляпы ж гэта чуў. Калі жонка прывяла яго дамоў, ён сказаў, што на некаторы час ён адлучыцца.

На ўсходзе сонца бедны пайшоў на поле, перапоўз тры мяжы на чацвёртую, вымыў вочы расой і стаў бачыць. Затым ён пайшоў да пана, у якога хварэла дачка. Ён забіў рака пад падлогай і вылячыў дачку пана. Пан даў яму многа дабра. Потым бедны пайшоў у сяло, дзе не было вады. Там павярнуў камень, і ў сяле стала многа вады. Людзі далі яму многа дабра.

З гэтага часу стаў бедны з сям'ёй жыць добра. Багатаму стала зайздросна. Ён выкалаў сабе вочы, найшоў, сеў з шайкай каля царквы. Там і акалеў.

## ПРА БАГАТАГА БРАТА-ЗАЙЗДРОСНІКА

Былі два браты. Адзін быў крэпка багаты, такі ўжо багаты, што не ведаў, дзе гэта багацце дзяваць, а другі быў такі бедны, так ужо збяднеў, што зусім. І ўсё яму не шанцавала: то конь здохне, то карова здохне, то дзеці захварэюць, то жонка захварэе. Ну, ніяк не мог ён разжыцца. А дзяцей было! Мабыць, штук шэсць, калі не болей.

Аднаго разу кажа ён сваёй жонцы:

— Таццяна, ідзём мы да свайго брата на госці, пагасцім троха, а пасля папросім, мо і дасць ён гарнец мукі, якую-небудзь булку хлеба дзецям, бо дажылі ўжо зусім.

Ну, пайшлі яны да свайго брата. Прыходзяць на двор, а ў хаце крык, гоман, не разбяруцца, што там такое. Падышлі, глядзяць — аж у брата гасцей поўна хата. Таўкуцца, пяюць, крычаць, гамоняць, гавораць.

— Што рабіць будзем, Таццяна, ці пойдзем, ці не пойдзем?

Самі так стаяць, з сабой мяркуюць. Яна кажа:

— Пайдзём, ужо ж прыйшлі. Падумаеш ужо, што будзе, то будзе. Пайдзём у хату.

Прыйшлі яны ў хату, сталі ў кухні ля парога. Выходзіць брат. Але так і не запрасіў іх да стала. Прынёс на кухню, даў ім выпіць, даў закусіць. Насыпаў мукі, даў булку хлеба.

Ну, пайшлі яны дамоў. Вядома, мужык крыху падпіў, дык будзе ўжо казаць:

— Таццяна, давай заспяваем.

— Ах, — яна на яго, — такі ты сякі, вунь дзеці
дома чакаюць, есці хочуць.

— Ну, я не вытрымаю, заспяваю.

— Пей ужо.

Запеў ён песню. Запеў песню ды чуе, што нехта яму так цененька падцягвае. Ён агляну́ўся вакол сябе, нікога няма. Кажа:

— Таццяна, гэта ты памагаеш?

— Выдумаў нешта. Калі я табе тут памагаць буду?

Ён тады на спроб яшчэ раз зацягнуў. І чуе: яшчэ нехта памагае цененька. Агляну́ўся ён тады назад, вакол глядзіць. Аж ідзе яго Доля. Ідзе такая абарваная, такая абшарпаная, такая худая, такая нэндзная. Жонка гэта не відзіць.

— Ну, што ты, — кажа, — бедная, ісці ўжо не можаш?

Торба была ў яго запасная, узяў торбу і ўсадзіў. Прынёс Долю дамоў, а жонка яго не відзіць. Пачала даваць дзецям есці. А ён спаць не лёг. Узяў лапату і панёс закопываць Долю. І там у садзе пад даўнейшай, старой, патрэсканай яблыняй стаў капаць яму. Капаў, капаў яму ды чуе, што нешта стукае пад лапатай. Ён выцягнуў — кацялок золата! Долю пахаваў, кол уваткнуў, а золата забраў і пайшоў спаць.

Назаўтра пайшоў, купіў каня, купіў карову, дзецям купіў адзецца. Ну, так ён разбагацеў і хату абглядзеў, усё добра зрабіў.

Ну, што, дайшлі чуткі і брату ягонаму. А брата заінтарасавала. Вядома, як багатаму хочацца яшчэ багацей быць. І думае: «Пайду запытаю, як гэта ён змог разжыцца, адкуль грошы ўзяў». А гэты

бедны чалавек дурны як бот: ніколі не можа салгаць. Вядома, калі бедны, дык ужо і справядлівы.

Прыйшоў брат.

— Ну, што ты дзе ўзяў? Адкуль у цябе ўсё?

Ён і кажа:

— Ішоў ад цябе, стаў пець, чую: нехта падцягвае. Агляну́ўся — аж гэта Доля мая. Яна была такая ўжо абарваная, абшарпаная. Усадзіў я яе ў торбу, прынёс дамоў і закапаў пад старой яблыняй, а там кацялок золата знайшоў, колік на тым месцы забіў.

Стала брату зайздросна. Ён багаты, але супраць брата ўжо бедны. Ён тады пайшоў ноччу, узяў лапату і адкапаў тую Долю. Адкапаў Долю і кажа на яе:

— Ох, ты бедная-бедная. Ён закапаў цябе, а я адкапаў. Ідзі зноў да яго.

Ён думаў, што яна пойдзе, сядзе брату на карак і зноў ён стане бедным. А гэта Доля кажа:

— Ты мяне адкапаў, я твая буду.

Як уссела яму на карак, як прыйшоў ён з той Доляй абарванай дахаты — дык усё панішчылася, так усё прапала, так ён збяднеў, стаў лахманы насіць яшчэ горшыя, чым некалі яго брат.

А тон брат і кажа:

— Вот ты пазайздросціў мне, маёй долі — вот яна да цябе і перайшла.

## МУЖЫК, ПАН І ЦАР

Жыў-быў пан. Ён вельмі любіў гуляць у карты. Гуляў да таго часу, пакуль не прагуляў усё, што меў. Калі яму не было ўжо чым залажыць, ён пайшоў да аднаго мужыка і пазычыў у яго тысячу рублёў. Як прыйшоў час, мужык пайшоў да пана па грошы, але пан прагнаў яго. Што рабіць? Шмат думаў мужык і вырашыў падаць на пана жалабу цару. А хто ж напіша? Сам непісьменны, а ў вёсцы грамаць ведалі толькі пісар і дзяк. А яны ж будуць на баку пана. І мужык сам стаў пісаць прашэнне. Нарысаваў, навадзіў ліній і адправіўся з гэтым пісьмом да цара.

Прыйшоўшы да дварца, мужык стаў прасіцца ў слуг, каб яго прапусцілі да цара. Яго не пускалі. У гэты час міма прахадзіў саветнік цара. Слугі падалі яму прашэнне. Саветнік паглядзеў, нічога не разабраў і загадаў не пускаць мужыка. Ходзіць мужык каля дварца з

думай, як жа папасці к цару. А цар у гэты час гуляў у садзе і ўбачыў мужыка.

— Што патрэбна табе, чаго ходзіш ты тут?

Мужык не знаў, што гэта цар, і паведаў яму аб сваім горы.

— Пакажы прашэнне.

Мужык падаў.

— А што тут намалёвана?

— Вось гэта, паночак, панскі маёнтак, а гэта мая хаціна. Па гэтай дарозе пан прыходзіў да мяне...

Цар выслухаў і загадаў яму пайсці ў дзверы і сказаў, што яго там прапусцяць. А сам, пераадзеўшыся ў царскае адзенне, пайшоў у дварэц. І мужык зайшоў.

— Што патрэбна яму? — спытаў цар у саветніка.

— Жалабу прынёс на пана, але разабрацца ў ёй немагчыма.

— Падай сюды! — загадаў цар і стаў разглядаць жалабу. — Ды што тут няясна? Усё ясна. Гэта маёнтак пана. Так, мужык?

— Так, царочку, так.

— А гэта твая, мужык, хаціна?

— Мая, царочку, мая.

— Па гэтай дарозе пан прыходзіў к табе, і ты пазычыў яму грошай, а ён не аддае цяпер?

— Вось гэта дык галава! — сказаў мужык на цара. — А ў вас, — зірнуў ён на саветніка, — бязмен.

Цар загадаў пану вярнуць мужыку грошы.

## ЯК БЕДНЫ ІВАН ПАНА АШУКАЎ

У адным сяле жыў пан. А цераз дарогу — Іван. Пан жыў багата, а Іван бедна. Вось і захацелася Івану пажыць багата.

— Давай, жонка, прададзім карову, — кажа Іван, — утаргуем грошы і зажывём багата, як той пан.

Прадалі яны карову. Завяліся ў Івана грошы. Вось заходзіць ён да пана:

— Дай мне тры цыгаркі, — а сам дае дзесяць рублёў.

Пан даў тры цыгаркі і пачаў здачу лічыць.

— Не трэба, — сказаў Іван і пайшоў.

Пан аж вочы вытрашчыў, але нічога не сказаў.

На наступны дзень зноў прыходзіць Іван. Суне пану аж дваццаць рублёў.

— Дай тры цыгаркі.

Не паспеў пан даць цыгаркі, як Іван на двару ўжо.

— Іван, Іван, а здачу! — крычыць пан.

А той толькі махнуў рукой і пайшоў сабе далей.

«Адкуль Іван бярэ грошы?» — ламае галаву пан. Два дні ламаў, а на трэці заходзіць да яго і пытае:

— Іван, дзе ты грошы бярэш?

— Сам раблю. У мяне такая машына ёсць.

— Прадай! Сколькі хочаш за яе?

— Дзесяць тысяч. Прыходзь увечары — забярэш.

Толькі-толькі прыцямнела, аж на парозе пан стаіць.

— Давай, Іван, машыну! Дзе яна?

— Вунь стаіць у кутку, — Іван паказаў на лапату, якая стаяла ў качарэжніку.

— Э, ды ты мяне абдурыць хочаш?

— Аніколечкі. Во глядзі, як я ёю грошы раблю.

Адчыніў Іван акно. Узяў лапату і кіўнуў жонцы (з ёй было дамоўлена раней), каб яна выйшла з хаты. Паклаў на лапату дзесяць рублёў, прасунуў у вакно і кажа:

— Дзесяць на дзесяць!

Выцягвае лапату, ажно там дваццаць рублёў ляжыць.

Потым паклаў дваццаць рублёў і зноў высунуў у вакно:

— Дваццаць на дваццаць!

Выняў лапату, а там ляжыць ужо сорак рублеў.

— Сорак на сорак! — камандуе Іван.

— Досыць, досыць, Іван. Вось табе дзесяць тысяч і давай сюды машынку, — кажа пан.

Забраў Іван грошы, а пан лапату і, нават не падзякаваўшы, шусь у дзверы і пайшоў дадому. Іван следам гародамі, гародамі і стаў пад вакном панавага маёнтку.

— Жонка, давай грошы рабіць! — выпаліў пан, убегшы ў пакой. — Вось глядзі!

Кладзе пан на лапату пяцьдзесят рублёў, высоўвае ў вакно і крычыць:

— Пяцьдзесят на пяцьдзесят!

Іван паклаў сто рублёў. Пан выцягвае лапату і бачыць — сто рублёў ляжыць. Кладзе сто рублёў:

— Сто на сто!

Выцягвае лапату, а на ёй дзвесце рублёў.

— Торбу, торбу кладзі! — крычыць жонка.

А ў торбе не жарты — трыццаць тысяч.

Паклаў пан торбу:

— Торбу на торбу!

Іван бачыць гэткую справу, за торбу і дадому. Распрануўся і на печ. Прыкінуўся, што спіць. Раптам увальваецца ў хату пан.

— Ах ты, такі гэтакі! Навошта ашукаў мяне? — і расказаў, як усё было.

— Э, ты не гэтак, пане, грошы клаў, — кажа Іван. — Трэба было штораз прыбаўляць у два разы болей, а не кідаць адразу тысячы.

Так бедны Іван ашукаў зайздроснага пана.

## ПРА ІВАНА І ПАНА

Жыў-быў на свеце Іван, меў ён вялікую сям'ю, але быў гультай і не хацеў нічога рабіць. Аднаго разу пайшоў ён да пана, пазычыў многа грошай, панакупляў сабе ўсё, што патрэбна, і жыве далей. Калі пазычаў, то гаварыў пану, што аддасць праз дзве нядзелі, як толькі прадасць цёлку.

Прайшло дзве нядзелі, чатыры, а Іван і не думае аддаваць доўг. Пан пачаў штораніцы бегаць да Івана па грошы.

Раз у нядзелю бяжыць пан, убачыла жонка і кажа Івану:

— Слухай, што рабіць? Бяжыць пан.

Іван перад гэтым злавіў сароку, успомніў ён аб ёй і кажа жонцы:

— Садзі яе на стол, а сама лажыся, будто бы яна наварыла, а не ты.

Жонка так і зрабіла. Уваходзіць пан і бачыць, што яны ляжаць. Пан здзівіўся і пытаецца:

— Чаго гэта вы спіце?

Іван адказвае:

— Бо няма чаго рабіць, у нас ёсць гаспадыня, якая нам наварыла, а мы наеліся і спім.

— А дзе яна? — пытаецца пан.

— На стале сядзіць, — весела адказвае Іван.

Пан глянуў і ўбачыў сароку. Пан здзівіўся і пытае:

— Гэта праўда, што сарока ўмее варыць? Каб нам такую, то мы таксама спалі б, а яна наварыла б.

Потым надумаўся пан і кажа:

— Аддай ты мне яе, то я падарую трэцюю частку грошай.

Іван зарадаваўся і аддаў сароку. Ухапіў з радасці пан сароку і пабег дадому. Прыйшоў дахаты, прынёс сароку, накарміў і расказаў жонцы, што сарока будзе ім варыць, а яны толькі есці і спаць. Ляглі спаць, устаюць назаўтра, бачаць, ляжыць іх гаспадыня-сарока здохшы. Бяжыць зноў пан да Івана, убачыла жонка і кажа:

— Слухай, Іванка, ідзе зноў пан. Што рабіць?

Іван сказаў ёй, каб прынесла хутчэй блішчастую паперу, пазалаціў бараду, надзеў капелюш, сеў за стол і пачаў спяваць. Убягае пан і кажа са злосцю:

— Твая сарока здохла.

Іван адказвае, што ён не ўмеў з ёй абыходзіцца, таму яна і здохла. Потым пан пытаецца, што гэта з ім сталася, што ён увесь у золаце сядзіць. Іван весела адказвае, што яго зрабілі каралём да самай смерці. Пан слухае і думае, як гэта стаць яму каралём. Потым кажа Івану, каб той парадзіў, як стаць яму каралём. Іван адказвае:

— Калі ты падаруеш яшчэ грошай, то зраблю цябе каралём.

Пан згадзіўся, а Іван стаў думаць, як абмануць яго. Была ў пана доўгая барада, паглядзеў на яе Іван і сказаў жонцы, каб тая прыгатавіла таршон са смалой і растапіла яе. Жонка растапіла смалу і прынесла мужу. Узяў Іван таршон са смалой і кажа да пана:

— Сунь бараду ў таршон і чакай, пакуль астыне, а я пайду шукаць такую машынку, што золата робіць, каб бараду пазалаціць.

Стаяў, стаяў над гаршчком пан, і смала застыла, а Івана ўсё няма. Тады пытаецца ён у жонкі Івана:

— Дзе твой Іван?

Жонка сказала, што пайшоў Іван на рынак, каб ішоў туды пан, там Івана сустрэне.

Пабег пан на рынак, гаршчок перад сабой нясе, барада ў гаршку з смалой застыўшы. А Івана нідзе і не відаць. Пытаецца ў людзей, ці тыя не бачылі Івана. А людзі глядзяць на яго, як на дурня, і ўцякаюць ад яго.

Пабег бедны пан да жонкі і расказаў ёй усю бяду, ледзьве жонка абскубала яму бараду ад смалы.

Пабег пан са злосці трэці раз да Івана. Убачыла жонка і кажа Івану, што цяпер ён адкажа за ўсе свае жарты над панам. Іван хутка крыкнуў жонцы, каб прынясла новы касцюм, падвязаў бараду, лёг на тапчан, нібы мёртвы, а жонцы сказаў, каб плакала, як па нябожчыку. Жонка так і зрабіла.

Убягае пан, злажыў рукі і кажа:

— Нарэшце здох, паабмацваў мяне і доўгу не аддаў.

Бачыць: стаіць у парозе качарга, ўхапіў яе пан і кажа:

— Хоць па смерці, але раз стукну за крыўду.

І стукнуў пан па жываце так, што Іван аж сеў.

— Ой, — здзівіўся пан, — ты з таго свету ўстаў, што ты там бачыў?

Іван адказвае, што бачыў там яго брата.

— Дык што, гэта качарга — жывучка? — пытае пан. — Аддай мне яе, то падарую ўсе грошы.

Аддаў Іван качаргу пану і сказаў, каб больш не прыходзіў. Узяў пан качаргу і пабег радасны дамоў. Прыйшоў дадому, напісаў запіску, што ён умее выжыўляць людзей і прыклеіў на сцяне дома.

Памерла ў караля дачка. Дазнаўся ён, што ёсць такі чалавек, які можа ажывіць яго дачку, запрог чацвёра коней у карэту і паехаў да пана. Прыязджае кароль і пытае ў жонкі, дзе яе муж. Тая пабегла, пазвала мужа. Прыйшоў пан, увабраў качаргу кветкамі, сеў у карэту, і паехалі ў каралеўскі палац.

Пад'язджаюць да палаца, вакол сабралася многа людзей паглядзець, як будуць ажыўляць каралеўскую дачку. Пайшоў пан у палац, а за ім уся радня. Зайшоўшы, адмерыўся, стукнуў па жываце, бачыць — не ўстае. Тады пан прыказаў, каб усе з пакоя выйшлі, а то яна іх быццам ускідаецца. Усе выйшлі. Стукнуў пан па жываце з усяе сілы качаргой, качарга і паламалася. Бачыць, што каралеўская дачка не падымаецца, і давай уцякаць. Хутка слугі караля дагналі яго і пасадзілі ў цямніцу.

А Іван і цяпер жыве, з пана пасміхаецца.

## ПРА МУЖЫКОВУ ДАЧКУ І ПАНА

Недалёка ад панскага палаца жыў мужык. У яго была дачка — пісаная красавіца. Прыходзіць раз пан да мужыка. А дачка сядзіць, кудзелю прадзе. Пан прывітаўся і пытае:

— А дзе твой ацец?

Дык дачка кажа:

— Пайшоў людзям врэд рабіць, а сабе ўдвайне большы.

Гэта значыць, што па іх полі ездзяць, дык ён пайшоў яму капаць. А ездзіць усё роўна будуць, толькі далей, за ямай,

Тады пан запытаў:

— Дзе твая маці?

Дачка адказала:

— Людзі плачуць, яна пайшла ім плакаць памагаць.

Гэта значыць, што ў вёсцы нехта памёр, яна таксама плакаць пайшла.

Дзяўчына пану загадкава гаворыць, а пан не можа адгадаць.

Ён загадаў, каб яе бацька абавязкова прыйшоў да яго ў маёнтак.

Прыходзіць бацька ў хату, а дачка і кажа, што быў пан, доўга з ёй гаварыў і загадаў, каб бацька ў маёнтак ішоў. Бацька думае: пэўна, пана нечым дачка угнявіла, але што зробіш. Што пан скажа — такі суд па панскаму прыказу.

Пайшоў бядняк да пана. А пан сказаў мужыку, што ў яго дачка красавіца і надта хітрая, разумная. Тады даў яму гаршчок з дзіркай і загадаў, каб дачка залатала.

Сядзіць дачка, кудзелю прадзе і бачыць, што бацька валачэ на плячах гаршчок вялізны, пэўна пуды на тры будзе. Яна запытала ў бацькі, навошта той яго прынёс. Бацька і сказаў, што пан даў, каб яна яго залатала. Дачка адправіла бацьку з гаршком да пана, каб ён вывернуў яго на благі бок, на які латка кладзецца.

Пан загадаў кінуць той гаршчок пад плот. Затым наварыў яец, аддаў іх мужыку і загадаў, каб дачка курыцу на іх пасадзіла і каб вывеліся кураняты. Дачка села, тыя яйца з'ела, а потым падпаліла печ ды напражыла ячменю, што аж чорны стаў. Ссыпала яна гэты ячмень у торбачку і пасылае бацьку, каб аднёс пану, а той яго каб пасеяў, вырасціў і зрабіў круп, якімі яна будзе куранят карміць.

З вараных яец кураняты не выведуцца, а з паленага ячменю нічога не вырасце. Усе панскія задачы рашыла.

Тады пан сказаў мужыку, каб яго дачка з'явілася ў маёнтак, але каб была ні адзетая, ні голая, ні ішла, ні ехала, дала падарак і не дала яго, — тады ён замуж яе возьме. Дачка адзела сетку, асядлала казу, узялаката пад паху, а краявую птушку — на падарак. І вот ні ідзе і ні едзе. А пан як убачыў праз акно, загадаў сабак з прывязі спусціць, каб пакусалі яе. А тая ката выпусціла. Кот ускочыў на бярозу, а сабакі

сталі пад ёй і стаяць. Яна далей едзе ў маёнтак. У руку пану птушку дала, а тая і паляцела.

Зноў усе панскія задачы рашыла.

Пан загадаў ёй ехаць дамоў, а ён следам прыедзе, і свадзьбу здзелаюць.

Пан запрагае тройку, бярэ сватоў, і фурман вязе да дзяўчыны. Адгулялі вяселле, і пан павёз красавіцу ў маёнтак. Жывуць хораша, весела, дабро нажываюць.

Аднойчы прыйшлі да пана на суд два мужыкі. Яны збіраліся на кірмаш ехаць, дык адзін запрог кабылу, а другі — воз. У дарозе кабыла ажарабілася. Мужыкі пачалі біцца: кожны хоча жарабё сабе забраць. Адзін крычыць, што яго кабыла ажарабілася, а другі — што воз ажарабіўся, бо жарабё пад возам было. Біліся, крычалі і пайшлі да пана на суд. Пан спытаў, дзе было жарабё: над возам ці пад кабылай? Раз пад возам — той і забярэ жарабё, чый воз.

Калі пан выйшаў, жонка і кажа пацярпеўшаму, што пан зараз на поле пойдзе, дык каб мужык хутчэй бег і цягаў па полі долата. Калі ж пан спытае, што ён робіць, каб адказаў, што ловіць рыбу.

Убачыў гэта пан мужыка ў полі і смяецца, што той долатам на полі рыбу ловіць. А мужык і сказаў пану, што калі воз можа ажарабіцца, то й рыба долатам наловіцца. Прыйшлося пану па справядлівасці рассудзіць мужыкоў.

Дамоў вярнуўся пан злосны, бо ведаў, што гэта яго жонка навучыла мужыка. Пан і кажа жонцы, каб яна забірала самае найдаражэйшае ды ехала да бацькі жыць.

Жонка загадала слугу віна прынесці найлепшага і напаіла пана. Фурман памог ёй усцягнуць пана на воз, і павезлі яго да яе бацькі. А там пана палажылі на лаўцы пад акном. Пан пакуль праспаўся, дык і раніца надышла. Давай пеўні пець. Прачнуўся пан і ніяк не ўцяміць, дзе гэта ён. А жонка і кажа, што яна яго загад выканала: забрала самае найдаражэйшае ды дамоў прыехала. Пан загадаў фурману, каб той тройку хутчэй запрог, пасадзіў жонку ды ўцякаць, каб людзі не бачылі.

## ЯК МУЖЫК ПАНА АБДУРЫЎ

Праязджаў неяк па вёсцы малады пан і ўгледзеў дзяўчыну-красуню, што ў акне сядзела. Пад'ехаў ён бліжэй да хаты і папрасіў піць. Дзяўчына, аднак, не спяшалася. Тады яе бацька (ён таксама быў

у хаце) загадаў груба:

— Прынясі вады, кабыла, чуеш?!

Пан усміхнуўся ды й пытае:

— А ці можна купіць гэту кабылу?

— Можна, а як жа! — адказаў бацька.

— А за колькі?

— Ну, хаця б за сто рублёў.

Узрадаваўся пан такой удачы, аддаў грошы і паехаў у свае палацы. Скора прыйшлі яго слугі і кажуць гаспадаоу:

— Ну, давай туюю кабылу, што пан купіў.

Пайшоў бацька да хлява і вывеў адтуль кабылу — худую, аднавокую ды караслівую.

Дзівяцца слугі: «Зусім здурэў наш пан. Найшоў што купляць!» Але рабіць нечага — павялі яе за сабою.

А пан у той час у сваіх пакоях быў. Прывялі слугі кабылу ды і пытаюцца:

— Куды яе весці?

Той, не гледзючы, загадвае:

— У сталовую, накарміць трэба.

Пераглянуліся слугі, паціснулі плячыма і пацягнулі кабылу на другі паверх. Пасля кажуць пану:

— Што рабіць? Яна чаю не п'ець!

— Нічога, яшчэ не прывучана. Вядзіце яе V маю спальню.

Яшчэ больш здзівіліся слугі, але загад выканалі.

Прыйшоў пан у спальню, глядзіць: ажно ляжыць на дзіване кабыла караслівая, зубы ашчэрыла ды здыхае.

Як закрычыць абураны пан, як залемантуе!

Спусцілі кабылу ўніз, усе яе косці парастрасалі.

А пан больш не адважваўся купляць у сялян «кабыл».

## ЯК МУЖЫК ПЕРАМОГ ПАНА У СПРЭЧЦЫ

Заспрачаліся мужык з панам. Пан кажа:

— Ты маіх сабак не прыкорміш.

А мужык кажа:

— Ты маіх дзяцей не прыкорміш.

Паспрачаліся яны і разышліся.

Пайшоў мужык дамоў, зарэзаў кабана і прынёс мяса сабакам на панскі двор. Панаядаліся сабакі і ляжаць, хвасты паадкідаўшы.

А пан прынёс мужыковым дзецям усякіх прысмак, карміў іх усім-усім на свеце, колькі ўлезла, пакуль не сахвоціліся.

Ну, й прышлі яны глядзець, хто лепей каго пакарміў. Пайшоў пан к сабакам і панёс ім мяса, малако. Ляйцаць сабакі і ў той бок не глядзяць.

Пайшлі яны тады к мужыку. Сядзяць дзеці, ляжаць перад імі розныя прысмакі. Мужык бярэ з кішэні арэхаў і сыпануў іх далоў. Як паляцелі дзеці збіраць гэтыя арэхі! Як пачалі кусаць іх!

— Ну, што, пан, я ж тваіх сабак прыкарміў, а ты ж маіх дзяцей — не!

## «ВЕРНЫ» СЛУГА

От да аднаго пана прыехаў пан, і сталі яны гаварыць пра свае слугі. От першы гаворыць:

— У мяне слуга — пастух, такі верны! От, у мяне ест вол з залатымі рагамі, і ён яго пасе. Ніхто ў яго не ўкрадзе таго вала, і ніхто за ніякія грошы не купіць.

Другі пан кажа:

— А я вот украду.

Ну, вот і залажыліся там, як даўней бывала, паны на некалькі тысяч рублёў: украдзеш — значыцца, я праіграў, а не ўкрадзеш — ты праіграў.

Сказалі выправіць гэтага пастуха ў поле. Там недалёка рэчка, кусты. Пасе ён ды трымае гэтага вала на вяроўцы. Зараз прыходзіць паненка, харошая-харошая. Стала на беразе, раздзелася, стала гімнастыкі рабіць над рэчкай. Загледзеўся ён, зацікавіла яго гэта. Узёў ды і пусціў гэтага вала з рук. І прытаіўся сабе, думае: «Яна, мусіць, мяне не бачыць». Прытаіўся і паглядае.

Тая парабіла сабе гімнастыкі, тое-сёе, ускочыла ў ваду, сплесанулася, адзелася і пайшла. Зірк ён назад — вала няма! «Што л^ рабіць? Што ж пану гаварыць? Як гэта гэтак налучылася?»

Прыходзіць у двор. А тыя зладзеі прывялі ўжо вала да пана.

— Вот, — кажа пан-госць, — табе і верны слуга. Вот і ўкраў я вала твайго.

— Дык дзе ж ты падзеў вала? — пытае пан-гаспадар у пастуха.

— Ты яго ў руках трымаў, і ў цябе ўкралі? Гвалтам у цябе не адбіралі?

— Не.

— Дык, а як жа гэта зрабілася?

— От ведаеце, панок, што: як прыйшла пакуса без барады і вуса, як раздзелася дагала — дык я і забыўся на вала.

## ЯК ПАНЫ АБ ЗАКЛАД БІЛІСЯ

От да аднаго пана прыехаў пан. І сталі самі з сабой гаварыць. Той, прыезджы пан, хваліў свайго аканома, а гэты, тутэйшы, надта хваліў свайго пастуха за тое, што ў яго ніхто не ўкрадзе авечкі, як ён пасе. Каб невядома якія грошы даваў, у яго не ўкрадзеш. А той пан гаворыць:

— А я вот украду.

І пайшлі ў заклад яны. Сеў прыезджы пан у брычку і едзе. Бачыць: пасе пастух авечкі. Пад'язджае ён і гаворыць:

— Прадай мне гэтую авечку.

— Ого, — кажа пастух, — я не прадам!

— Я табе дарага дам, колькі захочаш.

— Не, — кажа, — я не прадам ні за ніякія грошы!

Тады пан гаворыць:

— Ты скажаш свайму пану, што ў цябе яе воўк украў, ухваціў.

— Ну, я пайду параджуся сваёй дурной галавой.

Адышоўся, уткнуў пугаўё ў зямлю, павесіў капэлют і кажа:

— Дзень добры, пану.

— Дзень добры, дурань.

— Паночку, у мяне воўк украў авечку, ухваціў.

— Як жа ж ён у цябе ўхваціў? Пры табе ж сабакі. Чаму ж ты гвалт не крычаў, калі ён браў? Даць дурню дваццаць пяць!

Завярнуўся пастух да пугаўя, у зеў шапку і хутчэй у поле да пана.

— Не, — кажа, — не прадам я авечкі.

— Ну, дык я табе дарага да?л. Вот я табе дам яшчэ ў два разы болей, як я табе даваў.

Падумаў гэты пастух, падумаў і кажа:

— Ну, дык давай, плаці.

Заплаціў пан, скарэй за авечку, у брычку і паляцеў да тутэйшага пана. Прыязджае ён і кажа:

— Вот і купіў у твайго вернага пастуха авечку.

Пан гаворыць:

— Ну, гэта нічога, што купіў, але паглядзім, ці ён гэта будзе скрываць, ці ён прыйдзе, можа, і скажа мне.

Аж гоніць пастух авечкі. Зараз, як толькі загнаў авечкі, і прыходзіць да пана.

— Дзень добры, паночку.

— Дзень добры, дурань. Што скажаш?

— От, — кажа, — ехаў нейкі пан. Як прычапіўся да мяне: прадай я яму авечку. Я з ім і гаварыць не хацеў. Я казаў, што ты мне не раўня, я з табой гаварыць не хачу. А ён ўсё адно не адлазіць ад мяне: прадай ды прадай, прадай! Ён мне даваў і столькі і столькі, а нарэшце ён даў столькі і столькі рублёў. Я падумаў, што гэта ж, паночку, можна за адну гэту авечку чатыры купіць! Я ўзяў і прадаў. От, паночку, грошы гэтыя!

— Маш, дурань, пенць рублі!

Пайшоў пастух сабе весела.

Так прыезджы пан праіграў свой заклад. Раз аддаў грошы — значыць, пастух верны.

## ЯК МУЖЫК ПАНУ ГІСТОРЫІ РАСКАЗВАЎ

От адзін пан надта любіў, каб гэта да яго людзі прыходзілі. От ён ім і аб'явіў:

— Дам кубак золата, але хто мне салжэ так, каб я не паверыў.

Ну, на золата ж усе квапяцца. Сталі людзі ісці і надумывацца, як сылгаць. І як толькі ні лгуць — пан гаворыць:

— Свет вялікі. Можа быць, і праўда.

І так ідуць і ідуць людзі кожны дзень, і — нічога. Усё пан гаворыць:

— Свет вялікі. Можа быць, і праўда.

Тады адзін мужычок кажа сабе. «А ну, — кажа, — і я пайду. А можа, што і салгу такое, каб ён не паверыў».

Ну, і прыходзіць да пана.

— Дзень добры, — кажа, — паночку! От, сягоння я хадзіў на

поле глядзець свайго жыта. Такое, — кажа, — жыта ў мяне ўрадзіла! А адзін, — кажа, — колас вырас аж пад самае неба. Я паглядзеў, паглядзеў, сабе думаю: «А каб папробаваць да палезці на неба па гэтым коласе». І давай я лезці. Лез, лез і ўзлез на неба!

А пан гаворыць:

— Свет вялікі, можа быць, і праўда.

— Узлез, паглядзеў: так — гэтаксама, як і тут. Людзі робяць усё, сеюць, аруць. Я пахадзіў, пахадзіў, ужо мне есці захацелася. Абед. Трэба ж вярнуцца дахаты. Прыходжу, — кажа, — да гэтай дзюркі, гляджу, аж гэты колас вецер зламаў. Як жа мне злезці з гэтага неба? Аж там баба палола ячмень. Я прыйшоў, папрасіў: «Дай ты мне аполак». І стаў круціць вяроўку з аполак. Круціў, круціў вяроўку. Прывязаў я да гэтай дзюркі і стаў злазіць.

— Ну, што ж, — гаворыць пан, — свет вялікі, можа быць, і праўда.

— Я, — кажа мужык, — лез, лез, а, нарэшце, яшчэ далёка ад зямлі, вяроўкі не хватае. І што ж мне рабіць? Добра, што я ножык меў. Я зверху зрэжу, унізе надтачу ды зноў лезу, зверху зрэжу, унізе надтачу ды ізноў лезу.

Пан кажа:

— Ну, што ж. Свет вялікі, можа быць, і праўда.

— Ну і злез, — кажа, — я на зямлю. Іду дахаты. Іду дахаты, як дасць вялікі дождж, што і дзявацца няма дзе. А стаіць пастух у вялікім капэлюшы. Я скарэй да яго і стаў пад капэлюшам. На мяне нічуць дождж не лье. Прастаяў я. Тады стала раз'ясняцца сонца. Я глянуў, што гэта за пастух. Аж гэта быў пана брат.

— О, гэта няпраўда! — крыкнуў пан.

— Ну, дык давай кубак золата!

## ПАНСКІЯ ГУСІ

Жыў некалі пан, і было ў яго шмат курэй, гусей, качак. Наняў ён сабе слугу, каб было каму хадзіць за імі, карміць іх, паіць, нанач закрываць. А сам ён, бывала, прыходзіў у два-тры дні і пералічваў. І столькі было слугу работы, што ён, бедны, і адпачыць не меў часу. І з'есці не мог смачна, бо ўсё пану даставалася. Думаў слуга, думаў і вось аднойчы злавіў гусіну, зварыў і з'еў. Прыйшоў пан, пачаў пералічваць гусей, а іх толькі дзевяноста дзевяць.

— Янусь, няма адной гусі!

— Што вы, пане, усе на месцы.

— Дзе ж усе, калі адной няма!

— Няпраўда, усе, — адказвае слуга.

Пералічыў пан яшчэ раз — няма адной гусіны і ўсё тут!

— Янусь, лопні мае вочы, я з цябе гусь зраблю!

— Чаго вы да мяне, пане, прывязаліся? Уся сотня тут.

Так доўга яны спрачаліся. Адзін кажа: няма!, другі сваё: ёсць! Рашыў пан даказаць сваю праўду. Прыгнаў ён сто слуг, пералічыў іх.

— Бачыш сто слуг?

— Бачу.

— Калі ты кажаш, што тут сто гусей, то на кожнага слугу прыходзіцца па адной гусіне, так?

— Так.

— Ну-ка, хапайце кожны па гусіне, толькі па адной! — крыкнуў пан слугам.

Пачалі слугі хапаць гусей. Ганяліся за імі, ганяліся і хутка ўсіх пералавілі. Дзевяноста дзевяць малойцаў стаяць з гусінай пад рукою, а адзін — ні з чым.

— Цяпер скажы, чаму гэты без гусі застаўся?

— Дык хто ж вінаваты, пане, калі ён не змог сабе злавіць!

## ЯК ПАНСКІ КУХАР ПАЗБАВІЎСЯ АД «ЗЛЫХ ДУХАЎ»

У Малых Крывічах жыў пан Свентарэцкі. І была ў яго сястра. Але яна цёнгле пражывала ў Польшчы, толькі прыязджала да яго ў госці. Але надта любіла катоў. Як яна толькі прыедзе ў госці, са ўсёй вёскі каты ідуць да яе. Бяда кухару. Яна заказвае, каб ён варыў ім яду. Не мог ён пазбавіцца ад гэтых катоў.

Нарэшце падабраў ён такі час, што паненка пайшла на шпацыр, нікога не было ў пакоях, а толькі каты былі. Вот ён зайшоў да катоў, узяў пугу і давай ёй па кожным кату біць і жыгнацца:

— У імя Ойца, Сына, Духа Свентэго аман, злы дух!

Ды ізноў, ды ізноў — некалькі разоў паўтарыў. Гэтыя каты — па сценах. Тады адчыніў дзверы, ўсе каты паўцякалі.

Прыходзіць паненка дахаты, глядзіць: катоў няма.

— А дзе, — кажа, — каты?

— Ай, панечка, каты — гэта злыя духі. Як я пераржыгноўся, дык яны тут жа ўсе паўцякалі. Я гэтага і сам не ведаў.

— Што ты гаворыш?

— Ну, вот папробуй, пані, гэта зрабіць. Сазаві іх і пераржыгнайся, паглядзіш, што гэта будзе.

Сазвала ж гэта пані неяк катоў. Прыйшлі яны, хоць баючыся. І тады пераржывалася:

— У імя Ойца, Сына, Духа Свентэго аман!

Дык гэтыя каты скарэй за дзверы і ўцяклі.

І вот тады паненка болей іх не зазывала і паверыла кухару, што гэта чэрці, а не каты.

## ЯК МУЖЫК ПАНА ЧАСТАВАЎ

Ехаў мужык і сустрэўся з панам. Але пан быў чужы і не ведаў мужыка. Пакланіўся мужык пану. Паглядзеў на яго пан і бачыць, што мужык сам абадраны, а вол яго худы, чуць ногі цягне. Пытаецца пан:

— Чый ты мужык?

— Домнін.

— А Домна чыя?

— Жонка мая.

— А каго вы баіцеся?

— Ды во ў Канцавога Ігната вельмі благая сучка. Дык мы ўсе вельмі яе баімся, як хто ідзе, дык кол ці камень нясе.

— А хто вас дзержыць?

— Кол за кол, вугол за вугол — так і дзержымся.

Раззлаваўся пан і кажа:

— Вось каб узяў ды заехаў к гэтаму мужыку даўганосаму.

Паглядзеў мужык на пана, адвярнуў нос на бок і кажа:

— Заедзь, панок. Я кварту гарэлкі пастаўлю, а Домна буракоў увалье.

Захацеў пан паглядзець, дзе і як жыве гэты абадраны мужык, ды й паехаў да мужыка.

Пасадзіў мужык пана за стол, паставіў кварту гарбкі, а Домна — буракі на стол. Наліў мужык чарку гарэлкі і пытаецца ў пана:

— Ну, дык да каго ж мне піць, паночак?

А пан той паляк быў, дык ён і адказвае:

— Пі до мне.

Падняў мужык чарку:

— Ну, дык, Домна, будзь здарова! — і выпіў.

Наліў другую, даў Домне, і тая выпіла. Наліў трэцюю чарку і зноў да пана звяртаецца:

— Да каго ж цяпер, панок, піць будзем?

Пан зноў:

— Пі до мне!

Зноў выпіў мужык з Домнай. Так выпілі яны з жонкай цэлую кварту гарэлкі.

Сядзеў пан, глядзеў, а потым вылез з-за стала, плюнуў і паехаў злосны.

## БАБЧЫН КВАС

Жыў у нашых месцах адзін граф. Багацтва ў яго было вельмі многа. Кожны дзень граф быў чым-небудзь заняты. Вот неяк аднойчы раніцай граф наехаў на паляванне. Заехаў ён далёка ў лес і заблудзіўся. Ездзіў, ездзіў ён па лесе і ніяк не можа выехаць на дарогу. Есці яму ўжо так захацелася, што ён не мог злезці з каня.

На пяты дзень выехаў ён на палянку. На палянцы стаіць маленькі домік. Граф зайшоў у дом і ўбачыў старэнькую бабульку. Бабулька расказала яму, як выехаць на дарогу, і дала паесці. А яна жыла вельмі бедна, і ў яе, акрамя простага кваску, нічога больш не было. З'еў граф адну міску — папрасіў другую. Падзякаваў бабульцы і паехаў дамоў.

Прыехаўшы дамоў, ён сказаў сваім паварам, каб яны зварылі такі квасок, як у бабкі. Праз некалькі гадзін квасок быў звараны. Папробаваў граф — не, не тое. Нясмачны квасок зварылі яго павары. Раззлаваўся граф і павыганяў іх усіх з работы. Прыйшлі на работу новыя павары, але ніяк яны не змогуць зварыць такі квасок, як у бабулькі.

Паслаў граф паслоў за бабкай, каб яна зварыла яму квасок. Прыехала бабка ды і гаворыць: «Табе і я такога смачнага кваску не звару цяпер. Ты ж сам падумай, ці ж такі ў цябе цяпер апетыт? Тады ж у цябе ён быў «воўчы». Не хоча слухаць граф — няпраўду гаворыць

бабка. Прывёў ён яе на кухню і папрасіў зварыць. Ну, бабка і зварыла, але зусім ён быў не такі смачны, як той раз.

Зразумеў граф, што ў яго тады быў і сапраўды апетыт, а цяпер яго няма. І рашыў ён кожны дзень ездзіць на паляванне, каб мець «воўчы» апетыт.

## У АДНО СЛОВА

Усяляк у жыцці здараецца. Гэта можа было, а можа й не.

Дык вось. Аднойчы давялося мужыку разам з панам па адной дарозе ісці. Дамовіліся: калі знойдуць што, дык папалам дзяліць.

Ідуць і бачаць: ляжыць каля дарогі кажух, а на ім нож. Папалам дзяліць — не выходзіць пароднаму. Тут і кажа мужык:

— Давай так: хто адным словам назаве, той і гэтыя дзве рэчы забярэ.

— Добра, — кажа багаты, — я назаву яго «ножычак-кажушок».

Усміхнуўся бедны:

— Не, гэта ж два словы, а вось паслухай: «Нажух».

Пачасаў багаты патыліцу, ды нічога не зробіш. Забраў нож і кажух бядняк.

Ідуць далей. Бачаць: стаіць мех грэчкі і мех ячменю. Ізноў папалам не атрымалася.

— Давай ізноў: хто адным словам назаве, таму і будзе, — кажа мужык.

— «Грэчачка-ячмянёк», — нядоўга думаючы, выпаліў багаты.

— Не, — смяецца мужык, — гэта ж два словы. «Грэчамень» — вось гэта адно слова.

І ўскінуў за спіну мех грэчкі.

— А за другім, — кажа, — прыеду пазней. Далей ідуць. Бачаць: праз высахшы ручэй кладка ляжыць. Дубовая, цяжкая, а пасярод дзірка.

Думае сабе мужык: «Нашто мне гэта палечына?»

— Ну, — кажа багаты, — цяпер твая чарга: гавары!

— «Дошчачка з дзірачкай!» — выпаліў мужык.

— Не, не, гэта ж два словы. «Дзірдошчачка» — гэта адно слова.

— Ну што ж, бяры сабе дошку.

Ускінуў багаты на спіну дошку ды і прэць, пыхкаючы, па

сцежцы. Вось як бывае.

## МУЖЫК І РАЗУМНАЯ ЖОНКА

Жыў-быў мужык з жонкаю. Бедна яны жылі, часам не было нават чаго есці, але жылі яны ў згодзе. Сабраў мужык нямнога грошай і захацеў купіць сабе каня. Паехаў ён на базар, купіў сабе каня. Добры папаўся конік. Радуецца' мужык. І дзець ён дадому і сустракаць чалавека, які вёў карову. Той і кажа: «Давай памяняем каня на карову». Згадзіўся мужык. Думаіць ён, што карова таксама прындзіцца ў гаспадарцы. Малако дзецям будзе.

Ідзець ён далей. Бачыць: ідзець насустрач чалавек з казой. Спадабалася мужыку каза. Думаіць: «Каза яшчэ лепш, чым карова. Сена ёй менш трэба». Рашыў ён памяняцца. Аддаў чалавеку карову, узяў казу і ідзець далей, радуецца.

Сустракаіць ён чалавека, які вядзець авечку. Спытаў чалавек у мужыка, ці не хочыць ён памяняць казу на авечку. «Хачу», — сказаў мужык. Думаіць: «Авечка нічым не горш за казу. Будуць дзецям рукавічкі зімой. А жонцы — кажушок».

Памяняліся яны і пайшлі кожны ў свой бок.

Ужо чуць не каля самага дома сустрэў ён чалавека, які нёс ката пад пахай. Захацелася мужыку імець свайго ката ў хаце. «Давай памяняемся, — гаворыць чалавеку, — хачу я мець свайго ката дома. Будзіць ён мышэй лавіць, і ў доме весялей будзіць».

Узяў ён ката і ідзець далей. Вясёлы-вясёлы!

Бачыць ён: едзіць у калясцы насустрач яму пан. Пытаіць пан у мужыка:

— Адкуль ідзеш? Што бачыў?

Мужык кажа:

— Хадзіў на базар і купіў каня.

— Дзе ж твой конь? — пытае пан.

— Я яго памяняў на карову. Малачко ў доме патрэбна, — адказвае мужык.

— А дзе ж твая карова? — зноў пытаіць пан.

— Памяняў карову на казу. Казу ў доме лепей трымаць.

— А дзе ж каза? Хіба ты і яе памяняў?

— Памяняў, паночак, памяняў казу на авечку. Харошая была авечка.

— А дзе ж твая авечка падзелася?

— Дык памяняў жа яе на ката. Добры, бачыш, кот.

Зарагатаў пан, заліўся смехам.

— Вот дурны ты, мужык. Ну і дасць жа табе жонка, пакажыся ёй на вочы толькі, дык адразу стукніць цябе качаргой.

— Што ты, паночак. Ты проста не ведаеш жонку маю. Калі я прыду дамоў, то яна ласкава сустрэты мяне, паможа памыцца, блінамі накорміць, прыгалубіць.

Не верыць пан. Паспорыў ён з мужыком. Гаворыць:

— Дам табе шапку золата, калі цябе жонка ласкава сустрэніць.

Прыязджаюць пан і мужык з катом дамоў, да мужыка. Сустракаць іх на ганку жонка мужыка. Надала яму рушнік, паліла ваду на рукі, запрасіла ў хату.

— Ну, як торг прайшоў? — пытаецца. — Купіў ты каня?

— Купіў, жоначка, але няма каня.

— Што ж з ім здарылася?

— Прамяняў я яго на карову.

— Ну, нічога. Карова ў гаспадарцы таксама прындзіцца.

— Дык няма ж яе!

— А дзе яна?

— Прамяняў я карову на казу.

— Ой, то не гаруй, каза, можа, яшчэ і лепей.

— То і казы ж няма! Прамяняў я яе на авечку.

— А дзе ж авечка?

— Прамяняў на ката. А кот вось сядзіць.

Напаіць пан, калі ж жонка мужыка лаяць пачне. Чакаіць, чакаіць, а жонка маўчыць.

Потым яна абняла мужа і гаворыць:

— Кот таксама лішні не будзіць. Будзіць мышэй лавіць, і ў доме весялей будзіць.

Ніводнага слова дрэннага не сказала.

Прыйшлося пану даць мужыку шапку золата. Зарадаваўся мужык. Купіў ён каня, карову і яшчэ дабра ўсякага. І стаў ён жыць багата.

## МУДРЫ МУЖЫК

Ехаў аднойчы на дарозе купец. Быў ён вельмі багаты і надта скупы. І раптам пачаўся вялікі дождж. Навокал нічога не было, акрамя адной невялічкай хаткі. Прыйшлося купцу зайсці ў яе. Хатка была малая і цёмная. А жыў тут адзін мудры стары чалавек. Купец стаў у парозе і не ведае, што трэба рабіць. А стары і кажа:

— Праходзь, панок, і садзіся, бо ўсё роўна даражэй не заплаціш.

Думае купец: «Няўжо яму плаціць трэба? Пайду лепш і сяду». Пайшоў ды і сеў. Сядзіць ён, сядзіць, а стары і не думае браць у яго грошы. Тады купец і пытае ў мужыка:

— Няўжо табе патрэбна плаціць за тое, што я тут сяджу?

І адказаў яму мужык:

— Ды не, паночку, у нагах усё роўна праўды няма.

Купец падзівіўся мудрасці мужыка, падзякаваў яму, даў грошай і паехаў дадому.

## «ЧОРТ» У ПАНСКАЙ КЛУНІ

Уцёк Іван ад свайго пана. І куды ж яму падацца? У лесе страшна, холадна. Назад вярнуцца баіцца: заб'е пан за згубленую карову.

Тым часам дождж такі пайшоў, што на ім рубца сухога няма. Рашыў Іван тады хоць пераначаваць у цяпле. Прыйшоў у нейкую вёску. У гэтай вёсцы жыў пан, ды надта скупы быў. Здарылася так, што Іван патрапіў у яго клуню. Чыркнуў раз, другі сваім красалам, знайшоў кадаўб з пер'ем. Залез ён у гэтую бочку. Там мякка, цёпла. І заснуў Іван моцным сном.

У той час, калі Іван выбіваў іскру красалам, здарылася пану выглянуць у акно. Убачыў ён водблескі агню ў клуні. «Злодзей», — думае. Пазваў парабка і — у клуню. Заходзяць, адкрываюць дзверы.

— Хто тут? — гаркнуў пан.

Ніхто не адказвае. Ступіў пан яшчэ два крокі і зноў:

— Хто тут?

Іван прачнуўся, пачуўшы гэта. «Заб'е, закатуе», — думае. Ды як сігануў з кадаўба! А да яго мокрай вопраткі прыліпла пер'е. Пан як убачыў, самлеў адразу.

— Д'ябал, — шэпча малітву.

Чуць не сканаў ад страху.

З таго часу пан вечарам баіцца нос высунуць з пакояў.

## ПРА БАБУ-ВАРАЖБІТКУ

Быў дзед і баба. І жылі дужа бедна. Дажы з'есці не было чаго. Дзед купіў карты бабе. А сам пайшоў красці. Украдзіць, а баба «вываражыць», дзе схована ўкрадзенае. У сваёй вёсцы краў.

Аднойчы ў пана ўкралі гарлач золата. Ну, і на свайго работніка пан сказаў: «Едзь і прывядзі варожбітку». Уклаў па сядзенне воронніх яек. І сказаў: «Калі яна сядзе на іх, значыць, знае, дзе схована золата».

Работнік прыехаў да варожбіткі. Тая выйшла, выслухала панскую прыслужку. І, нібы нічога не заўважаючы, сказала, падняўшы галаву ўверх: «Ляцела варона з цёмных лясоў, з даўгіх дарог і садзіцца на вароннія яйкі».

Прывязлі яе да пана. Прыслужка пана сказаў, што тая ўзвала, на чые яйкі села. Пан пачаставаў варожку. Ды папрасіў адгадаць, вываражыць, дзе знаходзіцца золата. Але тая адразу не згадзілася. Папрасіла пана пачакаць.

Жыве нядзелю, другую. Пан непакоіцца. А баба не ведае, што і гаварыць. Адкуль жа ёй ведаць, дзе яно закопана. Пан сказаў варожцы, калі тая не захоча гаварыць, то пападзе ей і па брушку і па хрыбціку. Баба ходзіць па пакоі, непакоіцца, ды бубніць сама сабе: «Каму, каму, а брушку і хрыбціку пападзець...» І так увесь час.

А ўкралі золата злодзеі па прозвішчу Брушка і Хрыбцік. Затаіліся яны, але ж іх непакоіла адна думка: а што, калі варожка вываражыць. Вось яны і церліся кожную ноч каля панскіх пакояў. Пачуўшы свае прозвішчы ад бабкі, яны аслупянелі ад страху. Пачалі ўпрошваць яе. Прыйшлі ў хату, аддалі ёй усё крадзенае золата. Папрасілі, каб пану не казала.

Раніцой зноў з'явіўся пан да варожкі. Тая працягнула яму гаршчок з золатам. Радасцям пана не было канца. Не пасквапіўся на сваё багацце. Даў бабе хлеба, сала, пшаніцы ды крыху грошай золатам.

## ПРА МУЖЫКА, ПАНА І КСЯНДЗА

Ішлі два бедныя мужыкі красці панава дабро. Тады к ім яшчэ адзін мужык прыстаў. Пытаюцца яны ў яго:

— Куды ты, браце, ідзеш?

— Красці, — адказвае.

— А вы куды?

— Таксама красці.

— Пойдзем са мною, я ведаю пана надта багатага.

Прыйшлі да панскага двара. Сабакі ўчулі іх, пачалі брахаць.

— Што з імі зрабіць, каб не брахалі, а то яшчэ пан пачуе?

— Нічога, дадзім рады.

Пабілі мужыкі сабак і павешалі над ганкам. Затым падкраліся да свірна, адамкнулі яго ціхенька і зайшлі ў сярэдзіну. Колькі дабра ў пана! Аж вочы разбегліся, убачыўшы столькі багацця. Падзялілі яны ўсе рэчы паміж сабой. Толькі панскія сінія штаны засталіся.

— Што ж з імі рабіць? Нас трое, а штаны адны, — гаворыць адзін з мужыкоў. — Давайце я пайду, спытаюся ў пана, каму штаны трэба аддаць. «А можа мне яны пападуцца», — думае ён.

Прыйшоў мужык да пана і кажа:

— Пане, я табе прыйшоў расказаць надта цікавую казку.

А гэты пан вельмі любіў ужо слухаць казкі. Дзень і ноч слухаў бы, і не надаела б. Калі мужык сказаў яму, што раскажа цікавую казку, у пана аж вочы загарэліся.

— Садзіся хутчэй у галовах і расказвай, — гаворыць.

Пачаў мужык казку расказваць. А тыя два мужыкі стаялі пад акном і слухалі, аб чым гаворыць мужык з панам.

А мужык расказвае казку пану.

— Ішлі, — гаворыць, — мужыкі, красці панава дабро. Прыйшлі да панскага двара, але сабакі не пускаюць у двор, брэшуць. Узялі мужыкі забілі сабак і павесілі над ганкам. Ці добра яны, пане, зрабілі?

— Добра, так і трэба, — гаворыць пан.

— Адамкнулі мужыкі свіран, усё панава дабро падзялілі, адны сінія штаны засталіся. А як раздзяліць штаны, калі нас трое. Я гаварыў, што штаны мне павінны аддаць.

— Канешне, табе, — гаворыць пан.

Мужыкі, якія стаялі пад акном, чулі гэта. Калі мужык выйшаў ад пана, яны аддалі яму штаны, і самі пайшлі дадому.

А пан і не ведаў, што мужыкі абакралі яго.

Назаўтра прачнуўся пан, бачыць, што сабакі яго вісяць забітыя над ганкам і ў свірне ўсё падчышчана. От ужо гора пану было! А тут яшчэ прыйшоў к яму ксёндз і смяецца, што ў пана нічога не

засталося. Пан падумаў, што гэта ксёндз і абакраў яго. Паклікаў ён мужыка і сказаў яму, каб той адшукаў у ксёндза ўкрадзенае.

Пайшоў мужык к ксёндзу і пытаецца ў яго:

— Ці хочаш ты ў рай?

— Хачу, — адказвае ксёндз.

Мужык пайшоў на рэчку, налавіў ракаў. Потым купіў свечак, пазапальваў іх і папрывязваў ракаў да свечак. Прынёс к ксёндзу на двор, стукаецца ў дзверы.

— Ксёндз, — гаворыць, — анёлы з неба пазлазілі і свецяцца во ў цябе пад акном. Хадзі скарэй, я табе іх пакажу.

Ксёндз выйшаў на двор.

— Давай я цябе ў мяшок пасаджу, і будзем ісці праз трое дзвярэй пякельных.

Згадзіўся ксёндз, залез у мяшок. Нясе мужык мяшок з ксёндзам, потым аб плот як дасць, — каб якраз ксёндзу галавою стукнуцца.

— Вось, — кажа, — адны дзверы і прайшлі.

Нясе зноў ксёндза ў мяшку. Потым зноў як дасць галавою ксёндза аб плот.

— Вось, — кажа, — і другія дзверы прайшлі.

Прыйшоў мужык да панскага двара, павесіў мяшок над ганкам і напісаў:

— Біце яго!

Выйшаў пан, біў ксёндза, покуль не адбіўся.

## ЗАГАДКА КСЯНДЗА

От адзін ксёндз даваў шклянку золата таму, хто разгадае, што ён будзе паказваць рукамі. Сабралася многа ахвотнікаў — на золата кожны сквапеп. Прыйшлі. Ксёндз наказвае адзін палец і рукой угору, а тады так рукі разводзіць — ушыркі. Паглядзяць, паглядзяць людзі, гавораць тое і тое. Ксёндз кажа:

— Не!

І гэтакія хадзілі, хадзілі — ніхто не мог адгадаць. Нарэшце мужычок ідзе.

— А ну, можа я адгадаю.

Прыйшоў ён да ксяндза. От ксёндз яму паказвае адзін палец, а ён ксяндзу паказвае два. Ксёндз паказвае ўгору рукой, а ён, мужычок, — у зямлю. Ксёндз расхіліў рукі, а ён ксяндзу ў морду ды

сам ходу.

Выскачыў на двор, тут стаяць людзі, чакаюць.

— Ну, што табе ксёндз паказваў?

— А што, — кажа, — ён паказваў? Ён паказваў, што мне дзюрку зробіць, а я паказаў, што я яму дзве зраблю. Ён паказваў, што мяне павесіць, а я паказаў, што я яго і жывога ў зямлю закапаю. І, — кажа, — разлажыў рукі, толькі хацеў мяне хваціць, а я яму ў морду і сам ходу.

Прыходзяць да ксяндза, пытаюцца:

— Ну, ці адгадаў гэты мужычок ці не?

— Адгадаў, — кажа ксёндз.

— Ну, а што ксёндз паказваў гэта?

— А я вот так паказваў, што мяне бог сатварыў; ён паказаў, што і яго таксама. Я паказаў, што бог на небе, а ён паказаў, што і на зямлі. Я расхіліў рукі, паказаў, што бог ест міласцівы, а ён за гэта мне ў морду, што не толькі для мяне, а для ўсіх.

Адгадаў!!!

І палучыў мужык шклянку золата.

## «СВЯТЫ СПАС»

Жыла адна кабета. Яна мела другога. Каго гэта яна мела? Не, не ксянза, а гэтага, што ксянзу паслугуе... А-а! Во! Арганіста, што спявае на хорах і дае музыку. Ну, дык мела арганіста гэнага. Муж яе паехаў да млына. А ён ужо троха знаў, што той ходзіць, што яна гуляе. Ён ад'ехаў троху і вярнуўся. Кажа:

— Кола зламалася.

Прыехаў, а яны тут ужо ўсё: ну выпіўка ў іх мелася, гэты арганіст яе ўжо раздзеўся. Як пачуў, што муж едзе: «Дзе мне дзявацца?» — кажа. А муж ужо на ганку. Дык ён на кут стаў, зажмурыўся, рукі зладжыў так во на грудзях і стаіць, думае: «Што ўжо будзе, тое й будзе». Муж заходзя, кажа:

— Што гэта такое, га?

— Ну, гэта ты як паехаў, дык у нас нейкі святы Спас паявіўся.

Муж кажа:

— Ну, добра... святы Спас, святы Спас, але ж чаму ў яго ўсё гэдак, як у нас?

Ну й выходзя на двор на сякеру. Гэты відзя, што ўжо сякеру нясе, і давай праз стол уцякаць. Як быў голы, прыляцеў дадому. А гэта ў суботу было.

Назаўтра сабраліся людзі да касцёла. «Пайду ж і я», — думае чалавек. Стаіць гэта на хорах, спявае гэны самы арганіст, ксянзу падпявае. Ксёнз чытае малітву:

— А цо то было б, як бы мы не ўцеклі?

А гэны:

— Каб мы не ўцеклі, то нам бы адсеклі.

А мужык той кажа:

— Во як я даўся ім у знак — у касцёле мяне ўспамінаюць.

## У ШТО ПАПУ «АХА-ХА» АБЫШЛОСЯ

Быў калодзеж у папа на дварэ. Хадзіла туды браць ваду Аўдоцця, суседка. Як толькі Аўдоцця прыйдзе, поп выйдзе на высокі ганак, стане і тады: « Аха-ха!» — кашляе.

Ну, Аўдоцця прыходзіць дамоў да мужыка і кажа:

— Ой, Іванка, ну мне гэты поп надаеў.

— Чаму? — пытае Іван.

— А як толькі я выйду да калодзежа ваду браць, дык ён тады на ганак і: «Аха-ха!» — кашляе заўсёды гэтак.

Іван, доўга не думаючы, і кажа:

— Ты ведаеш што, Аўдоцька? Як пойдзеш другі раз ваду браць, і калі поп кашляне, дык і ты такжа кашляй; а як поп будзе пытаць: «Што? — дык ты яму скажы: «Увечары пад свіран, як будзе цёмна».

Так яна і зрабіла. А як прыйшла дамоў, дык Іван у Аўдоцці і пытае:

— Што ты яму сказала?

А яна і кажа:

— А я яму сказала, як ты казаў: «Увечары пад свіран, як будзе цёмна».

Прыходзіць вечар. Іван на Аўдоццю і казка:

— Давай мне ўсё сваё: андарак, хустку.

Адзеўся Іван у Аўдоцціна плацце ды і padaўся пад свіран. Тут як тут і поп гнут. Іван свіран адамкнуў, папа — у свіран. Поп разабраўся, што гэта не Аўдоцця, ды і вон. Але не тут-то было! Іван

яго не пусціў. Іван папу і кажа тады ўжо:

— Вот у мяне ждэна, а вот мех ячменю, і калі хочаш заўтра на абедню папасці, дык давай круці.

А гэта дзела было ў суботу вечарам. Папу заўтра ісці абедню правіць. Матушка яго шукала, шукала ўсю ноч, ды так і не найшла. А поп цэлую ноч крупы драў на ждэны. Іван на раніцу прыйшоў ды і пытае:

— Ну, як, поп, дзяла? Як крупы дзяруцца? А цяпер яшчэ, калі хочаш на абедню папасці, дык давай гэтыя крупы хуценька ў мяшок сабяры. Тады я цябе выпушчу.

Ну, поп так і зрабіў, і Іван ужо яго выпусціў да абедні.

Назаўтра на другі дзень Іван Аўдоцці і кажа:

— Ты цяпер, як пойдзеш па ваду ды як убачыш папа, дык давай сама першая кашляй.

Вот Аўдоцця пайшла, ваду бярэ, а поп па дварэ ідзе. А Аўдоцця: «Аха-ха!» Поп і кажа ёй:

— Тыя крупы з'ела, хочаш, каб яшчэ драў.

## ПРА ПАПА І КАСЦОЎ

Адзін бацюшка наймаў касцоў. Ён ужо дамовіўся з імі — даць па торбе пшаніцы. Сам павёў іх на пакос.

І косяць, і косяць, і косяць. Прыходзіць абед. Яны паабедалі. Давай зноў касіць. Ужэ заходзіць сонца, і людзі ідуць дамоў, а гэты бацюшка не рушыцца дамоў. Касцы гаворацць:

— Бацюшка, да ўжо месяц узышоў. Ужо ж пара дамоў ісці. Дык ён:

— Ды гэта сонцаў брат. Касіце і пры брату.

Ну, яны думаюць: «Абажджы. Ты такі хітры, і мы не будзем дурачкі». Скасілі яны гэты пакос пры месяцы і пайшлі.

Назаўтра поп гаворыць:

— Бярыце торбы і прыходзьце па расчот. Я вам дам па торбе пшаніцы.

Яны што: узялі ды напрышывалі к торбам мяшкі, а торбы папрапорвалі. І ідуць з гэтымі торбамі. Прыходзяць.

— Нясіце торбы, — кажа бацюшка.

Яны дзяржаць гэтыя торбы. Ён сыпле, сыпле, а гэтыя торбы ўсё няпоўныя.

— А гэта што? Каля торбы што?

— А гэта торбін брат. Мы касілі пры сонцавым брату, а ты сып і торбінаму брату.

Ён ім і насыпаў па мяшку пшаніцы, і яны пайшлі.

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА ПАПА І КАСЦОЎ

Аднойчы бацюшка наняў касцоў. Дамовіліся яны: па торбе пшаніцы і па куску сала. І адправіў гэтых касцоў касіць. Даў ім у торбу абед. Гэтыя касцы пайшлі на балота, на яго пакос. Пракасілі сабе мясцінку, палеглі і спяць. Папрачыналіся, а людзі ўжо ідуць дамоў. Ужо пара і сабе ісці дамоў. Яны паелі і ідуць дамоў. Прыйшлі ўжэ ў двор, бацюшка і пытае:

— Ну, скасілі?

— Скасілі.

— Але ж мне будзе неяк абідна. Таму я вам дам па торбе пшаніцы, а па куску сала не дам.

Дык яны гавораць:

— Бацюшка, раз не даяце па куску сала, то каб ваша трава на месца ўстала!

Гэтак яны сказалі і пайшлі дамоў. Бацюшка назаўтра ўстаў.

— Пайду ж я пагляджу!

Пайшоў, паглядзеў: уся трава стаіць, як была! Толькі мясціна ляжыць, якую яны пракасілі. Прыходзіць дамоў дый кажа:

— Ай-ай-ай! Чаму ж я такі дурны! Не даў па куску сала — уся трава на месца ўстала.

А яшчэ і Жана на яго насварылася: — Дык гэта з-за тваёй скупечы трава на месца ўстала!

## СЛУЖБА У ПАПА

Служыў у аднаго папа маладзец. Выпраўляў яго поп кожны дзень касіць, а есці з сабою ніколі не даваў ні ён, ні пападдзя.

Пакосіць трохі маладзец і ідзе да торбы. Загляне ў яе і кажа: «Грэцкі корж — ляжы нябож!» Ляжа маладзец пад куст і ляжыць да вечара.

Задумаўся поп: чаго гэта трава на месцы стаіць. Пайшоў ён на

другі дзень і лёг у карчы, каб падглядзець, што робіць яго маладзец.

Прыйшоў маладзец да торбы, заглянуў і зноў кажа: «Грэцкі корж — ляжы нябож!» Сам лёг і да самага вечара касіць не пайшоў.

Прыйшоў бацюшка дахаты і кажа матушцы: «Трэба даць ёму есці што-небудзь добрае, бо за тою ядою ён не косіць, а ляжыць». Паслухала матушка бацюшку і налажыла сыру, масла, каўбасы.

На другі дзень, як і заўсёды, пайшоў маладзец да торбы і заглянуў, што там е. Заглянуў і пабачыў, што яда цяпер добрая, дай кажа ўжэ так: «О, цяпер сыр і каўбаса, то й наляж, каса!»

Пасля смачнага абеду зноў пайшоў касіць. Да вечара ўсю траву выкасіў.

З таго часу поп з пападдзёю не здзекваліся так з малайца, бо бачылі, што з яго нічога сілаю не выдзераш.

## ПОП СКНАРА

Жыў-быў поп. І быў ён вялікі скнара. Калі прыйшла пара ў поле выходзіць, наняў ён сабе парабка. Збіраецца парабак ехаць араць і просіць, каб поп даў паснедаць. А поп кажа, што няма за што есці даваць, бо ён яшчэ нічога не зрабіў. Вось хай паарэ, а поп полуднік прынясе.

Прыехаў парабак на поле ды думае, што лепш ён паляжыць, чым галодны араць будзе. Усё роўна поп не плаціць. Распрог каня і лёг у халадку.

Папу не церпіцца паглядзець, як новы парабак робіць, але пачакаў да вечара. Вечарам, калі сонца за лес закацілася, прыязджае парабак з поля. Ну, поп і пытае: ' — Ці многа ж ты ўзараў?

А парабак адказвае:

— Уга, як многа!

Поп даў парабку павячэраць, а раніцаю зноў галоднага ў поле выправіў. Парабак зноў прыехаў ды спаць залёг. Узяла папа цікавасць, што надта парабак паслухмяны папаўся. Палез поп на гарышча, каб зірнуць, ці добра поле ўзараў, бо ведама ж, з высока відаць далёка. У яго і вочы на лоб палезлі — поле не арана, а парабак спіць. Ад злосці ўціснуў галаву ў акенца, каб крыкнуць, і задушыўся.

## ПОП І ПАРАБАК

Жыў-быў поп. У яго быў парабак. Поп хацеў паказаць, што ён вельмі набожны і кожды дзень маліўся перад ядой і пасля яды. Парабак з папом разам не еў. Яму давалі есці нясмашна.

Паставіў раз поп на стол ежу і стаў маліцца, а парабак залез на гару. Як толькі поп сказаў:

— Падай, госпадзі.

Дык парабак кажа:

— Не, не падам!

А матушка была жанчына наіўная, не вытрывала ды як крыкне:

— Чаму, госпадзі, не падасі!

А парабак з гары:

— А чаму ты з парабкам разам не ясі?

Тады матушка кажа папу, што яму трэба есці разам з парабкам. Кажа, што яна чула, як гасподзь ёй гэта казаў з высаты.

На другі раз матушка налівае папу і парабку ў адну міску есці. А поп ёй ды кажа:

— Ты, матушка, на мой бок больш скварак палажы.

Наліла матушка міску, наклала ля бацюшкі больш скварак. Клічуць парабка разам есці. Так гасподзь казаў. Прыйшоў парабак, бачыць, што ля бацюшкі ўсе скваркі ляжаць. Тады ён перахрысціўся ды кажа:

— Нада і кушанне, бацюшка, перахрысціць. Ды раз, раз лыжкай па ежы. Размяшаў скваркі ды кажа:

— Кушайма, бацюшка. Вот які хітры быў парабак!

## МУЖЫК І ПОП

Жыў-быў адзін мужык. Быў ён бедны, але разумны. Служыў ён у папа да бачыць, што той яму нічога за гэта не дасць. Тады ён падпільнаваў, дзе поп хавае грошы, і ўкраў іх. І сам пайшоў ад папа са службы.

Настаў пост, і ўсе пайшлі да царквы спавядацца. Пайшоў да папа і гэты мужык. Поп і кажа яму:

— Сазнайся ва ўсім, што ты рабіў, тады бог адпусціць твае грахі.

Мужык узяў ды і прызнаўся яму ва ўсім. Таксама сказаў і пра

гэтыя ўкрадзеныя грошы. Поп вельмі ўзрадаваўся і кажа мужыку:

— Твае грахі вялікія. Каб табе бог іх адпусціў, трэба, каб ты пры ўсім народзе заўтра аб гэтым расказаў.

Мужык згадзіўся. А поп яшчэ больш узрадаваўся. Калі мужык скажа аб сваёй кражы перад усімі, дык тады ўсе аб гэтым даведаюцца і ўсе абвеяць мужыка. А так папу могуць і не паверыць. Сведкаў жа пры спавяданні мужыка не было. Ніяк не дачакаецца поп заўтрашняга дня. Усю ноч не мог заснуць. Пад раніцу заснуў і сасніў дрэнны сон. Але калі ён успомніў пра мужыка, дык зноў узрадаваўся.

Вось ужо і народ пачаў збірацца ў царкве. Убачыў поп, што прыйшоў мужык, ды і кажа:

— Граждане парафіяне! Што цяпер скажа вам мужык гэты, усё — чыстая праўда. Слухайце яго!

Так сказаў поп, а сам на мужыка пазірае ды і ўсміхаецца. Паглядзеў мужык на папа ды таксама ўсміхнуўся, а потым і нажаць:

— Людзі! Колькі рыжых дзяцей ёсць у наваколлі — усе яны нашага бацюшкі!

Папу'сорамна стала, і ён кінуўся наўцёкі.

## ВАНЬКА-ДУРАЧОК У РАБОТНІКАХ

Жыў-быў бацька. У яго было тры сыны. У тым сяле жыў бацюшка. Работнікі ў яго доўга не затрымліваліся. Сабраў бацька сваіх сыноў і дае ім наказ ісці служыць да бацюшкі. Бацьку патрэбна была помач. Не мог ён больш карміць сваіх сыноў.

Згадзіўся ісці першы сын служыць. Але не доўга ён служыў у бацюшкі. Праз два дні вярнуўся дамоў. За ім пайшоў другі сын служыць, але і той праз два дні дамоў вярнуўся. Бацька дзівіцца, чаму сыны так мала служаць у бацюшкі. Бядуе бацька, не можа знайсці выхаду са свайго цяжкога становішча.

Падходзіць к бацьку трэці сын, Ванька-дурачок, і просіць, каб бацька дазволіў яму пайсці служыць да бацюшкі. Бацька яму нічога не адказаў, толькі пасмяяўся з яго:

— Разумныя сыны не змаглі ўслужыць, а ты, дурачок, хочаш яму ўслужыць.

З гэтымі словамі і пайшоў Ванька да бацюшкі.

Бацюшка прыняў яго на службу. У іх быў такі дагавор: хто на каго ўгневаецца, той з таго здзярэ дзве паласы са спіны і адну паласу з хрыбта. Ванька згадзіўся з бацюшкам і застаўся служыць.

Зараня-зараня завёў бацюшка дурачка поле пахаць. Пахаў, пахаў ён поле, а жонкі сваім мужам ужо і заўтрак прыносяць, толькі Івану ніхто нічога не прынёс. Убачыць Іван, што мужык сядзе есці, падыдзе да яго, папросіць закурыць і таксама прысядзе. Добры мужык злітуецца над ім і дасць што-небудзь перакусіць. Так Ванька-дурачок і наеўся за ўсю раніцу і пайшоў далей араць. Араў ён, араў ды й абед настаў. У час абеду прыносіць яму матушка яду. Гэта быў разам і заўтрак і абед. Матушка пытаецца ў работніка:

— Ці не ўгневаўся ты, работнічак?

Л Ванька адказвае:

— Ды не, матушка, не ўгневаўся.

Сабралася матушка ды й папіла дамоў, а работніку аставіла Жучку і наказала яму:

— Пашы поле, пакуль Жучка дамоў не пабяжыць. Калі Жучка пабяжыць дамоў, тады і ты можаш за ёй ісці, а без Жучкі каб дамоў не варочаўся.

Працаваў, працаваў Ванька, ужо і цямнець пачало, а Жучка ляжыць і не падымаецца нават. Ванька ўжо і злаваць пачаў, але ж нічога не зробіш, трэба пахаць. Ужо і цёмна стала, а Жучка ляжыць. Тады падышоў Ванька да Жучкі і гаворыць:

— Жучка, пайдзём мы ўжо дамоў.

Жучка ўсхапілася і пабегла дамоў. Ванька тады сошку пусціў і за Жучкай, каня паганяе, а ўгнацца за ёй не можа. Жучка скача па агародах, цераз платы, і Ванька не адстае, следам за Жучкай бяжыць і на хаду загароджы разбурае. Прыбегла Жучка да двара бацюшкі, а вароты закрыты. Бегае Жучка перад варотамі і не ведае, як праз іх ва двор забегчы. Тут і Ванька-дурачок пад'ехаў. Падышоў Ванька к варотам, а адкрыць іх не можа. Бачыць Ванька, што Жучка пад вароты і ва двор. Адхінуў Ванька крыху падваротную, а вароты ніяк адкрыць не можа. Думаў Ванька, думаў і прыдумаў. Матушка прыказала не адставаць ад Жучкі, а вароты ніяк не адкрываюцца. Тады Ванька разрубіў сваю сошку на часткі і пазакідаў іх у двор да бацюшкі. Каня Ванька таксама зарэзаў і па частках пазакідаў. А затым Ванька і сам неяк пралез ва двор да бацюшкі. А дзверы ў хату закрыты, і стаяць яны ўдвух ля дзвярэй. Доўга яны стаялі. Ужо напэўна і поўнач настала. Тады давай Ванька-дурачок стукацца. Але не хоча ўпускаць яго бацюшка ў дом. Тады Ванька кажа:

— Бацюшка, ты бы хоць аднаго з нас упусціў.

Матушка адкрыла дзверы, а Жучка юрк і ў хаце ўжо. Убачыў гэта Ванька і за Жучкай у хату. Матушка паставіла яму есці, а Ванька

і пытае ў бацюшкі:

— Ці не ўгневаўся ты, бацюшка?

Бацюшка адказаў, што не ўгневаўся, але спытаў, дзе ён дзеў каня. Работнік кажа, што конь і сошка ва дварэ. Выйшаў бацюшка ды і запутаўся ў кішках, але нічога не зробіш, нельга гнявацца на работніка. Помніць бацюшка дагавор.

Доўга служыў Ванька-дурачок у гэтага бацюшкі. Задумаў бацюшка ізбавіцца ад свайго работніка. К гэтаму часу вырас авёс і ўнадзіўся ў яго мядзведзь. Тут бацюшка і кажа свайму работніку:

— Ідзі і злаві тога бычка, што панадзіўся ў мой авёс.

Нічога не зробіш, прыйшлося ісці. Прыйшоў дурачок на поле і ўбачыў канаву для сцёку вады. Але тады было суха, і вады там не было. Ляжаў там дурачок, ляжаў, і вось дачакаўся ён мядзведзя. Ванька быў вялікі і здаровы. Ён ціхенька падкраўся да мядзведзя ззаду ды і скочыў яму на спіну. Мядзведзь узлаваўся, але не змог ён скінуць дурачка. Так і прыехаў Ванька-дурачок ва двор да бацюшкі. Прыехаў і пытае:

— Куды паставіць бычка?

А бацюшка кажа:

— Пастаў у хлеў.

Ванька так і зрабіў, як прыказаў бацюшка. Сядзяць яны ў хаце. Чуюць нейкі піск, шум. Дурачок і кажа:

— Нешта, бацюшка, мой бычок ды з цялятамі не сябруе.

Пайшоў бацюшка паглядзець, што там такое робіцца. Адчыніў ён хлеў ды так і застаўся стаяць. Убачыў ён там, што мядзведзь усіх яго цялят палажыў. Разгневаўся бацюшка, але нічога не сказаў работніку і нават віду не падаў, што ён гневаецца. А сам усё думае і думае, як бы гэта збавіцца ад работніка.

Вось паслаў ён аднойчы Ваньку ў мельніцу і прыказаў, каб змалоў муку так, каб яна ператварылася ў камяк. Мельнікі былі добрыя людзі. Яны добра змалолі муку. І бацюшка не ўгневаўся на Ваньку.

Тады рашыў бацюшка ўцячы ад свайго работніка. Матушка ўжо напякла сухароў поўны мяшок і пачала нават збіраць свае пажыткі ў клунак. Вось аднойчы Ванька прылёг пасля цяжкае работы адпачыць, а бацюшка з матушкай падумалі, што гэта ён спіць і дамаўляюцца: «Сёння ноччу будзем уцякаць». Ванька-дурачок усё гэта чуў. Ён прачнуўся раней,калі яны яшчэ спалі. Высыпаў з мяшка сухары і залез сам у мяшок. Тут скора падняліся і матушка з бацюшкам. Матушка за клунак і пабегла, а бацюшка ледзьве ўзваліў гэты мяшок

на плечы. Матушка быстра пайшла, а бацюшка не можа за ёй паспець. Замарыліся яны і рашылі крыху аддыхнуць, а тут дурань з мяшка ўзяў ды і свіснуў. Яны тады кажуць: «Гэта, пэўна, наш работнік устаў». І давай далей уцякаць. Беглі, беглі яны, ды бацюшка і паваліўся. Падбегла да яго матушка ды нічога яму зрабіць не можа. Замарыўся бацюшка. А тут Ванька з мяшка вылазіць і пытае:

— Ну што, бацюшка, ці не ўгневаліся вы на мяне?

Бацюшка ад гневу раскраснеўся, а сам нічога не адказвае. Работнік зноў пытае. Тады адышоў крыху бацюшка, бачыць, што яму няма выйсця ад гэтага работніка, ды й кажа:

— Як жа мне не ўгневацца на цябе, работнік? Мне ж столькі прыйшлося цярпець праз цябе.

Тады дастаў Ванька вялізны нож і здзёр з бацюшкі тры паласы скуры. Прыносіць ён іх дадому і аддае сваім братам і бацьку. Доўга, доўга дзівіліся браты, як гэта Ваньку-дурачку ўдалося заслужыць гэта ў бацюшкі. Яны дзівіліся, і няхай сабе дзівяцца, а для нас у гэтым няма нічога дзіўнага.

Вось і казка ўся.

## НОВЫ ПОП

У адным сяле нечакана памёр поп. Засумавалі веруючыя: ідуць святы, а няма папа. І вось яны рашылі выбраць папа з сваіх людзей. Адзін быў хітрэйшы і кажа:

— Возьмем гарбуза з гарбузельнікам і будзем цягнуць па сяле.

Усе згадзіліся. Сабралася многа люду, узялі гарбуз з гарбузельнікам і цягнулі па вуліцы, прыпяваючы:

Каля каго гарбуз адарвецца, Той папом застанецца!

Працягнулі каля Сцяпана, Рамана, Пракопа... Гарбуз адарваўся каля Пракопа. Усе заходзяць у хату і кажуць:

— Ты будзеш папом.

— Што вы! Я толькі пацеры ўмею і то іншы раз мыляюся, — адгаварваецца Пракоп.

— Нічога, народ выбраў — і будзеш.

Як ні круціўся Пракоп, а прыйшлося адзяваць рызу папоўскую. Павесялелі веруючыя.

Але аднойчы прыехала духавенства. Пракоп схітрыў, бо ён ужо зарабіў многа грошай. Ён гаршчок з грашыма падвесіў да столі і

працягнуў ад яго лыка, з якога лапці плятуць. Вышэйшаму духавенству захацелася паглядзець, як моліцца гэты поп. Было якраз свята, сабралася многа людзей у царкве. Поп і зацягнуў:

— Владыко, владыко, пацягні за лыко, там многа грашэй.

Епіскап праспяваў:

— Навекі вякоў, як быў папом, так і будзеш папом. Госпадзі благаславі.

Веруючыя ўпалі на калені і пачалі адбіваць паклоны.

Так гэты поп правіў у царкве аж да смерці, жыў і пажываў і гора не знаў.

## ЯК ПАПА ПЕРАХІТРЫЛІ

Пажаніліся двое бедных. Неяк зляпілі сабе хатку, купілі карову. Жонка пайшла ў царкву. Поп правіў абедню, моліцца і кажа: «Вот, парфіяне, хто папу што дасць, то бог у тры разы верне».

Прыйшла жонка дадому і расказала гэта мужыку. Павялі папу апошнюю карову. Прайшоў месяц, другі... а бог не дае ў тры разы. Задумаліся маладыя людзі.

Летам пагнаў пастух каровы папоўскія на луг пасвіць. А колькі было заядзі тады! Каровы катора куды паўцякалі. Карова гэтых бедных прыбегла на ранейшы двор, а за ёю яшчэ тры. Мужык адчыніў дзверы і пазаганяў іх у хлеў.

Прыходзіць поп і кажа, каб аддаў каровы. Жонка, выскачыўшы з хаты, і кажа яму: «Вы ж, бацюшка, казалі, што хто папу дасць, то бог у тры разы верне. Я аддала карову, а бог яшчэ тры прыслаў».

Не было што папу гаварыць. Завярнуўся і пайшоў. А бедныя і цяпер жывуць, каровы дояць і ўволю малако ядуць.

## БАБКА НА АБЕДНІ

Жыў-быў на свеце поп. Было ў яго вельмі многа дабра, а золата было столькі, што дзесяць чалавек не паднялі б. Яму ўсё мала і мала здавалася. Абдзіраў ён бедны народ, як мог. Аднаго разу ідзе поп. Ужо цямнела. На дарозе ходзіць цялушка. І такая яна была, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць! І вырашыў поп забраць яе дадому. Прывёз ён яе на свой двор, а на парозе ў яго госці — здалёк прыехалі. Дзе дзецца? Ён з цялушкай пад цэркаў, а там дзяк.

— Дзяк, памажы цялушку зарэзаць, — просіць поп, а ў самога ногі дрыжаць.

— А што мне будзе за гэта? — запытаў дзяк.

— Палавіна цялушкі, — упэўніў бацюшка.

Так і зрабілі. Аблупілі яе, мяса пад прыстол у царкве схавалі.

Бабка адна цэлу ноч не спала. Хадзіла па сёлах, цялушкі шукала. «Нехта ўкраў, — падумала бабка, — пайду ў царкву, хай яго бог накажа». І прыйшла. Дала на абедню апошнія грошы. Дзяк і зацягнуў:

Ах, глупая ты старушка, Тут твая цялушка. Поп цялушку ўкраў, Пад прыстол схаваў.

Поп, які забраў усё мяса, заспяваў:

А ты, дзякан,
Доўга не ўякай.
Дам табе тры рублі дзяньгамі
І скуру з рагамі.
Госпадзі памілуй!

Дзяк успакоіўся, а поп кажа беднай бабулі: «Накажа бог таго, хто ўкраў тваю цялушку». Бабка падумала, што праўду кажа святы чалавек, і пайшла дамоў. А гэты поп дзесьці і цяпер жыве, мёд, піва п'е і ад людзей дабро грабе. І я там быў, папоўскія грошы лічыў, у руках былі, а ў кішэню не папалі.

## ПРА ДУРНЯ-ВАРТАЎНІКА

Жылі-былі дзед ды баба. Было ў іх тры сыны. Два разумныя, а адзін — дурны.

Пасеялі баба і дзед гарох. Унадзіўся ў гэты гарох хтось ездзіць касіць. Дзед і баба ўжо старыя былі і не маглі высачыць, хто гэта ездзіць. Вырашылі яны паслаць старэйшага сына. Пайшоў старэйшы сын пільнаваць. Сядзеў, сядзеў ён ды і заснуў. На другую ноч вырашылі паслаць сярэдняга сына. Але і гэты сын праспаў, не дапільнаваў і ён. Бядуюць дзед з бабай, не ведаюць, што рабіць.

Пайшоў на трэцюю ноч трэці сын сцерагчы. Але дзед з бабай не могуць супакоіцца. Не вераць яны, што трэці сын ім дапаможа. А трэці сын і сапраўды не праспаў. Сядзеў, сядзеў ён і дачакаўся. Прыехаў нехта на кані і давай касіць гарох. Падышоў да яго дурань ззаду ды паленам і стукнуў па галаве, ды і забіў яго.

Прыходзіць ён дамоў і кажа, што злодзей на полі ляжыць. Прыйшлі браты і бачаць, што гэта поп. Перапужаліся яны і закапалі

папа ў зямлю. А пападдзя не ведае, дзе дзеўся яе муж. Не можа знайсці яго. Яна вырашыла, што яго ўжо і ў жывых няма. Вырашыла яна тады памінкі спраўляць і пазвала ўсіх, акрамя гэтага дурня. П'юць усе, папа памінаюць. А дурань у гэты час прыйшоў і кажа: «Як папа біць, дык я, а як піць гарэлку, дык вы?»

Вось і казка ўся. Не было там толькі засмажанага гуся.

## ВАНЬКА-ДУРАЧОК

Жыў-быў багаты мужык. Меў ён трох сыноў: два сыны былі разумныя, а трэці сын — Ванька-дурачок.

Жылі яны багата, доўга ці мала — ніхто не ведае, але аднойчы спатрэбіліся ў гаспадарцы грошы. Доўга яны думалі, што зрабіць, каб дастаць грошы, і вырашылі прадаць вала. А да базара ім было далёка ехаць. Старэйшыя сыны і гавораць бацьку: «Мы паедзем першыя на кані, а Ванька няхай прывядзе нам вала. Мы яго і прададзім». Так і парашылі.

Паехалі бшты па конях, а Ванька-дурачок павёў вала. Вядзе ён яго, вядзе, а вол усё ўпіраецца, ісці не хоча. Давёў Ванька яго да сярэдзіны дарогі, паламаў на ім усе палкі і вырашыў прывязаць тут вала і пайсці ў лясок, што непадалёку, каб выламаць добрую палку-паганялку. Доўга думаць яму не прыйшлося. На перакрыжаванні дарог убачыў ён крыж, прывязаў свайго вала да гэтага крыжа, а сам пайшоў у лясок. Вярнуўся Ванька з лесу і не знайшоў свайго вала. Яго, напэўна, які-небудзь праезджы адвязаў. Заплакаў дурачок і не ведае, што яму далей рабіць. Хоць і баяўся ён ісці дамоў, але ж нідзе не дзенешся — трэба ісці. Прыйшоў ён дамоў і адразу ж на печ залез і ў самы далёкі цёмны куток забіўся. Ляжыць Ванька і баіцца бацьку гэта расказаць. А бацька ў яго нічога і не пытае.

Вечарам прыехалі браты. Яны зразу ж да бацькі: «Дзе наш дурань? Чаму ён не прывёў вала?» Бацька ім і адказвае, што ён прыйшоў ужо даўно і нічога не сказаў. Браты тады наваліліся на Ваньку і давай яго біць. Б'юць яны яго, б'юць, а ён нічога ім і не адказвае.

Раззлаваўся Ванька на крыж, што той не ўпільнаваў яго вала, узяў дубіну і пайшоў крыжу адпомсціць за сваю крыўду. Біў, біў ён крыж ды й і вывернуў яго. Аж бачыць ён — золата там ляжыць. Набраў Ванька поўныя кішэні золата і пайшоў дамоў. Аддаў ён яго братам і гаворыць: «Запрагайце, браты, коней і паедзем са мной і

набяром поўны воз золата».

Браты так і зрабілі. Набралі яны поўны воз зо» лата і дамоў яго прывезлі. Але ж ім трэба яго падзяліць, а меркі ў іх няма. Вось і вырашылі яны паслаць дурня да папа за меркай. А поп быў здагадлівы. Ён і спытаў у дурня, навошта ім патрэбна мерка. А дурань і адказаў, што золата мераць трэба. Прынёс дурань мерку і расказаў братам усё. Браты бачаць, што дзела кепскае, і вырашылі паставіць дурня ў дзвярах на варце. Яны яму і гавораць: «Ты наш самы малодшы брат, дык ты пастой у дзвярах, пакуль мы падзелім золата. А калі поп будзе ісці, дык ты свісні».

Пайшлі браты дзяліць, а дурань так і застаўся стаяць у дзвярах. А тут і поп бяжыць. Дурань вырваў кол з плоту і як стукнуў ім папа па галаве, дык і забіў. Тут і браты выйшлі. Дурань ім і кажа: «Усё зрабіў, як вы казалі. Свіснуў я папу». Раззлаваліся браты на дурня, але ж ужо нічога не зробіш. Раскапалі яны стог саломы ды і ўкінулі туды папа.

Цэлы тыдзень яны жылі спакойна. Але ж прыйшла нядзеля. Папу трэба малебен служыць, а яго няма. Ля царквы сабралася многа народу, а папа і няма. Шукаюць усе папа, ды нідзе знайсці не могуць. А дурань узяў і сказаў, што ён ведае, дзе поп. Браты гэта пачулі. Яны хуценька зарэзалі казла і на месца папа ў стог саломы закінулі, а папа ў зямлю закапалі. А тым часам дурань прывёў людзей да стога і гаворыць, што там поп. Стражнікі прыказалі дурню выцягнуць папа са стога. Рыўся дурань там ды і дарыўся да бацюшкі і кажа стражнікам:

— А ці ваш бацюшка ў шэрсці?

— Цягні, цягні!

— А ці ваш бацюшка з рагамі?

— Цягні, цягні!

Так дурань і выцягнуў казла.

Пасмяяліся з яго ўсе людзі ды і разышліся. А папа так і не знайшлі, і доўга яшчэ царква не працавала.

## ПРА ЎПАРТУЮ ЖОНКУ І ПАПА З ДЗЯКАМ

Жыў мужык, які вельмі любіў хадзіць на ахоту. І была ў яго жонка. Яна была вельмі ўпартая. Аднойчы пайшоў мужык на ахоту і злавіў двух зайцаў. І вырашыў ён так. «Дай, — думае, — аднаго зайца жонцы аддам, каб зварыла, а другога пану аддам, можа ён мне дасць што-небудзь за яго».

Прыйшоў дадому і гаворыць жонцы:

— На, жонка, аднаго зайца і звары мне яго, а другога зайца я аднясу да пана, можа ён мне дасць які пачастунак за яго.

А жонка ні ў якую.

— Не, — кажа, — давай.двух зайцоў мне.

Даў мужык ён аднаго зайца, а другога схаваў.

Не дае жонка мужыку спакою:

— Дай, — кажа, — зайца, а то памру!

— Паміpaй! — кажа мужык.

Так яна і зрабіла: прытварылася, што памерла.

Зрабілі ёй гроб, паклалі туды, пазвалі папа і дзяка. Шкада стала мужыку жонку. Усё ж такі пяць дзяцей сіроткамі застануцца. Пытае ён ціхенька ў яе:

— Ну, што, жонка, адмовішся ад зайца?

— Не.

Што рабіць мужыку?

Панеслі жонку на могілкі, апусцілі ў ямку.

А мужыку зноў шкада стала жонкі.

Спусціўся ён у ямку і гаворыць ёй:

— Ну, жонка, аддам я табе зайца, толькі вылазь адтуль.

Жонка як ускочыць, як заплешчыць у ладкі, прыгаварваючы:

— Абуіх з'ем! Абуіх з'ем!

Спужаліся поп і дзяк, бо надумалі, што гэта яна іх абодвух з'есць, і пабеглі ўцякаць. Бягуць яны прама да возера, а дзяк і кажа папу:

— Бацюшка, возера тут.

— Якое табе возера, валяй напрамік, — кажа бацюшка.

Пабеглі яны прама ў возера, і абодва ўтапіліся там.

## ГРЭХ

У адной царкве быў малебен, і адна жанчына заснула. Пеўчыя як завялі песню, і разбудзілі яе. Кончыўся малебен, прыйшла бабка дадому і ўвесь час думала аб тым, што яна саграшыла перад богам. Мучылася яна так некалькі дзён і рашыла пайсці на споведзь да папа.

Прыйшла яна ў нядзелю раненька ў царкву і кажа папу, што саграшыла перад богам і баіцца, каб ён яе не пакараў.

— Ну, расказвай, раба божа, у чым твой грэх?

— Бацюшка, як быў малебен, заснула я ў царкве, — адказвае жанчына.

Поп думае, што тут можна пажывіцца, і сказаў, каб яна прынесла індзюка ў ахвяру богу, і ён даруе ёй гэты грэх.

— Бывае, — казка поп, — што і я выпадкова засну, але я затым малюся цэлы дзень.

Прыйшла бабка дадому, і шкода ёй стала аддаваць індзюшку. Яна ўсё-такі шаснаццаць фунтаў. Рашыла яна больш не хадзіць у царкву. Дзень не пайшла, другі, трэці, і вось аднойчы захварэла яна. Спужалася, што гэта бог яе карае за грэх. Узяла яна індзюка і, гэта было ўжо вечарам, панесла папу дамоў. Падыходзіць да дзвярэй і чуе, што поп з дзякам сядзяць за сталом, п'юць гарэлку і размаўляюць. Кажа поп дзяку: «Ужо тыдзень прайшоў, як адна дурная кабета спавядалася мне, што саграшыла ў царкве: заснула ў час малебну, а я за гэта з яе патрэбаваў індзюка, во паліруем!»

Зарагаталі яны і далей прадаўжаюць піць гарэлку. Поп гаворыць, што ён не раз засынаў і нават аднойчы захроп у царкве. Рагаталі яны гэтак, смяяліся з дурной бабы, а яна стаяла пад акном і ўсё чула.

На другі дзень прыбралася яна і пайшла ў царкву. Малебен ужо ішоў, стала яна каля дзвярэй і таксама моліцца, а сама стараецца, каб яе заўважыў поп. А поп ужо заўважыў кабету і, махаючы кадзілам, ідзе да яе. Падышоў бліжэй і ціхенька кажа:

— Гэта тая манючка, што не прынесла ў ахвяру індзючка?

Бачыць жанчына, што не выкруціцца ёй, і рашыла правучыць папа. Сказала громка, каб усе чулі:

— Гэта той поп, што ў царкве хроп?

Зразумеў поп, што яна чула іх размову, і пайшоў ад яе.

## ЯК «БОЖАЯ» ЎЗНАГАРОДА МУЖЫКУ ДАСТАЛАСЯ

У адной вёсцы жыў бедны мужык. З раніцы да вечара ён з жонкай працаваў у полі па пана, а разбагацець яму ніяк не ўдавалася. І вось аднойчы захварэла яго жонка і памерла. Доўга гараваў мужык, як жа ён будзе карміць дзесяць дзяцей, а яшчэ і няма грошай, каб пахаваць жонку. Вырашыў ён пайсці папрасіць папа, каб ён памог пахаваць жонку. Поп не захацеў памагчы мужыку дарам, а сказаў,

каб той аддаў быка, на якім ён араў поле. Мужыку нічога больш не заставалася, як згадзіцца. Ды і поп яму сказаў яшчэ: «Затое, што ты аддасі быка, каб пахаваць жонку, бог цябе ўзнагародзіць і праз некаторы час зробіць твой статак у дзесяць разоў большым».

Праходзіць некаторы час. Аднойчы вяртаецца з поля на двор мужыка яго бык і з ім — дзевяць кароў. Мужык вельмі ўзрадаваўся, што бог прыслаў яму такое багацце. Але радасць яго была кароткай: прыбягае поп і гаворыць, каб мужык аддаў яго каровы. Мужык не хоча. Тады поп пацягнуў яго да суддзі.

Суддзя сказаў, што рассудзіць іх па справядлівасці, і паставіў ім такую ўмову: хто з іх першы раніцай прыйдзе да яго, той і атрымае кароў.

Загараваў мужык. Не ўбачыць больш яму сваіх кароў. Дома яго сустрэла старэйшая дачка і, даведаўшыся, што здарылася, сказала, каб ён не гараваў, яна прыдумае што-небудзь. Ганначка, дачка мужыка, славілася ў вёсцы як разумная і кемлівая. І вось гаворыць Ганначка бацьку: «Ідзі і залезь пад ложак суддзі і пераелі там, а як толькі поп пачне стукаць, дык ты і вылазь, — вось ты будзеш і першы».

Так ён і зрабіў. Багаты поп цэлую ноч сядзеў каля варот суддзі, а раніцай вельмі ўзрадаваўся, што першы будзе. Але толькі ён пачаў стукаць, а мужык вылез з-пад ложка і аказаўся першы.

Суддзя прысудзіў кароў беднаму, і зажыў той шчасліва.

## ПАДЗЯЛІЛІ

Жыў бацька з трыма сынамі. Сыны пажаніліся, пабудавалі сабе новыя хаты, а бацька застаўся адзін у сваёй старэнькай хатцы. І сам ужо стаў нядуж. Вось ён і кажа сынам: «Хачу, дзеткі, у вас каго-небудзь век давейваць». А сыны не хочуць браць бацьку старога да сябе. Хай жыве, рашылі, у кожнага з нас па дню. Так па чарзе і хадзіў стары ад сына к сыну. Ды вось прыдумаў стары: узяў гаршчок, налажыў у яго каровіных «бліноў», закрыў скавародкай — і ўсё гэта ў торбачку. Кладзецца спаць ды й ложыць, значыць, гэтае дабро пад галаву, пад падушку. І сыны пачалі лепш цяпер адносіцца да яго, бо думалі, нешта стары дарагое хавае. А калі спыталі ў яго, што гэта ў торбачцы, ды калі даведаліся (ім сказаў бацька), што там золата, дык пачалі наперабой запрашаць старога да сябе.

Праз тры гады памёр стары бацька. Сяк-так пахавалі яго. Але ж

трэба і золата дзяліць. А як? Пасварыліся сыны, нават добра намялі адно аднаму свае «табакеркі». Рашылі папа прызваць на дапамогу. Ну, а поп ад такога не адкажацца. Вось поп і кажа: «Намалюю круг на падлозе, падзялю яго на тры роўныя часткі — па адной для кожнага з вас, а сам стану ў сярэдзіну круга; а вы пастаўце мне гаршчок на галаву, і адзін з вас даўбане палкай па гаршку. Што трапіць мне ў кішэні, рукавы, за кашулю — тое маё, а астатняе золата, якое раскіпецца, ляжа ў частках круга, — ваша.

Так і зрабілі. Старэйшы сын як пляснуў даўбешкай па гаршку, што паставілі папу на галаву, дык гаршчок гэты і разваліўся на кавалачкі. Людцы ж мае добрыя, што тут было, дык і казаць ці варта? Да таго ж «азалаціўся» поп, што пападдзя яго ад таго «золата» ледзь адмыла!

Ну, а сыны? Ды што ім! Ім «золата» амаль і не давялося. А ўсё ж сорамна было, што дрэнна раней адносіліся да бацькі і як ён іх лоўка навучыў!

## ЯК БАТРАК ГАСПАДАРА АБХІТРЫЎ

Наняў гаспадар батрака на працу. А быў батрак хлопец здаровы. Любіў парабіць, але любіў добра і з'есці. Бачыць гаспадар, што хлопец добра есць, і стала яму шкада сваіх харчоў. Думаў, думаў, як абхітрыць батрака, і надумаўся. Аднойчы, калі селі яны есці, ён і кажа свайму батраку:

— Давай будзем мы з табой хадзіць у царкву і спаўняць усё, што бацюшка скажа.

— Добра, — -кажа хлопец.

У нядзелю ў царкву пайшоў сам гаспадар. Прыйшоў адтуль пад вечар і кажа:

— Бацюшка казаў, што сёння ў нас будзе пост, заўтра — пост і ўся гэта нядзеля пост!

Уздыхнуў батрак, але нічога не зробіш, дагавор даражэй грошай. Вось і пачалі яны з панядзелка пасціць. Гаспадар пасціць-то пасціць, але ўпотай ад свайго парабка калі-нікалі і з'есць кус сала. Беднаму ж хлопцу другі раз, як падымае вілы з саломай, зялёныя чорцікі ўваччу скакалі.

На другую нядзелю ў царкву пайшоў парабак. Пабыў там не вельмі доўга і прыходзіць вясёлы.

— Чаго ты так рана? — спытаў здзіўлены гаспадар.

— А гэта я, пане гаспадару, спяшаўся табе добрую навіну прынесці. Мы ж цяпер з табой вунь колькі часу вольнага мець будзем, адпачнём. Бацюшка сказаў, што заўтра ў нас святы, паслязаўтра — святы і ўвесь гэты тыдзень святы, — адказаў хітры батрак.

Давялося прагнаму гаспадару цэлы тыдзень свайго парабка булкамі ды яешняй частаваць.

## ЖОНКА БЕДНЯКА І ЖОНКА БАГАЦЕЯ

Было гэта даўным-даўно. У адной вёсачцы жылі два браты. Адзін з іх быў бедны, другі — багаты. Багаты брат вельмі не любіў беднага, бо той часта прыходзіў да яго пазычаць хлеба ці мукі, а аддаваць не заўсёды мог.

Аднойчы ў беднага брата не было чаго есці, і вырашыў ён пайсці ў лес і насячы дроў, а потым прадаць іх, каб было на кавалак хлеба. Прыйшоў ён у лес і бачыць, што пад пнём нешта блішчыць. Падышоў ён бліжэй — аж гэта золата, ды такі вялікі кусок — як конская галава. Прынёс ён золата дамоў, і яны з жонкай вырашылі, што лепш будзе аддаць яго пану, а то скажуць, што ён украў дзе-небудзь. Так і зрабілі. За гэта пан даў яму некалькі кароў і многа ўсякага дабра. Зажыў цяпер бедны вельмі добра.

Убачыў гэта багаты, і зайздросна яму стала. Рашыў ён выпытаць у брата пра багацце, каб яшчэ больш разбагацець. Пазваў ён беднага брата ў госці. Частуе яго ўсялякімі стравамі, а сам усё выпытвае, як бедны разбагацеў. А жонка беднага зразумела, чаго багаты хоча, і вырашыла яго правучыць. Яна і кажа, што мужык яе злавіў пацука, здзёр з яго шкуру і занёс пану на варатнік. Багаты вельмі ўзрадаваўся, што так лёгка можна разбагацець. Выправіў скоранька гасцей з хаты і, не дачакаўшыся ночы, палез у пограб лавіць пацукоў. Думае сабе: «Бедны аднаго злавіў, а я многа налаўлю».

Раніцай, ледзь толькі пачало світаць, адправіўся да пана. Жонка крычыць яму ўслед: «Глядзі ж, бяры багацця больш, ды не напіся!» Прыйшоў багаты да пана, палажыў шкуркі з пацукоў. Пан вельмі здзівіўся і пытае:

— Нашто ты прынёс гэта?

А багаты адказвае:

— У брата майго ты не пытаў, а адразу даў багацце.

Раззлаваўся пан і паслаў яго на стайню, каб яму далі дваццаць пяць розаг.

Дадому багаты пайшоў ажно пытаючыся. Убачыла яго жонка і пачала яго лаяць за тое, што ён напіўся, а багацце не ўзяў. Раззлаваўся мужык і вырашыў яе правучыць, раз яна на яго напала. І кажа ён жонцы, што пан хоча сам аддаць ёй багацце. Пабегла яна да пана, а той яшчэ больш раззлаваўся і паслаў яе таксама на стайню. Усыпалі ёй пяцьдзесят розаг і адправілі дамоў.

Так бедны брат з жонкай адпомсцілі багатым за тое, што яны здзекваліся з іх.

## ІВАН І КАРЧМАР

Жыў бедны Іван. Было ў яго шэсць дзяцей і была кабылка. Араў ён на полі, аж едзіць чалавек на кані. Іван пытае:

— Куды вы едзіце?

— Еду ў бога спытацца, як лепей на свеце пражыць.

— Як будзеце назад ехаць, я буду тут араць, і мне раскажаце, што бог сказаў, як лепей жыць, — кажа Іван.

Едзе Іван дамоў з работы, бачыць: ляжыць на дарозе залатая падкова. Іван узяў яе і прывёз дамоў. На другі дзень Іван арацъ, аж едзе назад гэты чалавек. Іван пытае:

— Што бог вам сказаў?

— А вось што бог сказаў: трэба працаваць, рабіць, украсці можна, абмануць молена, і будзеш добра жыць. Але ад майго каня згубілася падкова. Можа ты патоў, дык аддай.

Але Іван, пачуўшы, што бог сказаў, што можна зманіць, не прызнаўся і затаіў падкову.

Праз некаторы час радзілася сёмае дзіця. Трэба перахрысціць. А тут няма з чым. Іван бярэць падкову за пазуху і едзіць да карчмара. У таго добрая лаўка. Іван паказвае яму падкову і просіць даць яму прадукты. Карчмар дае яму два вядры гарэлкі, пуд селядцоў, пуд мукі, даў боты, паліто і шапку. Іван паехаў дамоў. Справіў хрэсьбіны харошыя. Адгулялі госці і сталі дзівіцца, адкуль у Івана столькі ўсяго, як ён стаў такі багаты.

Пасля гэтага прыязджае карчмар к Івану па рашчот.

— Аддай мне залатую падкову, а я табе за яе ў тры разы больш усяго дам.

Іван прынёс простую падкову і паказаў карчмару. Той спужаўся і кажа:

— Дай мне тую, што ты мне перш паказваў.

А Іван адказвае:

— Ніякай другой у мяне няма. Гэта табе ў вачах золата прыкінулася.

Паехаў карчмар ні з чым. Узяў ды падаў на Івана ў суд.

Пачаўся суд. Пытаюць у Івана:

— Ты тое браў?

— Не, не браў, — адказвае Іван.

— Браўі — крычыць карчмар.

А тады Іван пытае ў карчмара:

— Можа я ў цябе і гэтыя боты браў?

— Браў, — адказвае той.

— Можа і гэту шапку?

— І шапку! — крычыць карчмар.

— Можа і паліто?

— І паліто! — крычыць карчмар.

Разгледзеў суд дзела: нічога з Івана не прысудзілі карчмару, бо палічылі яго за неразумнага.

Вось як Іван карчмара абдурыў.

## ПРА ШАЛУПІНУ-ДУРНЯ І ПРА ЗАЙЗДРОСНЫХ БРАТОЎ

Жылі-былі на свеце два браты і іх малодшы брат — Іванушка-прастачок. Пайшлі яны аднойчы ў лес рубіць дровы. Старэйшыя браты рубяць добрыя дрэвы, а Іван дзяўбе гнілую калоду. Дзёўб, дзёўб і знайшоў золата. Трэба ж мяшок, каб яго данесці дахаты. Паслалі два браты Іванушку за мяшком. Ідзе Іванушка, бачыць — бяжыць сабака і гаўкае. Спужаўся ён сабакі і забыўся, чаго дамоў ідзе. Ён вярнуўся і расказаў усё братам. Кажуць тыя Івану: «Дурак ты, дурак, трэба было ўзяць палку і адлупіць яго. А цяпер ідзі з палкай і кажы: «Мех, мех», каб не забыцца».

Пайшоў Іван па дарозе дамоў. Ідзе і кажа: «Мех, мех, мех». Бачыць — едзе свадзьба. Уперадзе маладая з маладым. Падбег ён да маладых і адлупцаваў іх палкай па спіне. Далі і яму добра за гэта, і ён зноў забыўся, чаго ішоў. Вярнуўся ён к братам. Тыя закрычалі на яго і кажуць: «Дурань ты, дурань! Трэба было сказаць: «Век так весяліцеся».

Пайшоў Іван назад. Бачыць — вязуць нябожчыка. Слёзы ў

людзей ракой льюцца. Адзіны сын у маці быў, і той памёр. Падыходзіць Іванушка да людзей і кажа: «Каб вы так век весяліліся».

Накінуліся на Іванушку людзі, збілі яго, і зноў ён забыўся, куды ішоў. Вярнуўся ён да братоў. Тыя кажуць: «Дурань, што ты нарабіў? Трэба было табе памаліцца богу і сказаць: «Каб вам век не было такой работы».

Пайшоў Іванушка назад. Бачыць — хазяін забіў кабана і смаліць яго. Падышоў Іванушка і кажа: «Каб вам век не было такой работы».

Збіў яго хазяін, і адправіўся той дахаты.

Засталіся два браты ў лесе. Трэба каму-небудзь з іх ісці за мехам. Пайшоў сярэдні брат. Прыйшоў дахаты і кажа жонцы: «Трэба забіць старэйшага брата, і тады грошы нам застануцца. Ты, жонка, напячы ляпёшак з атрутай, і я дам іх яму паесці. Ён і памрэ».

Узяў з сабой ляпёшак і пайшоў у лес. А тым часам старэйшы брат вырубіў кол і чакае, каб забіць сярэдняга брата. Вось бачыць — ідзе сярэдні брат. Той выскачыў з-за дрэва і забіў яго. Убачыў у забітага мяшок, адкрыў, а там ляпёшкі. З'еў іх і памёр.

Так нікому золата і не засталося.

## ЯК СЫН-ДУРАНЬ «ЧУДА» ЎТВАРЫЎ

Было ў бацькі тры сыны: два разумныя, адзін дурны. Бацька стары стаў. Рашыў ён вучыць сыноў рамяству. З разумнымі дагаварыўся, што будзе вучыць іх красці. А дурному нічога не гаворыць.

Раніцай усталі і пайшлі ў лес, а дурань астаўся на печы ляжаць. Хацелі накрасці лесу на хату. Ды нічога ў іх не атрымалася. Паймаў іх ляснік і прагнаў з лесу.

Прыйшлі яны дамоў сумныя. На другі дзень збіраюцца ісці, а дурань і просіцца:

— Вазьміце мяне з сабой. А можа ў мяне луччы налучыцца.

Пайшлі яны ўчатырох. Ідзе ім наўстрэчу чалавек з казой. Дурань і гаворыць:

— Зараз украду казу!

— А як ты ўкрадзеш? — пытаюцца бацька з сынамі.

— А ёта маё дзела, — гаворыць дурань. Зайшоў ён наперад чалавеку і кінуў на дарогу адзін сапог. Той падняў, паглядзеў і кажа:

— Харошы сапог, каб другі, дык і ўзяў бы. А так…

Кінуў на дарогу сапог і пайшоў дальшы. Дурань зайшоў яшчэ

раз наперад і кінуў другі сапог. Чалавек падняў сапог і кажа:

— Добры сапог, тому пара. Пайду вазьму той — будзе добрая пара сапог.

Прывязаў казу да куста, а сам назад, за сапагом. Дурань узяў казу і да бацькі з братамі.

— Ну, вот вам і каза.

Падзівіліся яны на дурня і пайшлі дальшы. Прыйшлі на поле. А там два мужыкі пашуць полеваламі. Дурань у ві дзеў іх і гаворыць:

— Зараз я і вала вам украду.

— А як жа здзелаеш ёта? — пытаюцца сыны з бацькам.

— А ета маё дзела, — гаворыць дурань.

Зайшлі яны ў лес (каля поля быў лес), дурань і гаворыць:

— Ты, бацька, залезь на дзерава і крычы: «Чуда!» А як мужыкі падыйдуць бліжай, ты перsucc на другое дзерава і крычы: «Чуда!» І так усё дальшы і дальшы вядзі іх ад поля. А астальное — маё дзела.

Бацька залез на дзерава і крычыць:

— Чуда!

Мужыкі пачулі і гаварацць:

— Дзе чуда? Пойдзем паглядзім.

Падышлі бліжэй. А бацька пералез на другое дзерава і апяць крычыць:

— Чуда!

Мужыкі дальшы пайшлі. Так і завёў бацька іх у лес.

А дурань выпраг аднаго вала, адрэзаў яму хвост і засунуў яго другому валу ў рот. Забраў бясхвостага вала і ў лес да братоў і бацькі.

Вярнуліся мужыкі, не знайшоўшы чуда, і бачаць: стаіць адзін вол, а другога няма. Паглядзелі і відзяць, што з роту ў вала тырчыць хвост.

— Ну і чуда! Колькі жыў, ні разу не відзеў, каб вол з'еў вала, — гаворыць адзін мужык другому.

Й бацька з сынамі вярнуўся дамоў з казой і валом. Хваляць — не нахваляцца — дурня, а ён толькі ўхмыляецца.

## ЯК ВОЛ ВАЛА З’ЕЎ

Жылі-былі два браты. У аднаго брата было тры сыны, а ў другога — тры дачкі. Той, у якога былі дочкі, быў вельмі вялікі злодзей. Вось

ён прыходзіць к брату і просіць яго:

— Дай мне, браце, аднаго сына свайго. Пайду з ім красці.

— Бяры, — кажа брат.

Узяў дзядзька пляменніка, і пайшлі яны з ім у кражу.

Ідуць, ідуць, заходзяць у добры лес. Хвоі гонкія, такія высокія, што люба паглядзець.

— Дзядзька, а дзядзька, — гаворыць пляменнік, — добрая была б хата з гэтых хвой, каб іх паваліць і дамоў навазіць.

Дзядзька рассердаваўся і прагнаў яго дамоў.

— Не, з табой нельга ісці красці, ідзі дамоў.

Прыходзіць брат зноў да брата і просіць другога сына.

— Бяры, — кажа брат, — мне не шкада.

Ідзе дзядзька з пляменнікам, маўчаць. Выходзяць на поле, на якім грэчка цвіце. Пляменнік і гаворыць:

— Дзядзька, знаеш што? Вось каб гэту грэчку скасіць-змалаціць, цэлы год кашу еў — не паеў бы!

— Не, — кажа дзядзька, — ідзі ты, пляменнічак, дамоў, з табой можна ў бяду папасці. Ты таксама не злодзей.

Падыходзіць дзядзька да брата ў трэці раз.

— Дай, брат, — просіць, — трэцяга свайго сына.

— Бяры, — адказаў брат.

Ідуць яны, выходзяць на поле, на якім мужык поле арэ на валах.

— Знаеш, дзядзька, што, украду яго я валоў, — кажа пляменнік.

— Як ты ўкрадзеш, — здзівіўся дзядзька.

— А вось украду.

— Ну, калі ты ўкрадзеш, то ты будзеш большы злодзей, чым я.

— Ідзі, дзядзька, у лес, — саветуе пляменнік, залезь на хвою ды крычы: «Чуда, чуда!»

Так і зрабіў дзядзька. Пайшоў у лес, залез на хвою і пачаў крычаць:

— Чуда! Чуда! Чуда!..

Пачуў гэтыя крыкі мужык, кінуў араць і пабег у лес шукаць чуда. А тым часам пляменнік узяў^, адпрог аднаго вала, адрэзаў у яго хвост і ўсадзіў яго ў рот другога вала.

Прыбягае з лесу мужык: «Што за чуда! Шукаў чуда, а вось яно дзе! Вось дык чуда: вол вала з'еў!» Пабедаваў мужык, адпрог вала ды і паехаў дамоў.

А пляменнік завёў вала на бераг ракі, зарэзаў яго, аблупіў,

расклаў агонь і варыць у чыгуне мяса. Чуе, дзядзька ідзе. Узяў пляменнік палку ды як стукнс-грукнс па краю чугуна, ды як закрычыць:

— Ой, дзядзечка, гэта не я вала краў, да гэта дзядзька краў.

Пачуў гэта дзядзька ды ходу. А пляменнік наеўся мяса, а астатняе дамоў прынёс.

## ПРА ІВАНКУ І БРАТОЎ

У адной вёсцы жыў мужык з жонкаю. Было ў іх тры сыны. Два старэйшыя былі разумныя і да работы здатныя. Малодшы ж сын Іванка быў дурнаваты. Рабіць ён таксама не любіў, толькі ляжаў на печы і еў бацькаў хлеб. Калі бацькі сталі старымі,^ уся работа па гаспадарцы легла на плечы сыноў. Але працавалі толькі два старэйшыя сыны. Іванку хоць і споўнілася ўжо гадоў дваццаць, але за работу ён і не думаў брацца.

Аднаго дня старэйшыя сыны працавалі на далёкім полі. К абеду маці напякла ім гаршчок аладак, а бацька павінен быў іх аднесці на поле к сынам. Іванка і гаворыць з печы:

— Тата, тата, чаго ты, стары, пацягнешся на поле, давай я занясу.

— Дурань, ты і дарогі туды не ведаеш, — адказаў бацька.

Але Іванка запэўніў яго, што ведае, і бацька згадзіўся. Узяў Іванка гаршчок і пайшоў на поле^. Ідзе ён, а збоку бяжыць за ім яго цень. Убачыў яе Іванка і падумаў, што гэта злодзей хоча адабраць ад яго гаршчок з аладкамі. З усіх ног ён пусціўся ўцякаць, але злодзей таксама бяжыць разам з ім. Дастаў Іванка аладку і запусціў у злодзея, пасля другую, трэцюю і так апусташыў увесь гаршчок. Але злодзей не пераставаў бегчы за ім. Раззлаваўся Іванка і запусціў у яго гаршком. А тут ужо і поле блізка, дзе працавалі браты. Узрадаваўся Іванка, падбег к братам і паваліўся ад стомы ў баразну. Паднялі яго браты і пачалі распытваць, чаго ён так бег. Але Іванка паказвае на цень і просіць братоў, каб яны абаранілі яго ад гэтага чалавека. Растлумачылі браты, што гэта цень. Пасля пачалі яны распытваць, чаго ён прыйшоў на поле. Расказаў ім Іванка, што ён нёс ім на абед аладкі, якія ён раскідаў па дарозе. Накрычалі на яго браты, але бачаць, што нічога не паправіш, і пачалі галодныя канчаць араць.

Задумаў Іванка чым-небудзь задобрыць сваіх братоў. Пайшоў ён дадому, узяў рыдлёўку і, калі паступіла ноч, пайшоў на могілкі. Там ён

найшоў свежую магілу і пачаў яе адкопваць. Адкапаў труну, дастаў з яе бабу, заваліў яе за плечы і пайшоў. Прыйшоў ён на вялікую дарогу, паставіў на дарозе бабу, падпёр яе калом, а сам лёг у канаву. Па гэтай дарозе ехаў багаты пан. Было цёмна, бабы ён не ўгледзеў, наехаў і перакуліў яе. У гэты час як выскачыць Іванка з канавы ды як закрычыць на пана: «Нашто ты забіў маю маму, я падам на цябе ў суд!» Пачаў прасіцца пан, каб ён яму прасціў, а за гэта ён аддзякуе. «Ну, так і быць, — адказаў Іванка. — Давай кішэню золата».

Неахота было пану разлучацца з золатам, але што зробіш, прыйшлося аддаць. Падняў Іванка бабу, занёс у кусты і схаваў яе там. Прыйшоў ён дадому і паказаў братам золата. Дзівяцца браты, скуль узяў Іванка столькі золата. Пачалі яны яго распытваць, ну Іванка ім аб усім і расказаў. «Пойдзем са мной, — гаворыць Іванка. — Мы здабудзем сабе яшчэ больш багацтва».

Старэйшы сын зразу адказаўся. Сярэдні ж пасля некаторых разважанняў згадзіўся, і яны пайшлі. Завёў Іванка брата на могілкі, дасталі яны з кустоў бабу і паняслі. Прыйшлі яны да вялікай ёлкі. Тут Іванка астанавіўся і сказаў брату, каб ён яго падсадзіў на дрэва. З дапамогай брата залез Іванка на дрэва, пасля загадаў падаць яму бабу. Зацягнуў Іванка бабу да сярэдзіны дрэва, дзе былі асабліва густыя галіны, і загадаў брату лезці да яго. Сядзяць яны на дрэве і паціху размаўляюць.

Неўзабаве пачулі яны шум калёс і цыганскія песні. Гэта на начлег к ёлцы ехалі цыганы. Калі яны астанавіліся пад дрэвам, то Іванкаў брат вельмі напужаўся. Ён баяўся, як бы цыганы іх не ўгледзелі. Супакоіў Іванка брата.

Паставілі цыганы палаткі, развялі кастры і пачалі гатовіць сабе ежу. Смачна паеўшы і выпіўшы віна, пачалі яны ля кастра гуляць, пасля селі ўкруг і пачалі пець песні. Іванка і гаворыць брату: «Я буду зараз нешта рабіць».

Прасіў брат Іванну не рабіць гэтага, бо іх убачаць цыганы, але Іванка яго не паслухаў. Калі на цыганоў пачало ліцца, усе яны паўскакалі са сваіх месцаў. Але самы стары і разумны цыган запэўніў іх, што гэта з неба надае божая расічка. Паслухалі яго цыганы і зноў пачалі пець свае песні.

Іванка і кажа брату: «Брат, а брат, я зноў буду нешта рабіць». Зноў пачаў брат прасіць Іванку не рабіць гэтага. Але і на гэты раз ён не паслухаў брата. Як і першы раз, паўскакалі цыганы і пазадзіралі ўверх галовы. Але і на гэты раз іх супакоіў стары цыган, ён сказаў, што гэта з ёлкі падаюць шышкі.

Супакоіліся цыганы і вырашылі лажыцца спаць. Але Іванка і

гаворыць брату, што будзе кідаць бабу. Схапіў Іванку брат за рукі і пачаў прасіць, каб ён не губіў яго. Але Іванка лоўка пасунуў нагою бабу, і яна паляцела ўніз. Дыбам сталі валасы на галовах у цыганоў, калі к іх нагам звалілася баба. Кінуўшы ўсю сваю маёмасць і коней, пусціліся ўцякаць цыганы ад ёлкі. Злез Іванка з братам з ёлкі, паклалі на калёсы ўсё цыганскае дабро, зверху бабу і паехалі дамоў. Бабу па дарозе яны зноў за^капалі на могілках, а з усім дабром прыехалі ў бацькаў дом.

З гэтага часу Іванку ўсе паважалі і ніхто не называў яго дурнем.

## САЛДАТ, БАБА І ДЗЕД

У адной бабы памёр малады сын. Адзін раз паехаў кудысь яе дзед. А ў гэты час ішоў салдат. Грошы ў салдата не было. Зайшоўся ў хату. Пытае ў яго баба:

— Дзе быў, салдацік?

— А па ўсім свеце хадзіў.

А старой выдалася, што на тым свеце быў. Дык яна і кажа:

— Мой сын там.

Салдат зразумеў і кажа:

— А як яго зваць?

— Вася, — кажа баба.

— Я знаю яго,— адказвае салдат.

— А што ён робіць там? — пытае баба.

— Ды смалу возіць. Бедны, галодны мучаецца.

— А скора, салдацік, пападзеш туды, назад?

— Ды заўтра, можа, пападу.

Баба дала яму сала, хлеба, грошай трохі. Толькі салдат выйшаў са двара, як прыязджае дзед дамоў. Баба яму скарэй кажа:

— Быў у нас чалавек з таго свету. Сына нашага ведае. Казаў, што Вася наш галодны, мучаецца. Ды я яму сала палажыла ў торбу, хлеба і грошай дала.

— Эх, дурная ты баба! Што з табой рабіць? Паеду, даганю таго разумнага.

Ну і паехаў. Доўга ехаў, але даганяе-такі салдата. Астанавіўся, узяў салдата на воз, і паехалі далей. Праехалі, можа, вярсты тры, а салдат і кажа:

— Дзед, я шапку згубіў. Астанавіся, бо шапкі няма.

Што дзеду рабіць? Падумаў і пабег па шапку. А салдат застаўся сядзець на возе. Як толькі дзед пабег — салдат па кані і паехаў.

Прыйшоў дзед дамоў. А баба пытае:

— А дзе ж конь?

— А я аддаў таму салдату. Ты ж сыну сала паслала, ды на чым ён давязець яго? Дык я яму каня даў, каб сала давёз і каб больш наш сын на тым свеце на сабе карчоў не цягаў, а вазіў на кані іх.

## ПРА БАБУ-ГУЛЬТАЙКУ

Жылі сабе пажывалі дзед ды баба. Дзед працаўнік быў вялікі, ну, а баба гультай дужа вялікі. Прыдзе дзед з поля, пытае:

— Чаму ты, баба, не прадзеш?

А баба яму ў адказ:

— Ай, дзед, дась бог лета, тады і спраду.

Настала лета, на дварэ цёпленька стала. А баба ляжыць сабе ўсё на печы. Зноў пытаецца ў яе дзед:

— Ну, баба, ужо і лета настала, а ты ўсё ляжыш на печы.

— Добра, дзедка, пайду заўтра прасці.

Узяла яна кудзелю вялізную і палезла на страху. Толькі гэта яна залезла на страху, звалілася ў яе верацяно. Крычыць баба дзеду:

— Дзедка, а дзед, падай верацяно!

Падаў дзед верацяно, а сам араць пайшоў. Не ўспеў ён і аднаго разу прайсці, як баба зноў крычыць:

— Язэп, Язэпка, падай верацяно!

Пачухаў дзед патыліцу, падышоў да бабы і кажа:

— Ат, баба, кідай прасці, а то мне надаела падаваць табе верацяно.

Ну, вот, прыехаў дзед з поля і кажа бабе:

— Тчы ты, баба, кросны.

А яна яму адказвае:

— Няма, Язэпка, ставоў.

Хітрая была баба.

Сабраўся Язэп у лес ставы высякаць. А баба забегла наперад, схавалася за дрэва і крычыць:

— Дзед ставы сячэ, а баба дома памірае.

Сакануў дзед другі раз, аж зноў чуе: «Дзед ставы сячэ, а баба дома памірае».

Пачухаў дзед патыліцу, заткнуў тапор за рэмень і пайшоў дамоў. Прыходзіць гэта ён дамоў і кажа:

— Баба, ці жыва ты?

А баба з печы ціхенька гэтак:

— Чуць Жыва, дзедка!

— Ну, я так і чуў, што нехта ў лесе крычаў: «Баба памірае».

Тут кажа баба дзеду:

— Вязі, дзед, пражу на базар і купі мне сарочку нявузку.

А дзеду здалося: «Купі мне гуску». Паехаў ён на^базар, купіў гуску і, напяваючы, едзе сабе дамоў. А баба гэтым часам сваю сарочку з плеч ды ў печ. Убачыла баба гуску, нарабіла голасу:

— А божа ж мой, што ж ты зрабіў?

— Ат, баба, ты ж мне казала, купі гуску.

— Абібок ты гэтакі, я табе казала купіць сарочку ды нявузку.

Насабірала баба лапцей, перакінула іх цераз плечы, прыкрылася імі сяк-так, сядзіць і бядуе.

Прыходзіць да яе кум. Пытае ў яго баба:

— Ці твая баба такая, кумок?

— Э, кума, ты хоць лапцямі прыкрылася, а мая ж і лапці прадала.

## ЯК ЛЯНІВАЯ ДАЧКА РАБІЦЬ НАВУЧЫЛАСЯ

Была ў адных бацькоў вельмі лянівая дачка, нічога рабіць не ўмела ды і не хацела. На ўсё адказвала: «Не ўмею». Вось так і вырасла яна. Прыйшоў час і замуж дачку аддаваць, а бацькі бядуюць, як яна ў чужыя людзі пойдзе. Прыехалі сваты, а бацька цішком і кажа свату, што аддаць то мы аддадзім, але ж яна рабіць нічога не ўмее. Пачуў гэта бацька маладога і кажа: «То нічога, мы яе навучым».

На другі дзень пасля вяселля ўсе з раніцы ўзяліся за работу, толькі маладая нявестка ні за што не бралася, думала, што будзе, як і дома. Прыйшоў час палуднаваць, свёкар і кажа: «Ну, хто што рабіў, ідзіце есці».

А яе і не завуць. Самой жа ісці брыдка, бо нічога не рабіла.

Увечары паўтарылася ізноў тое самае. Прагаладалася нявестка і заснуць ніяк не можа. Усё чакае, каб скарэй раніца наступіла, тады

ўжо, хоць і не ўмеючы, будзе рабіць што-небудзь, абы пад'есці ёй далі.

Раніцай яна паднялася з пасцелі разам з свякрухай і свёкрам, узяла венік, пачала месці падлогу і пытае:

— Тата, а падлогу месці — гэта работа ці не?

А свёкар адказвае:

— Работа, дачушка, работа.

Пытае далей:

— Тата, а ваду несці — гэта работа ці не?

А свёкар зноў адказвае:

— Работа, дачушка, работа.

І яна гэтак да абеду не прысела, усё старалася, каб што-небудзь зрабіць.

А ў абед свёкар зноў гаворыць: «Ну, хто што рабіў, ідзіце есці».

Тут і яна ўжо таксама прыйшла, бо рабіла ж. І так пайшло дзень за днём.

Прыходзіць адзін раз бацька праведаць дачку. Сеў на лаве і гаворыць з свёкрам. А калі той недзе выйшаў, дачка падбегла да бацькі і кажа яму ціхенька:

— Тата, ты так не сядзі, хоць палу кажуха тры.

А бацька і пытаецца:

— А чаму, дачушка?

А яна адказвае:

— У нас есці таму не даюць, хто нічога не робіць, а кажух церці таксама работа, абы так не сядзець.

Прыходзіць свёкар, а бацька і пытаецца:

— Ну, то як мая дачка, робіць яна што ці не? А свёкар кажа:

— Усё, усё робіць, навучылася!

## ЯК ЛЯСНІК ЛЯНІВУЮ РАБІЦЬ НАВУЧЫЎ

Жыў-быў адзін малады ляснік. Аднаго разу ён зайшоў на хутарок. Там жыла старая бабка. У яе была вельмі прыгожая дачка. Але гэта дачка была вельмі лянівая. Яна нічога не хацела рабіць і толькі ляжала на печы. Калі ляснік убачыў гэту прыгажуню, то вельмі пакахаў яе. І гаворыць бабцы, што ён забярэ дзяўчыну. Бабка гаворыць:

— Бяры сабе, але яна нічога не ўмее рабіць.

— Нічога, я яе навучу, — гаворыць ляснік.

І забраў ён дзяўчыну з сабою.

І вось сталі яны жыць. Дзяўчына нічога не хоча рабіць, толькі і ведае, што ў люстэрка глядзецца ды на печы ляжаць. Ляснік пачаў яе вучыць, як есці варыць. Потым пайшоў у лес. Вечарам прыходзіць, а дома нічога не зроблена, няма чаго есці. Ён узяў тады торбу, вешае на сцяну, б'е яе і гаворыць, каб яна ўсё парабіла і наварыла есці. Зрабіў так і зноў сам пайшоў у лес. Прыходзіць вечарам, а дома нічога не зроблена, і есці няма чаго. Тады ён бярэ торбу, вешае на плечы жонцы і давай біць: раз па сумцы, два па жонцы, прыгаворваючы: «Што ж ты не парабіла! Што ж ты не наварыла!»

З таго часу ў хаце лесніка заўсёды быў парадак.

## ДВА ГУЛЬТАІ

От сабраліся ўдвох гультаі, якія нічога не хацелі рабіць. І кажуць адзін аднаму: «Давай купім леру і пойдзем жабраваць».

Купілі яны леру, зрабілі буду і паехалі па сёлах жабраваць. Едуць яны па дарозе, а насустрач пай на конях. Адзін і кажа другому: «Ты ляж, прытаіся, быццам памёр. А я буду граць па табе, пан шмат грошай дасць».

Лёг адзін, прытаіўся, а другі на леры іграе і пяе:

Ці не пан гэта едзе? Гэта слуга божа, Гэта слуга божа Нам да рубля да ложа.

Пад'язджае пан, супыняецца і пытаецца:

— Што, памёр?

— Памёр, панок, памёр!

Пан даў яму грошы. Не ўспеў ён ад воза адступіцца, як той «мёртвы» падняўся і пытаецца:

— А шмат пан даў?

А пан пачуў гэта, вярнуўся і пачаў лупіць бізуном яго. А другі іграе ды пяе:

Цярпі, цярпі, душа, Дык збавёна будзеш, А калі не выцерпіш — Патаплёна будзеш.

## ЯК РЫГОРАВА ДАРКА ВЫЗДАРАВЕЛА

Быў-жыў даўно калісьто адзін чалавек — Рыгор. Але нешчаслівы ён быў, і ў дзецтве кепска яму жылося. Нарэшце ён ажаніўся і ўзяў

жонку Дарку. Але гэта Дарка захварэла шпарка. І ўсё хварэла, а Рыгор усё ў бядзе і ў бядзе. Колькі ён ні лячыў, што ён ні рабіў, усё адно жонка нездаровая. Нарэшце, прыйшоў ён нeяк дахаты, а жонка яму кажа: «Знаеш што, Рыгор, мне ніякія лякарствы не памогуць. От была ў мяне цыганка і сказала, што ад маёй хваробы трэба пяску пры' несці з-за мора. От каб ты, Рыгорка, схадзіў, прынёс гэтага пяску, я бы, можа, была здаровая».

Рыгор надта любіў сваю жонку і не баяўся, што гэта надта далёка трэба ісці і гэта доўга часу пройдзе, пакуль ён вернецца дахаты. Пайшоў. Сабраў у торбу, узяў сабе яды і пайшоў. Ідзе.

Адышоўся кіламетраў пяць ад свае вёскі пад другую вёску, спатыкае знакомага чалавека. Той кажа:

— Добры дзень, Рыгор. Што ты гэта, братка, праз нашу вёску ідзеш, куды ты ідзеш?

— Ай, братка ты мой, няшчасце ў мяне.

— Якое ў цябе няшчасце?

— Жонка хворая.

— Ай, Рыгор, Рыгор. Ты нічога не знаеш, жывеш і нічога не знаеш. Твая жонка не хворая, яна любіць папа, і да яе поп прыходзіць. Яна хоча, каб ты пайшоў на доўгі час, а, можа, каб ты дзе там і загінуў, пакуль дзе дойдзеш да таго мора.

— О, не, браток, мая жонка — гэта! Не!

— Ну, вот ты мне не гавары. Я не пашкадую і каня зараз запрагу і цябе падвязу, і ты вот паглядзіш, што цяпер у тваёй хаце робіцца.

Нарэшце Рыгор згадзіўся. Гэты чалавек запрог каня, узяў сына за фурмана, узяў куль саломы, Рыгору даў плётку, кажа:

— Ты гэту плётку пры сабе трымай.

Увязаў Рыгора ў куль саломы, палажыў на воз і едуць. Прыехалі пад хату пад Рыгараву, паставіў гэты чалавек куль саломы на прызбе, фурмана адправіў дахаты, а сам заходзіць у хату.

— Добры вечар, пані.

— Добры вечар.

— Ці не пусцілі б мяне падначаваць. Я сцякольшчык. Сцёклы вось стаўлю. І пані пастаўлю, можа дзе шыбка якая пабіта, за гэта, што лусце мяне пераначаваць.

Паглядзела гэта жонка Дарка ды кажа бацюшку:

— Ды што, ён нам нічога не мяшае. Ну, нясі сваё шкло і пастаў і

лажыся дзе на зямлі.

— Ну, добра, — кажа, — пані, мне хоць і пад лаўкай, мне ўсё адно добра.

От прынёс ён куль саломы, паставіў у парозе, сам лёг пад лаўку на ўзлакотку і ляжыць, і глядзіць, як жонка Рыгора з папом гавораць і гарэлку п'юць. Нарэшце ўжо Дарка і падпіла, захацелася ёй і запець. І пачынае яна:

А мой жа ты, Рыгора, Пайшоў па пясок за мора — Бадай ты не вярнуўся!

А гэты чалавек ляжыць і падпявае:

А ці чуеш ты, Рыгора,
Што твая жонка гавора?
Маеш нож пры сабе,
Куль рэж на сабе.
Папу раз, жонцы два,
Тра-та-ці-та-ці-та-та.

— Ах ты, мужык, — кажа Дарка, — прыйшоў у хату і будзеш мне гэтак адпяваць!

— А не, панечка! Я хацеў пані памагчы спяваць.

— Не трэба мне тваёй помачы, вон з хаты!

— Панечка, дык я болей не буду памагаць. Начынае яна ізноў:

А мой жа ты, Рыгора, Пайшоў па пясок за мора — Бадай ты не вярнуўся!

А гэты чалавек адпявае:

А ці чуеш ты, Рыгора,
Што твая жонка гавора?
Маеш нож пры сабе,
Куль рэж на сабе.
Папу раз, жонцы два,
Тра-та-ці-та-ці-та-та.

— Ах, каб ты прапаў! Паб'ю ўсё шкло! Схапіла нож, зараз разрэзала пярэвесла, а тут

і Рыгор з плёткай. І папу раз, а жонцы два, папу раз, а жонцы два. Гэты поп скарэй у ход пайшоў. А тады Рыгор і кажа:

— Ну, дык, братка, вот табе за добрую раду, што ты мне гэтак парадзіў гэтага лякарства.

Пайшоў, дастаў бутылку гарэлкі, селі, выпілі, распрашчаліся, і паехаў той дахаты.

І Рыгорава жонка стала здарова, убачыўшы, што нічога з іх

хітрыкаў не будзе.

## ЯК МУЖЫК АДВУЧЫЎ СВАЮ ЖОНКУ АД ЛІХА

Жыў-быў адзін чалавек. У яго была жонка. І вось гэта жонка хацела хадзіць з другім чалавекам. За дапамогай яна пайшла к варажбіту. Той кажа: «За сялом ёсць вялікі дуб. У сярэдзіне ён пусты. Ты ідзі да яго ноччу і спытай, што табе рабіць. Ён табе скажа».

Жонка ўзрадавалася вельмі, падзякавала і пайшла дадому. Варажбіт жа ўсё расказаў яе мужу. Вечарам муж пайшоў за сяло, залез у дуб і чакае. Ноччу прыходзіць сюды яго жонка і пытае ў дуба, што ёй трэба рабіць, каб з другім хадзіць. Мужык яе з дрэва і кажа: «З гэтага часу кармі ты свайго мужа самым смачным, тлустым, не давай яму нічога рабіць. Ён стане вельмі тоўстым і ад гэтага аслепне». Жонка падзякавала дубу і з радасцю пайшла дадому.

З гэтага часу жонка корміць мужа самым смачным і не дазваляе яму рабіць што-небудзь. І вось праз некаторы час мужык гаворыць, што нешта ў яго пацямнела ў вачах і ён стаў дрэнна бачыць. Жонка вельмі ўзрадавалася і яшчэ лепш корміць мужа.

І вось настаў час, калі яе мужык «аслеп». Яго стаў вадзіць сын маленькі. Жонка яго стала дзейнічаць. Яе палюбоўнік ужо смела прыходзіць к ёй. А «сляпы» сядзіць у кутку. Яны не звяртаюць на яго ўвагі. Тут «сляпы» просіць сына вывесці яго на вуліцу. Там ён бярэ тоўстую палку і заходзіць у хату. Трохі пастаяўшы, ён раптам крычыць: «О, божа мой, я ўсё бачу». З гэтымі словамі ён палкай пачаў лупцаваць сваю жонку і яе палюбоўніка.

Так мужык адвучыў сваю жонку ад ліха.

## ТРЫ РАЗЫ ЗАБІТЫ

Жыў-быў чалавек і не ведаў, што кум ходзіць да яго жонкі. Адзін раз жонка і кажа свайму палюбоўніку:

— Як нам зрабіць, каб мой мужык не перашкаджаў нам і мы пажаніліся?

Той падумаў, падумаў ды кажа:

— Заўтра ты пячы бліны харошыя і кладзі і к у два месцы. Калі будзеш лажыць бліны мужу. то прыгаворвай: «Хто будзе есці, дай бог, каб памёр».

Так яны пагаварылі і разышліся.

На другі дзень раніцай жонка стала пячы бліны харошыя. Бліны, якія павінен быў есці муж яе, былі заклятыя, а бліны кума — не. Мужык жа яе ведаў пра гэта. Вось ён прыходзіць снедаць. Сеў за стол і раптам бачыць у акно, што сюды ідзе кум. Узяў і прыкінуўся мёртвым. Заходзіць кум. Жонка і кажа яму, што гора ў яе вялікае: памёр мужык. Затым яна запрашае кума адведаць бліноў, але кажа, каб ён еў бліны з таго боку, дзе яны не заклятыя. Сама ж пайшла па масла.

За гэты час мужык яе схапіў качалку і забіў кума. Потым узяў блін, усадзіў яго ў рот куму, а сам таксама прытварыўся зноў мёртвым. Уваходзіць тут у хату жонка. Убачыўшы такое гора, яна горка заплакала, прыгаворваючы, што каб хоць першы мужык аджыў. Той і «аджыў». Жонка і пытае: «А што ж нам рабіць з мёртвым кумам?»

І вось што яны зрабілі. Недалёка ад іх стаялі цыганы. Малады жарабок цыганоў прыбег да гэтага чалавека. І вось пасадзілі мёртвага кума на жарабка, прывязалі і пусцілі. Жарабок прынёс кума ў цыганскі табар. Цыганы, убачыўшы гэта, крыкнулі, каб незнаёмы чалавек спыніўся. Але той усё роўна едзе. Тады адзін цыган схапіў камень і стукнуў кума па галаве. Тады пасадзілі яго ў лодку і пусцілі па рацэ. Так і плыла лодка, пакуль яе не ўбачылі рыбакі. Яны закрычалі.^ каб кум не перашкаджаў ім лавіць рыбу. Але той усё роўна плыве. Тады адзін схапіў вясло і стукнуў кума па галаве. Той і зваліўся ў раку.

Так кум быў тры разы забіты. Будзе знаць, як па чужых жонках хадзіць.

## ЯК МУЖЫК ЦЫГАНА АБМАНУЎ

Сустрэліся ў дарозе мужык і цыган. Вырашылі яны далей ісці ўдвух. Ішлі, ішлі яны і захацелі есці. А тут якраз па дарозе знайшлі смажанае парасё, згубіў нехта. Удвух з'есці — дык і ніхто не пад'есць, мала будзе. Λ аднаму з'есці — дык якраз і хопіць. Думалі, думалі яны, што зрабіць, а цыган і кажа мужыку: «Давай ляжам спаць. А раніцой хай кожны раскажа свой сон. Чый сон будзе лепшы, той і з'есць гэтае парасё». Згадзіўся мужык.

Ляглі спаць. Цыган адразу ж заснуў, а мужык ну ніяк заснуць не можа. Не спіцца мужыку. Усё ён думае, што цыган яго абмане. Мужык устаў, а цыган крэпка спіць, нічога не чуе. Мужык з'еў гэтае парасё, каб цыган яго не абмануў, ды і спаць лёг. Тады толькі моцна

заснуў мужык.

Цыган першы прачнуўся і давай штурхаць мужыка, будзіць:

— Уставай, бацька. Будзем сны расказваць.

Прачнуўся мужык і думае: «Як жа мне цыгана абмануць?» А сам кажа яму:

— Ты першы ўстаў, дык ты і пачынай расказваць, а я за табой раскажу.

Цыган і пачаў расказваць сон:

— Вот, бацька, які я сон сніў. Іду я гэта, іду і бачу: стаіць перада мной залатая лесвіца. Ну, я і палез па гэтай лесвіцы. Лез гэта я, лез ды і забраўся на неба. А на небе бачу я залатую дарожку і думаю: «Пайду я па гэтай дарожцы залатой». Ішоў, ішоў я і бачу: хатка стаіць. А дарожка мая прама ў хату вядзе. Ну, я і зайшоў у яе. Заходжу гэта я туды, аж там пір ідзець на ўвесь мір. Музыкі іграюць, танцы плятуць, песні пяюць. Дзіўлюся я, што тут робіцца. І тут ка мне падлятаюць два анёлачкі, падхопліваюць мяне і нясуць па раскошных пакоях, пад залатымі столямі, над бліскучымі падлогамі. І вось пакой увесь зіхаціць, пераліваецца. Апускаюць гэта яны мяне на падлогу, а мае вочы так і разбегліся. Сталы вялікія рознымі яствамі ўстаўлены, і сядзяць за імі багі са сваімі бажанятамі, і запрашаюць яны мяне за свой стол. Вось і ўсей мой сон, бацька. А ты што сніў?

Давай мужык расказваць свой сон:

— Добры ты сон сасніў, але цяпер паслухай мой. А я вось што сніў. Мой сон крыху падхадзяшчы пад твой. Ну, дык вось. Іду я па зямлі, і раптам перада мной лесвіца. Не залатая лесвіца, а простая.

Цыган тут і кажа:

— Мой сон лепшы!

А мужык нічога не адказаў і далей расказвае:

— Палез я па той лесвіцы і забраўся на неба. А на небе цёмна і ніякай дарогі няма!

Тут цыган зноў перабівае мужыка і крычыць ужо:

— Мой сон лепшы!

Але мужык спакойна прадаўжае:

— Заўважыў аганёк далёка. Я і пайшоў на гэты аганёк. Надышоў я к хатцы, а яна закрыта. Чуваць адтуль музыка, песні, а ў сярэдзіну я зайсці не магу.

Цыган яшчэ мацней крычыць, узрадаваны:

— Мой сон лепшы!

А мужык не звяртае на яго ўвагі і далей прадаўжае:

— Дык вось хаджу, хаджу я кругом хаткі і раптам у адным акне я ўбачыў, як ты там сядзіш ды і з важанятамі і з багамі п'еш ды ясі. А тым часам світаць стала. Я хуценька вярнуўся назад на зямлю. І толькі я злез на зямлю з лесвіцы, як яна знікла. Я тады і падумаў: «Калі ты астаўся з багамі і бажанятамі піць ды есці, дык ты тады галодны не будзеш. Ды і лесвіцу ўжо прынялі, ты не зможаш на зямлю сысці».

Слухае гэта цыган ды ўсміхаецца. А мужык прадаўжае:

— І вырашыў я з'есці парасё. Знайшоў я яго на зямлі ды і з'еў.

Тут цыган як усхопіцца ды як узлуецца на мужыка і давай крычаць:

— А каб цябе чума з'ела, як ты з'еў гэтае парасё! А каб ты так бачыў сваіх дзяцей, як я бога з бажанятамі бачыў!

Злуецца цыган, лаецца, а мужык стаіць ды ціхенька сам сабе ўсміхаецца.

Тут і казка ўся.

А ў нас ёсць куцця.

## ЯК БАБЕ КЛЁПКІ УПРАВІЛІ

Жылі дзед і баба. Змаладу жылі дружна, ніколі не спрачаліся. На старасці год пачалі спрачацца паміж сабой. Дзед бабу лае і ўсё гаворыць, што ў яе няма адной клёпкі. Вось так яны і жылі. Было ў іх сала і да сала. Рашылі яны паехаць на базар. Узялі сала бочку і кажух. Прыехалі. Дзед аставіў бабу на возе, а сам пайшоў паглядзець цэны на сала.

У гэты час хадзіў па базару бондар і крычаў: «Каму бочку начыніць, каму клёпку ўставіць?» Праходзіў ён недалёка ад таго месца, дзе сядзела баба. Яна пачула і гаворыць:

— Ідзі сюды. Устаў мне адну клёпку, бо мой стары гаворыць, што ў мяне адной не хапае.

Абышоў бондар кругом бабкі і гаворыць:

— Ну вось, бабка, у цябе няма трох клёпак, а не адной.

— Пастаў мне клёпкі, каб стары не гаварыў, што ў мяне не ўсе клёпкі.

Пастукаў ён ёй па галаве, прывязаў тры клёпкі і сказаў:

— Не адвязвай галавы тры часы, а то і болей.

Сядзіць баба на возе, як рагатая. Усе людзі на яе глядзяць.

Прыйшоў дзед і кажа:

— Конь мой, калёсы мае, а баба не мая.

Пайшоў далей шукаць свой воз і бабу. Пахадзіў, пахадзіў ды прыйшоў да свайго воза, паглядзеў і кажа.

— Конь мой, калёсы мае, а баба не мая.

І зноў пайшоў шукаць сваю бабу.

Прыйшоў ён трэці раз да свайго воза, а баба не вытрымала і кажа:

— А каб цябе рак, і блізка не падходзіш, як усе клёпкі сталі!

Пачуў ён голас сваёй бабы ды падышоў да яе і кажа:

— Ды што ты, баба?

— Ты ж казаў, што ў мяне адной клёпкі не хапае, а майстар сказаў, што трох.

— А дзе сала? — пытае дзед. — А дзе кажух?

— Аддала за клёпкі!

Вось так стала баба разумнай.

## ЗЛОСНАЯ ДЗЯЎЧЫНА

Жыла ў адной вёсцы красівая дзяўчына, але вельмі злосная. І захацеў на ёй жаніцца адзін хлапец. А маці яго адгаварвае, каб ён яе не браў. А хлопец ёй гавора:

— Можа гэта і няпраўда, што яна злосная. Я пайду да яе дамоў і пагляджу, злосная яна ці не.

Прыходзіць ён да дзяўчыны, а яна сядзіць, ніткі матае. Узяўся гэты хлопец ёй памагаць. Ды спецыяльна ўзяў і зблытаў ніткі, каб праверыць, будзе яна злаваць ці не. Яна разблытвала іх, а потым паляцела на двор. Вярнулася і спакойна разблытала ніткі да канца.

Хлопец паглядзеў, што яна спакойна разматала, нічым яго не папракнула, і падумаў, што яна не злосная, гэта, мусіць, на яе людзі выдумалі.

І ажаніўся хлопец на ёй.

Не паспеў ён пражыць з ёй і месяц, як жонка дала яму перцу: была такая злосная, што слова не скажы. Цярпеў ён цярпеў ды і кажа:

— Дзе твая злосць была, як я ніткі з табой разблытваў ды думаў: браць цябе замуж ці не?

А яна яму адказвае:

— У бярозе.

Аказваецца: каб не злавацца і не крычаць — яна выбегла з хаты і грызла кару на бярозе.

## А БАБІНА ЮР З'ЕЎ

Ішла баба на хрэсьбіны. А ішоў па пуці чалавек, малады яшчэ. Кажа:

— Цётка, куды ты?

А ў гэтай цёткі ў хустках усяго ж ужо навязана. У адной місцы пірагі, у другой тожа розныя там прысмакі. Ну, яна яму і кажа:

— На хрэсьбіны іду.

— Ну дык і я ж туды, — кажа чалавек. — Калі хочаш, дай паднясу твае міскі, памагу.

Ну, бабка і аддала яму міскі, што пацяжалей, ну там з салам, з пірагом, а сабе ўжо што палягчай аставіла. Ідуць яны, ідуць. Малады ^хлопец шпарка шагае. Шагае ўсё быстрэй і быстрэй, а бабулька ўсё астаецца ды астаецца. А што далей, то і болей. Ішла гэта бабулька, ішла гэтак, аж упацела ўся, ды і кажа:

— А як жа цябе, хлопча, завуць? —

— Мяне, — кажа, — завуць Юр.

Ішоў, ішоў гэты Юр і коўзь у лес, набок. Бабулька далёка асталася і не відзіць гэтага Юра. Ідзець, то ў адзін бок паглядзіць, то ў другі і ўсё ніяк не відзіць гэтага Юра. Ну, думае, ён, пэўна, ужо на хрэсьбінах.

Прыйшла бабулька на хрэсьбіны, а тога Юра і там не відаць. Ужо і госці ўсе сабраліся, а Юра ўсё няма. Маўчыць баба. Пасадзілі яе ўжэ на куце. Сталі піць і есці, а ў бабулькі на ўме Юр. Госці гірыглашаюць бабульку:

— Выпі, выпі чарачку вінца, будзеш весялейшая.

А бабулька ім і адказвае:

— Мне няма як піць, у мяне Юр па ўме.

Госці глядзяць: старая баба, а ёй яшчэ юр на ўме. Пачакалі трошкі ды ізноў прыглашаюць бабку выпіць. А бабулі гэта дзела не Гідзе, усё пра Юра думае. І бабуля кажа:

— Дзеткі, мне ж не есца і не п'ецца, у мяне Юр на ўме.

Ізноў глядзяць на яе госці і не панімаюць. Сільна яна ўжо старая была, а ўсё ёй юр яшчэ на ўме. І толькі пасля, як прыйшлося бабульцы

паставіць на стол, бачаць — у яе нічога няма. Госці і суседзі пытаюць:

— А дзе ж тваё, бабка?

А яна і кажа:

— Юр з'еў.

Тады яны ўзналі, які ёй Юр на ўме.

## ЖАРАБЯЧАЯ МАТКА

Ехаў адзін дзядзька на кані — такім маладым, здаровым. Конь быў — ну проста ўсім на зайздрасць. Сустрэў яго другі дзядзька і дзівіцца з яго каня:

— І дзе ты толькі такога каня дастаў?

А гэты дзядзька і адказвае:

— Я сядзеў усё лета і зіму на адным гарбузу. Вось калі і ты хочаш дастаць такога маладога, здаровага каня, дык сядзі лета і зіму на гарбузу, нічога не еш і не пі. Вось тады, можа, і дастанеш такога каня.

Узрадаваўся вельмі той, другі дзядзька, падзякаваў за добрую параду і пайшоў узрадаваны дамоў. Усё рабіў ён так, як яму параілі: сеў на гарбуз і сядзеў, не піўшы, не еўшы, але нічога ў яго не атрымоўвалася. Гарбузы яго пагнілі праз некалькі месяцаў. Узлаваўся ён ды як кіне гэты гарбуз пад печ. А ў гэты час пад печчу заяц сядзеў. Заяц узяў ды і выскачыў з-пад печы. А гэты дзядзька адразу не разабраўся, што гэта такое, ды за зайцамі бяжыць і крычыць: «Прыгажунька-жарабятка, я твая матка, я табе малачка дам, толькі ты не ўцякай ад мяне!» Бяжыць па ўсёй вёсцы ды крычыць гэта.

Тут і вёска сабралася ўся. І казка таксама ўся.

## ПРА ЛЮСТЭРКА

Жыў-быў мужык ды жонка. Быў у іх бацька, маці, быў у мужыка брат і сястра. Вось паехаў мужык на базар, купіў люстэрка, прыехаў дадому ды схаваў яго ў куфар. Пайшоў ён на работу, а жонка думае: дай я пагляджу, што мужык купіў. Адкрыла куфар і глядзіць — ляжыць другая жонка. Пачала яна плакаць: як яна будзе жыць, калі мужык другую жонку купіў? Сказала яна бацьку. Бацька найшоў, паглядзеў ды і кажа: «Хіба ты не бачыш? Ён купіў сабе другога

бацьку». І пачалі яны спорыць, каго купіў мужык.

А маці тым часам пайшла паглядзець, каго ўсётакі купіў сын. Глядзіць — аж ён купіў мацяру другую. Прыйшла яна ў хату ды стала плакаць.

Плачуць і спораць.

Пайшла паглядзець і сястра. Глядзіць і вачам сваім не верыць: ляжыць у куфры другая сястра. Прыйшла яна ў хату і кажа: «Вы ўжо старыя і не пазналі, што ён купіў сабе сястру».

Плачуць яны і чуць не б'юцца. Тут прыйшоў з работы і брат. І пытаецца: «Што з вамі зрабілася?» Кажуць яны: так і так, купіў наш сын, мужык, брат сабе бацькоў, жонку і сястру, а сам хоча нас забіць. І вырашылі яны ўсе ісці глядзець. Адкрылі куфар, а там ляжыць і бацька, і маці, і брат, і сястра, і жонка. Раззлаваліся яны і думаюць, дай мы засячом іх. Узялі і пабілі люстэрка.

Тут і прыйшоў з работы мужык. І пачалі яны крычаць на яго:

— Ты хацеў забіць нас, а сабе другіх купіў, вось мы іх і пазабівалі.

Мужык спалохаўся. «Няўжо пабілі мне люстэрка?» — падумаў ён і пайшоў паглядзець. А там адны аскалёпкі засталіся. Заплакаў ён ды кажа:

— Нашто вы люстра мне пабілі, дурні?

Тут яны і кажуць:

— А чаму ты нам не сказаў, што гэта, і не паказаў? Мы не зналі, што гэта і каго ты купіў, узялі ды пазабівалі.

## НАЧЛЕГ САЛДАТА

Бег бай па сцяне, Валок лапці-шлабанэ І сабе, і жане, І дзяцёнку па лапцёнку. Баяць ці не? Бай!

Ну, слухайце.

Даўней бралі ў салдаты на двадцать пяць гадоў. Узялі аднаго ў нас хлапца. Ішлі салдаты ў вялікі горад. Тады ўсе пехатою хадзілі. Ну дык вот, ішлі яны ішлі, надыходзіць вечар. Прыйшлі ў вёску і пачалі прасіцца начаваць. Вот наш салдат зайшоў у хату і просіцца начаваць. Гаспадыня кажа:

— Начуйце! Прахожы з сабой жылля не носіць.

Ну, астаўся начаваць салдат. Лёг спаць, вельмі хочацца заснуць, ну а тут дзіця гэтай гаспадыні плача і плача. Ніяк ня можа салдат заснуць. Раззлаваўся ён на дзіця і, як гэта жанчына прыдрамала, узяў

гэтае дзіця ды і палажыў на шчоткі, што лён часалі ўдзень. (Яны былі прывязаны да зуслона.) Так, значыцца, палажыў голым целам, а сам пайшоў з хаты.

Адслужыў салдат службу, дамоў прышоў. Ажаніўся. І вот аднаго разу яго жонка кажа:

— Ідзі, змый мне плечы.

Прыйшоў салдат, пачаў мыць плечы ды і пытаецца ў жонкі:

— Чаму ў цябе ўсе плечы пабіты ў балячкі?

А жонка ды і кажа яму:

— Ці ж гэта балячкі. Дурань ты. Гэта ж, як я была малая, мяне салдат на шчоткі плячыма палажыў. Вот і асталіся сляды.

Тады салдат успомніў малое дзіця і шчоткі, тую хату, дзе ён некалі начаваў. Больш ён нічога не сказаў і вярнуўся ў хату.

## СВАЙГО ЛЁСУ НЕ АБМІНЕШ

Было гэта даўно. Ехалі салдаты па вялікім лесе, адзін адстаў ад усіх і заблудзіўся. На трэці дзень ён прыстаў, бо конь стаміўся і сам есці захацеў, і думае, што яму цяпер рабіць, куды дзецца.

І раптам увідзеў ён маленькую хатку ў лесе і ў ёй агеньчык. Ён і рад. Думае: «Пад'ем і аддыхну». Заходзіць, бачыць: стаіць столік маленькі і дзядок за ім сядзіць, штосьці вяжа. Салдат кажа сабе: «Думаў, пад'ем, аж нічога, мабыць, не будзе». А дзед гаворыць:

— Я цябе, нябожа, накармлю.

Гаворыць:

— На табе кусочак хлеба, еш.

Салдат думае: «Ці ж я пад'ем гэтым хлебам?» А дзядок гаворыць:

— Не бойся, пад'ясі.

Ён есць, пад'еў, а хлеба столькі ж і засталося. Дзед гаворыць:

— Вазьмі гэты хлеб, загарні ў платочак і будзеш есці.

Салдат падумаў, што конь жа яго галодны, аж выйшаў і бачыць, што і ў каня поўна травы. Тады ён гавора:

— Дзед, а што гэта вы робіце?

А той адказвае:

— Лёс вяжу.

— Дык ты б, дзед, і мне звязаў.

— Я і табе ўжо звязаў.

Дык ён гавора:

— А як бы мне яго ўбачыць?

А дзед і гавора:

— Убачыш, як выедзеш з лесу і будзеш ехаць па дзярэўні, там, у канцы дзярэўні, будзе стаяць крывая бяроза, а пад ёй сядзець твой лёс.

Пакуль салдат выехаў з лесу, то з'еў увесь хлеб. У канцы дзярэўні ён убачыў, што дзеўка сядзіць пад крывой бярозкай і пасе гусей. Дзяўчына гадоў чатырнаццаці, а дождж ідзе, і яна сядзіць, замёрзшая, у лахманах, мурзатая, непрыгожая. Дык салдат і думае: «Чым такі лёс, дык няхай лепш яго ніякага не будзе». Секануў яе шашкай і паехаў.

Праз чатыры гады ён адслужыў салдаты і ўстроіўся ў горадзе работаць, і там сустрэў адну дзяўчыну і палюбіў яе. Гэта была тая самая дзяўчына, але ён зусім яе не пазнаў. А на шыі ў яе застаўся шрам ад шашкі. Вось ён адзін раз і пытае, ад чаго гэта ў яе такі шрам. Яна яму і расказала ўсё, як было. Тады хлопец зразумеў, што гэта яго лёс.

Значыць, свайго лёсу ніхто не абміне.

## ЯК СЦЯПАН ПАКАШТАВАЎ ШАМПАНСКАГА

Гэта было даўно-даўно, калі яшчэ сохамі аралі і кватэркамі гарэлку прадавалі. Была вёска — вялікая-вялікая вёска. І была карчма там, і ў гэтай карчме жыў Абром. А гэта вёска называлася Чортава Балота. Праўда, там людзі жылі бедна, усе хадзілі ў балоце, проста як чэрці. Толькі аднаму Аброму там быў рай, бо ён надта мужычкоў добра ўмеў ашукваць. От прыйдзе да яго мужычок: «Дай, Абромка, кватэрку гарэлкі».

Ён яму хутка падносіць. Але што ж: трошка не далье, трошка вадзічкі ўвальe, а ўсё Абромку ў кішэню плыве гэта.

Аднаго разу прыходзіць Сцяпан. Вядома, не першы раз; ён часценька Аброма наведываў. І гаворыць: «Дай, Абромка, кватэрку».

Абромка хутка наліў яму. П'е Сцяпан кватэрку, глядзіць. А там у карчмара зроблены буфэцік такі, там на полачках стаіць што. У яго ўсё ест. І табак, і гарэлка, і закуска — усё ў яго ест у карчмара. Відзіць ён гэта бутэльку і відзіць некалькі раз: стаіць у яго гэта бутэлька. Ён кажа:

— Абром. Што там у цябе ў бутэльцы стаіць?

— Ого, Сцяпан. Гэта дарагая там вешч стаіць.

— Ну, а што гэта стаіць?

— Гэта шампанскае. Яго толькі багатыя людзі п'юць, яго бедныя ня могуць піць, бо яно дорага каштуе.

— Ну, а як жа дорага? Колькі яно каштуе?

— От, як табе сказаць. Як бы гэта на жыта, дык гэта мяшок жыта трэба даць.

— А хай яго паралюш! Гэткае, праўда, дарагое!

Выпіў кватэрку гарэлкі і ідзе дахаты. Сабе патроіла пад нос падпявае і ўсё думае сабе: «Ага, от шампанскае. Відзіш, якія багачы: п'юць шампанскае! А чаму гэта мужыку дык няма як выпіць? Дарагое! От, крывапіўцы, у іх хватае і на шампанскае, а я пражываю проста век і не каштаваў яго, і не знаю смаку. Але ж быць не можа ўсётакі! Хіба жыць не буду! Некалі ўсё-такі я прыбяруся, можа і пакаштую». Прыйшоў дахаты, лёг спаць. Прачнуўся, пайшоў рабіць нешта.

Ну, гэта, прайшло, можа, якія два месяцы, ужо жыта стала на полі даспяваць. У Сцяпана жыта так урадзіла — ну ўсё роўна як на грэх. Ці яму можа і чорт памог, каб ён пакаштаваў гэтага шампанскага?

Прывёз ён жыта, намалаціў многа, умалотнае жыта. «Ну, — кажа, — цяпер я папрабую».

Абмеркаваў, што на зіму хваціць, да новага хваціць, можна і папробаваць цяпер. Узёў мех жыта, на воз палажыў, сеў і едзе. Прыязджае пад карчму Абромаву. Заходзіць да Аброма.

— Добры дзень, Абром!

— Добры дзень, добры дзень! Куды гэта едзеш, Сцяпан?

— А я проста да цябе прыехаў, Абром. От жа ты мне сказаў, мяшок жыта за шампанскае, вот я і прывёз. Ідзі паглядзі.

Той выйшаў, паглядзеў.

— Што, можа, мала?

— А, мала не мала, ты цёнгле да мяне прыходзіш, ты ж сусед недалёкі: от, нясі яго тамака ў кладоўку, высып.

Гэта Сцяпан узёўся за мяшок, памкнуўся, троха цяжка. Але нарэшце паднёў, як мядзведзь, сагнуўшыся. Прынёс, высыпаў гэта жыта ў кладоўку яму і заходзіць у карчму. От, зараз Абром дае яму шампанскага, нават яшчэ і закуску паставіў. Наліў сабе Сцяпан паўшклянкі і баіцца проста так піць: наперад языком толькі прыткнуўся. Праўда, смачнае. Шчэ пацягнуў, і тчэ. Перакуліць — і

далей болей, і выпіў гэтую бутылку. Дастаў люльку, палажыў тытуню, закурыў і кажа Аброму:

— От, Абром, што тваё гэта за шампанскае? Усё ж такі я выпіў цэлую бутэльку і нешта саўсім мала ў галаве круціць.

— Ой, Сцяпанка. Гэта ў цябе за год закруціць у галаве, цябе разбярэ гэта шампанскае. Ты знаеш, што гэта за напітак? За год!

— А паралюш яго ведае!

Шчэ адну люльку закурыў і пайшоў дахаты.

Абромава жонка смяецца:

— Што ты гэта, Абром, сказаў, што за год яго разбярэ?

— Паглядзіш, паглядзіш! Разбярэ! Бо ў яго жыта не хваціць да новага, а дзяцей у яго ест. Як хлеба ў хаце не будзе, як стануць дзеці прасіць хлеба, а ў яго не будзе. Ой! Тут будзе круціць яму ў галаве.

Пасмяяліся.

Ну, гэта, прайшло нескалька месяцаў. Ізноў жыта паспела. Ужо зжалі. Паехаў Сцяпан, на воз накладае жыта. Накладае на воз жыта, налажыў. Залажыў жэрдку за передню і стаў уціскаць. Як парвецца передня, гэта жэрдка як хлопне па зямлі, а ён упаў на зямлю, а яна адскочылася і па лбе як дала, дык яму і цёмна ў вачах стала. Закруцілася яму галава, што ён і не помніць нічога. Доўга Сцяпан ляжаў, пакуль ачўціўся. А нарэшце ачуціўся і прыпомніў. «От, — кажа, — каб яго халера з Абромам. Праўда, за год разабрала».

Ну, нарэшце ён прыехаў дахаты і кажа: «Я болей гэтага шампанскага піць не буду. І хай яго чэрці п'юць».

І ад таго Сцяпан болей нават на тую бутэльку не хацеў глядзець. Прыйдзе, возьме кватэрку гарэлкі, вып'е і пойдзе з песняй дахаты. І так ён аж да канца свайго жыцця пражыў.

## АЛЯХНОВІЧ

Гэта было даўно, мне мой бацька пакойны расказваў. Жыў у нашай вёсцы адзін чалавек, людзі яго Аляхновічам празывалі. А празывалі яго так за тое, што ён надта добра ўмеў махляваць. Так у яго ўсё складна выходзіла: лахніць, лахніць, як бы ўсё гэта праўда.

А аднойчы з ім выпадак здарыўся. Пайшоў ён на базар у горад, а да горада вёрст пятнаццаць было. Ну нейк ён зайшоў, а назад — думае: «Стары я ўжо, дальбог, не прыйду пеша». І пачаў ён выйсця шукаць. Ажно бачыць: крамнікі масла, мёд скупліваюць. Падышоў ён

і пытае:

— Што, паночкі. Купляеце?

— Купляем, — яны кажуць.

— А дамоў вы ці зараз паедзеце?

— Вось, — кажуць, — ад'язджаць будзем, бо сёння мала купілі.

А Аляхновіч будзе казаць так:

— А я і не знаў, што вам патрэбна масла і мёд. Я ж сёння так шмат масла ды мёду прадаў, што свет ты мой!

Тут крамнікі да яго:

— Ой, ой, ды адкуль столькі яго ў цябе?

А Аляхновіч кажа:

— А я кожны святы божы дзень прадаю шмат і вам магу прадаць у другую нядзелю.

Зацікавіліся крамнікі ім. А ён:

— Вось прыязджайце да мяне на дом, дык я вам столькі прадам масла ды мёду, што свет не бачыў.

— А дзе ты жывеш?

А Аляхновіч кажа:

— Паехалі, я вам па дарозе пакажу, — і сеў сам у воз.

Едуць, а крамнікі пачалі ў яго распытваць:

— Мусіць ты багата жывеш, калі столькі мёду ды масла прадаеш?

Тут і пачаў Аляхновіч махляваць:

— Паночкі, у мяне столькі вуллёў, што свет ты мой! А пчолы такія велькія, ну, як куры, — ажно ў вулей адпіхаць трэба. А мёду — колькі хочаш! Масла ў мяне таксама шмат.

— Мусіць ты шмат кароў трымаеш? — пытаюць крамнікі.

— Не, не шмат, у мяне адна карова, але столькі малака дае, што свет ты мой! Я ж смятану зліваю ў мяшкі такія, у мяне яны толькі ёсць. Выношу гэтыя мяшкі на агарод, кладу на граду і пачынаю масла цэпам біць. Масла ў мяшку застаецца, а маслянка з мяшка па разоры ў рэку сцякае.

— Уй, уй, мы да цябе ў нядзелю прыедзем па масла і мёд!

— Прыязджайце, я буду вас чакаць!

— Але як мы цябе знойдзем?

— А вы ў вёсцы папытаеце ў людзей, у каго тут хата стаіць на піўных бутэльках. Вось яны вам і пакажуць.

А гэтым часам ён пад'ехаў да свае вёскі, злез з воза, падзякаваў крамнікам і пайшоў дахаты. А крамнікі ў другую нядзелю так і не знайшлі, у каго хата на піўных бутэльках стаіць.

## БАЦЬКАВЫ НАКАЗЫ

Жыў бацька з сынам. Бацька быў стары, і прыйшла гадзіна яму паміраць. А сына свайго ён вельмі любіў і хацеў, каб той жыў правільна, не горай за другіх. А для гэтага даў яму перад смерцю шэсць наказаў: кабылы жаробнай на чужыя рукі не давай; з двара жонкі не бяры; няпрошаны на вяселле не ідзі; каб заўсёды з мёдам снедаў; каб, праходзячы, у працы людзям не казаў «памажы божа»; а калі ў пуню будзеш вазіць снапы, то павуцінне на пацесе каб шапкай выцер.

Сын бацьку не паслухаўся. Узяў ён ды і даў жаробную кабылу сваймусуседу. А тая кабыла на трэці дзень жарабё скінула. Пагараваў ён ды і супакоіўся, а для навукі жарабё закапаў і на тым месцы дубочак пасадзіў — для запамятавання пра бацькаў наказ.

Прыйшоў час яму жаніцца, а сасватаў ён дзяўчыну не прастую, а дваровую. Згулялі яны вяселле, пара ўжо б і за працу прыняцця, а Жана нічога рабіці не ўмее ды і ўдабавак не хочыць, вельмі ж дужа працаваць яна не прывыкшы. Тады й успомніў хлопец наказ бацькі, але позна — жонкі не закапаеш.

У вёсцы вяселле, а яго па вяселле не клічуць; ён бярэ кумпяк, добры літр водкі і ідзе на вяселле. Стаў у нарозе і стаіць, чакаець. пакуль яго за стол папросюць. Λ за стол яго не клічуць. Пастаяў, пастаяў і дахаты так вараніўся, а кумпяк ды літру з водкай падвесіў на бэльцы — для запамінання бацькавага наказу.

Спіць, спіць гэты сын, а потым устане і снедаць не хоча, бо дужа ж доўга ён спаў. І бярэ тады да свайго снедання мёд і есць, бо ўспомніў, што бацька казаў, каб ён з мёдам еў. А нейк раз прыйшлося яму з рання, яшчэ да снедання, добра папрацаваць. Прыйшоў ён снедаць і так смачна паеў, што як з мёдам усё роўна. Вось тады і ўспомніў ён чацвёрты бацькаў наказ.

Прышла пара звозіць жыта дамоў. Едзе ён звозіць жыта, а людцэ ўжэ ўсе даўно ў полі. Успомніў сын бацькаў пяты наказ, каб нікому ў працы не казаў «памажы божа», ён і не кажа, а людзі дзівяцца: вось дзе які ірад, пройдзе і нікому нічога не кажа. У той дзень звазіў ён саўсім мала снапоў. Тады назаўтра ўстаў ён да свету і паехаў у поле, а ў полі яшчэ нікога не было. Вось вязе ён з поля снапы,

а людзі ў поле ідуць і «памагай бог» яму кажуць. Вось толькі тады зразумеў сын, што азначае бацькаў пяты наказ.

Ну, і апошні, шосты наказ: як будзе вазіць снапы ў пуню, ён павінен шапкай павуцінне з Пацееў выцерці. Ну, ён і ўзяўся выціраць: чапляўся, чапляўся, ажно покуль не змарыўся. Ну, думае, хоць гэты^ наказ выканаў. І пачаў вазіць снапы, вазіў, вазіў і столькі шмат навазіў, што ажно да Пацееў шапкай пачаў даставаць і разам павуцінне выціраць. Агледзеўся сын і думае: нашто ж я гэта мэнчыўся, лазіў, выціраў, калі яно само выцерлася? І зразумеў, што яму хацеў сказаць бацька.

Вось так выканаў сын бацькавы наказы.

## КАВАЛЬ І БАГАЧ

У адной вёсцы, далёка, а можа блізка, жыў малады каваль. Была ў яго жонка прыгожая і дзеці. Але жыў ён дрэнна, бо ніколі не браў грошай у бедных людзей; багатыя, хоць і давалі, але вельмі мала.

Вось аднойчы прыйшоў да яго падкаваць каня вельмі старэнькі і абарваны дзядок. Каваль падкаваў яго каня і не ўзяў ні капейкі за работу. Стары дзядок сказаў, што прыедзе па яго. Аднойчы ён прыехаў на трох вараных конях. Забраў каваля і павёз. Ехалі яны праз горы. Уз'ехалі на першую гару. Там было болей снегу, а меней лёду. Уз'ехалі на другую гару. Там было болей лёду, а меней снегу. Уз'ехалі на трэцюю гару. Там быў адзін лёд. Тут сані хутка-хутка пакаціліся з гары. І вось яны прыехалі да вялікага замка. Доўга працаваў каваль у гэтага чалавека, падкаваў усіх коней у яго войску. Толькі тады багач адпусціў яго, даў мех золата і сказаў: «Развяжаш, калі прыедзеш дадому».

Прыехаў каваль дадому, сустрэлі яго жонка і дзеці. Развязаў ён мяшок — а там апілкі ды каменне.

## АНЕКДОТЫ

Адносіны да анекдота ў сучаснай айчыннай фалькларыстыцы можна характарызаваць як досыць супярэчлівыя. На думку адных даследчыкаў народнай творчасці, анекдоты — гэта тыя ж самыя сацыяльна-бытавыя казкі, толькі значна меншага, невялікага аб'ёму; прынцыповых адрозненняў ад названага жанру казак у іх няма. Іншыя з фалькларыстаў лічаць за лепшае наогул іх не заўважаць, абмінаць увагай, як быццам іх зусім не існуе. Так, у некаторых найноўшых рускіх падручніках і дапаможніках па фальклору для філалагічных факультэтаў анекдоты нават не ўпамінаюцца. Ёсць, аднак, і іншы пункт гледжання, паводле якога анекдот, пры ўсёй яго несумненнай блізкасці да сацыяльна-бытавой казкі, з'яўляецца асобным жанрам народнай вусна-апавядальнай творчасці. Больш таго — жанрам незвычайна актыўным і жыццяздольным у нашы дні, чаго нельга сказаць ні пра казкі, ні пра легенды і прымхліцы, ні пра паданні і былаліцы. Менавіта такога пункту гледжання прытрымліваюцца сучасныя беларускія фалькларысты і, несумненна, маюць слушнасць.

У чым жа трэба бачыць жанравую адметнасць анекдота ў параўнанні з тым відам казак, да якога яго безагаворачна ці з пэўнымі агаворкамі далучаюць? Папершае, анекдот — твор цалкам сатырычнай або гумарыстычнай прыроды, твор абавязкова, папросту кажучы, смешны. Сярод сацыяльна-бытавых казак таксама нямала ўзораў народнай сатыры і гумару, але ў дачыненні да ўсяго жанру абавязковай гэту якасць не назавеш. Па-другое, анекдот вызначаецца гранічнай сціаласцю мастацкай формы; у адрозненне ад казкі, ён абавязкова аднаэпізодны, не ведае разгорнутай экспазіцыі, дыялог яго вельмі немнагаслоўны, дзеянне завязваецца, развіваецца і даходзіць да кульмінацыі імгненна. Па-трэцяе, гэта — эстэтычны «эфект нечаканасці» ў канцоўцы твора: анекдот абавязкова заканчваецца неспадзяванай сатырычнай або гумарыстычнай развязкай, у якой скандэнсавана ўся ударная сіла камічнага, увесь смех.

У аснову многіх анекдотаў пакладзены, трэба думаць, сапраўдныя недарэчныя, смешныя выпадкі і здарэнні, якія мелі месца ў жыцці. Але ў большасці сваёй яны, несумненна, — плод мастацкай фантазіі народа, яго жывога, дасціпнага розуму. У анекдотах з асаблівай нагляднасцю выяўлена зайздросная здольнасць чалавека працы асмяяць — з вышыні класавай і агульначалавечай маралі — як паразітызм і нікчэмнасць сваіх сацыяльных ворагаў, так і самыя розныя людскія заганы, накшталт ляноты, нядбайства,

бязглуздасці, хцівасці, п'янства, распусты, крывадушнасці, хамства і інш.

З'едліва-сатырычны або вясёла-гумарыстычны смех, дасціпнасць і крытычная вастрыня анекдота вельмі цэняцца ў народзе. Менавіта таму анекдот набыў прыкметнае пашырэнне, стаўшы адным з самых папулярных жанраў фальклору.

Блізка да анекдотаў стаяць шматлікія жарты-досціпы, найчасцей — у форме вельмі сціплага (пытанне — адказ) дыялогу, накшталт: «Ці паіў ты каня?» — «Паіў». — «А чаму ў яго морда сухая?» — «Бо вады не дастаў», або ў форме жартоўна-іранічнага каламбура, тыпу: «Біліся. Дык я яму мяшком — бух! бух! А ён мне абушком — цюк! Дык ён спужаўся і пабег, а мяне, як пана, на насілках панеслі».

Думаецца, аднак, што залічэнне іх да анекдотаў было б неапраўданым — па той прычыне, што ў іх няма таго няхай сабе і не разгорнутага, але ўсё ж падзейнага сюжэта, без якога анекдот як апавядальны жанр фальклору не ўяўляецца. Гэтыя жарты-досціпы па сваёй мастацкай прыродзе стаяць на мяжы паміж жанрамі апавядальнымі і афарыстычнымі, але бліжэй да апошніх (да прымавак і прыгаворак). Аб'яднанне іх з анекдотамі, як гэта мае месца ў некаторых зборніках народнага гумару, вядзе да размывання жанравых граніц і характарыстык, якія ў анекдота дастаткова акрэсленыя і выразныя.

# АНЕКДОТЫ

## ЦІ НЕ УСЁ РОЎНА ЯК?

Жыў пан. І вельмі ж ён любіў хваліцца. І коні ў яго самыя лепшыя, і сабакі самыя лютыя, і пакоі самыя багатыя, і дзяўчаты-прыслужніцы самыя прыгожыя.

Была аднойчы ў пана бяседа. І загадаў ён, каб пад кожную страву чыстыя талеркі падавалі. А так як гасцей было шмат, то талеркі трэба было ўвесь час мыць. А гасцявалі паны ўжо некалькі дзён. Кухонныя дзеўкі з ног збіліся, посуд мыючы.

Быў у пана лакей. Даволі кемлівы малы, як лічыў пан. Якраз гэтаму лакею ён і загадаў прынесці чыстую талерку. Пабег той на кухню, аж там бяда. Дзеўка адна кіпятком абварылася. Крычыць яна, галосіць, а ўсе астатнія абступілі яе, усхліпваюць спачувальна, і ніхто нічога не робіць. Крычаў ён, крычаў, бачыць, што не даб'ецца толку, схапіў брудную талерку, а памыць няма дзе. Каля балеі дзеўкі галосяць — не падыйсці, і рушніка нідзе няма. А тут якраз конюхаў сабака падвярнуўся. А ў сабакі таго хвост пушысты, вялізны. Плюнуў лакей на талерку, хвастом сабачым выцер, рукавом падправіў. «Ці не ўсё роўна як, абы чыста», — сказаў так і панёс талерку пану.

## ПАНСКАЯ «КВАКТУХА»

От адна пані шукала, каб дзе курчатку-курыцу знайсці, якая б многа выседзела яек. От прыходзіць адзін мужычок ды кажа:

— Пані! Я магу хоць і дзвесце выседзець!

— Ну, добра, — згадзілася пані.

От гэтага мужычка завялі ў восець, насыпалі там многа яек, і гэта ён ужо выседжвае яйкі. Носяць яму есці. А ён сабе гэтыя яйкі п'е патрошку і сядзіць. Ну, але падышоў той час, што ўжо пара, каб кураняты былі. Што ж яму рабіць? Вот ён узяў ды запаліў гэту восець і кругом лётае:

— Ку-ку-дах-дах-дах! Ку-ку-дах-дах-дах!

Ды скарэй да агня, ды ў агонь. Пані сядзіць на верандзе і кажа слугам:

— Ляціце скарэй, бараніце, каб ён часам не ўляцеў у агонь. Гэта ж матка! Матка можа за куранятамі і ў агонь уляцець.

Тут прыбеглі слугі, а ён усё рвецца ў агонь і ку-ку-дахча і

ку-ку-дахча. Ну, нарэшце, і адвялі і прывялі да пані. Ну, дык пані гаворыць:

— Ну, ну, што ж зробіш, згарэла ж. Але добра, што ў агонь не ўляцеў.

— Ай, панечка, — кажа, — я і ўляцеў бы, каб мяне не затрымалі.

## САМІ ПРЫЙШЛІ

Адзін пан хацеў зрабіць падарунак свайму суседу пану Пшывуйскаму і налавіў для яго поўны мех ракаў. Напісаў пісьмо пану Пшывуйскаму, што ён пасылае яму ракаў. Пазваў свайго мужыка і прыказаў аднесці гэтых ракаў Пшывуйскаму.

А трэба было мужыку ісці праз лес. Стаміўшыся, ён прылёг адпачыць, а мех быў развязаны, і ўсе ракі параспаўзаліся па лесе. Устаў мужык, а ў мяху няма ніводнага рака. Падумаў, падумаў крыху і пайшоў к пану Пшывуйскаму, каб аддаць хоць пісьмо, бо з пісьмом назад ён баяўся варочацца.

Прыйшоў ён да пана Пшывуйскага на кухню і гаворыць служанцы: «Вядзі мяне да пана». Прывяла яна яго да пана, а мужык аддаў пісьмо і чакае, што пан скажа. Прачытаў пан пісьмо і падзякаваў за падарунак. Ён думаў, што ракаў мужык пакінуў на кухні. А мужык кажа: «А я думаў, што ракі заблудзіліся ў лесе, а яны, аказваецца, прыйшлі?!»

## ПОДЛАЕ НАСЕННЕ

Адзін жабрак маліўся богу, каб з мулшка не быў пан. Гэта ж подлае насенне такое! Калі з мужыка стане пан, то ён з цябе скуру злупіць, абчысціць да ніткі, усю душу выматае да крошкі, гатоў павесіць за кроплю вады.

Адзін раз багаты мужык загнаў да сябе ў хлеў карову аднаго беднага чалавека, якую ўвідзіў у шкодзе ходзячы. Бедны чалавек прыйшоў за каровай і сказаў: «Калі сам пан з паноў, то аддасі карову, а калі з мужыкоў, то й гаварыць няма чаго пачынаць». А багаты мужык вельмі хацеў быць панам з паноў, узяў і аддаў карову.

## ПРА ПАНА І «МЕРЦВЯКА»

Ехаў пан па дарозе. Уперадзе сядзеў фурман, а пан ззаду, у брычцы. Каля каплічкі яны пачулі нейкія стогны. А справа была зімой. Пану вельмі цікава даведацца, што гэта такое. Падышоў ён да каплічкі, адчыніў дзверы. А там быў селянін, якога яшчэ не ўспелі пахаваць. За ноч яго адцягнула, і ён ажыў.

Як скочыць гэты «мярцвяк» на плечы пану, дрыжыць ад холаду і не злазіць. Пан утаропеў, а тады як закрычыць: «Фурман, памагай!» Тому пачулася «уцякай». Ажно пяткі ў фурмана заблішчэлі. Прыйшлося пану несці «нябожчыка» на сваёй спіне да яго дому (а вёска тая была за тры кіламетры). Прыносіць пан небараку, той і кульнуўся цераз парог. Яго бацька сядзеў на лаве, дык з перапуду ўскочыў і нагу зламаў.

Нацярпеўся ж пан тады ліха.

## ПАНСКІЯ СТРАВЫ

Наняўся да пана бедны селянін на работу. Але перш, чым ісці на работу, ён папрасіў пад'есці. І запытаў, чым пан будзе яго карміць. Пай адказаў:

— Хлеб, бульба, полевэчка, і цусь болей?

Селянін узрадаваўся, калі пачуў слова «цусь». Яму гэта было незнаёмае, і ён думаў, што нешта новае і вельмі смачнае будзе, чаго дома ў яго не было. І вот, калі ён з'еў бульбу, хлеб, полевэчку, стаў чакаць яшчэ і «цусь». Пан сказаў, каб ён ішоў рабіць, а бядняк гаворыць:

— Я яшчэ не ўсё з'еў, што пан гаварыў.

Пан адказвае:

— Я ж тобе мувіл: хлеб, бульба, полевэчка, а цусь болей?

— А дзе ж цусь? — пытае селянін.

## ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА З КАТОМ

Даўней, калі яшчэ не было катоў, аднаму пану прывезлі з-за граніцы ката. Паны ніколі не бачылі такога звера. Пасадзілі ката ў клетку і ўсе глядзяць на яго.

А ў тых паноў вельмі многа было мышэй. Дык прыслуга і кажа ім, што кот гэты мышэй лавіць будзе." А паны пытаюць у прыслугі: «А што гэты звер будзе есці, як усіх мышэй паловіць ды паесь?» Слуга кажа: «Квас». А панам падалося: «Вас». Дык яны з перапуду не помнілі, як на дрэве апынуліся. Сядзяць, дрыжаць, на катаназіраюць.

А ў гэтую ж часіну сабака бег каля клеткі, убачыў ката, забрахаў. Клетка была адчынена. Кот наўцёкі ды на дрэва. А паны думалі, што гэта звер па іх ужо лезе. Самлелі яны ад страху і далоў нежывыя бразнуліся.

## ПРА ЖМІНДУ-КУЛАКА

Пайшоў неяк парабак да кулака рабіць. А кулак скупы быў надта: нават есці шкадаваў даць. Вот прыйшоў вечар, сеў есці парабак. Глядзіць на яго кулак, зыркае, а той нават вокам не вядзе, есць і ўсё. Надта кулаку хлеба шкада стала. Ён і гаворыць:

— Янусь, Янусь, ты з бульбай саладуху еш, смачней будзе.

А той адказвае:

— Нічога, мне і з хлебам добра.

## ХАЦЕЛАСЯ Ж ПА-ПАНСКУ

Ехаў бедны хлопец у сваты да багатай шляхцянкі і ўзяў кажух у свата. Сват кажа:

— Ты паменш гавары. Кажы: «Такі естам, проша пана».

Прыехалі, і жаніх стаў у кажусе каля светача. Дык кажух пачаў смылець. Сват на яго кажа:

— Кажух палі се.

Жаніх стаіць, не знае, што такое, кажа:

— Такі естам, проша пана. Сват паўтарыў громка:

— Кажух палі се! Жаніх зноў сваё:

— Такі естам, проша пана!

Сват падыходзіць, бярэ за каўнер ды кажа:

— Кажух гарыць, трасца тваёй матары!

## ПЯЦЬ — НА ПЯЦЬ

К адной багатай дзяўчыне прыехалі ў сваты: бедны і багаты. Бацька пытае ў багатага:

— Колькі ў цябе загонаў зямлі?

Ён кажа:

— Пяць.

А ў беднага — ніводнага няма. Бацька яму:

— А як жа ты будзеш жыць?

Бедны кажа:

— Буду тваёй дачцэ пяць пацалункаў у дзень дарыць.

Бацька закрычаў:

— А дзе ж мая стрэльба?

Дык гэты жаніх наўцёкі. Добра, што ўмеў быстра бегаць.

## ЁСЦЬ І ГЭТКАЯ

Старая бабуля прыйшла маліцца ў царкву зімою. А з носа цячэ. Яна пытае ў мужчын:

— Як гэта ікона завецца? Я б хацела ёй памаліцца.

А мужчыны кажуць:

— Баба, утры нос!

Баба хрысціцца і кажа:

— Прысвятак ўтрыносіца, памілуй мяне.

## ПРА ПАНА-САМАДУРА

Цяжка жылося сялянам за прыгонам. Жанчыны павінны былі прасці пражу для панскіх пакояў. Пража павінна была быць тонкай, вельмі тонкай і роўнай. У пана была мерка — спецыяльнае кальцо, праз якое ён працягваў пражу. Калі пража не пралазіла праз панскае кальцо, таго, хто прынёс такую пражу, жорстка наказвалі.

Адна сялянка прынесла пану пражу, і яна не прайшла праз панскую мерку. Пан у знак пакарання загадаў ёй злавіць дзесяць вераб'ёў. Пайшла сялянка на гумно. Ганялася яна ганялася за вераб'ямі, з сіл выбілася, а злавіць не можа. Прыйшоў пан і

пасміхаецца:

— Ну, колькі вераб'ёў злавіла?

А яна адказвае:

— Дзевяць засталося, а за дзесятым ганяюся.

## ПОП І ГАНДЛЯР

Гаворыць адзін раз поп гандляру: «Як так зрабіць, каб нам багацця шмат было? Ты ведаеш, пайду я, пастаўлю дзе-небудзь ікону і скажу ўсім людзям, што з'явілася ікона. А ты ў тым месцы адкрый лаўку. Будуць людзі ісці да іконы, несці афяру, а к табе будуць заходзіць, каб купіць чаго-небудзь».

Ну, і зрабілі яны так. Адкрыў поп на тым месцы царкву, а гандляр паставіў лаўку.

Ідуць дзве бабкі, зайшлі яны ў лаўку і кажуць:

— От, бог ведае, ці наможацца яно ці не? Ішлі так далёка, ногі баляць.

А гандляр і кажа:

— Не знаю, мае бабкі, як каму наможацца, а як папу і мне намаглося — дык вельмі.

## КОЛЬКІ КАШТУЕ СВЕЧКА БОГУ

З самай раніцы чалавек збіраўся пайсці збіраць качыныя яйкі. Хадзіў ён, хадзіў цэлы дзень, ды так нічога і не знайшоў.

Пайшоў ён на другі дзень зноў. Але таксама вярнуўся без нічога. Зразумеў чалавек, што гэта, мабыць, бог на яго разгневаўся. І парашыў чалавек папрасіць бога памагчы яму назбіраць яек качыных. А калі бог дапаможа яму, дык чалавек паставіць свечку, ды такую дарагую, як конь стоіць.

Вось пайшоў чалавек зноў па яйкі качыныя, ды на гэты раз назбіраў столькі яек, што не было куды і лажыці.

Прыйшоў чалавек дамоў ды і задумаўся. Трэба ж богу свечку паставіць ды яшчэ такую дарагую, як конь. А дзе ж грошы ўзяць? Трэба, мусіць, каня прадаваць. Але ж шкада чалавеку гэтулькі грошай на свечку пераводзіць. А тут малодшая дачка яму параіла, каб узяў ён на базар каня і ката. І прадаваў іх разам, але цаніў кожнага паасобку.

Прыехаў чалавек на базар, стаў пасярэдзіне і давай крычаць на ўвесь базар: «Купляйце каня па цане ката, купляйце каня па цане ката».

Многа людзей сабралася паглядзець на такога дурня. Прыйшлі і купцы. А чалавек кажа ім: «Прадаю каня разам з катом. Конь стоіць як кот, а кот як конь».

Купілі ў яго каня па цане, як кот. Пайшоў зразу чалавек у царкву і паставіў свечку за грошы, якія яму за каня заплацілі.

## НЕЦЯРПЛІВЫ

Пайшоў адзін чалавек у лес трэсці жалуды. Узабраўся на высокі дуб, на самую верхавіну. У гэты час усхадзіўся вялікі вецер. Калі вецер раскачаў дуба з чалавекам, чалавек гаворыць: «Госпадзі, спыні вецер. Пастаўлю ў царкве самую большую свечку».

У гэты час вецер сціх. Чалавек пачаў скарэй злазіць. Стаў на ніжняй сухой галіне і дзяржаўся за сухую галіну. А сам сабе падумаў: «А як не пастаўлю свечку, дык што будзе?» У гэты час галіна абламалася, і чалавек упаў на зямлю. Калі ачухаўся, то кажа: «Вот які ты нецярплівы, госпадзі, а можа б я і паставіў».

## АБЫ ВЫЕХАЦЬ

Паехалі неяк бацька з сынам у лес па дровы. Нарэзалі воз дроў ды і дадому. А была восень. Гразь па ступіцы. Ехалі ды і загразлі. Ніяк не выедуць. Бацька і так і гэтак дапамагае. Тады кажа:

— Божа, памажы выбрацца! Пастаўлю свечку — з дышла!

А сын асцярожненька пытаецца:

— Тата, а ёсць такія вялікія свечкі? Бацька раззлаваўся ды і крыкнуў:

— Маўчы, дурань, абы выехаць!

## А ЛЮДЗІ МОЛЯЦЦА...

У адным прыходзе быў поп. І надта той поп любіў вясковую бабу Ефрасенню. Вот адзін раз у нядзелю сабраліся прыхаджане на

малебен, а поп пабег да Ефрасенні. Ён панёс ёй калбасу. Але Ефрасення ў гэты час сама пашла ў цэркву. Поп збегаў да Ефрасенні, падторкнуў калбасу пад страху і пабег на малебен. Прыбег поп, людзі сабраліся, ждуць ужо. Пачаў поп службу. Бачыць: стаіць Ефрасення, моліцца, паклоны б'е. Думае поп, як жа Ефрасенні сказаць, што ён быў у яе. Думаў поп думаў — і як запяе:

Ефрасенія, Ефрасе-е-ені-я,
Быў у васкрасе-е-е-ні-я,
Прыносіў калбасе-е-е-ні-е,
Падторкнуў пад страсе-е-е-ні-е.

А людзі моляцца, паклоны б'юць.

## ДОБРА АДКАЗАЎ

Пытаецца дзед у бабы:

— Калі я памру, што ты на мяне адзенеш?

— Куплю сіні дарагі касцюм, — адказала баба.

Дзед думае: «Дай жа я праверу». Узяў і прытварыўся мёртвым.

Паплакала баба, паплакала ды пайшла ў магазін глядзець, што купіць, каб дзеда адзець. Прыйшла, паглядзела — усё дарагое. Тады яна надумала: «Што ж дарагое купляць — усё роўна згніе», — і купіла спарціўны касцюм і кеды. Адзела дзеда, села каля яго і плача:

— Куды ж ты, мой дзедухна, сабраўся?

А дзед устае і кажа:

— На стадыён у футбол гуляць.

## ТРОШКІ ПАСПАЛА

Была баба лянівая. Прыдзе ў поле жаць — паглядзіць, паглядзіць навокал, і здаецца ёй, што няма чаго тут рабіць. «Вось гэта заўтра зраблю, а гэта потым. А на сёння няма чаго рабіць. Лягу я лепей спаць».

Легла яна галавою да сонца і праспала да самага вечара, а калі ўстала — бачыць, што сонца ўжо ў яе нагах. Здзівілася яна, пайшла дахаты і пытае:

— Юрка, а Юрка, ты быў у полі?

— Не, не быў.

— А хто ж тады мяне ўвярнуў? Лажылася ж я галавой да сонца, а ўстала — яно ў маіх нагах.

## ПОМНІ, ШТО І САМ СТАРЫ БУДЗЕШ

Калісьці многа было старых. І вось іх далёка ў лес вывозілі. Каторыя былі здаровыя яшчэ, то прыходзілі, вярталіся. А адзін чалавек жалеў свайго айца і не адвозіў. Усе людзі яму і кажуць: «Адвязі, з яго ж ніякага толку няма». І ён выбраў дзень і павёз свайго бацьку ў лес, апрануў яму кажушок цёплы. І малы сын яго папрасіўся пад'ехаць, пакатацца. Прывёз сын бацьку ў лес, ссадзіў яго. А малы і кажа:

— Скінь кажушок з дзеда.

— А навошта? — пытаецца бацька.

— А ў чым жа я цябе павязу ў лес, калі ты старым будзеш?

## У МЯЦЕЛІЦУ

Паехаў адзін хлапец у сваты: задумаў жаніцца. А ён многа еў. І ўзяў з сабой есці і аставіў у санях на двары. А гэта зімой было. Селі за стол, пасядзелі, а ён многа есці за сталом саромеўся. Дык выйшаў на двор, дастаў той абед і стаў есці.

А вельмі вялікая мяцеліца была, снег вялікі. Выйшла нявеста, ну, дзяўчына, на двор. Яна не бачыла, што ён есць. А мяцеліца мяце, снег прэ прама па зямлі. Яна і гаворыць:

— Але ж і прэ!

А ён:

— Пру сваё, а не тваё! Ну і ўсё — і паехаў дадому.

## ЛЯ ЦЁШЧЫНАЙ ТРУНЫ

Жылі жонка з мужыком. Памерла яе маці. Ну і пайшлі яны на пахароны. Ну й дачка пачала плакаць: «Мамачка мая! Ты ж мне давала і смятанкі, і малачка, і маселца!» Дачка сціхла, прыйшоў зяць плакаць: «А ты ж мне, мая мамачка, ды маслёнкі, ды і сыровадкі давала-а-а». А жонка яму і кажа: «Не плач ты, ціха, а то будзе галава

балец, а ў мяне ні маслёнкі, ні сыровадка.

## ПАДЗЯЛІЛА

Мачыха прыехала з базару. У яе было пяцёра дзяцей: чацвёра не родных, а адно сваё. Прывезла ім гасцінцу — пірагоў. Пачала дзяліць пірагі. «І Гальцы пірог, і Ваську пірог, і Янку пірог, і Марусьцы пірог, а маёй Хімцы ўсе па палавінцы».

## П'ЯНКА ПРАЙШЛА АДРАЗУ

Ішоў аднойчы чалавек вечарам каля могілак. Рантам чуе: «Дапамажыце! Людзі добрыя! Замярзаю!» Страшна чалавеку зрабілася, але дапамагчы ўсё ж мусіў. Пайшоў туды, адкуль чуўся голас. Падыходзіць да ямы, а там чалавек ляжыць і крычыць, каб яму памаглі з ямы вылезці, бо замерз ужо надта. Паглядзеў на яго чалавек, што ішоў паўз могілкі, ды і кажа: «Чаго ты пукаешся? Калі ты змерз, дык нашто ты адкапаўся?» А той чалавек, што ў яме сядзеў, быў п'яны, ішоў таксама па могілках і папаў у яму. Тут і п'янка ў яго быстра прайшла, калі пачуў ён такія словы.

## КЕМЛІВЫ СТАРАЦ

Прыйшоў сляпы старац з хлопчыкам-павадыром раніцай да адной гаспадыні. У хаце тапілася печ і гаспадыня пякла бліны. Неспадзяваныя госці селі, а яна сабе завіхаецца ля печы. Старац, хаця і не бачыў, але па звону скавародкі здагадаўся, чым займаецца гаспадыня. Старац стаў чакаць, калі ім дадуць паснедаць. Але гаспадыня не спяшалася. Пачакаўшы яшчэ трохі, сляпы прыкрыкнуў на хлопчыка, які ціха сядзеў: «Чаго ты блінкаеш? Блін ды блін! Людзі пад'ядуць і табе дадуць».

Гаспадыні сорамна стала, і яна дала ім паснедаць.

## ПАКВАПІЎСЯ

Шылі два браты: бедны і багаты. У беднага быў сын. Вось

аднойчы багаты брат з сынам беднага брата паехалі на млын. Папрацавалі яны і селі палуднаваць. Багаты дзядзька і пытае ў пляменніка:

— Што ў цябе ёсць есці?

А той і кажа:

— Хлеб сыры ды салодкі.

Але хлопчык быў картавы, і дзядзьку пачулася: «Хлеб, сыры ды сялёдкі».

А дзядзькаў полудзень быў хлеб з салам. Ён і думае: «У пляменніка полудзень лепшы. Трэба спачатку мой хлеб з салам з'есці, а потым будзем яго сыры і сялёдку есці».

Яны так і зрабілі: з'елі дзядзькава, ну а тады пляменнік і паказаў дзядзьку свой полудзень.

## КАМУ ГОРШ?

Сядзелі за сталом муж, жонка, маці мужа. Налівае жонка ежу ў міскі, а муж хлеб рэжа. Адрэзаў ён маці тонінячкую лусціцу хлеба, працягнуў праз стол і кажа: «Хапай, матачка, хапай, даражэнькая, а то пераломіцца». А жонцы адрэзаў лусту на паўбулкі і груба крыкнуў: «На, еш, чаго разявілася!»

## ХІТРЫ ЗЛОДЗЕЙ

Пайшоў злодзей ноччу сала красці. Улез да гаспадара ў камору, напхаў мех салам і скарэй уцякаць. Але ў спешцы пераблытаў дзверы і папаў не на вуліцу, а ў кухню. А там у гэты час вячэралі. Спалохаўся злодзей, але не разгубіўся, «Добры вечар, — кажа, — я вось сала прадаю, можа купіце». А сам стаіць і дрыжыць. Бо калі пазнаюць сала, то заб'юць.

Гаспадар устаў, абцёрся. «Паказвай, — кажа злодзею, — сала, калі не дарага і добрае, можа і купім». Злодзей аддаў сала адразу, не таргуючыся, а сам паімчаўся хутчэй дамоў. Панёс гаспадар сала ў кубелец, а там пуста.

## А ЗАВІЛЮШАЧКАМІ!

Жыў дзед і баба. Дужа добра жылі. Аднойчы баба камса дзеду:

— Вытапі лазню.

Вытапіў дзед лазню. Потым баба зноў загадвае Дзеду:

— Размяці сцежку ад снегу, ды не абы як, а завілюшачкамі, і добра венік распар.

Зрабіў і гэта дзед. Памылася ды крычыць Дзеду:

— Ідзі папар мяне, ну, скарэй ідзі, стары чорт!

Прышоў дзед і пачаў парыць — біць бабу камлём. Выскачыла баба і напрамкі да хаты. А дзед уздагон крычыць ёй:

— А завілюшачкамі, а завілюшачкамі!

## ЯК ПЕВЕНЬ ГАСПАДАРА НАВУЧЫЎ

Была ў аднаго чалавека жонка. Ды надта ўжо злая. Няма ніякай рады мужыку. Хоць у лес бяжы і ўсё. Так ён і зрабіў. Пайшоў у лес. Бачыць, ляжыць калода. Захацеў ён яе звярнуць, аж адтуль выпаўзае змяіны цар. «Не ўбівай мяне, мужык. Я зраблю так, што ты будзеш разумець голас птушак, дрэў, кветак».

Не ўбіў мужык змяінага цара. Прыязджае дамоў, і стаў разумець голас птушак, дрэў, кветак. А жонка стала яшчэ горшай. «Памру», — думае мужык. Лёг ён на лаву, узяў свечку ў руку і сабраўся паміраць. Тут певень вядзе курэй у хату. Ды й кажа:

— Ку-ка-рэ-ку! Што гэта з нашым гаспадаром?

— Ды жонка ў яго надта дрэнная.

— О, у мяне дваццаць, і то ўсе мяне слухаюць, а ты, гаспадар, і з адной не можаш справіцца.

Падумаў мужык: «Праўду кажа певень. Няўжо я не змагу ўсмірыць сваю жонку?» Устаў мужык з лавы, патушыў свечку ды і пайшоў усміраць жонку.

## ЯК УПАРТАЯ ЖОНКА СВАЁ ДАКАЗАЛА

Была ў мужыка жонка. Звалі яе Васілісай. І надта ўжо яна была праціўнай: што ёй муж ні скажа — усё яна робіць наадварот. А было ў той вёсцы, дзе яны жылі, непраходнае балота. Толькі ў адным месцы

ляжалі кладкі. І людзі хадзілі па іх.

— Ты ж хоць па балоту, Васіліска, не хадзі, — кажа муж.

— А вось і пайду!

— Дык хоць па кладках ідзі.

— А вось і не пайду!

— Ну, дык хоць камення не бяры з сабой.

— А вось і набяру!

Набрала яна поўны мех камення, узваліла на плечы ды й пайшла па балоту — усё насуперак таму, што муж казаў. Ну, дык толькі яе тады і бачылі — утанула ў багне жонка.

## З'ЕСЦІ МОЖНА...

Маці варыла сыну розныя стравы. І ўсё ішло добра, пакуль сын не ажаніўся. А цяпер — як маці зварыць ежу, дык сыну нясмачная.

Вось маці і кажа:

— Сынок, хай жонка маладая варыць смачней, а мне, старой, дзе там.

Сын згадзіўся.

Наварыла маладая жонка заціркі. Падала на стол. Сын моўчкі есць. А маці пакаштавала дый кажа*.

— Ну як, сынок, смачная зацірка? Жонка ж варыла.

А сын ёй у адказ:

— Ну, мама, як сказаць: падсаліўшы, падбяліўшы, з'есці можна.

## БРАВЫ САЛДАТ

Жыла ў адной вёсцы лянівая сям'я. Была ў іх каза. І вось дамовіліся яны так: хто першы загаворыць, той павядзе пасвіць казу.

Вось аднойчы зайшоў к ім у хату адзін салдат і папрасіў што-небудзь паесці. Яму нічога не адказалі. Гэты салдат быў не з баязлівых і пайшоў сам глядзець, што ёсць у печы. Знайшоў ён там жараную курыцу і з'еў яе. Потым убачыў прыгожую дзеўку і захацеў з ёй загаварыць, а яна нічога не адказвае. Ён пацалаваў яе, яна маўчыць. Глядзіць ён — на сцяне вісіць хромавая тужурка. Узяў яе салдат — і за дзверы. Тут хазяін не вытрымаў і закрычаў: «Гэй,

злодзей, стой! З'еў курку, пацалаваў Нюрку і хочаш украсці маю тужурку!»

Прыйшлося хазяіну ўставаць і весці казу ў поле.

## ХІТРЫ ЖАНІХ

Была ў маці адна дачка на раду. Канешне, плаўніка. Пагуляць любіла, рабіць не прывыкла. Прыгожая вельмі была. Многа мальцаў сваталася к ёй, а замуж ісці яна не хацела, бо ў свякроўкі работаць многа прыйдзецца.

І рашыў адзін хлапец з багатай сям'і абхітрыць гультайку. Кажа ён ёй: «Выходзь за мяне замуж. Работы ў хаце мала. Будзеш толькі трох музыкантаў карміць і гадзіннік заводзіць».

Узрадавалася дзяўчына і згадзілася.

Прыехала да мужа, жывець дзень-другі і не бачыць у хаце ні музыкантаў, ні гадзінніка, які трэба было заводзіць.

Пытаецца нарэшце:

— А дзе . ж мая работа?

— Пачакай, — кажа, — адпачні яшчэ трохі, а затым пакажу.

Назаўтра павёў ён маладую жонку ў клець.

— Бачыш жорны? Вось іх ты і будзеш заводзіць. А ў хляве жывуць трое свіней-музыкантаў. Мукі намелеш і накорміш іх кожан дзень.

Нічога не сказала прыгажуня і толькі цяжка ўздыхнула.

## ВЯСЁЛЫЯ ХЛОПЧЫКІ

Было гэта яшчэ ў тую, першую вайну. Прыйшлі два салдаты к аднаму гаспадару ў хату, а трэці застаўся на двары. Гэтыя двух, каб забавіць гаспадара, давай у кацялкі барабаніць ды прыпяваць:

А ён і страху дзярэ, І каўбасы бярэ.

А трэці гэтым часам паставіў драбіну, прадраў страху і пачаў браць каўбасы. А тыя ў хаце сабе спяваюць. Гаспадар і кажа: «Добрыя хлопчыкі, вясёлыя, прыходзьце яшчэ і заўтра».

Калі яны пайшлі, ён раптам дагадаўся, што яны спявалі. Узяў ліхтар, палез на хату і ўбачыў, што страха прадрана і каўбасы пацяганы.

## ДОБРА, ДЫ НЕ ЗУСІМ

Сустрэліся два сябры.
— Ну, як жывеш? — пытаецца адзін.
— Ды нічога, жаніўся вось, — адказвае другі.
— О, гэта добра!
— Добра, ды не зусім.
— А чаму — не зусім?
— Ды жонка няпекная.
— Ну, гэта ўжо дрэнна.
— Дрэнна, ды не зусім: багатая дужа, многа грошай мае.
— О, гэта добра!
— Добра, ды не зусім.
— А што такое?
— Грошы згарэлі, як быў пажар.
— Ай-яй-яй, дрэнна як!
— Дрэнна, то дрэнна, але не зусім.
— А чаму?
— Дык жа і жонка разам згарэла.

## ПАМІНКІ Ў ПОСТ

У адным сяле памерла была баба, дый у самы пост якраз. Ну, пачалі ўжо сваякі памінкі спраўляць. Няпоснай стравы не дасі ж на стол. Пачалі шукаць рыбы. Кідаліся, кідаліся — нідзе няма рыбы. Што ж зрабіць? Няма ніякага выйсця! Закалолі яны парася, згатавалі ўсё — і на стол. Трэба ж і папа на вячэру запрасіць. Прыйшоў поп. Тут адна старэнькая сваячка пачала прасіць, каб ён не сварыўся, што вячэра няпосная. А папу аж радасна стала, што ў пост паласуецца свежанінай. Ён пагладзіў бараду, махнуў рукой дый кажа: «Ўспадзі,ператвары ты гэта парася ў добрага карася!» А затым кажа людзям: «Закусвайце, закусвайце, вельмі ж карась добры!»
А сам усё есць, есць, аж пальцы аблізвае.

## ЦЫГАН І АВАДНІ

Наняўся адзін цыган у мужыка касіць сена. Косяць сена летам. А цыган бачыў у мужыка добры кажух. Ён і захацеў украсці яго ў мужыка. Настаець дзень. Цыган просіць мужыка: — Дай, бацю, кажух.

— Навошта? — пытаець мужык. — І так вельмі лсарка.

— Ды я зыкаў баюся.

Ну, мужык і даў цыгану кажух.

Пачалі яны касіць. Сонца падымаецца ўсё вышэй. Авадні пачулі запах поту і пачалі кружыць каля цыгана.

Цыган паглядзеў — недалёка лес. Цыган нагой топ-топ і пачаў крычаць:

— Ой, бацю, зык-зык! — І ў лес.

Мужык крычыць:

— Цыган, ты ў асець уцякай, у асець!

Цыган адказвае:

— Куды, бацю, бог панясець!

І пабег у лес.

## СВАРКА

Дзед прывёз з горада мяккія крэслы, блішчастыя боты і новыя порткі. Прымераў, вельмі добра прышлося. А бабка кажа:

— Ах, мой дзядок, які ж ты харошы. А я помню, да мяне ў сваты ты прышоў у лапцях, белых ганавіцах і зрэбнай кашулі….

А дзед са злосцю:

— А сама, а сама!.. Адзела некі доўгі андарак, што і пят не відно. Бачыў бы я твае крывыя ногі, у чорта я цябе замуж узяў бы…

## ХІТРАЯ ДЗЕЎКА

Жыў у вёсцы багаты чалавек. Была ў яго дачка. Ды вельмі ўжо няўдалая. І непрыгожая, а да ўсяго яшчэ й гультайка вялікая. І нягледзячы на сваё багацце, ніяк не магла выйсці замуж. Як бацька ні намагаўся збыць яе з рук, нічога не выходзіла. Ніхто не хацеў такую ламіну ў хату браць.

І надта ж ужо ёй спадабаўся адзін прыгожы хлопец. Ды вось бяда: ён на яе і не глядзіць. Думала яна, думала, як прымусіць яго на сабе ажаніцца, і прыдумала.

Апоўначы падойдзе да яго вакна, у прасціну закручаная, пастукае ў шыбу і салодкім такім галаском кажа: «Бог казаў, каб ты Кудлу замуж браў».

А гэта яе на сяле Кудлай звалі. І гэтак тры разы кожную ноч. Аднойчы хлопец бацьку й кажа:

— Што гэта, татка, да мяне каторую ноч анёл прыходзіць і кажа, што бог хоча, каб я Кудлу замуж браў?

— А калі ён да цябе прыходзіць? — пытаецца бацька.

— Ды во ў поўнач.

— Дык пастой жа, і я з табой пасяджу, паслухаю.

І ў гэту ноч прыйшла дзеўка, як заўсёды пастукала і сказала: «Бог казаў, каб ты Кудлу замуж браў».

Пачуў усё гэта бацька, уздыхнуў і сказаў:

— Ну, сынок, калі бог казаў, трэба браць. У суботу ў сваты пойдзем. Бога трэба слухацца.

І ўзялі Кудлу замуж.

## ПАЛЯЎНІЧЫЯ

Пасяліліся два паляўнічыя на ўскрайку лесу ў старожцы. Адзін на паляванне хадзіў, другі — ашкурываў. Пойдзе першы, прынясе зайца або лісу. «Ашкурывай, пакуль цёплы».

Пайшоў ён аднойчы на паляванне, падраніў дзіка. І пагнаўся раз'юшаны дзік за ім.

Ускочыў у старожку, а дзверы зачыніць не паспеў і крычыць: «Ашкурывай, пакуль цёплы!»

## НЯРОЎНАЯ ДОЛЯ

От жылі-былі два сябрукі. Яны доўгі час рабілі на адной рабоце, а пасля раз'ехаліся. І доўгі час не бачыліся. Спаткаліся яны адзін з адным. Пытаецца першы:

— Ну, як жыццё? А той кажа:

— Харашо. Харашо на харашо ў мяне.

— Ну, а як гэта ў цябе харашо па харашо?

— Ну, і што? Я бяру батон. Адразаю. Намазваю маслам груба. Гэта ж харашо! А потым яшчэ па версе мёдам. Гэта яшчэ раз харашо!

— Ды гэта праўда, што харашо. А вот у мяне, — кажа, — дык плоха на плоха.

— Ну, а што ў цябе плоха на плоха?

— А вот, — гаворыць, — абразавалася кіла, а на кілу села скула.

## ЖАРТ ПА-СУСЕДСКУ

Антось і Ёська жылі па-суседску, недалёка. Ёська да яго і частавата прыходзіў. От аднаго разу прыходзіць Ёська, а гэты глытае лякарства, парашок. Ён кажа:

— Чаго ты глытаеш гэты парашок?

— О, гэта, — кажа, — парашок маладосці.

— Што ты, — кажа, — гаворыш?

— Да, — кажа, — гэта парашок маладосці. Ён дорага каштуе.

— Каб гэта мне як-небудзь дастаць?

А гэты Ёська быў багаты, ён грошай не шкадаваў. Антось кажа:

— Добра. Можна. Як па-суседску, я пастараюся. Але гэта, — кажа, — дорага будзе каштаваць.

— Ну, — кажа, — я заплачу, колькі там трэба будзе.

Ну, той кажа:

— Добра, заўтра прыйдзеш, будзе парашок.

От пайшоў Антось у аптэку і сказаў, каб яму далі парашкоў — такіх, што на развальніцельныя. От яму і далі гэтых парашкоў. От ён і прыносіць. Прыходзіць Ёська да яго. Ён кажа:

— Ну, вот, парашкі каштуюць столькі і столькі.

Той яму заплаціў.

— А як іх, — пытаецца, — ужываць?

— Гэта, — кажа, — трэба ўжываць іх на вадзе.

Ёська добра не разразумеў, што гэта значыць: на вадзе. Што гэта проста запіць. Ён скеміў, што гэта трэба ўзяць лодку, сесці і паехаць. Яшчэ падгаварыў сабе і таварыша. І той захацеў адмаладзіцца. І ўдвух паехалі. Выехалі на возера на сярэдзіну. Сталі і прынялі гэты парашок. Прынялі парашок і едуць памаленьку. Тады

Ёська ў сябра пытаецца:

— Ну, як ты, чуствуеш?

— Я, — кажа, — чуствую ўжо. А ты як?

— А я Ўлю, — кажа, — як маленькі дзяцёнак.

## СКВАПНАСЦЬ ДА ДАБРА НЕ ДАВЯДЗЕ

Адным разам у вёсцы былі назначаны хрэсціны.

І вось пасля таго, як прайшоў малебен, поп з дзякам пайшлі па дамах за платай. Зайшлі ў адзін дом. Усё, што мог, аддаў гаспадар. Поп ледзь у руках трымае заработак, а ўсё яшчэ патрабуе. А мужык і кажа:

— Бацюшка, а мо ты сцябачку возьмеш?

— А куды ж мне яна, — кажа поп, — хіба што ў зубы? Давай у зубы! Ну, кажу табе, дай у зубы!

Ну і сунуў мужык у зубы сцябачкай, ды так, што юшка пацякла.

## ПРА ХІТРАГА САЛДАТА

Прыйшоў на базар салдат. У торбе ў яго быў толькі кавалак хлеба. А больш салдат нічога не меў, нават гроша ломанага. А есці адзін хлеб усухамятку яму не хацелася. Вось ён убачыў селяніна, які прадаваў мёд. Падышоўшы да яго, салдат падае яму кавалак хлеба і кажа: «Намазывай!»

Затым запытаў цану, пачуў ад селяніна, па чым мёд, і кажа: «Саскрабай назад! Задорага!»

А куды ўжо саскрабаць, калі мёд залез у мякіш! Селянін плюнуў і аддаў салдату кавалак.

## У ШКОЛЕ

Настаўнік пытае малога Васілька:

— Скажы мне, з чаго зроблены твой шарачок?

— З сукна.

— Правільна. А з чаго робіцца сукно?

— З воўны.

— Малайчына. А воўну хто нам дае?

— Авечкі.

— Разумнік! Значыць, якая жывёліна дала табе гэты шарачок?

— Бацька...

## ЦЯПЕР, ДЗЕДКА, ПЯЦЬ...

Быў дзед у бабы, ды вельмі неймаверны. Варыць яна есці, пячэ бліны — ён туды і лічыць, колькі напякла. Пасадзіла неяк баба хлеб у печ — пяць кулід. Дзед праверыў дый кажа:

— Пяць.

А баба наўмысна:

— Не пяць, а чатыры, дзедка!

Пачалі яны спрачацца. Так спрачаліся, што нарэшце дзед кажа:

— Скажы пяць, а то памру!

А баба ўсё адно:

— Чатыры, дзедка, чатыры!

Памёр дзед. Паклалі яго на лаўку, баба і галосіць:

— Дзедка, чатыры, чатыры!..

А дзед шэпча ціхенька:

— Скажы пяць, дык я ўстану.

Павезлі яго на могілкі. Пачалі прашчацца. Баба галосіць:

— Чатыры, дзедка, чатыры!

А ён ціхенька:

— Скажы пяць, дык я ўстану!

Апусцілі дзеда ў яму, прысыпалі. Тады баба і кажа:

— Цяпер, дзедка, пяць, цяпер табе адтуль не ўстаць!

## АД ЧАГО СМЕРЦЬ

Сустрэліся двое знаёмых на вуліцы, і адзін пытаецца ў другога:

— Ты чаго такі сумны?

— Бацька памёр.

— Ай-ай, якое няшчасце! Ён жа яшчэ зусім не стары быў!

— Не стары, вядома, Яшчэ мог бы жыць ды жыць.
— Дык а чаго памёр?
— Ад голаду.
— Ай-ай-ай, што ты кажаш! Хіба зусім хлеба не было?
— Ды не, хлеб быў, але не было чым адрэзаць.

## ПАГАВАРЫЛІ

— Здароў, Клімаў!
— Ага, капаю гліну.
— Ты што — аглух?
— Ды не, сам, а не ўдвух.
— Ты даўно стаў недачуваць?
— Паеду дамоў начаваць.
— А ты не бачыў мае казы?
— Накапаў аж на тры вазы!..

## САЛДАТ І БАБКА

Ішоў салдат. А быў вялікі мароз. Зайшоў ён да адной бабкі пагрэцца.
— Ай, які мароз вялікі!
— Каб к гэтаму марозу ды яшчэ вецер! — кажа бабка.
А бабка ўсё кашляла.
— Што, бабка, кашаль?
— Кашаль, служывенькі, кашаль.
— Каб к гэтаму кашлю ды яшчэ колікі! — кажа салдат.
Усё зразумела бабка.

# ЛЕГЕНДЫ І ПРЫМХЛІЦЫ

## ЛЕГЕНДЫ

З усіх жанраў гэтак званай няказачнай фальклорнай прозы найбліжэй да казак, дакладней — да чарадзейных казак, стаяць легенды. Легенда як народнае мастацкае апавяданне вызначаецца, па-першае, своеасаблівым спалучэннем рэальнага і фантастычнага, звычайнага і дзівоснага, па-другое, пачаткова-зыходнай устаноўкай на вытлумачэнне і, па-трэцяе, выразна павучальным характарам. У легендах шмат фантастычнага — непараўнана больш, чым у блізкіх да іх духам даўніны гістарычных паданнях аб далёкім мінулым. Прынцыповая розніца між імі ў тым, што паданне рэальны жыццёвы факт упрыгожвае, аздабляе выдумкай, у тым ліку — фантастычнай, а легенда імкнецца выдуманае, створанае фантазіяй выдаць за сапраўднае, за рэальнае. Апрача таго, дзівосныя з'явы і падзеі ў легендах вытлумачваюцца — чаго мы ніколі не бачым у казках. Вытлумачальнасць гэта абумоўлена галоўнай грамадскай функцыяй жанру — функцыяй пазнавальнасці. Павучанне ў легендах досыць часта вытрымана ў духу хрысціянскай маралі, — асабліва гэта датычыць легенд біблейскага паходжання, у якіх, зразумела ў народнай інтэрпрэтацыі, падаюцца найбольш папулярныя хрысціянскія сюжэты.

Легенда прыйшла ў наш фальклор і заняла ў ім сваё адметнае месца ў часы ўсталявання на землях усходніх славян хрысціянства. Прыйшла на змену больш старажытнай за яе язычніцкай прымхліцы, якую, аднак, не выцесніла, а пачала жыць і развівацца побач, многае ўзяўшы ад сваёй папярэдніцы і яшчэ больш — ад самой жывой рэчаіснасці новай эпохі.

У аснову легендарнага сюжэта звычайна кладзецца якісьці цуд, неверагоднае здарэнне, з удзелам і людзей і істот звышнатуральных, з умяшаннем сіл цудадзейных. Гэтыя апошнія нярэдка ўвасоблены ў вобразах хрысціянскіх святых, якія з'яўляюцца носьбітамі дабрыні і справядлівасці і ўчыняюць над грэшнымі і аблуднымі людзьмі страшны суд. У некаторых легендах гэтую місію правасуддзя ажыццяўляе сам бог,

Несумненна, што на легенду як жанр фальклору прыкметна паўплывала хрысціянская кніжнасць, у прыватнасці — жыційная, агіяграфічная літаратура, асабліва ж — творы апакрыфічныя, неадобраныя афіцыйнай царквой і таму не дазволеныя ёю да

распаўсюджання. Трэба, аднак, падкрэсліць, што гэты ўплыў царкоўнахрысціянскай ідэалогіі і маралі на ідэйна-этычны і эстэтычны змест легенд не заглушаў у іх сапраўды народнага голасу сацыяльных нізоў, народнага разумення праўды і няпраўды, дабрыні і зла, высакароднасці і амаральнасці, гэтаксама як і не скоўваў размаху народнай паэтычнай фантазіі, пладамі якой у большасці выпадкаў яны з'яўляюцца. Дух дэмакратызму ў легендах гэтакі ж усёмагутны і несмяротны, як і ў іншых жанрах фальклору.

Пра што складаліся легенды? Пра стварэнне свету, пра паходжанне народаў і плямён, пра паходжанне жывёл, птушак і насякомых, пра святых і бога, пра пекла і рай, пра віну і пакаранне за яе, пра дабрачыннасць і ўзнагароджанне за яе, пра чалавечую долю і смерць — і пра многае іншае. Як бачым, у легендах працоўны чалавек шукаў адказу на важныя, сур'ёзныя пытанні жыцця-быцця, — пытанні навукова-філасофскага і маральна-бытавога парадку — у іх неадменнай злучнасці з сацыяльнай пазіцыяй. Своеасаблівасцю гэтага народнага пошуку, народных поглядаў і ўяўленняў яны перш за ўсё і цікавыя для сучаснага чытача.

## ЧАРАЎНІК І МУЗЫКА

Гулялі ў адным сяле вяселле. Сабраліся людзі, моладзь. Адпраўляюць маладых да вянца. Раптам чуда адбылося: маладая стала ваўчыцай, малады — воўкам, і сталі людзей рваць. Людзі за ваўка і за ваўчыцу і закрылі іх у свіран.

А ў той момант недзе іграў на вяселлі музыка, ну і ён быў п'яны, але веруючы. Меў пры сабе ружанец і святую кнігу. І пайшоў дамоў каля могілак. Адна магіла была адкрытая, і ён уваліўся ў яму. А там была труна. Ён палічыў, што гэта лаўка, і лёг паляжаць. І раптам з'яўляецца нябожчык-чараўнік. І ён не мог увайсці ў магілу, бо музыка меў ружанец і святую кнігу. Чараўнік • гавора:

— Выходзь адсюль!

— А хто ты такі ёсць?

— Асвабаджай месца, бо задаўлю!

— Чараўнікі мяне не давілі і давіць не стануць, я іх не баюся. Скажы, што ты дзе натварыў?

— Што ж натварыў дзе! Маладога зрабіў ваўком, а маладую ваўчыцай.

— Як іх адрабіць, зрабіць людзьмі?

— Ідзі ў тую вёску, у хазяїна каля варот ляжаць два яйкі, па правай руцэ для ваўка, па левай для ваўчыцы. І вот як кінуцца яны на цябе, дык вось з правай рукі яйка кінь ваўку ў лоб, каб разбілася, а з левай — ваўчыцы. І тады яны зноў стануць людзьмі. Выхадзі цяпер з магілы.

— Не выйду, дай адрэзаць правае вуха.

Чараўнік згадзіўся, бо ўжо было пара легчы ў магілу. Вот прыходзіць музыка ў вёску. Народ засмучаны, маці, ацец плачуць. Ён пытаецца:

— Што тут адбылося? Чаго вы плачаце?

— Як жа не плакаць. Была свадзьба, а маладыя сталі ваўкамі, многа людзей пакусалі.

— Не бядуйце, я адраблю іх, адчыніце толькі дзверы.

Людзі не хацелі адчыняць дзверы. Ён папрасіў яшчэ раз. Адчынілі дзверы. Воўк і ваўчыца кінуліся на яго. Ён ударыў іх яйкамі, і яны сталі такімі, як былі. Тады ўвесь народ кінуўся на музыку, хацелі яго забіць, што ён чараўнік. Ён выняў вуха і паказаў ім. Пайшлі на кладбішча, адкрылі магілу. Глядзяць, аж у чараўніка няма правага

вуха і ляжыць ён ніцма. Адрэзалі яму галаву і палажылі паміж ног. Больш ужо ён не ўстане і хадзіць не будзе.

## «КУМ»

Ідзе бог па зямлі. Бачыць: насустрач ідзе чалавек бедны і галосіць.

— Чаго ты плачаш, чалавеча?

— Я бядняк, прайшоў усіх, ніхто не хоча стаць кумам і пакрыжаваць маё дзіцё.

— Я буду тваім кумам.

Але бедняку-чалавеку не было чым пачаставаць кума. Бог увідзеў гэта і даў яму булку хлеба і рыбіну. Як ні ўчашчаліся яны, гэта булка і рыбіна засталіся цэлымі.

— Але ты, чалавеча, павінен прынесці мне на пасху піраг, — сказаў бог.

— Не ведаю, куды ісці мне, куме?

— Будзе дарога шырокая, красівая, брама такая, што на дарозе сустракаць будзеш — не астанаўлівайся, ідзі направа вузкай дарожкай.

Ідзе бядняк к куму, пірагі нясе. Ідзе і бачыць, што бараны б'юцца, бабы ў зубах маток нітак рвуць, гэта дарога грэшная. Яму дарога не сцялася. Падходзіць ён к куму, а там жа адкрываецца рай, усё ў золаце. Выходзе кум, бярэ піраг і кажа, што гэта рай. Потым павёў паказаць пекла, а там вялікія чаны, там кіпіць смала, там ён убачыў мацяру. Бог дастае тры перыны цыбулі і кажа, што яна толькі тры цыбуліны за сваё жыццё дала бедняку. Ён працягнуў 'гэтыя перыны да чану, маці злавіла іх і палезла з чану. За яе схапіліся другія людзі, але яна страпянулася, каб ніхто не вылез, дык перыны парваліся, і яна зноў аказалася ў чане. Божа і гаворыць, што гэта ў яе зайздрасць, што вось за гэта яна і кіпіць у смале.

Потым бядняк пайшоў дахаты. І калі ён вярнуўся дадому, то ўбачыў, што яго сыну ўжо трыйцатка прыйшла. Аказваецца, ён ішоў трыццаць гадоў роўненька.

## КОЛЬКІ ЖЫЦЬ ЧАЛАВЕКУ

Калісьці ў далёкім мінулым кожны чалавек знаў, колькі яму гадоў жыць на свеце. Але адзін раз адбылося такое.

Ішоў бог па зямлі. Зайшоў у адну дзярэўню і відзіць, што адзін чалавек робіць плот з саломы. Бог паглядзеў на яго і пытаецца:

— Ты чаго, чалавеча, плот не з дрэва гародзіш, а з саломы?

— Дык мне ж ужо мала гадоў жыць на свеце асталося. На мой век хваціць.

Тады бог рашыў зрабіць так, каб людзі не зналі, каму калі паміраць. Так і цяпер.

## АКАМЯНЕЛАЕ ВЯСЕЛЛЕ

Непадалёку ад вёскі Налібокі ляжыць куча вялікіх каменняў. Размешчаны яны ў пэўным парадку. Аб гэтых каменнях у народзе ходзіць легенда, што раней гэта былі людзі, але злое вока ператварыла іх у велізарныя глыбы, якія знерухомелі і ляжаць гэтак ужо многа гадоў.

...Жылі на свеце бацька і маці. І была ў іх дачка. Жылі яны вельмі багата. Усяго ў іх было ў дастатку. Але прагным бацькам усё мала было. І яны хацелі, каб іх дачка выйшла замуж толькі за багатага чалавека.

А ў той вёсцы, уладаром якой быў гэты пан, жыў бедны хлопец-каваль. Вельмі прыгожы ён быў. Высокі, чарнявы. У ва ўсёй акрузе не было такога хлопца-прыгажуна.

Закахалася ў яго панская дачка. Многа багатых жаніхоў прыязджала да яе ў сваты, але ўсе вярталіся дадому ні з чым. А маладая дзяўчына днём і ноччу марыла толькі пра аднаго беднага каваля. Каваль таксама марыў толькі аб ёй, але не асмельваўся нават і думаць аб тым, каб ажаніцца з ёй.

Улю колькі разоў заводзіла гаворку дачка аб тым, што яны хочуць пажаніцца з кавалём, але бацькі нават і слухаць не хацелі. Згоды бацькоў чакаць было няма чаго. І тады маладыя вырашылі зрабіць усё цішком.

Аднойчы раніцай па дарозе імчаліся тры запрэжаныя карэты. Уперадзе ехала тройка быстрых коней з маладым і маладой. За імі на пары коней ехалі дзесяць дружак, а ззаду іх — дзесяць маршалкаў.

Аб тым, што панская дачка паехала ў касцёл з кавалём,

даведаўся адзін з тых, хто сватаўся да маладой паненкі і атрымаў адказ. Ён зараз жа далажыў аб гэтым матцы дзяўчыны. Матка так раззлавалася, што не пашкадавала нават сваю дачку і пракляла яе. І ўсе, хто ехаў у касцёл, ператварыліся ў каменні.

Людзі і зараз называюць гэтую гурбу акамянелым або застыўшым вяселлем.

## АДЧАРАВАНАЯ НЯВЕСТА

На ўзгорку стаяла капліца, і трэба было ўзлезці на яе і званіць у званы. Але ўсе, хто лазіў на гэту капліцу, назад не варочаліся.

І вось згадзіўся залезці адзін малады хлапец. Доўга яго не было, але праз некаторы час ён злез — белы-белы. Тут, у гэтай капліцы, ён сустрэў дзеўку, якая сказала яму: «Возьмеш мяне ў суботу замуж — будзеш жывы, не возьмеш — памрэш». Аб усім гэтым хлапец расказаў сваёй матцы. Маці гавора: «Паедзем, возьмем бацюшку і ажэнішся».

Толькі яны над'ехалі да капліцы, растварылася дарога, і яны апынуліся пад зямлёй. Чаго там толькі не было: ніва, рознай ежы. Дзяўчына пацалавала крыж, і хлопец прывёз яе дадому. Пачалі рыхтавацца да вяселля. Але дзяўчына кажа: «Трэба пачакаць, паклікаць дзядзьку».

Прыйшоў дзядзька — малы, пузаты — і кажа: «Вяселле не пачынаць, яшчэ няма старыка і старухі». Адзін сват згадзіўся ехаць за старымі. Як сеў на каня, коні яго павезлі вышэй лесу, і апынуўся ён у старых. Спачатку старыя не згаджаліся ехаць, гаварылі, што няма на каго хату пакінуць. Але потым згадзіліся. Прыехалі яны на вяселле, а дзядзька і кажа: «Вот табе, Тарас, адзін рубаль, а табе, Тарасіха, два рублі, звольце радавацца сваёй дачцы, што я выгадаваў яе і замуж аддаў».

А гэта дзяўчына была праклята сваімі бацькамі, і яна правалілася скрозь зямлю.

## ПРА АДЗІНАЦЦАТАЕ ДЗІЦЯ БЕДНАГА СЕЛЯНІНА

Жыў-быў бядняк, і нарадзіўся ў яго сын. Аднойчы прыйшлося бедняку заначаваць у карчме. Начаваў тут і адзін купец, у якога таксама нарадзіўся сын. Купца палажылі на багатую пасцель, а беднага — не. Але багатаму нешта не спалася і ён пачуў, як прыляцелі

ангелы і пытаюцца другу друга, у каго з дзяцей лепшая доля будзе. А сказаў ангел, што лепш за ўсіх будзе жыць сын бедняка. Купец, пачуўшы пра гэта, захацеў купіць малога. Бядняк згадзіўся дзіця прадаць. Малога ўсяго аблажылі грашыма з ног да галавы. Купіўшы дзіця, купец паехаў дадому. Ехаць яму трэба было праз лес. Узяў купец малога і пакінуў яго ў дупле пры дарозе. Шмат людзей праходзіла па дарозе, і ўсе чулі дзіцячы плач, які даносіўся з дупла, і бачылі свечку каля яго. Але ніхто не адважваўся падысці да дупла і забраць адтуль Дзіця.

Але ішоў нейкі мужык бедны праз лес, пачуу дзіцячы плач і закалацілася сэрца яго, узяў ён дзіця да і панёс яго дадому. А ў таго мужыка сваіх дзесяць было. І стаў жыць маленькі хлопчык разам з яго сям'ёй. Селянін чакаў ад адзінаццатага дзіцяціпагаршэння сваёй долі, а ўсё здарылася наадварот: хлопчык аказаўся святым, і сам бог ішоў насустрач гэтай сям'і. Мужык пачаў разжывацца. Аднаго разу ішоў ён каля возера. Раптам пайшоў дождж, і мужык схаваўся пад човен. А тут прыбягаюць чэрці і пачынаюць барабаніць па дну чоўна нагамі і гаварыць між сабой. І чуе мужык, як адзін чорт гаворыць другому, што на перакрыжаванні дарог ляжыць кол, і калі ім ударыць аб зямлю, то грошы знойдзеш. Другі чорт, пачуўшы гіра гэта, пабег туды, але мужык агарадзіў яго, забраў сабе грошы і хутка стаў вядомым чалавекам.

## ПРА ПАНЮ І ЖАБРАЧКУ

Жыла-была на свеце пані, мела яна аднаго сына. Пачалася вайна, і пайшоў ён, пакінуўшы паню адну. Пасля таго да пані часта стала прыходзіць жабрачка. Калі ні прыйдзе жабрачка, то заўсёды гаворыць: «Пані, мая панухначка, ніхто так нікому не зробіць, як сам сабе». Пані накорміць яе і адправіць. На другі дзень жабрачка зноў прыходзіць. Надаела яна пані, і надумалася пані атруціць жабрачку. Аднаго разу, калі прыйшла жабрачка, напякла пані піражкоў, насыпала ў іх атруты і аддала жабрачцы. Тая падзякавала і пайшла зноў сваёй дарогай.

Ішла, ішла жабрачка лесам, села адпачыць, ажно бачыць: ідзе малады хлопец. Убачыў ён жабрачку, кажа: «Бабулька, можа, маеш што паесці, бо я іду з вайны і вельмі галодны». Жабрачка пашкадавала яго, дастала піражкі з сваёй торбачкі і аддала яму. Ён з'еў адзін піражок і ўпаў мёртвым.

Вярнулася жабрачка да пані і расказала ёй пра здарэнне. Пайшла пані паглядзець і ўбачыла свайго сына. Толькі і ўспела жабрачка паўтарыць: «Пані, мая панухначка, ніхто так нікому не зробіць, як сам сабе».

## ЗМЯІНЫ КАМЕНЬ

Непадалёку ад Еёскі Гогалеўка ляжыць вялізны камень, які называюць змяіным. Аб ім ходзіць такая легенда.

У незапамятныя часы жыў змей. Вялікі камень быў яго палацам. Змей быў вядомы ва ўсёй акрузе, як вельмі добры кравец. Была ў яго залатая машына, на якой ён шыў. Ведаючы яго майстэрства, яму прыносілі шыць з усіх навакольных вёсак. Ён прымаў заказы праз акенца, якое было адзіным у яго палацы. Калі чалавек прасіў, каб пашыў адзенне так, як змей зможа, то змей-кра* вец выконваў заказ вельмі добра. А калі ж чалавек прасіў, каб змей пашыў добра, то змей шыў як папала: прышываў рукаў да пояса, кішэні прышываў на спіне. За шыццё нічога не браў, акрамя курэй і пеўняў.

Змей умеў ператварацца ў маладога прыгожага хлопца. Недалёка ад таго месца, дзе ён жыў, у вёсцы Гурэц жыла дзяўчына, якую ён вельмі кахаў. Змей кожны дзень да яе прыходзіў.

Аднойчы змей, як заўсёды, прыйшоў да сваёй каханай. Ён прабыў у дзяўчыны цэлы дзень. Вечарам, перад тым, як ісці дамоў, змей прылёг на калені дзяўчыны і сказаў ёй, каб яна разбудзіла яго, калі на небе з'явяцца хмары. Змей вельмі, вельмі баяўся навальніцы. І сапраўды хутка на небе з'явіліся чорныя хмары. Дзяўчына, забыўшыся пра наказ змея, не пабудзіла яго. Бліснула маланка. Змей усхапіўся раз'юшаны і з усёй^сілы стукнуў дзяўчыне па шчацэ, што ў яе назаўсёды засталіся адбіткі яго чорных пальцаў. Тут грымнуў гром, і змей паваліўся мёртвы на зямлю. Людзі закапалі яго, але падняўся вецер і выдуў цела змея з зямлі. Некалькі разоў людзі закопвалі яго, але нічога не дапамагала. Так ён і застаўся ляжаць незакапаны, пакуль не згніў.

## ПРА СКВАПНАСЦЬ

Паехаў адзін раз мужык у лес па дровы. Наваліў ён поўны воз галля і хацеў ужо ехаць дахаты. Ды толькі ўзяла яго прага зваліць

яшчэ адно і апошняе дрэва.

Узяў мужык сякеру, падышоў к аблюбаванаму дрэву і толькі занёс яе над сухім коранем, як бачыць: зямля нешта вельмі свежая. Пачаў ён трэб сці яе, ды наткнуўся на нейкі куфэрак. У старога аж дух захапіла ад нечаканасці. Схапіў ён сваю знаходку і да каня. Але пачуўся голас: «Не бяры куфэрак».

Глядзіць мужык навокал — няма нідзе нікога. А голас ізноў: «Пакладзі назад куфэрак».

Стары думае: «Мусіць, зноў здалося. Трэба хутчэй дахаты, каб ніхто не ўбачыў». Сеў ён на воз. Паганяе каня, але той не ідзе, толькі галавою круціць. Позна ўвечары даехаў стары дахаты. Зачынілі яны з старою дзверы і пачалі адкрываць знаходку. Адчынілі, а там — поўна грошай. Толькі хацелі яны палічыць, а штосьці як загудзе ў трубу: «Не бярыце, не вашыя». Ледзь не памерлі старыя ад страху. А калі адышлі крыху, то пачалі спрачацца за грошы, цягнуць куфэрак кожны да сябе. Стары крычыць:

— Я знайшоў, мае грошы.

Старая:

— Аддай мне, а то пайду ў сяло і ўсім раскажу.

Доўга яны спрачаліся.

Але раптам куфэрак сам расчыніўся. З яго выпаўзла велізарная змяя. Адразу ж накінулася і ўкусіла старую, а потым старога. Абодва прагныя старыя ператварыліся ў два вялікія шэрыя камяні, якія і зараз стаяць на беразе ракі. Так яны былі пакараны за сваю сквапнасць.

## ПРА МАЛАДЗІЦУ, ЯКАЯ ЧАКАЛА ГОСЦЯ ВЯЛІКАГА

Ідзе вялікае свята вялікдзень. На гэта свята павінен прыехаць у вёску цар. Дайшла чутка, што цар папалуднуе ў кожнай хаце. Усе чысцяць, мыюць, двары падмятаюць, дарожкі высцілаюць — га« товяцца к святу. Адна маладзіца пыл у хаце выцірае, сцены шпалерам абклейвае. Але вось хтосьці стукае ў дзверы. Ёй паказалася, што цар ідзе, а нічагусенькі не прыбрана. Аж са страху спалатнела. Заходзіць у хату стары дзядок:

— Маладзічка, пакармі мяне і дай што-небудзь 'апрануць, я вельмі доўга ішоў, стаміўся, абарваўся, есці захацеў.

— Не, дзед, ідзі да суседзяў, я багатага госця жду, няма мне часу гаварыць з табой, — адказала яна.

І зноў узялася за сваю працу. Памыла вокны, дзверы, пол мые. Стукаюць у дзверы. Заходзіць старэнькая бабка і моліць:

— Пусці абагрэцца, добры чалавеча, я вельмі ззябла за дарогу, далёка іду.

— Не, няма мне часу, бабуля. Бачыш, прыстаўляю ўсё, госця вялікага жду. Ідзі к суседзям.

Зачыніла бабулька дзверы.

«Як на грэх нейкі, усё адрываюць ад работы нейкія падарожнікі, дзе яны і бяруцца». Работу ўжо заканчвае. Букет з кветкаў робіць. Зноў стукаюць у дзверы. Уваходзіць малы хлопчык — дзіцянё гадкоў трох.

— Цёця, бачыш, ножкі ў мяне мокрыя, я ад мамкі адбіўся, ішоў ды памачыўся, есцечкі хачу, дайце гамаць, абуйце мяне, — плача дзіця.

— Не, няма мне часу, ідзі к суседзям, яны цябе пакормяць, абуюць. А я госця вялікага чакаю.

Пайшло яно, дрыжучы ад холаду.

Вот і прыгатовіла ўсё жанчына, вот і кватэра прыбрана, а госця няма і няма.

Час чакае — няма, два чакае — няма, ноч набліжаецца, ніхто не ідзе ў госці. Лажыцца маладзіца спаць. І сніцца ёй, што цар гаворыць: «Я прыходзіў к табе, Марыля, у госці ў выглядзе старога дзеда, бабулькі і дзіцяці. Ты ўсіх прагнала. Усім адказала. Няма ў цябе жаласці ні к каму: ні к малому, ні к старому. Болей к табе ніхто не прыдзе, будзеш чахнуць адна да гроба». Прахапілася яна і думае: «Што за чудны сон я сніла? Няўжо гэта сам цар быў? Ай, я, яй, я — што я нарабіла?»

## ПРА РАЗБОЙНІКА

Жыў-быў разбойнік. Многа забіў ён людзей. І так дажыў да старасці. Прыйшоў час паміраць. Трэба было ад грахоў сваіх адкупіцца. Вырашыў ён падзяліцца грахамі з адзінокай яблынькай, паспавядацца перад ёй, бо вельмі было цяжка трымаць на сэрцы людское гора, якое ён ім прынёс.

Падышоў да яблыні, прыкленчыў і пачаў успамінаць свае грахі. Як успомніць, каго забіў, дык яблыка і спадзе з дрэва. Доўга ён успамінаў, пералічваў — усе яблыкі апалі, засталіся толькі два. Сядзіць разбойнік, ніяк не можа ўспомніць, каго ж яшчэ ён забыўся

назваць.

Сядзеў, сядзеў і раптам успомніў, што забіў сваіх бацькоў. І як толькі ўспомніў — яблыкі скінуліся і забілі разбойніка.

## КАМЕНЬ-ШАВЕЦ

Усё гэта звязана з рэлігіяй, і трэба падумаць, ці гэта праўда было, ці няпраўда, але вот слухайце. Быў некалі шавец, шыў боты. Але мала зарабляў, бо мала шыў. А, кажа, не буду шыць цэлы тыдзень перад вялікаднём. Будзе вялікдзень, вялікі дзень — многа і пашыю. Сеў, выпіў. Цэлы тыдзень перад вялікаднём піў — гэта ў пасху. Дачакаўся вялікадня. Вялікдзень, людзі ў царкву пайшлі, а ён сеў шыць з самага ранечка, сонца толькі ўзышло, ён і сеў шыць. Шыў боты, колькі там сшыў, хто знае, але пакуль сонца заходзіла — ён і акамянеў. І хата, і шавец, і ўсё закамянела.

І па сённяшні дзень я бачыла той камень сама, нат вокны знаць. І завуць той камень — шавец.

## ПРА ДОЛЮ

Ішоў Ісус Хрыстос са сваімі вучнямі па вуліцы. І зайшоў ён у адну хату. Пытаецца ў хадзяіна, які ляжаў на печы, грэў свае плечы:

— Куды, хадзяін, на востраў дарога?

Ляжыць той на печы:

— Вунь туды, вунь туды, — нагой паказвае, значыць, не злазячы з печы.

Пайшоў той з хаты. Ідзець па вуліцы з сваімі вучнямі, і заходзіць ён у другую хату. А там дзеўка цеста мясіла, рукі на локці ў цесце. І пытаецца Ісус Хрыстос у маладзіцы:

— Скажы, маладзіца, як мне на востраў дарогу знайсці?

Тут маладзіца хуценька рукі аб хвартух выцерла і ўпярод Ісуса пайшла, значыць, дарогу паказваць.

І пытаюцца вучні ў Ісуса Хрыста:

— Якую долю ты дасі ёй, госгіадзі?

А ён нажыць:

— Вунь тую, — і паказвае на хату, дзе мужык дарогу нагой паказваў.

— Навошта ёй такая доля, госпадзі?

— А на тое, што калі даць ёй добрую долю, дык яна збалуецца.

## ЧАМУ НЕ АДНОЛЬКАВА РАБОТЫ ВА УСІХ?

Было яшчэ так. Хадзілі па зямлі Пётра з богам і не ведалі, каму што прыдзяліць. Ну, ідуць яны. Сонца нізка. Падыходзяць да жанчыны, якая жала, пытаюцца, як прайсці ім туды ды туды, просяць, каб паказала ім дарогу. А яна кажа:

— Сонца нізка, мне жаць трэба. Не буду паказваць, ідзіце, куды хочаце.

Ну, раз такое дзела, пайшлі яны далей. Косіць мужык. Падышлі яны да мужыка і кажуць:

— Ці не паказаў бы ты нам дарогу, як туды ды туды прайсці?

Мужык кажа:

— Чаму ж не, пакажу.

Закурыў і павёў іх да дарогі, паказаў, куды трэба ісці. Далей ідуць, ідуць, ходзіць конь. Пытаецца бог у каня:

— Як бы ты нам дарогу паказаў? А конь глянуў:

— Сонца нізка, я не пад'ем. Не павяду вам паказваць дарогі.

— Ну, ладна, не павядзеш, дык хадзі, грызі. Пайшлі далей. Ходзіць карова. Просіць бог у каровы, каб паказала ім дарогу.

— Чаму ж не, — кажа карова, — пакажу. Павяла іх і на дарогу вывела. Ну, вот і кажа бог на Пётру:

— Слухай, што гэта будзя: вот гэта жанчына будзе век рабіць, і ёй век будзе работы па горла — ніколі не паробіць. А мужык паробіць і ўсягды яму будзе вольны час. А конь таксама — будзе грызці, грызці, і ніколі яму не дадуць пад'есці, а карова паходзіць — ужо і жвакуе, ужо і пад'ела.

## ЯК СВЯТЫ ПЁТРА ПЕРАКАНАЎСЯ

Некалі, даўным-даўно, хадзіў па свеце бог. Ну, з ім хадзіў і святы Пётра. Усё ўстанаўлялі, каб было справядліва, хоць і самі не ведалі, як яно справядлівей. Пётра хацеў, каб была баба за гаспадара, а мужык каб дома даглядаў. А бог спорыў з ім, не хацеў згадзіцца, бо ведаў жа,

што бабы благія. Спорылі, спорылі, і бог не мог перадорыць Пётру. Згадзіўся бог. Згадзіўся, і пайшлі яны начаваць да аднаго гаспадара ў хату. А яго баба паехала на базар. Ну, ён і кажа:

— Я пушчу вас начаваць, мне не шкода хаты, але як прыедзе жонка з кірмашу — яна такая дрэнная, такога наробіць крыку, што будзе і вам і мне. Баюся.

А бог кажа:

— Не бойся, нічога мо не зробіць, ужо неяк пераначуем.

А ён спецыяльна хацеў правучыць Пётру. Ну, паслаў гаспадар ім каля парога. Бог лёг ад сцяны, а Пётра з краю. Колькі там паспалі — ці многа, ці мала, — едзе ўжо яна п'яная і крычыць на мужыка:

— Памагай выпрагаць скарэй!

Гэты мужык прыляцеў, каня ёй распрог, усё там паставіў, папарадкаваў, а яна прыйшла ў хату і адразу павалілася на іх. А яна з пугай у хату ўвайшла. Калі ж яна раззлавалася ды калі стала хвастаць Пётру пугай, ды пугай, ды пугай. А бог ведае, што зробіцца: зараз яна да другога дабярэцца, што каля сцяны. Ён і кажа:

— Пётра, давай памяняемся, яна цябе заб'е.

Пётра прылез да сцяны, а бог на край. А яна кажа:

— А ты, што каля сцяны ляжыш, і ты маё цялё еў?

І на ім, і па ім. Ізноў па Пётру ды па Пётру.

Ну, усё. Да раніцы неяк праляжалі. А назаўтра кажа Пётра на бога:

— Божа, як ты казаў, няхай так і будзе. З гэтымі шалёнымі ты не парадзіш нічога. Хай лепей будзе гаспадаром мужчына, а яна падчыняецца яму. Усё-такі крыху будзе баяцца яго.

## ЗОЛАТА Ў ПАДОЛЕ

Жылі-былі два браты на свеце. Адзін быў добры, нясмелы, шчыры чалавек. Другі ж быў надта нядобры, прагны і дурны. Адзін заўсёды быў галодны, жыў у халоднай, беднай хатцы. Другі ж жыў у раскошным доме, меў дарагое адзенне і ад пражорлівасці ледзь цягаў сваё бруха.

Неяк адвячоркам стукаецца бедны брат у дзверы к багатаму. «Брат, — кажа ён, — дай мне сярнічак запаліць свечку».

А гэта было як раз перад самай пасхай. У багатага брата ўсе вокны свяціліся ў агнях. А беднаму не было чым запаліць свечку. Але

багаты брат быў такі скупы і нядобры, што не толькі не даў яму сярнічак, але загадаў слугу выгнаць яго ў шыю. Выгналі таго. Выйшаў ён на вуліцу, чуць не плача ад гора і бачыць раптам: дзесьці далёка ў полі блішчыць агонь. Відаць, вогнішча хтосьці расклаў. Вось ён і пацягнуўся ў поле, каб папрасіць вугельчык. Падышоў ён нарэшце і быў вельмі здзіўлены, убачыўшы каля вогнішча маленькага-маленькага дзядка.

— Добры вечар, — кажа яму. — Дай мне, стары, будзь добры, вугалькоў, каб перад святой іконай на вялікую пасхальную ноч запаліць свечку.

— Трымай падолле, — закрычаў дзядок.

Здзівіўся бедны брат, бо як гэта ў падоллі^ несці вугалле. Але ўсё ж такі ўзяў і падышоў да дзядка.

Сыпнуў той яму цэлыя прыгаршчы вугалля. Стары аж вочы зажмурыў ад страху, а калі адпяю; шчыў іх, то не паверыў сваім вачам: у яго быў поўны падол золата! Падзякаваў ён маленькаму дзядку, адкланяўся яму і вясёлы пайшоў у сваю хаціну.

З таго часу разбагацеў бедны брат. Купіў сабе карову, коней, пабудаваў вялікую хату. Сам прыкрыў свае косці. Здзіўляліся ўсе кругом, а больш за ўсіх яго багаты брат. І вось аднойчы не вытрымаў ён зайздрасці і прыйшоў да свайго брата. «Адкуль ты нажыў сабе такое багацце?» — пытаецца.

Брат яго быў простым, шчырым чалавекам. Вось ён і расказаў усё свайму багатаму брату, расказаў, як у тую ноч перад пасхай пайшоў у поле на аганёк, каб папрасіць вугальчык, і што з гэтага атрымалася. Закусіў ад злосці і зайздрасці губу багаты брат. І вырашыў зрабіць так, як яго некалі бедны брат.

Дачакаўся ён пасхі. І ў гэту ж ноч пайшоў прасіць у брата сярнічак. Прынёс той яму. Але ён шпульнуў іх аб падлогу і выскачыў на вуліцу. Узрадаваўся, калі заўважыў дзесьці далёка маленькі агеньчык. Пабег дадому, апрануў вялікі халат і пашыбаваў у поле. Падышоў да вогнішча, каля якога сядзеў маленькі-сівенькі дзядок. Падскочыў да яго багаты брат, як схопіць за бараду ды як закрычыць:

— Сып хутчэй мне золата ў падолле!

— Добра, — кажа дзядок. — Трымай!

І сыпнуў яму прыгаршчы золата. Толькі хацеў багаты брат завярнуць яго ў падолле, як золата, быццам жывое, паляцела па паветру. Закрычаў багацей і кінуўся хапаць золата, што пырхала ў паветры. Бегаў ён так, бегаў, пакуль з яго і дух вон.

## ПРЫПОЛ ЗОЛАТА

Вот жыла адна сям'я — бедна-бедна. Ну, саўсём не было чаго есці, ні чым запаліць. Але, як будны дзень, то ён пойдзе, папросіць у каго жару, У каго спічку возьме, прыйдзе, запаляць печку. А дачакаліся вялікадня — ужо не пазычаюць адзін другому. Ну, што ж рабіць. Выйшаў ён на двор, кажа бабе:

— Зварылі б якой заціркі, ды што ж, калі няма чым падпальваць. У людзей вялікдзень, усяго прырыхтавалі, а ў нас нават зацірку няма як зварыць.

Пахадзіў, пабедаваў. Тады глядзіць — за вёскай агонь гарыць. Кажа бабе:

— Пайду туды. Ужо што-што, а вугельчыкаў некалькі дадуць. Біць жа не будуць за гэта.

Узяў скрыначку маленькую і пайшоў. Аж там старычок сядзіць каля агню і два маладзейшыя. Ён пакланіўся і кажа:

— Знаеце, чаго я прыйшоў. Сёння вялікдзень — і нам ніхто нічога не пазычае, нічога не дае, а я б хоць заціркі паеў з бабай, ды няма чым агню развесці. Мо далі б вугельчыкаў колькі. Я ж ніякай варажбы не знаю.

Яны засмяяліся:

— Бяры.

Ён дастае скрыначку.

— Да не. Вось расцінай палу сваей бравэркі, насыплем.

То ён кажа:

— Вы са старога смеяцеся, згарыць. Яна ў мяне астатняя.

— Не бойся, не згарыць.

Насыпалі яму ў прыпол, проста ў палу. Прынёс ён дамоў і ў ямку на прыпеку, што даўней былі, пасыпаў, развёў агонь, зварыў зацірку. Зварыў зацірку, глядзіць, аж там не агонь, не вугаль, а золата. Поўная тая ямка золата насыпана.

Прыйшоў на другі дзень да яго другі стары, сусед, і будзе пытацца:

— Дзе ты гэтулькі золата ўзяў?

Ну, той і расказвае, што гэтак і гэтак было. Сусед думае, што трэба чакаць ужо другога вялікадня, бо на другі дзень не паможа. Чакаў, чакаў ён год, усё хадзіў да суседа. А той купіў і тое, і тое, і тое. Дачакаўся ўжо сусед другога вялікадня. Нічога не купляў. Чакае, пойдзе ўжо і ён туды. Выйшаў на двор, гарыць агонь. Пайшоў.

Прыходзіць. Сядзяць тыя ж людзі. А ён нічога з сабой не браў. Надзеў бравэрку добрую, прыбраўся. Думае: пакланюся і ўсе тыя ж словы перакажу.

— Ну чаго ты прыйшоў, бацька?

— Вот прыйшоў, вот свята, ніхто нічога не пазычае, няма як агню развесці. Хачу, каб вы мне вугальчыкаў колькі далі.

— Трымай палу, мы табе насыплем.

Гэты стары глядзіць — тое ж самае. Палу распрануў, яны яму насыпалі. Адышоўся ён там некалькі — гарыць! І бравэрка ўся гарыць, і сам гарыць! Абгарэў сам — чуць не канец было.

А баба як убачыла — вядро вады на гэтага дзеда прэ. Усе пазляталіся. А ён кажа:

— Шукайце суседа, я яму пакажу за тое, што мяне абмануў.

А той кажа:

— Я ж табе душы не пакажу, што сапраўды
гэтак было.

Ну, хто ж яму паверыць, што гэтак было.

## АДКУЛЬ УЗЯЛІСЯ КРОТ, ДЗЯЦЕЛ І ПАВУК

Было ў бацькі тры сыны. Калі ён паміраў, сказаў ім: «Жывіце так, як я жыў. Рабіце так, каб елі з мядком. Гаварыце тым, хто працуе, „бог у помач"». А сынкі як загулялі недзе, як зап'янстваваліся, дык і бацьку людзі без іх пахавалі. Пасля смерці яго на работу сыны ідуць позна, ядуць з мядком, нікому не гавораць «бог у помач».

За гэта бацька аднаму сыну даў кратом быць — яму капаць, другому дзятлам быць — труну збіваць, трэцяму павуком быць — адзежу шыць.

З таго часу павук тчэ павуціну — шые адзежу, дзяцел дрэва дзяўбе — труну збівае, крот норкі рые — яму капае.

## ПРА БОГА І ЧОРТА

У далёкія часы было толькі адно мора на зямлі. Бог і чорт хадзілі па паветру. І вось бог захацеў стварыць зямлю. Ён загадаў чорту апусціцца на дно марское і прынесці ў жменях зямлі. Чорт быў вельмі цікаўны і зараз жа пабег выконваць загад бога. Апусціўся ён на дно

марское і ўзяў зямлі. Набраў у рукі, а таксама поўны свой рот.

Вярнуўся да бога і аддаў пясок, які быў у жменях яго. Пясок жа, які быў у роце, пакінуў сабе. Бог узяў у рукі прынесены пясок, пахукаў на яго і стаў сыпаць па моры. Дзе сыпне пяском, там з'яўляецца суша. І вось зямля ўсё прыбывае і прыбывае.

Зямля ж, якая засталася ў чорта ў роце, таксама пачала прыбываць. Чорт пачаў пляваццa пяском з роту. Дзе бог сыпне пяском — там зямля.

Дзе ж чорт плюне — там з'яўляюцца балоты. Бог узлаваўся, што чорт нарабіў шмат балотаў, і загадаў яму высушыць гэтыя балоты. Чорт стаў працівіцца богу. Узлаваўшыся, бог сказаў, што спаліць чорта агнём. Пасля ўсялякай валтузні паміж сабою чорт і бог пачалі ўстаўляць напіткі. Бог прапанаваў зрабіць толькі піва і віно. Чорт жа хоча па-свойму — дабаўляе яшчэ і водку.

Пытаецца чорт у бога:

— Які будзе чалавек, калі як вып'е ўсе тры напіткі?

А бог адказаў:

— Калі вып'е першае — толькі павесялее. Калі вып'е два — толькі засмяецца. Калі ж вып'е ўсе тры напіткі, то зробіцца такі самы чорт, як ты.

## ПРА ЖАБРАКА І ПАНА

У адным маёнтку, ад якога цяпер не асталося ні аднаго каменя, жыў пан. Ён траціў вельмі многа грошай на прыгожыя ўкрашэнні свайго маёнтка, але бедным мала рабіў дабра. І вось аднойчы прыйшоў у маёнтак жабрак і папрасіўся пераначаваць. Пан горда адказаў жабраку:

— Гэты маёнтак — не гасцініца. Тады жабрак сказаў:

— Дазвольце мне задаць вам тры пытанні. Пан адказаў:

— Пытайся, колькі хочаш, я з вялікай ахвотай адкажу.

І жабрак спытаў:

— Хто да вас жыў у гэтым маёнтку?

— Мой бацька, — адказаў пан.

— А да яго хто жыў?

— Мой дзед.

Тады жабрак спытаў у пана, а хто пасля яго будзе жыць у гэтым замку. Пан адказаў, што яго сын. Тады жабрак сказаў:

— Калі кожны жыве ў гэтым маёнтку толькі свой час, а потым уступае сваё месца другому, то хто ж тады ўсе яны, як не госці? Лепш рабіць больш дабра беднякам.

Пан прыняў гэтыя словы да сэрца і даў пераначаваць жабраку.

## ПРА КАМЕНЬ КАЛЯ ВОЗЕРА

Гэта было даўным даўно. У адну вёску зайшоў аднойчы старэнькі дзядок. Быў ён вельмі бедна апрануты. За плячыма была торба. Дзед заходзіў у кожную хату, прасіў паесці. Але яму адмаўлялі. І вось на самым канцы вёскі, дзе стаяла старэнькая хатка, жанчына зжалілася над старым. Дала яму крыху паесці і сказала:

— Калі хочаш, дык пачакай. Я сёння пяку хлеб. Маленькую буханачку магу і для цябе спячы.

І яна палажыла на ток у печы невялікі кусочак цеста. Праз некаторы час жанчына пачала вымаць хлеб з печы. Кусочак цеста, які яна пякла для старога, вырас у прыгожую, вялікую буханку хлеба. Дзядок падзякаваў жанчыне за падарунак і сказаў:

— А цяпер хутчэй сабірайся і ідзі за мной. Толькі глядзі: ідзі і не аглядайся. Ты будзеш чуць плач, стогны, крыкі, але не аглядайся. Калі ты аглянешся, то я табе не змагу больш дапамагчы.

І яны выйшлі з хаты. Наперадзе ішоў дзядок, а за ім жанчына з дзіцём на руках. Адышоўшы недалёка ад вёскі, жанчына раптам пачула плач, крыкі, стогны. Яна не магла ўстрымацца, каб не паглядзець, што робіцца ў іх роднай вёсцы. І яна аглянулася. Убачыла і зжахнулася ад страху: уся вёска была заліта вадой. Вада падымалася ўсё вышэй і вышэй. Дзядок казаў, каб яна не аглядалася, бо і з ёю здарыцца бяда. Але яна не вытрымала, аглянулася і — акамянела.

Вось і да сённяшніх дзён каля дарогі стаіць камень, на якім ясна вызначаюцца партрэт жанчыны з дзіцём. А непадалёк ад гэтага каменя знаходзіцца возера. Возера вельмі глыбокае. Вада ў ім чыстая і вельмі халодная.

## «ТАКА ВОЛЯ БОЖА»

Адзін чалавек ішоў у горад. Па дарозе яму сустрэўся другі чалавек, і яны пайшлі разам. Падарожнікі заначавалі ў аднаго гаспадара. Раніцай яны пайшлі далей. Адзін з падарожнікаў украў

кухаль з віном. Калі другі запытаўся, чаму ён гэта зрабіў, то ён адказаў: «Така воля божа».

Яны ізноў пайшлі далей. І другая ноч застала іх у падарожжы, і яны ізноў спыніліся на начлег. Раніцай чалавек запаліў гумно. Калі яны адышлі далей, другі ізноў запытаўся, чаму ён так зрабіў. Адказ быў такі: «Така воля божа».

Падарожнікі пайшлі далей. І ізноў яны заначавалі. Раніцай сын гаспадара праводзіў падарожнікаў далей. Па дарозе быў мост. Чалавек скінуў хлапца ў ваду. І на запытанне, чаму ён так зрабіў, адказаў: «Така воля божа».

Недалёка ад горада яны развіталіся, але перад гэтым першы чалавек расказаў другому, чаму ён увесь час гаварыў «така воля божа». «Па-першае, — сказаў ён, — у кухалі віно было атручанае. Па-другое, чалавек, у якога я спаліў гумно, на тым месцы знойдзе скарб і стане багатым. І патрэцяе, тое дзіця, што я скінуў у ваду, стала б бандытам і прынесла б многа гора сваім бацькам».

Адразу ж гэты чалавек знік.

## УСІМ ЗАДАВОЛЕНЫ

Адзін князь захварэў праказай. Дактары ніяк не маглі яго вылечыць, ён сам ім усім надаеў. І вось яны сказалі, каб ён знайшоў такога чалавека, які ў жыцці не мае недастатку, усім задаволены, і ўзяць з гэтага чалавека ніжнюю кашулю і тады надзець яе на князя. Пасля гэтага пройдзе і праказа.

Князь разаслаў па ўсяму свету сваіх ганцоў. Дзе толькі яны не былі! Каго толькі яны не пыталі! Але ніяк не змогуць знайсці такога чалавека. Ва ўсіх нечага не хапае: то грошай мала, то працы няма, то яшчэ нечага не хапае. І вось калі яны ўжо з нічым ехалі да князя, то ўбачылі свінапаса. Ён ляжаў пад кустом арэшніку і весела насвістваў.

— Можа ў гэтага спытаем? — запытаў адзін ганец.

— Ну, што ты! Не ў такіх былі, і то чаго-небудзь не хапала, а ў гэтага і падаўна, — сказаў другі і ўжо сабраўся ехаць далей.

— Усё ж я запытаю яго, — сказаў першы. Падыходзіць да свінапаса. Глядзіць на яго і кажа:

— Слухай, хлопча. Ці ўсё ёсць у цябе? Табе нічога не патрэбна? Ці ўсім ты задаволены?

— О, усім. Нічога мне не патрэбна. Я — свабодны чалавек.

— Дык дай, калі ласка, нам сваю ніжнюю кашулю, мы табе добра заплацім.

— А ў мяне яе няма. Яна мне і не патрэбна. Паглядзелі на яго ганцы і паехалі ні з чым.

## КУПЛЕНАЕ СЛОВА

Ехаў адзін купец дамоў. Захацелася яму есці. Бачыць: стаіць пры дарозе карчомка. Ён і думае: «Дай зайду туды. Можа што-небудзь паем?»

Забег ён у карчму. Бачыць: а там нічога няма. І спытаў ён у гаспадара, чым ён таргуе. А гаспадар карчмы яму адказвае:

— Словам таргую.

— Як гэта? — здзівіўся купец. — Колькі год жыву, а яшчэ ніколі не чуў, каб словам таргавалі.

А гаспадар яму і тлумачыць:

— А гэта значыць, тое, што можна зрабіць заўтра, не рабі сёння.

Падумаў купец, ды і купіў слова, заплаціўшы за яго вялікія грошы. Прыязджае ён дадому і бачыць, што яго жонка абдымаецца з нейкім чалавекам. Спачатку ён хацеў забіць яе, але потым успомніў пра купленае слова: «Не рабі сёння тое, што можаш зрабіць заўтра».

А калі купец угледзеўся ў таго чалавека, то пазнаў у ім свайго роднага сына. Гэта прыехаў да іх у госці сын.

## ШТО І ЗА МІЛЬЁН НЕ ПРАДАЕЦЦА

Было гэта даўным-даўно. У адным сяле жыў багаты пан. Ён быў заўсёды злосны і хмуры. У яго жыў вясёлы і добры кравец. Цэлы дзень ён працаваў на пана, шыў яму адзенне, але ніколі не сумаваў. З акон яго каморкі заўсёды чуліся песні. Слугі пана зрэдку прыбягалі паслухаць яго.

І вось аднойчы пра гэта даведаўся пан. Ён яшчэ больш раззлаваўся, загадаў прывесці краўца і сказаў, што яму надаела слухаць яго песні, што яны нікому не патрэбны, таму што не прыносяць багацця. «Я дам табе, — кажа, — мільён, толькі ты перастань спяваць».

У краўца ніколі не было столькі многа грошай, і ён вырашыў,

што сапраўды грошы лепш, чым песні, і ўзяў іх. Прынёс кравец грошы дамоў і не ведае, куды іх схаваць. Цэлую ноч думаў, што з імі зрабіць, дзе іх дзець. Не было яму спакою і другі, і трэці дзень. А ў гэты час у маёнтку пана сумавалі ўсе, не чуваць было больш песень. Не выцерпеў кравец, на чацвёрты дзень занёс ён пану грошы і сказаў яму, што за песні і за сон ён не хоча і мільён.

## ЧАМУ КОТ ПАСЛЯ ЯДЫ МЫЕЦЦА

Злавіў кот мыш. А мыш ды і давай у яго прасіцца, каб ён пусціў яе на волю. А кот не пускае. Тады мыш давай хітраваць. Яна і кажа кату: «Коцік, усе людзі перад ядой мыюцца. А ты сягоння яшчэ не мыўся. Памыйся, а тады сабе і з'ясі мяне». Кот давай лапамі мыцца, а мыш глядзела. Як ён толькі падняў лапы мыцца, хутка ўбок шморг, і даганяй яе.

Пасля таго выпадку ўсе каты мыюцца пасля яды.

## ПРЫМХЛІЦЫ

Прымхліца (ад слова — прымха) — гэта невялічкае вуснае апавяданне аб нейкім незвычайным, цудадзейным і, як правіла, «страшным» здарэнні, удзельнікам ці сведкам якога нібыта быў сам апавядальнік або добра знаёмы ці нават блізкі яму чалавек. Якія ж гэта такія страшныя, цудадзейныя здарэнні? Ну, скажам, сустрэча з нячысцікам (чортам ці ведзьмай), з вурдалакам (нябожчыкам, які выходзіць з магілы), з дамавіком, са змяіным царом, з русалкаю і з іншымі падобнымі міфічнымі істотамі — прадстаўнікамі гэтак званай ніжэйшай народнай дэманалогіі.

Вытокі гэтага цікавага, самабытнага жанру апавядальнай вуснапаэтычнай творчасці тояцца ў глыбокай даўнасці, у пэўных асаблівасцях старажытнага светапогляду, у дахрысціянскіх язычніцкіх уяўленнях. Асновай для яго ўзнікнення і далейшага развіцця паслужыла вера чалавека ў існаванне надпрыродных сіл, у магчымасць розных чарадзейна-магічных пераўтварэнняў, дзівосных праяў і цудаў. Перажыткі гэтай веры^ трымаліся ў жыцці беларускага селяніна досыць доўга, а сярод людзей набожных, старых і малапісьменных у нейкай меры захаваліся і да нашых дзён.

Да нядаўняга часу прымхліцы як жанр фальклору ў беларускай навуцы аб народнай творчасці зусім не разглядаліся. Не мелі яны ў нас і свайго ўласнага афіцыйнага імя. У рускай фалькларыстыцы за гэтым жанрам «суеверных рассказов» з пэўнага часу замацавалася назва «былічка». Ёсць спробы і ў беларускай навуковай літаратуры ўвесці ва ўжытак гэты ж тэрмін. У народзе ў многіх мясцінах Беларусі вусныя апавяданні падобнага роду называліся і называюцца проста «страхамі». Як навуковы тэрмін назва «страхі» наўрад ці можа быць прымальнай, хоць у ёй і адлюстравана характэрная асаблівасць зместу гэтых твораў. Думаецца, што нельга прызнаць удалай і назву «былінка», якая паходзіць ад слова «быль», што падкрэслівае рэальнасць таго, аб чым у творы расказваецца. Аднак жа гаварыць пра рэальнасць сустрэчы з нячысцікам або нябожчыкам не прыходзіцца, кожнае такое апавяданне — несумненна, плод фантазіі, пэўным чынам настроенай дуты чалавека. А менавіта — гэта плод фантазіі людзей прымхлівых, схільных тлумачыць некаторыя дзіўна-загадкавыя сітуацыі і здарэнні ў сваім жыцці або ў жыцці блізкіх, знаёмых умяшаннем надпрыроднай сілы, прыпісваць іх наканаванасці лёсу, бачыць у іх здзяйсненне «прарочых» сноў, вынікі ўздзеяння чараў, насланых чараўнікамі і інш. Вось чаму, на наш погляд, найбольш дакладнай для гэтых вусных апавяданняў назвай

будзе «прымхліца»: усе яны, без вынятку, звязаны з такою з'явай светапогляднага парадку, як прымхлівасць. У гэтым — іх галоўная вызначальная рыса.

У прымхліц шмат агульнага з легендамі і з казкамі і з некаторымі паданнямі (напрыклад, аб заклятым скарбе). І ўсё ж яны маюць зусім адметную сваю ўласную жанравую фізіяномію. Цудадзейныя, нерэальныя персанажы прымхліц — гэта не бог і не хрысціянскія святыя, як у легендах, і не баба Яга ці Кашчэй, як у казках, а — істоты язычніцкай славянскай міфалогіі, такія як дамавік, вадзянік, русалка, лясун, змяіны цар, вурдалак, ваўкалака (пярэварацень), нячысцік, ведзьма. Або нават нейкі «дух» наогул, зусім няпэўны — нейкая здань, прывід, мара, цень. У прымхліцах шмат загадкавага, містычна-таямнічага, да жудасці страшнага — Іў той жа час усё гэта падаецца ў стылі і форме бытавога апавядання з уласцівымі яму канкрэтнымі жыццёвымі рэаліямі, што надае расказу магію праўдападобнасці. На яе ж, гэту магію, працуе і манера апавядальніка гаварыць ад свайго імя або ад імя таго, каму, маўляў, трэба верыць — ён хлусіць не можа («мама расказвала...», «дзед мне гаварыў, што яшчэ як ён быў малы...»). Устаноўка на праўдападобнасць — адна з асноўных функцыянальна-эстэтычных асаблівасцей прымхліц. Да таго ж яны вызначаюцца зайздроснай сцісласцю, дынамічным разгортваннем сюжэта, нечаканасцю развязкі (як правіла — трагічнай), эмацыянальнай і вобразнай гутарковай мовай. Вось чаму вартасць прымхліц трэба бачыць не толькі ў тым, што яны з'яўляюцца цікавым матэрыялам для характарыстыкі светапогляду і побыту нашых дзядоў і прадзедаў, але і ў тым, што яны, пры ўсёй наіўнасці зместу, прыносяць нам як творы мастацтва пэўную эстэтычную асалоду.

## ХАДЗІЛІ РАНЕЙ ЧЭРЦІ

Хадзілі раней чэрці. Ей-жа богу праўду кажу — хадзілі! Была я маленькай. Бацькі пайшлі ў другую вёску на хрэсьбіны і мяне ўзялі. Вярталіся позна вечарам. Іду я задам. Бачу: цялё ляціць.

— Мама, што гэта за цялё?

А яна кажа:

— Ідзі ціхенька і маўчы.

І праўда, прывяло яно нас у сяло. А гэта было ў дванаццаць гадзін ночы.

А вось яшчэ які выпадак быў. Пайшла я на могілкі ўночы. А за мной кот. Вялікі, як сабака, чорны з белай шыйкай. Я на яго замахнулася, а ён скрывіў галаву ды: «Мяў! Мяў! Мяў!» Тры разы мяўкнуў. Спалохалася я, дастала крэсцік і перахрысціла яго. І дзе ён толькі дзеўся. Хадзілі раней чэрці, праўду кажу — хадзілі.

Пралі мы кудзелю ў хаце з дзяўчатамі. Папрыходзілі нейкія хлопцы. Прыгожыя. На вопратцы гузікі блішчастыя. Селі каля нас і не даюць нам прасці. Завуць нас: «Пойдзем, дзеўкі, пойдзем на вуліцу». У мяне верацяно звалілася, я нагнулася, каб падняць яго, аж бачу: у іх замест ног лапы. Я паказала дзеўкам. А яны ўсё клічуць нас на вуліцу. А мы не йдзем. Тады яны як свіснуць! Яблыкі ўсе пападалі, салома са стрэх павылазіла.

## НА КУЛЁВЫМ БАЛОЦЕ

Назва Кулёва балота ўтварылася ад таго, што тут сяліліся кулікі.

...Кажуць, быў у нас на вёсцы адзін заядлы паляўнічы. Клікалі яго Мішка. Дык вось ён гэтак ужо любіў паляванне, што не мог нават падоўгу займацца гаспадарскімі справамі. Браў стрэльбу на плячо і ў лес.

Неяк пайшоў ён гэтак пасля палудпя на паляванне. Да таго заняўся, што не прыкмеціў, як наступіў вечар. Спахапіўся, што ў лесе стала цемнавата. А назад яму трэба было ісці праз балота.

Ну, вось дайшоў ён да сярэдзіны яго, як бачыць: ідуць яму насустрач трое, такія паляўнічыя, як і ён. Стрэльбы ва ўсіх за плячыма. Павіталіся яны з ім і пытаюць:

— А што, чалавеча, ці добра твая стрэльба страляе? Ці зможаш ты папасці вось у гэта дрэва?

Мішка зняў стрэльбу з плячэй, прыцэліўся і выстраліў. І гэтак ён

рабіў тройчы, колькі прасілі незнаёмцы, і ўсё міма.

Тады выстраліў адзін з незнаёмцаў столькі ж разоў, што і Мішка, і ўсе тры разы папаў.

І прапанаваў тады незнаёмец, бачачы Мішкава расчараванне, мяняцца стрэльбамі. Мішка з радасцю памяняўся і нават трыццаць рублёў грашыма ў дадатак даў незнаёмцу. Прыйшоўшы дамоў, павесіў на цвічок у сенцах стрэльбу, павячэраў і лёг спаць.

Раніцай, пасля снедання, выйшаў у сенцы паглядзець стрэльбу, а заадно пахваліцца перад аднавяскоўцамі. І якім было яго здзіўленне, што замест стрэльбы на тым цвіку вісеў лук. Мішка да жонкі: ці не брала яго стрэльбы? Тая адказала, што не.

І вось тады ён скеміў, што сустрэў у балоце не людзей, а нячыстую сілу. Ён чуў ужо пра здарэнні ўсякія там з іншымі людзьмі.

Пабег на тое месца, дзе сустрэўся ўвечары з незнаёмцамі. Бачыць: ляжыць пад дрэвам яго стрэльба, а побач яго трыццаць рублёў. Стаў аглядаць дрэва, у якое тройчы папаў незнаёмы, а там толькі тры свежыя зарубіны ад тапара.

## У ДАРОЗЕ

Было гэта на зыходзе лета. Паехалі мужык з жонкай на луг. Цэлы дзень касілі, сушылі, варочалі траву, а надвячоркам сталі нагружаць воз дадому завезці. Пакуль нагрузілі, сцямнела. А дарога іх дамоў ляжала праз балота.

Вось праехалі яны трохі, як чуюць: недзе вяселле гуляюць. Спачатку падумалі, што ў суседняй вёсцы, але неўзабаве насустрач ім з'явіліся людзі: з гармонікамі ў руках, з вясельнай песняй на вуснах. І сталі гэтыя людзі запрашаць іх з сабой. Тыя пачалі адмаўляцца, што стаміліся, у гразнай адзежы, што ногі іх мокрыя, але незнаёмцы гэтак ветліва запрашалі, што яны згадзіліся і паехалі з імі. Ехалі нядоўга, незнаёмцы частавалі іх гарэлкай, рознымі стравамі. Прыбыўшы на месца, як ім падалося — у вялікае сяло, у якім яны ні разу не былі, незнаёмцы лагодна звярталіся да іх, паздымалі мокрыя боты, павесілі анучы сушыць.

І так ім было хораша, што не заўважылі, як паснулі. Прахапіліся тады, як сонейка ўжо было высока. Адчынілі вочы і зжахнуліся: яны былі ў такой багне, што нават не ведалі, як выбрацца. Зірнулі па баках, шукаючы боты з анучамі, а тыя воддаль вісяць на страшэнна высокім карчэўі, што і дастаць немагчыма.

Чуць выбраліся тады гэтыя людзі з балота.

## МАЦІ

Не ведаю, ці праўда то было, але мусіць праўда. Усё сяло гаварыло пра гэто.

Я быў тады падлеткам. Трынаццато лето прыйшло маё. І вот — купальская ноч. Мы, падлеткі, сядзелі ўбаку, на прыгорачку, і ўсё добра адтуль было відно. А ўжэ самастаяцельныя хлопцы з дзяўчатамі гулялі: скакалі, спявалі, вілі вянке, пасля ў раку кідалі іх. Пасля разлажылі вогнішча і пачалі перадзыгваць яго. Вот тут было смеху, жартаў, дзявочага віску. Усе раздурэліся, рашчырванеліся, а ў вачах адбіваўся агонь, і здавалася, што гараць маладыя вочы.

Толькі Ваня, худы, выцвілы, сядзеў і сумно паглядаў на языкі агню. І думаў, відно, кепска аб людзях, аб гэтых візках. Людзі яго не любілі з-за мацеры. Казалі, што яна ў яго ведзьма. Адна Ганулька яго папраўдзе любіла. Усё яму аддала, што можа аддаць дзяўчына. А маці Вані не давала ім разам жыць. Яны самі тады сышліся і жылі. Але злыдні сярод людзей ёсць. Пачалі разносіць: «Гэта чэрці. Без вянцу, не па-людску сышліся». Сышліся не сышліся, а ўжэ з пузам цягаецца. І ніяк яе не звалі, як баба чаравата. Мала, што людзі так адносіліся, дык дома няшчасце за няшчасцем: памёр бацька Ганульку а маці яе сіратой пакінула яшчэ ў гадкоў пяць, а тут пачалі здыхаць свінні, здулася і лопнула карова, захварэла і сканала ка былка, — усё хазяйства развал і ласё. Ваня захварэў. Ганулька не выдзяржала ўсяго гэтаго і ўмярла. Ваня сам зрабіў труну і ноччу пахаваў сам яе. Дзён чатыры не адыходзіўся ад магілы, а пасля часта людзі бачылі там яго.

Каля кастра купальскай ночы ён незаметны сядзеў. Слухаў вяселле купалля. А калі яму сказала злая на язык дзяўчына, якая любіла яго, што твая ведзьма калдуе недзе ўжэ, ён устаў і пайшоў на магілу да Ганулькі. З ёю, мёртваю, яму лепш, чым з жывымі злыднямі.

Ішоў ён дарогаю, якая праходзіла праз жыта. А тут, кажуць, бяжыць на яго нейкая кабета. Сама голая, як маці радзіла, чорныя даўгія валасы распушчаны. Ваня прысеў у жыце, каб схавацца ад яе, аж яна ўжэ над ім. Ахапіў яго страх. Ён схапіў камень і ў голаў ёй. Папаў у скронь і забіў. Сам перахрысціўся і дахаты вярнуўся.

Лёг, накрыўся з галавою, але так і не заснуў у гэту нон. Світала ўжэ. Бацька ўпраўляўся адзіш Ваня паглядзеў на ложак, дзе спала маці. Ён быў пусты. Нядобрая дума закралася ў голаў.

І адным бягом пабег на тое месца, дзе забіў учора кабету тую. Глянуў — а гэта яго маці.

Што з ім пасля было, не знаю. Кажуць, што знайшлі яго мёртвым на магіле Ганулькі. Там яго разам і пахавалі.

## НОЧЧУ У ГУМНЕ

Быў я тады маладым. Прыйшоў з танцаў пад раніцу і, каб не будзіць сям'ю, пайшоў у гумно і думаю: задрамлю трохі ды ў поле пайду. Меў я моду летам спаць у сене, дык у мяне там і падушка ляжала і коўдра. Толькі гэта лёг я, як чую: нехта ідзецъ па сене. Я абазваўся — ціха. Ну, думаю, падалося. Толькі гэта я лёг зручней, як коўдру маю — як ветрам здуло. Адразу я падумаў, што брат пажартаваць захацеў. Вылаяўся, знайшоў у нагах коўдру і зноў лёг. Ужо і сон мяне не бярэць. Прайшло мінут колькі, як мая коўдра — мах! — і ў нагах ачалася. Не ўцерпіў я, выйшаў з гумна і пайшоў дамоў. Аж брат спіць, і ўсе спяць. Пасля таго я не хадзіў у гумно спаць.

## ВЕДЗЬМА

Помню, пасвілі мы неяк ноччу коней. Нас, падлеткаў, было чалавек пяць, і быў з намі дзядзько Адась. Ён вельмі добра і цікава расказваў. І ў тую ноч мы сядзелі, а ён нам разныя страхі гаварыў. А адзін хлапчук, Міця, і кажа:

— Пачакай, дзядзечка, я зараз вярнуся.

Дзядзька засмяяўся ў вусы:

— Што, ужэ поўныя ганавіцы ад страху?.. Ну, добра, добра. Бяжы, пачакаю. За горку бяжы.

Прыбег Міця ўвесь белы, як палатно, парткі трымае ў руках, забыўся ад страху падшпіліць і крычыць немым голасам:

— Ах, дзядзечка, там, у Тэкліным збожжы, куклы дзве звіты, каса сплецена і на ўсход сонца заломана.

Дзядзька засмяяўся і кажа:

— Хлопцы, хочаце ведзьму пабачыць? Раскладайце вагонь, паглядзімо зараз ведзьму, за вуглём прыбяжыць.

Хлопцы мігам сабралі сякога-такога галля, сухое травы, запалілі.

А дзядзька Адась з Міцькам ужэ нясуць куклы і касу. Кінулі ў агонь, а яно як затрашчыць, як пыхне. Тут бачым, бяжыць цётка Парася. Вельмі прыветлівая заўсёды з усімі. А на гэты раз падбегла да вогнішча, плюнула на руку, ага, плюнула, схапіла гарачы вугаль і пабегла назад.

— Ну, бачылі ведзьму, — гучна зарагатаў дзядзька Адась ёй услед.

А мы маўчалі. Ніхто і не думаў на яе. Яна добрай вельмі была.

## «ПАНІЧЫ» Ў ЛАЗНІ

Раней пралі кудзелю. Пасылае мачаха падчарку кудзелю прасці ў лазню ноччу. Пайшла падчарка і пачала прасці.

Паявіліся панічы ў плашчах, разадзетыя. Танцуюць, прыглашаюць яе патанцаваць. А яна ведала, што гэта нячыстая сіла. Сказала: «Я гразная, прынясіце вады». І дала ім рэшата. Насілі яны ваду, насілі. Але запеў певень, дык яны і зніклі. Засталося іх багацце падчарцы.

Стала завідна мачысе, што столькі багацця ў яе падчаркі. Пасылае яна тады сваю дачку. Кудзелю дала ёй лепшую.

Зноў з'явіліся панічы. Пачалі плясаць і гэтак, і так. Прыглашаюць дзяўчыну. А яна кажа: «Мне трэба памыцца». І дала ім кружку. Прынеслі панічы вады, мыюць, шаруюць дзяўчыну. Косці вытраслі, а скуру павесілі.

Прыходзіць раніцай маці, бачыць: косці. Чакала яна дачку, а яе нячыстая сіла выкалаціла.

## ВУЗЯЛОК ДЛЯ НЯВЕСТКІ

У адной старой жанчыны была дачка і нявестка. Жанчына сабірала ногці і складвала за іконай. «Калі я памру, — сказала яна нявестцы, — то праз тры дні прыдзі на магілу і ўкапай пад крыж гэты вузялок». Нявестка сказала пра гэта дачцы. І калі памерла маці, дачка ўзяла вузялок з ногцямі і пайшла праз тры дні на магілу. Толькі ўкапала вузялок пад крыж — адразу і ўпала мёртвая.

## ПАМАГЛА ВАРАЖБІТКА

Гэта было яшчэ даўно. У аднаго чалавека ўміралі ўсе дзеці. Ён нічога не мог зрабіць. Калі радзіўся ў яго сёмы сын, ён звярнуўся да варажбіткі. Тая сказала: «Сын твой утопіцца ў сем гадоў. Гэта здарыцца тады, калі ён будзе плакаць, шукаючы панчошку, а на адной назе будзе дзве. Але вы павінны зрабіць вось што...» І яна ціхонечка дала параду.

Прайшло сем гадоў. Заплакаў аднойчы хлопчык, шукаючы панчошку. Паглядзеў бацька: аж на адной назе дзве! Павыліваў ён з хаты ўсю ваду (а хлопчык вельмі прасіў піць), замкнуў, і пайшлі яны з жонкай да рэчкі. Падыходзіць, аж бачаць: выскачыла з вады высокая, чорная, з доўгай касой жанчына і крыкнула: «Ёсць ды не мой!». Затым знікла.

А хлопчык вырас, жаніўся і пражыў доўгія гады.

## ЛЁН ВЫРАТАВАЎ

Жыла красівая дзяўчына, і яна хацела выйсці замуж за багатага, але ніхто не сватаўся да беднай. І вось аднойчы к гэтай дзяўчыне прыехаў багаты пан на вараных конях. Ён быў прыгожа адзеты: увесь у злоце. І гаворыць: «Што, паправіўся я табе, Алеся?» Дзяўчына пачырванела і кіўнула галавой. І насыпаў малады пан золата поўны куфар, а дзяўчына не бачыла, што гэта не золата, а вуголле. Тады яны селі на коней і паехалі к яму ў палац. Коні ляцелі, як бы ў іх сядзела нячыстая сіла. І толькі цяпер дзяўчына ўбачыла пад сюртуком у маладога пана хвост. І здагадалася яна, што гэта не пан, а чорт. Тады выскачыла яна з карэты і схавалася ў лёне. А чорт і кажа: «Лён, лён, аддай дзяўчыну». А лён падумаў, і стала жаль гэтай дзяўчыны, і гаворыць, што ён аддасць дзяўчыну пасля таго, як раскажа ўсю сваю біяграфію. І стаў лён расказваць, як цяжка было араць поле аратаму, а потым баранаваць і сеяць. Як жанкі палолі яго. Потым, як яго рвалі і састаўлялі ў кучкі. Потым, як вазілі яго на ток і абівалі, як яго пасля часалі і мялі, як з яго кужалю пралі ніткі, як ткалі, як палотны адбельвалі, як вопратку з палотнаў шылі і што носяць яе мужыкі бедныя.

І пакуль лён расказваў пра сваю біяграфію, ужо запелі трэція петухі, і чорт знік. Пасля таго выпадку дзяўчына больш не шукала багатага пана, каб выйсці замуж.

## «ПАСМЯЯЛІСЯ»

На Купалле пайшлі мальцы шукаць золата. Заходзяць к аднаму свайму дружку і гавораць:

— Пайдзём сачыць золата.

А ён гаварыць:

— Не, не пайду. Бог дасць і ў акно падасць.

Хлопцы сабраліся і пайшлі хадзіць, і нічога не нашлі, толькі лапці стапталі.

Ідуць яны дамоў і відзяць: ляжыць сабака здохшы. Мальцы рашылі пасмяяцца каля свайго дружка і гавораць: «Ну, мы яму ўчудзім». Забралі здохлага сабаку, ідуць і рагочуць. Падышлі к ягонаму дому. Акно было адчынена. Раскруцілі яны сабаку за ногі ды як шпурнулі ў акно! Толькі забражджэла тамака. Думаюць мальцы: «Ну, нарабілі бяды, паглядзім, як ён удзень заўтра рад гэтаму золату будзе. Напэўна, у доме ўсю пасуду перабілі: такі звон стаяў». Пагаварылі, пасмяяліся мальцы і разышліся па хатах.

А дзела было саўсём не так, як думалі мальцы. Звінела не пасуда пабітая, а рассыпалася па ўсёй хаце золата. Гэты сабака распаўся на золата. Устае назаўтра раніцай хлопец і глядзіць — а ў яго поўная хата золата! Абрадаваўся ён такому багаццю. Сабраў ён усё золата і сядзіць спакойна.

Дружкі прыйшлі да яго і пытаюцца з усмешкай:

— Ну як, бог дае табе шчасце, а можа — золата?

Адказаў ён дружкам:

— Ды нічога сабе. Даў столькі, што цэлы век свой буду ў золаце купацца.

Не паверылі мальцы дружку, зарагаталі і пайшлі дамоў. А хлопец пусціў у абарот золата і стаў багатым купцом. Стаў жыць-пажываць і дабро нажываць.

## ЧАРОЎНЫ АБРУЧ

Людзі расказваюць пра такое здарэнне на Купалле.

Аднойчы на Купалле ішоў мужык па полі, дзе кароў пасуць, і нёс абруч. Раптам ён убачыў голую жанчыну-чараўніцу, якая бегала па каровіных слядах і цягала траяку. Мужык прыгледзеўся і ўбачыў, што гэта трапка — цадзілка. Калі чараўніца знікла, мужык стаў абручом вадзіць па слядах чараўніцы. Ён прыйшоў дадому, павесіў абруч на

сцяну, а сам лёг спаць, нічога не сказаўшы жонцы. А жонка ўвайшла ў хату і ўбачыла, што з абруча малако цячэ. Старыя гавораць, што гэта чараўніца адбірала малако ў кароў.

## ПА ДАРОЗЕ З БРОВАРА

Гэта было каля вёскі Беніцы. Мой брат рабіў на бровары. І быў ён старшы рабочы. Ну і пасля работы ішоў дахаты. Але пайшоў не па вёсцы, а проста па загуменнях. І вось там было такое месца, якое называлася Чэрціцай. Туды выносілі смецце, было балота. І там людзям з'яўляліся прывіды. Вось і ён ішоў, стаміўся і рашыў сесці аддыхнуць. І раптам яму здалося, што выйшаў паніч і просіць яго памяняцца люлькай і капелюшом. І брат мой згадзіўся. Прыходзіць ён дамоў, а ў яго на галаве старая міска, а ў руках корч. Назаўтра прыйшоў ён з жонкай на тое месца, дзе адпачываў, а там ляжаць каля пня яго капялюш і люлька.

## НАЧНАЯ ГОСЦЯ

Першы мой сын памёр. Было яму паўтара годзікі, як памёр. Я ўжо тагды другім хадзіла. Радзілася ў мяне дзевачка. Як радзілася, як крыкнула першы раз, то тры гады я не бачыла спакойнай ні ночы, ні дня. Тры гадочкі ўсе ночы на руках з мужыком наперамену пракалыхалі яе. Думала, што жыць ужэ не будзе.

Раз мужык мой быў у начной змене. І якраз тады так ужо нядобра было маёй Алцы, што я не знала, што і рабіць. А потым узяла яе да сябе на кравать, а яна прыціхла і заснула. А я ляжу, не сплю. Ноч месячная, светлая. У хаце відна, як днём. Мама мая ў задняй хаце на печы ляжала, а я ў зале была адна з дзіцем. Чую: нехта ідзе па хаце. Чую, як ступае, як дзверы адчыняе, як па залу ідзе. Дык я думала, што гэта мама мая злезла з печы ды ідзе сюды на пасцель спаць. Паглядаю, а шырма расхінаецца і нейкая жанчына стаіць. Страшная-страшная! Косы распушчаныя, доўгія, ніжэй пояса, чорныя-чорныя, а сама зубатая, зубы гэтыя белыя! І яна: «Гы-гы-гы» — ды рукі прама да маёй Алкі. Я хачу крыкнуць, а голас прапаў. А пасля як крыкну нема: «Ма! Ма-ма!!» Яна тагды зір на мяне і — нібы спужалася ды назад. Як стукне кацюшкамі (шырма была на кацюшках) — і ўсё. Толькі шырма калышацца. Тут мама мая бяжыць.

Яна чула, як я крычала, ды спрасоння з печы, чуць не ўбілася. Думала, што Алка ўжэ мая памерла. Насілу з перапуду сярнічкі знайшлі ды лямпу запалілі. Я расказала маме, што было. Яна кажа, што і яна чула, як хтосьці па хаце хадзіў. Дык яна думала, што гэта я хадзіла.

Як не ўзяў мяне сон пасля гэтага, ды як не ўзяў… А тут нехта ў вакно стукае. Мама пайшла адкрываць. А то прыйшла суседка, каб на вяселле ішлі. Я не хацела вельмі ісці: хіба ж мне тагды вяселле было ў галаве, калі дзіця пры смерці ляжыць. Але яна расплакалася. Прышлося мне ісці. Прыйшла, сяджу. Кусок хлеба ў горла не ідзе. Аж падыходзіць да мяне бабка Мадзярыха.

— Чаго ты, Сонька, сядзіш такая?

Я і расказваю ёй усё, ды плачу, плачу. А яна паслухала мяне ды кажа:

— Не плач, Сонька, не памрэ твая дзевачка. То яе хвароба прыходзіла! Будзе твая Алка папраўляцца пасля гэтага.

І праўда, стала мая Алка папраўляцца з таго дня.

## ПОЗНА Ў ЛЕСЕ

У нашым лесе, у Гайгуці, штосьці такое прадказвалася. Хто ідзе позна — бачыць: то заяц перад ім бяжыць, то на кані нехта едзе. Хто зацікавіцца гэтым і ідое, то яго гэта можа завесці куды і не ўздумаеш. І людзі баяліся і асцерагаліся хадзіць па адным.

## СЛЕДАМ ЗА «САБАКАМ»

З вёскі Барташэ дзядзька Станіёль, Паўлюка прадзед, ішоў дадому. І на Качановым балоце сустракае яго сабака іхні Рабчык. А ўжэ было цёмна, і дзядзька абрадаваўся сабаку. «Ай ты маладзец, бач, дзе ты мяне сустрэў!» — кажа ён. А сабака гэты падскаквае, забаўляецца. Дзядзька ідзе сабе за ім і ідзе. Потым аглядзеўся кругом — не пазнае месца, але нічога — далей ідзе. Падышоў да лесу, залез на пень, раздзеўся і заснуў, як бы ў сябе дома на печы. Рана прачнуўся, глядзіць — а ён зайшоў за пяць кіламетраў ад дому.

## НЕЗНАЁМАЯ З-ПАД БЯРОЗЫ

Дзядзька Ігнась, як быў малады, ішоў неяк з суседняй вёскі Аханяны з гасцей дадому. А не ведаў таго, што ў іх дома нарадзілася авечка. Ужэ ўвайшоў у сваю вёску, каля Пулюджуявай хаты з-пад бярозы выходзіць жанчына і кажа на яго: «А маё ты дзіцятка, чаго ты так позна ходзіш адзін? І не баішся?» А на яго як найшоў страх, бо цёткі гэтай ён не ведаў, дык ён давай уцякаць. Бяжыць і ног пад сабой не чуе. А дома, як на тую бяду, дзед забраў авечку ў хату, бо на дварэ было холадна і ён баяўся, каб авечка не змерзла. Прыбег той хлопец дадому, ні адных дзвярэй не пазакрываў. А ў гэты час авечка забляяла. Дзед кажа: «Бяры, бяры яго!» А хлопец гэты як закрычыць: «Ай-яй-яй!» — і ходу з хаты.

На раніцу ледзь адшукалі яго. А ён аж не мог гаварыць са страху.

## МУЖЧЫНЫ Ў КАПЕЛЮШАХ

Гэта было, яшчэ як я быў малы. Наш сусед, дзядзька Янак, паехаў да свае радні ў вёску Крамяніца, каб пазычыць або купіць корму для сваёй каровы. Паехаў ён туды ўжэ прыцемкам. Пабыў, выпілі яны трошкі, вядома ж, да радні прыехаў. Потым Янак гаворыць:

— Ну, наеду ўжэ дадому!

Л сваяк кажа:

— Мо не едзь, позна ж ужэ?

Янак не згаджаецца. А там была цётка, саўсім некая настаронняя, і таксама кажа, каб не ехаў. Янак занатурыўся і паехаў.

Пад'ехаў ужэ амаль што да горкі, недалёка ад вёскі, у лесе, а конь ані з месца. Стрыжэ вушамі і не ідзе. Ён яго пугай — нічога не памагае. Выпраг з воза і вядзе. Дайшоў да рэчкі, а каля берагу лёд утварыў праломкі. Ён пабаяўся лезці. Стаіць і крычыць. Але хто ж яго пачуе апаўночы ды яшчэ зімою! Каб вясною, то можа яшчэ хто хадзіў бы каля хаты. Ён павярнуў і ідзе назад. Не дайшоў яшчэ да воза, а ў яго нейкія людзі ў капелюшах пачалі адбіраць каня. Ён іх б'е пугай, нічога, не па іх, а па зямлі. І наканец яны вырвалі ў дзядзькі каня, конь пабег, толькі зарзаў. Тады гэтыя людзі прычапіліся да яго. Як ён ні абараняўся, не мог абараніцца. Тады ён пачаў уцякаць: бяжыць — упадзе, падымецца — зноў яны нападаюць. Тады ён пачаў паўзці. А

на ем было паліто суконнае, свайго вырабу, дык цяжка было паўзці. Поўз ён, поўз гэдак аж тры кілометры. Гэдак знясілеў, што больш не мог. А тыя людзі яго ўсё праследуюць. У яго на локцях у паліце і на каленях дзіркі ўжэ павыдзіраліся. Дапоўз ён да Наваельні. А па правы бок былі могілкі, і далей ён ужо не мог паўзці. Тут пятух заспяваў, і гэтаму дзядзьку Янаку ў вачах светла зрабілася, і людзі тыя зніклі. Так і праляжаў ён без памяці да раніцы.

А раніцаю па гэтай дарозе ехаў знаёмы балагол, які збірае розныя анучы, і ўгледзеў Янака. Пад'ехаў да яго і пытаецца: «Янак, чаго ты тут ляжыш?» Ён думаў, што Янак можа дзе напіўся і заснуў. Янак расказаў яму ўсё. Гэты чалавек забраў Янака, а ён быў увесь аж чорны. Абмазаў яго курыным шмальцам. А дома не ведаюць, дзе Янак падзеўся да гэтага часу. Конь прыбег дадому, а яго няма. Дома падумалі, што ён у радні напіўся і конь уцёк ад яго. Гэты балагол завёз пад вечар Янака дадому.

«Гэта было на самом дзеле! — гаворыць дзед Юзаф. — Янак расказваў майму бацьку некалі».

## ПРЫЦЕМКАМ НА ПОЖНІ

Гэта расказвала мне яшчэ мая баба. Казала, была я яшчэ маладая, год васемнаццаць. Рабілі тады ж усе цэлымі днямі на княжацкім полі, а як сабе што зрабіць, дык і вечарам прыходзілася. А тут і дождж хмарыўся, а ў нас сухія снапэ на полі. Паехалі мы з бацькам па іх. Ужэ шарэла, а пакуль заехалі, дык зусім цёмна. Падаю я, а бацька на возе ўкладвае. Страшна нек. Места глухое, каля самага лесу. Але чую, што нехта кажа: «Ну, што, наклаў ужэ? Паедзем разам». Я зарадавалася, што не адны мы тут, яшчэ нехто бярэ. Адно ж бачу: бацька з воза злазіць, лаецца на нячыстую сілу, каня скарэй распрагае і хамут наадварот кладзе, клешчамі да каня. Так і паехалі. А я тожа гляджу: нідзе ніякага ні чалавека, ні воза. Нячыстая сіла мусіць была, у балота завесці хацела.

## ПРА ЗАКЛЯТЫЯ ГРОШЫ

Даўней заклінালі грошы, каб ніхто чужы не ўзяў. І вось калі срок пракляцца сходзіў, то грошы такія павінны неяк выявіцца.

Ну, вот, адзін бедны чалавек паставіў сабе хатку на новым

месце. Пабудаваўся сабе памаленьку і жыве. Але вось бяда: усё нейкі голас яму кажа: «Рыну! Рыну!» Напужаўся гэты чалавек, нічога не есць, не п'е, аж захварэў бедны. А далей не выдзержаў: «Ды рынай! Чорт з табою!» — кажа. Як рынулі ж грошы к яму ў хату!.. Збірае іх чалавек, а ім канца краю не відаць. Паправіўся гэты чалавек і стаў жыць сабе багата.

## ХІТРАЯ НЯВЕСТКА

Жыў даўней адзін багаты чалавек. А ведама ж, што калі багаты, то і скупы. Была ў яго нявестка — хітрая такая дзеўка была. Вот аднойчы рашыў гэты багацей сабраць усе свае грошыкі ды і схаваць іх. Узяў мяшочак, склаў туды ўсё золата і стаў гэты мяшочак падпечкам заграбаць. Заграбае гэта ён грошы ды прыгаворвае: «Чые ручкі заграбаюць, каб тыя і адгрэблі, а калі другія — дык каб пальцы нямелі». А нявестка ўсё гэта чула.

Ну, скора гэты дзед памёр. Пакуль яшчэ людзі не сабраліся мыць нябожчыка, нявестка сцягла мерцвяка з пасцелі, падцягла пад печ і, узяўшы руку мерцвяка ў сваю руку, адгрэбла мяшочак з золатам. Потым усцягнула нябожчыка на лаву. Так і стала маладзіца ўладаць золатам скупердзяябагацея.

## «ДЗЯДОК»

Хадзілі дзеці гуляць на горку, а адна дзевачка ўвесь час адна гуляе. І вот пытаюць у яе людзі:

— З кім ты гуляеш?

А яна і гаворыць:

— З дзедам. У яго сівая бародка, ён гуляе са мною, кветкі сабірае, цукеркі мне дае…

І вот аднаго разу прыйшла дзевачка ёта дадому і кажа мацеры:

— Надзень мяне чыста, бо я памру.

Маці ў слёзы. А цераз некалькі дзён і праўда дзіця ёта памерла.

Дык вот людзі кажуць, што ёта чорт быў, а не дзядок…

## ЧАРАЎНІК

Жыў у нашым сяле дзед стары. Па-селавому яго звалі Шынэль. Гаворац, што ён умеў прыробліваць усё жывёле. Бывала, як пасварыцца хтонебудзь з яго жонкай, дык спасу нямашака ад бяды. А каровы ўсю ночачку равуць. А то і дохнуць. Адзін раз і мая мама нечага не дала яго жонцы. Раніцаю пайшла карову даіць, а тая раве, нікога к сабе не падпушчае, уся мокрая стаіць. Пазвалі Шынэля, папрасілі добра, ён пагладзіў карову — і ўсё як рукой зняло.

І ўнук яго расказваў маёй дачцы пра дзедавы чары. Сушылі яны з дзедам зярно ў ёўні. Каб забавіць малога, дзед яму і кажа: «Хочаш, унучак, зайчыкаў пагладзіць?» І адкуль іх толькі так многа набралася! Скачуць, танцуюць, а дзед іх рукамі гладзіць. Потым сказаў адно слова «прэч» — і яны ўсе паўцякалі.

Кажуць, што і паміраў ён вельмі цяжка. Хата ходырам хадзіла, а сам дык усё на сабе парваў. А на вячэры было нешта з малаком на стале — дык замест малака чэрві поўзалі.

## АГЛОБЛЯЙ АДВАДЗІЎ

Памёр у аднаго сына бацька. Памёр, але што вечар настане, дык бацька як жывы дадому прыходзіць, за стол садзіцца, есць. Хоць і бацька, але ўсё роўна страшна. Раз сын араў на полі, і зламалася ў яго саха. Прыйшоў бацька, наладзіў саху і давай араць сам.

Параілі людзі сыну схадзіць да папа. Пайшоў сын да папа. Поп яму і кажа, што гэта не бацька прыходзіць, а чорт. І параіў ён хлопцу, як ад чорта збавіцца: як пачуе вечарам, што хтосьці ідзе, дык хай стане ля дзвярэй і ўдарыць чорта па галаве аглобляй. Але каб толькі не шкадаваў і біў чым мацней і толькі адзін раз. Настаў вечар. Прыходзіць бацька, сын і ўдарыў яго аглобляй. А ён гаворыць: «Бі яшчэ, дагадаўся».

З таго часу больш бацька не прыходзіў.

## «СВІННЯ»-НАЧНІЦА

Жылі дзве суседкі. Захварэла ў адной карова. Ні грама малака не стала даваць. Паехала яна да знахаркі. Тая ёй і кажа: «Пераначуй у каровы ноч, дык сама і ўбачыш, хто тваю карову доіць. А яна не

хворая, яе дояць. Як убачыш хто прыйдзе даіць, дык стукні аглобляй». Жанчына так і зрабіла.

Ноччу прыходзіць свіння і давай карову ссаць. Баба ўдарыла свінню аглобляй, тая ажно азадак пацягнула. Назаўтра прыходзіць да жанчыны яе суседка і чуць ногі валачэ. А карова цэлае вядро малака дала. Суседка ж пахварэла, пахварэла ды і памерла.

## ГОСЦІ НА ПОПРАДКАХ

Жыла на ўскрайку вёскі ў старэнькай хаце ўдовіна дочка. К ёй пасялковыя дзяўчаты на попрадкі хадзілі. Аднаго разу сабраліся дзяўчаты, смяюцца, песні пяюць. Раптам адчыняюцца дзверы, і ў хату заходзяць нейкія чужыя хлопцы. Дзяўчаты думалі, што гэта лесарубы, бо яны зімой прыязджалі з поля па дровы.

Адна з дзяўчат ненарокам упусціла верацяно і сагнулася пад лаўку, каб падняць яго. Хлопцы гэтым часам селі ўжо на лаве. Дзяўчына сагнулася і ўбачыла пад лавай хвасты. Яна, нікому нічога не гаворачы, пабегла дадому. А астатніх дзяўчат назаўтра найшлі мёртвымі. Замучылі іх чэрці.

## АПОЎНАЧЫ У РОВЕ...

Хадзілі раней хлопцы гуляць у суседнюю вёску, а ісці трэба цераз могілкі. Ну" вот, пайшлі яны аднаго разу, пагулялі, ну і дамоў пайшлі. А ў аднаго дзеўка была, дык гэты хлопец астаўся з ёй. Прыйшоў час і яму дамоў ісці, і якраз апоўначы ён праходзіў каля могілак. А трэба было пераскочыць роў (некалі ў гэтым рове хавалі вісельнікаў і ўтопленікаў). Толькі ён скочыў, як яму на плечы нешта ўсселася, і ён ніяк не можа падняцца. Як ён ні пнуўся — не можа ўстаць; усе малітвы, якія ведаў, перачытаў — не памагае. А пасля напнуўся з усяе сілы і ўстаў. Ідзе ён, а на плячах у яго, здацца, нешта сядзіць. Вот стаў ён пад сяло падходзіць, як раптам пеўні запелі. Як запелі пеўні, у яго з плячэй нешта кульдыг, звалілася, лёгенька-лёгенька яму стала.

## ПРА РУСАЛКУ

Ідуць бабы жыта знаць. А раней казалі: якія дзеці няхрышчаныя — русалкі. Ну вот, ідуць і бачаць яны: ляжыць дзіця голенькае. Вот адна і кажа:

— Што мы з ім рабіць будзем?

Адна кажа:

— Давай заб'ём.

А другая кажа:

— Не чапайма!

І вот зняла гэта баба з галавы хустку, палажыла на яе дзіцятка гэта і спавіла. Ну, і пайшлі бабы сваёю дарогаю.

Аж не ўспелі адысціся трохі, як бачаць: ляціць за імі русалка, валасы доўгія, ляціць растрапаўшыся. Дагнала тую, што казала забіць, узяла ды разадрала. А на тую, што спавіла, кажа:

— Спор табе ў ручкі і ў ножкі, і каб здароўе было.

З той пары баба гэтая зрабілася вельмі ёмкаю на работу, ніхто з ёй ніколі не зжаўся і не сышоўся ў рабоце.

## НА НАЧЛЕЗЕ

Вадзілі некалі на начлег коней пасціць. Аж бачаць: сунецца к коням сена капа. Коні як пачалі фыркаць, мужчыны думалі, што гэта воўк, аж калі прыгледзеліся — сена капа соваецца. Коні паляцелі, хто дагнаў каня, а хто й не, а капа за імі аж да сяла перла, а ўжэ потым назад вярнулася...

## ЛЕДЗЬ АЧУХАЎСЯ

Ішоў адзін чалавек ноччу. Прычапіліся к яму чэрці, загналі яго на стог сена, раздзелі, разулі яго. Чуць чалавек богу душу не аддаў, добра што нехта ішоў, дык сгіугнуў іх. Доўга пасля гэтага здарэння не мог чалавек гэты ў сябе прыйсці, ногі адмарозіў, насілу ачухаўся.

## ПА ДАРОЗЕ ДАДОМУ

Ехалі нeяк дадому мужык з жонкаю, ехалі на кані, вечарам. Аж чуе чалавек гэты, як нехта яго як бы з воза цягне за рукі, за ногі. Упёрся ён, чалавек гэты, насілу на возе ўдзяржаўся. Раніцай падняўся, глядзіць: аж у яго рукі і ногі, як хто папераціскаў, — такія чорныя.

## У КАПЛІЦЫ

У адной мацеры часта дзеці паміралі, ну яна вельмі плакала па іх. Кажа аднаго разу: «Пайду я ў капліцу, стану за дзвярыма, будуць ісці, можа ўбачу іх». Ну, і папіла, папіла і стала каля сцяны ў сенячках. Бачыць: ідуць мяртвыя, ідуць, ідуць, а дзяцей яе не відаць. А тады бачыць: ідуць і дзеці яе і кажуць: «І чаго гэты наш мяшок тут стаіць?» Дык яна тады ходу адтуль, а яны ўсе за ёю, дык яна тады, бегучы, зняла з сябе кажушок і кінула. А назаўтра прыйшла паглядзець на тое места, бачыць: ляжыць кажушок, толькі ўвесь на шматкі падраны.

## ПАСЛЯ ЛАЗНІ

Пашоў я, значыцца, аднойчы летам у лазню. Памыўся і выходжу сабе на вуліцу чырвоны як рак вароны (добра венікам адсцёбаўся!). Сабраўся ўжо было ісці дамоў, закурыў. І раптам чую: недзе пачулася бляянне барана. Яно даносілася аднекуль з-за рэчкі. Спачатку я падумаў, што можа чый баран адбіўся ад стада. Але гук з кожным момантам усё мацнеў. І раптам у вачах у мяне пацямнела. Я не адразу дакумекаў, што гэта такое. Паглядзеў у адзін бок, у другі. Падняў галаву ўверх. Ядры твае лапці! Прама над маёй галавой праляцеў баран, велічынёй з быка. Сам ён быў чорны, з падкорчанымі пад сябе нагамі. Мяне ахапіў такі страх, што, прышоўшы дамоў, я не мог усю ноч заснуць.

## ДВА ПАМАГАТЫЯ

Памёр у адной бабы мужык, яна вельмі плакала па ім. Пашла на поле жыта жаць, жне, плача ды ўсё прыгаворвае: «Усе мужыкі

памагаюць бабам жыта жаць, снапы зносяць, а майго няма, мне ніхто не памагае».

Пад вечар, ужо сонца на захад, ідуць двое з лесу. Выйшлі ды давай ёй снапы насіць. Знасілі снапы, яна ідзе дамоў, і яны ідуць з ёю. Прыйшлі дамоў, яна зрабіла вячэру, селі вячэраць. Ну, ядуць яны, а ў гэтай жанчыны лыжка пад стол паляцела. Нагнулася яна лыжку падняць — бачыць: а ў іх пад сталом хвасты вісяць і капыты тырчаць. Дагадалася яна, што гэта чэрці. Пайшла яна, села пад курыным седалам і сядзіць.

Чакалі яны яе, чакалі, бачаць, што няма яе, прыходзяць, а яна сядзіць пад курыным седалам. «Ну, дагадалася ты, дзе сесці, а не — дык было б табе». Сказалі гэтак і прапалі.

## У ЛАЗНІ

Пайшоў я аднойчы ў лазню. Мыюся сабе паціху. Сцёбаюся бярозавым венікам. Так добра! Ты ж ведаеш, што я наогул люблю папарыцца. Спярша ўсё ішло, як і павінна быць. Але ў гэту ноч са мной нешта здарылася такое...

Мыюся я і раптам чую: каля лазні нейкія гај ласы. Але ж думаю, мо хто з суседзяў прыйшоў да мяне мыцца. Прыслухаўся. Не, гэта нейкі зусім незнаёмы голас. Ды нават і ці можна яго назваць голасам? Гэта больш падыходзіць да рычания, да нейкага крыку. І вось дзверы раптам адчыняюцца, і да мяне ўскочыла некалькі істот. Я прыціх і гляджу, што будзе далей. У лазні было многа духу, і я спачатку ніяк не мог разабрацца, хто гэта. Але добра прыгледзеўшыся да іх, адразу скеміў, што гэта... чэрці! Я ўню дагэтуль шмат чуў пра іх, але ніколі гэтаму не верыў. А тут на табе! — і сам нечакана іх убачыў.

А далей і зусім пачаліся нейкія цуды. Усе гэтыя істоты пачалі крычаць, свістаць, біць у далоні, рагатаць. Падняўся такі лямант. І раптам бачу: гэта ўжо не чэрці зусім, а нейкія маладыя хлопцы. Усе яны вельмі падобны адзін на аднаго. Апрануты яны былі ва ўсё чорнае. Гляджу я, дзіўлюся. Яны падхапілі і мяне, і я таксама закруціўся разам з імі ў танцы. Танцую, аж глядзь! Божа ты мой! Гэта ж зусім і не хлопцы, а дзяўчаты. Зусім маладыя, прыгожыя, таксама вельмі падобныя адна на адну. Што ж гэта я, стары дурань! Ці мо гэта ў мяне ў вачах мітусіцца? Працёр вочы. Аж не, сапраўды дзяўчаты. Але скора яны зноў сталі хлопцамі.

Ой, ці то я гэта з глузду з'ехаў! А яны на маіх вачах усё

змяняліся, ператвараліся з хлопцаў у дзяўчат і наадварот! Не ведаю, колькі б мы яшчэ танцавалі, але пракрычалі недзе ў вёсцы петухі. Ужо раніца, здагадаўся я. І ў гэты момант нікога не стала. У лазні ўсё было ціха.

Вось што здарылася са мной аднойчы. Да сённяшняга дня не ведаю, што гэта такое было. Каб сам не ўбачыў, нікому і не паверыў. Вось так.

## ПАСЛЯ ВЯСЕЛЛЯ

Было гэта ў нядзелю. Я ж заўсёды граю вяселлі. І на гэты раз без мяне не абышлося, запрасілі граць у суседнюю вёску Шаўкоўшчыну. Гэта кілометры два ад нашай вёскі. Адыграў я вяселле, кульнуў не адну чарку. Позна ноччу вяртаўся дамоў. І прапанавалі ж мне пераначаваць, але я ўсё роўна пацягнуўся дадому. Вось тут са мной і здарылася...

Іду я сабе полем, сам з сабой гаманю. Нікога нідзе. І раптам перада мной з'явіліся людзі — не людзі, жывёлы — не жывёлы. З ног да галавы былі заросшы чорнай поўсцю, на нагах капыты, а на галаве маленькія белыя рожкі. Бацюхны свет! Гэта ж чэрці! Яны схапілі мяне пад рукі і кудысьці павалаклі. Куды мы ішлі, якой дарогай, я не памятаю, толькі апынуліся мы хутка на балоце. Чэрці загадалі мне садзіцца на гарачую печку. Я азірнуўся, але нідзе яе не ўбачыў. Тады чэрці сілай усадзілі мяне на вялізны камень. Мусіць, гэта і была іх печка. Пасля чэрці загадалі мне граць, а самі давай танцаваць вакол мяне, рагатаць. Я граў доўга, і ўжо рукі мае абмярцвелі, але чэрці не давалі мне перадыхнуць. Як толькі я канчаў граць, яны злаваліся і пачыналі мяне шчакатаць. Але калі прапелі трэція пеўні, чэрці зніклі, як быццам іх тут і зусім не было. Сяджу я на камні пасярод балота і сам сабе не веру. Да самай раніцы блукаў я, ніяк не мог выйсці на дарогу. Толькі ў дзевяць гадзін прыплёўся дамоў.

## ЗДАРЭННЕ НОЧЧУ

Перастала мая карова хадзіць дахаты. Ідзе ды ідзе к двару Еўдакіма. Пайшла я да яго ды кажу:

— Еўдакім, чаго гэта мая карова ідзе да цябе ў двор?

А ён адказвае:

— Прывяжы яе к сваёй спадніцы, то больш не пойдзе.

Прыйшла я дадому, падаіла карову і лягла спаць. Ляжу і нешта мне нядобрыцца. Чую: нехта палез на гару і там топчацца, што столь нават угібаецца. Я думала, што сала прыйшоў хто-небудзь красці. Устаю з печы, аж раптам дзверы ўпалі ў хаце. Я ажно жахнулася, дальбог. Заходзіць, маё дзіцятка, велізарны чалавек і ідзе прама да майго ложка. Я чуць і не памерла са страху. А ён лёг і ляжыць. Я давай чытаць малітву: «Оймяца й сына й святога духа. Амінь». Ён ляжыць, не варушыцца, а я давай злазіць з печы ды бегчы да суседкі. Прыбегла ды расказваю, а^ яна баіцца ісці ка мне да хаты. Пераначавала я ў яе. Прыходзім раніцаю, і праўда: дзверы знесеныя, а больш няма нідзе нічога. І па сённяшні дзень не знаю, што гэта было: ці якія нячысцікі, ці Еўдакім мне што-небудзь падстроіў.

## НЕЗНАЁМЫ ДЗЯДОК

А як была маленькаю, дык са мною вось якая гісторыя была. Сяджу я адна дома і так плачу, што ўжо толькі стогны вырываюцца, бо вельмі ж баялася адна сядзець. Раптам адчыняюцца дзверы, і бачу: заходзіць дзядок. Сам маленькі, і барада доўгая. Падышоў да мяне, пагладзіў па галаве, пачаў забаўляць. Я і плакаць адразу перастала. Сядзеў ён са мною, пакуль маці з работы не прыйшла. Як з'явілася маці ў дзвярах, дык ён адразу і знік. Я ёй расказваю, а яна мне і не верыць. Кажа: «Ты выдумала ўсё, малая».

## ДРОВЫ З-ПАД ПРЫПЕЧКА

А аднаго разу сядзім мы на печы ўсім сваім кагалам. Тойсь усе нашы дзеці: Соня, Маруся, Ніна, я і Еўдакімава дачка. І раптам нешта як пачало кідаць дровы з-пад прыпечка прама па ўсёй хаце. Мы ўсе ў крык. А як Еўдакімава дачка была старэйшая, дык яна саскочыла з печы, пассаджвала нас, і мы бягом на вуліцу. Ішоў наш сусед з агароду. Мы яго падазвалі да сябе ды расказваем яму аб тым, што здарылася. Не паверыў ён нам, але пайшоў з намі да хаты. Прыйшлі, і праўда: дровы раскіданы па ўсёй хаце.

## ЖАБА Ў ХЛЕБЕ

Пайшла я адзін раз карову даіць, бо мацеры было дрэнна. Села пад карову, бачу: скача жаба, ды такая здаровая! Я напужалася так, што ажно вядро з рук выпала. А гэтая жаба пераскочыла праз маю руку шэсць разоў ды і паскакала. Не ведаю, колькі я сядзела і колькі б яшчэ прасядзела, каб не прыйшла маці. Тая ажно напужалася, як паглядзела на мяне. І што вы думаеце? Прайшло з таго часу шэсць гадоў, і я развялася з мужам. Выйшла замуж адразу пасля васьмі класаў, нарадзіла блізнят, а праз шэсць гадоў засталася адна са сваімі двайнятамі.

## ПРЫХОД СУСЕДКІ

Было здарэнне і з маёю мацёраю. Яна ў нас увесь час балее. Паехала к адной жанчыне, яе направілі бабкі. А к нам прыйшла суседка і папрасіла хлеба. Кажа: «Крама ўжо зачынена, а ў нас хлеб кончыўся. Дайце на вячэру кусочак». Мы і далі. Прыязджае маці і кажа: «Пазінна Ганна прыйсці, папросіць хлеба! Але даваць яго не трэба, бо я тады яшчэ буду балець два гады. Гэта ўсе хваробы мае ідуць пад яе ведамам». Кінулася я плакаць ды расказала ўсё маці. Мы і па сённяшні дзень не размаўляем з ёю, з гэтай суседкай.

## ПРА «БАРАНЧЫКА»

Ехалі два мужыкі з базара. Зіма, холадна, цемра непралазная. Раптам яны ўбачылі: на дарозе ляжыць невялікі баранчык. Вырашылі палажыць на сані, бо замерзне на дарозе, пашкадавалі. Палажылі на воз і паехалі далей. Асобай увагі на яго не звярталі, а калі аглянуліся, заўважылі, што гэты баранчык расце на вачах. Страх ахапіў мужыкоў, і яны рашылі скінуць яго з воза. Ачуціўшыся на зямлі, баранчык спахваціўся і пабег, у начной цішы толькі раздаваўся крык яго: «Ха-ха, баранчыка падвезлі!» З моцнай сілай сцеганулі коней, а шум не выходзіў да самай вёскі.

## ТРОЙКА КОНЕЙ У БРЫЧЦЫ

За вёскай, праз колькі кіламетраў, пачыналася поле, дзе саджалі бульбу. У аднаго мужыка не хапіла бульбы, а ўжо пачынала цямнець, і ён паехаў на возе дамоў па бульбу. Вяртаючыся назад, ён пачуў моцны гул ці свіст, конь рэзка стаў на дыбы і спыніўся. З поля стралою ляцела тройка коней, запрэжаная ў брычку, і яшчэ ён заўважыў у брычцы постаць. У галаве ўсё зашумела, закруцілася. Імгненна ўсё сціхла, ён павярнуў каня назад і ледзь дабраўся дахаты, доўга не мог апамятацца, і пасля яшчэ доўга з галавы не выходзіла тая тройка.

## ПРА САБАКУ НА ЕЛЦЫ

Помню, была я яшчэ малая. Быў у дзядзькі ў нашага сабака. І гэты сабака ашалеў. Быў на ланцугу, сарваўся і прыбег к нам у двор. Укусіў свінню, чорна-рабая была, помню як цяпер. Свіння гэта таксама ашалела, стала кідацца на людзей, на дзяцей. Свінню спаймалі, вырылі яму і закапалі яе жыўём. А сабака гэты выскачыў са двара і пабег к кустам. Там стаяла невысокая елка, на ўскраіне кустоўя, ён на гэтую елку ўзлез, як белка падрапаўся, елка была без верха, і сабака проста растварыўся. І колькі мы ні хадзілі, колькі ні глядзелі — нідзе яго не было. Больш гэтага сабаку не бачылі.

## КУПАЛЬСКАЙ НОЧЧУ

Кажуць, на Яна папаратнік цвіце. І вось аднойчы перад Янам выпала мне пасціць коней. Так здарылася, што я згубіў сваіх коней і не ведаў, куды яны пайшлі. Гэта было ў ноч перад Янам. Я пашукаў, нідзе не знайшоў і лёг аддыхнуць, якраз у папаратніку.

Калі ачнуўся, то проста віджу, дзе мае коні. Так здарылася, што цвет папаратніка папаў мне ў лапці. Іду я, сустракаецца чалавек і пытае ў мяне: «Куды ідзеш?» Я сказаў, што шукаю коней. Гэты чалавек прапанаваў сесці і закурыць. Ён мне і кажа: «Ты замачыўся, разуйся, аддыхнеш і знойдзеш сваіх коней». Як я разуўся, — тут жа забыў, дзе мае коні і дзе гэты чалавек дзеўся, а я астаўся адзін. Цяпер я магу паверыць, што на самой справе цвіцець папаратнік. Калі я спаў, цвет, асыпаючыся, папаў мне ў хадак, таму я змог убачыць

сваіх коней. А той чалавек быў не чалавек, а чорт.

## БАРАН — НА ЎВЕСЬ ВОЗ

Было гэта з адным тутэйшым мужыком.

Адзін раз, расказваў ён, еду я дамоў выпіўшы. Гэта было восенню, дарога гразкая. Бачу: стаіць чалавек і каля яго ляжыць баран. Просіць мяне падвезці. Я згадзіўся. Як ён палажыў на воз барана, то мой конь насілу мяне давёз дамоў. Заходжу я ў хату і кажу жонцы: «Ходзь, памажы ўнясці барана ў хлеў». Калі мы падышлі да возу, а там — камень на ўвесь воз. На раніцы гэты камень усёй сям'ёй чуць скінулі з возу.

**Пра нябожчыкаў**

## КАВАЛЕР І ДЗЕЎКА

Любіўся кавалер з дзеўкаю, крэпка. Забалеў ды памёр з любві. А яна ўсё плакала па ім, вельмі яго любіла і шкадавала. Спала яна ў каморцы адна. У дванаццаць часоў ночы ён прыехаў да яе на кані з возам і кажа ёй:

— Сабірайся, паедзем са мной.

Яна сабралася, селі на воз і паехалі. Выехалі на сяло, ён яе і пытае:

— Месяц свеціць, зоры блішчаць, з мёртвым едзеш — ці страшна, васпані?

Яна адказвае:

— Не.

Выехалі за сяло. Ён зноў пытае яе:

— Месяц свеціць, зоры блішчаць, з мёртвым едзеш — ці страшна, васпані?

Яна адказвае:

— Не.

І далей паехалі. Пад'ехалі пад моглiцы, і зноў ён яе пытае:

— Месяц свеціць, зоры блішчаць, з мёртвым едзеш — ці страшна, васпані?

Яна адказвае:

— Не, не страшна.

Прыехалі на могліцы, пад магілу яго, адкрылася магіла, і ён стаў уязджаць туды з канём і возам. Тады ёй страшна стала, і яна саскочыла з воза. А на могліцах была капліца. У той дзень якраз памёр чалавек, і яго паставілі ў капліцу, таму што ў той час да трох дзён не хавалі. Яна ўвайшла ў капліцу, зняла пацеркі і пярсцёнак. Пацеркі павесіла на клямку, а пярсцёнак палажыла на труну.

Як агледзеўся кавалер, што няма на возе дзеўкі яго, дый пайшоў ціўкаць. Прыйшоў пад дзверы капліцы і кажа:

— Адамкні, брацішка, нашто маю даму ўзяў.

А другі яму адказвае:

— Не адамкну, брацішка, па мне цяжкі камень ляжыць.

Тады ён пад акно падышоў і зноў кажа:

— Адамкні, брацішка, нашто маю даму ўзяў.

А другі яму зноў адказвае:

— Не адамкну, брацішка, на мне цяжкі камень ляжыць.

У гэты час прапеў певень, і стала ціха. Раніцай прыйшлі харaніць мерцвяка і знайшлі яе там. Сядзела яна ў куточку ні жывая, ні мёртвая. Наказалі ў вёску яе бацькам. Бацькі прыехалі на возе і забралі яе, таму што яна не магла ўжо ісці ад сполаху. На трэці дзень пасля гэтага яна памерла. І яе пахавалі разам з ім. І яны сталі неразлучнымі.

## ГОЛАСАМ МУЖА

Жыў сабе мужык з жонкай. Жылі вельмі добра, гора не ведалі. Аднойчы здарылася бяда — і памёр мужык. А жонка яго вельмі любіла (ведама, муж — які б ні быў, а муж), і вельмі гаравала, што ён памёр. Плакала яна, плакала, усё вельмі хацела, каб ён вярнуўся да яе.

І вось неяк вечарам яна павячэрала, памалілася богу, мужа памянула і спаць стала лажыцца. І раптам чуе яна, што нехта як бы піяе на дварэ (а муж яе вельмі любіў спяваць, як жывы быў), і як бы голасам мужа. Паглядзела яна туды, паглядзела сюды — нідзе нікога няма. Яна зноў легла. А тым часам у дзверы пастукалі. Яна ўсхапілася і пайшла адчыняць. А нехта ёй голасам мужа і кажа:

— Я ведаю, што ты жджэш мяне і плачаш па мые, дык пойдзем са мной, я пакажу табе свае харомы.

Баба дурная і пайшла. Праўду кажуць, што ў жэншчын волас

доўгі, а вум кароткі. Ішла яна за гэтым голасам, ішла і пытаецца:

— Ці скора мы ўжо прыйдзем?

— Скора, — адказвае голас.

Страшна стала бабе, аж задрыжэла ўся. Пытаецца яна ў голаса, хто ён такі. А ён адказвае:

— Чорт.

Давай баба богу маліцца. Так малілася, што аж тры разы цераз галаву перакулілася, і чорт знік. З тае пары перастала яна думаць аб мужыку, і стала весела жыць. А хто гэта чуець, няхай маўчыць, бо тое і яму будзіць.

## ХАЦЕЎ ЗАБРАЦЬ І ЖОНКУ

Памёр чалавек. Узялі яго ды пахавалі. Ён на трэці дзень прыйшоў да хаты і пачаў клікаць сваю жонку. Яна праз акно выйшла, і ён узяў і павёў яе на кладбішча, і стаў цягнуць у сваю магілу. Яна тут дагадалася і развязала свой хвартух, і ён упаў у магілу. Яна завярнулася і прыйшла дадому. Ён другі раз прыйшоў клікаць. Яе бацькі не пусцілі. Тады ён усё са страхі звярнуў і выпусціў каровы. Калі пайшлі да яго магілы і адрылі, то ён ляжаў тварам набок. Яму адсеклі голаў і палажылі збоку. Тады закапалі магілу і пайшлі дамоў. З таго часу ён перастаў хадзіць.

## АСІНАВЫ КОЛ СУПАКОІЎ

Жыў адзін вядзьмар. У яго было тры сыны. Гэта быў вялікі вядзьмар. І вось ён памёр. Сыны палажылі яго на лаўку, заказалі труну. Зрабілі труну, паклалі ў яго ведзьмара і нагналі на труну дванаццаць абручоў. Павязлі на кладбішча. Па дарозе лопнулі тры абручы. Завязлі на кладбішча, выкапалі яму і ў яму апусцілі труну. Абручы ўсё лопалі. Але сыны закопвалі яго. Пасля яны пайшлі дахаты. Ляглі спаць. І вот ноччу чуюць стук, грукат. Яны пералякаліся. Кажуць: «Гэта бацька прыйшоў». А вядзьмар усё стукае, бушуе. Сыны не кладуцца спаць. Не знаюць, што ім рабіць. Ноч прайшла. Пайшлі яны на кладбішча на магілу. Але адтуль рашылі ісці дахаты пяткамі назад, каб бацька не знаў, дзе сыны. На другую ноч выскачыў вядзьмар і не знае, куды ісці. Але пасля знайшоў дарогу. І зноў стаў бушаваць. На наступны дзень пайшлі браты да папа. Поп прыйшоў,

праспяваў малітву і ўбіў асінавы колік у грудзі ведзьмару. І больш ён не стаў паяўляцца ў хаце. І пачалі сыны жыць добра.

## ПРА МАРЫЛЮ

Жыла адна дзяўчына, Марыляй звалі. Памёр у Марылі жаніх, якога яна вельмі кахала. Яна пачала плакаць. Плакала дзень і ноч і маліла бога, каб убачыць свайго каханага. Вось людзі ёй парадзілі спячы хлеб на тыльным баку лапаты. Яна спякла хлеб і лягла спаць. І вось апоўначы прыязджае да Марылі яе жаніх і гаворыць: «Бяры хлеб, шкаплеры і ружанец». Марыля сабралася, і яны выйшлі ў двор. А там стаялі тры вараныя кані ў залатой вупражы. Яны селі ў залатую карэту і паехалі па дарозе, высланай белымі ручнікамі. Вось яны пад'ехалі да вялікіх варот. Вароты адчыніліся, і яны ўехалі ў вялікі сад. Жаніх Марылі і кажа: «Кідай хлеб, там ты не будзеш есці». Марыля выкінула. Тады ён кажа: «Кідай шкаплеры, там ты не будзеш чытаць». Марыля выкінула. Тады ён кажа: «Кідай ружанец, там ты не будзеш маліцца». Марыля выкінула.

І вось яны пад'ехалі да вялікага палаца. Марыля думала, што гэта касцёл, і сышла на зямлю, каб ісці з ім вянчацца. Але раптам зямля расступілася, і яна правалілася пад яе.

## ПРА НЕЗНАЁМУЮ ПТУШАЧКУ

Было гэта пяць гадкоў таму назад. Вунь там унучка мая, русенькая, гуляе з дзецьмі. Дык яна нічога не знаіць. Засталася на дзевятым дзянёчку без мацеры. Дачка мая забрала яе да сябе, то яна яе і зараз мамай завець, але нічога не знаіць.

Яе ж маці, а мая нявестка, памерла на дзевятым дзянёчку, як нарадзіла дзіцятка. Ой жа гора было, ой жа набраліся горачка! Як пахавалі яе, то ў першы вечар стукаецца нейкая птушачка ў вакно. Мы святло запалілі, а яна ў шыбу так і б'ецца, так і б'ецца. Я пайшла, прагнала яе, а яна ўсё роўна зноў прыляцела і б'ецца ў вакно. Сын кажа: «Упусціце яе, а то ж шкло разаб'ець». Адчынілі мы вакно, яна і ўляцела. Села на калысцы, ды так ноч усю і праседзела на калысцы, дзе дзіцятка спала. А птушачка ж прыгожая якая! Пер'ечка цвятное, чырвоненькае. Я такой птушачкі ніколі ў жыцці не бачыла. А раніцаю я яе выгнала з хаты. Людзі кажуць: «Мо гэта яе душа да дзіцяткі

свайго прылятала той птушачкай».

## ГОЛАС З МАГІЛЫ

Адзін данілаўскі дзядзька напіўся і ішоў ужо дадому. А трэба было ісці паўз могілкі. Ён зайшоў туды і неяк ненарокам уваліўся ў яму, якую вырылі пад магілу. Дык ён і заснуў там. На шару на могілкі прыйшла жанчына ці то з Барташоў, ці то з Аханян, і пачала галасіць па сваім пахаваным мужыку. Галосіць і прыгаворвае: «А мой ты міленькі, а мой ты даражэнькі, прыйдзі, паглядзі, як я жыву!» А той дзядзька, што ўваліўся ў яму, прачнуўся ўжэ і кажа: «Іду, іду, пагляджу, пагляджу!» Ды так громка гаворыць. Жанчына ўчула, што нехта тут ёсць, ды давай адыходзіць ад магілкі. А гэты дзядзька нек вылез з ямы і ідзе. Жанчына бачыць, што ідзе мужчына, і давай бегчы. А той усё йдзе па дарозе. Прыбегла жанчына дадому, упала на ложак і памерла.

## ГОЛАС ПАД АКНОМ

Дзяўчаты гулялі на вячорках і паспрачаліся між сабою, хто з іх пройдзецца каля могілак ноччу і не пабаіцца. Знайшлася адна храбрая дзяўчына і пайшла. Вось ідзе яна і бачыць: стаіць хлопец, паніч незнаёмы. Яна падышла і зняла ў яго шапку. Прыйшла дзеўка гэта дамоў, лягла спаць, чуе: нехта пад вакном: «Аддай шапку! Аддай шапку!» Яна адкрыла акно і кінула тую шапку на вуліцу, а шапка шусь назад: яна зноў яе праз вакно, а шапка зноў назад у хату. Спалохалася яна, пазвала бацьку. Бацька прынёс пеўня ў хату. Певень як закукарэкае тры разы, дзе той чалавек толькі дзеўся. Разам з шапкаю. Але з тога дня і пачала яна сохнуць. І кожную ноч ёй здаецца, што нехта крычыць пад вакном. Паехала тая дзеўка тады да сястры, далёка недзе. Але ўсё роўна людзі казалі, што памерла скора.

## ЛАСУНКІ З МАГІЛАК

Памёр у мяне сынок. Я кожны дзень на клады хадзіла. Але гэта было якраз на вялікдзень. У нас на засценку ў гэты дзень усе людзі ходзяць на клады, носяць пакойнікам красныя яечкі, пірага ды яшчэ

розныя прысмакі. У мяне дома госці ў гэты дзень былі, дык я на клады позна выбралася. Прысела я гэта каля магілкі свайго сыночка, паплакала, пагаласіла ды дамоў сабралася. Гляджу я, а паміж магілак дзяўчынка чыясьці бегае ды цукеркі ў прыпол сабірае. Думаю, чыё ж гэта дзіця цукерцы жадно, што з могілак сабірае. Абазвалася. А на месцы дзіцяці толькі дымок сіненькі паказаўся. Страшна мне стала, дык скарэй дадому пашла. Мабыць жа ёсць на свеце нешта. Гэта пэўна к гэтай дзяўчынцы ніхто не прыйшоў, дык яна і сабірае ласункі з чужых магілак.

## САРАЧЫНЫ НА МОГІЛКАХ

Памерла сястра. Прайшло сорак дзён пасля пахавання. Сабраліся ўсе нашы родзічы, і паехалі мы на кладзішча магілку дзёрнам абкладваць. А дома ў нас сабака застаўся прывязаны. Але ў гэты дзень ён чамусьці сарваўся і прыбег да нас на могілкі. А там на могілках стаяла старая капліца. У ёй лажылі нябожчыкаў, якія памерлі ў вялікае свята і якіх з-за гэтага нельга было хаваць. Лажылі тут і астанкі невядомых людзей, якія ўтапіліся ці замерзлі ў дарозе.

Прыбегшы на могілкі, сабака адразу ж кінуўся да капліцы. І тут здарылася незразумелае: сабака пачаў шалець ад брэху. Яго нібыта хтосьці дражніў, злаваў. З пасці цякла пена, ён цяжка дыхаў.

Было бачна, што сабака некага ўчуў і хацеў злавіць. Нас ахапіў жах, і мы кінуліся бегчы дадому. Праз некаторы час вярнуўся змучаны сабака. І было гэта ў час абеду.

## У ЯГАДАХ

А то суседка мая расказвала. Было гэта, як памёр яе Ларывон. А ён быў ахвочы да грыбоў і ягад. Яго Тэкля ніколі ў лес сама не хадзіла.

Усё ён.

Дык вось, суседка кажа, сабіраю я ягады на Прашчыне (месца ў лесе ў нас так называюць), гляджу: і Ларывон каля мяне ходзіць. Я і забылася, што ён памёр. Пытаюся, ці многа ён насабіраў ягад. А яго як карова языком злізала.

Бачыце, і мёртвы па ягады ходзіць. Мы цяпер на Прашчын і хадзіць баімося.

## ДВА ЗДАРЭННІ Ў АДНУ НОЧ

Я рабіў у шахце і быў у мяне друг Сеня. Вось аднаго разу я гавару яму, што пайду сёння пасля работы дамоў. А ён ды гаворыць:

— А цябе з Каменнай гары барышні не наймаюць.

А я яму гавару:

— Цьфу ты, пракляты чалдон, я пражыў цэлых два месяцы і ніколі нічога тут не бачыў, хаджу днём і ноччу дамоў.

І вось я ў адзінаццаць ночы пайшоў дадому. Дайшоў я да гэтае Каменнай гары і стаў закурыць. І тут бачу, што ўперадзе мяне пайшлі дзве жанчыны. Я падумаў, што гэта. можа, хто-небудзь са сваіх, і давай скарэй ісці, каб дагнаць: весялей будзе ісці, думаю. Але як я ні іду хутка, яны ўсё па адной і той жа адлегласці. Тады я думаю: дай жа я бегам даганю Іх. Бягу я, бягу, аж пот ужэ ручаём валіць з мяне, а яны ідуць памалу пад ручку і ўсё на такой жа адлегласці, як і былі. Тут я ўспомніў пра тых барышань, што гаварыў мне друг. І так ужо спалохаўся, што чуць ногі перастаўляў, ажно валасы дыбам сталі на галаве. Але ўжо было недалёка ад вёскі, і я пачуў, як заспявалі пеўні, у мяне пасыпаліся іскры з вачэй, і гэтыя барышні прапалі.

Я прыбег дадому і лёг у ложак. Але тут прыйшоў бацька і сказаў, што цёплая лазня і можна памыцца. Я адзеўся і пайшоў у лазню. Там раздзеўся і палез на палок парыцца. І вось, думаю, дай яшчэ пары паддам. Калі я лінуў міску гарачай вады на каменні, а потым неяк глянуў уверх, то ўбачыў, што на печцы тырчаць свіныя ногі. У мяне ажно нешта адарвалася ў сярэдзіне. Я ціхенька падкраўся, памацаў і ўжо не помню, як зваліўся з таго палка і голы, адным бегам, у хату па снезе. І ўсё аглядваюся, ці не бяжыць за мной дамавік. Дома ўсе перапалохаліся. «Што з табой?» — пытаюць. А я ім кажу, што там дамавы, я сам яго нават пакратаў за ногі. Бацька кажа: «Дурны, гэта ж парася здохла, і я палажыў, каб адтала».

Вось з-за гэтай іерунды я прахварэў два месяцы, усё ліхаманка трэсла.

## ПРА МАЦІ І ТРОХ ДАЧОК

У адной жанчыны было тры дачкі, але праз колькі год усе яны паўміралі. Цётка гэтая засталася зусім адна. Яна ўвесь час плакала па сваёй вялікай страце: ідзе на работу — плача, і з работы ідзе — плача, і есць — плача. І вот ёй прысніўся сон, нібыта нехта сказаў: «Ты

шчаслівая, што твае дочкі памерлі, каб яны былі жывыя, табе было б у некалькі разоў хужэй. Адна б з іх рэзала людзей, другая б вешала людзей, а трэцяя б мучыла людзей. Без іх ты самая шчаслíўшая, хаця і перажываеш душэўна. На вялікае свята ідзі ў царкву і там іх пабачыш. І ты маліся богу, што ён іх прыняў».

І вот жанчына прыйшла ў царкву з бабкай-павітухай і хроснай маткай. Закончылася вячэрня, і ўсе павыходзілі з касцёла, засталіся толькі бабы ў куточку. І раптам яны змецілі трох дзевак, у адной з іх была вяроўка, у другой — нож, а ў трэцяй — плётка. Дзеўка з нажом кажа: «Вунь мая бабка стаіць». Дзеўка з вяроўкай мовіла: «Вунь мая хросная мамка стаіць». А трэцяя сказала: «Вунь мяшок стаіць, каторы мяне і на гэты і на той свет справадзіў».

## ПАКУЛЬ НЕ ДАРАВАЛА ДЗЕЎКА

Жылі дзеўка і хлопец, і вельмі ж яны любіліся. І вот дзяцюк захацеў паехаць у горад і пытаецца ў каханай:

— Любая, ехаць мне, ці не?

— Але ж ты мяне забудзеш, — кажа дзеўчына.

Хлопец у адказ:

— Не, калі я табе змяню, то хай мяне зямля не прымае, клянусь богам!

А яна:

— Гэту клятву і я бяру сабе: калі я табе змяню, то няхай і мяне зямля не прымае. Клянусь богам!

Праз некалькі год дзяцюк вяртаецца дадому з жонкай, але як пабачыў каханую, дык вочы ў зямлю апусціў. Хутка ён сканаў. Бацька яго быў багаты, і пахароны адбыліся з папом". Назаўтра глядзяць людзі: труна стаіць каля магілы. Яны зноў яго закапалі, і зноў цераз ноч труна стаіць каля магілы, і так увесь час. Што толькі бацька ні рабіў: і папа нанімаў, і людзям грошы даваў, каб яны памаліліся, але нічога не дапамагала. Тады чараўнік сказаў бацьку, каб папрасілі пакінутую дзеўку, і калі тая забярэ свае словы назад, то ўсё будзе добра. Калі адслужылі вячэрню на троіцу, тую дзеўку папрасілі астацца і пачалі ўгаворваць прасціць неразумнага. Дзеўка стала на калені перад абразамі, нізка пакланілася і сказала: «Калі бог прасціў, то і я прашчаю». Пасля гэтага труну закапалі, і яе больш ніхто не бачыў.

## СТУК СЯРОД НОЧЫ

За вёскай Камень быў хутарок Петрусоўшчына. Там жыла адна дзяўчына. Яна выйшла замуж за нетутэйшага чалавека, які вельмі многа піў. Аднойчы яе муж-прымак знік. І з гэтага часу пачалося каля іх дому нешта незвычайнае... Ноччу ў вокны стаў нехта стукаць. Калі выйдуць на вуліцу, то там нікога няма. І так працягвалася доўгі час.

І вось сабралася некалькі чалавек са стрэльбай і заселі ў той хаце. Прыйшла ноч. Чуюць, што нехта стукае. Калі выйшлі на вуліцу, то там нікога не ўбачылі. Яны зноў вярнуліся ў хату. І зноў стук у вокны. Яны крычаць, каб мацней стукалі. Тут так моцна стукнулі, што падвойная рама ўпала.

Больш сюды ніхто не прыходзіў. Жонка выехала з гэтага хутара. Праз некаторы час хутар згарэў.

## ЗДАНЬ У БЕЛЫМ АДЗЕННІ

Ішла я тэаз у Любушаны. Праходзіла цераз рэчку Ў луг. Кладзішча было з паўкіламетра. Іду і бачу, што з кладзішча ідзе ні то жанчына, ні то мужчына ў белым адзенні, ідзе прама ка мне. Ужо аставалася метраў пяцьдзесят. Калі я глянула, аж гэта нешта ў белым падобна на чалавека. Я спужалася, супілася, валасы сталі дыбам. Успомнілася, што маці гаварыла: «Калі якое табе будзе зданнё, то ты перахрысціся». Я тры разы перахрысцілася — і дзе што было! Прама на вачах растала!

## ДАРОГАЮ КАЛЯ КЛАДЗІШЧА

А то неяк расказвала свякруха. Ехалі яны з Быковіч у Капланцы. Ехалі на кані. Было гэта зімой. Якраз дзесьці каля поўначы. Праязджалі дарогаю каля кладзішча. Едуць сабе, з мужыком яна была, гавораць. Свёкар сядзіць уперадзе і правіць коньмі, а свякруха — ззаду.

Чую, расказвае свякруха, нехта мяне ззаду за плечы крэпка сціснуў. Я гавару мужу:

— Васіль, паглядзі, хто мяне ззаду так сціснуў.

Ён агледнуўся, паглядзеў.

— Нікога, — кажа, — няма, не выдумляй.

Я аглянулася назад, бачу: вялікі сабака. Я каліў мужу:

— Прагані ты гэтага сабаку. Ён паглядзеў — сабакі нідзе не ўбачыў. Я сабаку бачу, а муж ніяк яго не бача. Тады я ўзяла перахрысцілася тры разы, мне стала лёгка, нікога каля мяне не стала, аглянулася — а сабака пабег на кладзішча. Больш па той дарозе мы не ездзілі.

## ВЯРТАЮЧЫСЯ З ВЯЧОРАК

Некалі маладыя дзяўчаты сабіраліся на вячоркі ў якую-небудзь хату. Там яны вышывалі, ткалі, пралі. Яны там сядзелі да часу ночы. І вот аднойчы дзяўчаты, а іх было тры, вярталіся дахаты. Ідуць яны па дарозе, а наўстрэчу ім ідзе цётка — такая ўбраная ва ўсё вытканае: і блузка, і спадніца, а на канцы карункі. Так калісь хавалі нябожчыц. Ідуць яны, а калі з ёю параўняліся, адна дзяўчына штурханула яе і нешта ёй сказала. А яна ператварылася ў мужыка і стала тую дзяўчыну душыць, а тая ў крык. Дзве другія спужаліся і пабеглі. Пабудзілі сваіх матак і той дзяўчыны разбудзілі матку. А калі яны прыбеглі туды, то тая дзяўчына была мёртвая, а каля яе нікога не было.

## СПАТКАННІ НА МОГЛІЦАХ

Адзін раз дзяўчаты паспорылі. Адна сказала, што яна ў два часы ночы сама пройдзе па модніцах. А тыя не верылі ёй.

Адзін раз, а гэта было ў суботу, пайшлі яны ўсе ў клуб на танцы. Калі танцы кончыліся, тая дзяўчына пайшла на могліцы. Ідзе яна, і яе сустракае такі малады і крэсівы хлопец. Ён папытаў яе, куды яна ідзе. Яна ўсё яму расказала. Ідуць яны, ён яе абняў, а потым яны селі. І ёй здалося, што грае музыка. І яна кажа:

— Пайшлі пагуляем.

Ён адказаўся. Пасядзелі яны яшчэ трохі. А яна кажа, што трэба ісці дахаты. Ён кажа:

— Можа я цябе правяду.

Яна сагласілася. Ён яе вывеў на дарогу і сказаў, што ідзі ўжо сама. Яна прыйшла дахаты такая вясёлая. І яна вельмі чакала суботы. Мацеры сваёй кажа:

— Мама, як я чакаю суботы, каб ты знала, якога я хлопца сустрэла.

Маці тожа ўзрадавалася. Але яна нічога не падазравала. Прайшла адна субота, другая, а яна ўсё пасля танцаў ідзе на могліцы, ужо і дзяўчатам нічога не кажа. А дзевак гэта заінцерасавала: як гэта яна ў два часы пайшла на могілцы. Адзін раз — то гэта на спор. А гэта і другі, і трэці раз. І яны рашылі наслядзіць. Пайшлі на танцы, і яна з імі. Потым у два часы яна цішком, цішком уцякла, а дзеўкі за ею. Яна пайшла на могліцы, і яны за ёю. Бачаць: ідзе ёй насустрач хлопец. Яны паздароваліся, абняліся і пайшлі селі на лавачку. А ён палажыў руку на плячо і кажа:

— А ты цяпер не адна, ты цяпер з дзяўчатамі.

Яна пытае:

— З якімі?

Бо яна ж не знала, што за ёю слядзяць.

— А гэта добра, што ты не адна, — кажа ён, — калі б ты была адна, то жывая дахаты не вярнулася б!..

Тая дзяўчына павярнулася да яго і як глянула на яго — а ён увесь у валасах і вельмі страшны! Яна са страху пачала крычаць і бегам прыбегла дахаты. І больш не хадзіла на могліцы.

## НА ТРЭЦІ ДЗЕНЬ, НОЧЧУ...

Гэта было даўно. У вёсцы памерла адна дзеўчына. Але ж маладыя ніколі не звяртаюць увагі на тое, што гавораць ім старэйшыя, што трэба насіць жалобу сорак дзён пасля смерці роднага ці блізкага. І вось у суботу, а гэта было на трэці дзень пасля пахарон, хлопну пайшлі на танцы. Ідучы дадому з клуба, яны ўбачылі, што нешта белае ламала з плота калкі. Як яны гэта ўбачылі, дык пачалі ўцякаць. Тады яно адарвала самы большы калок і кінула на іх. Ляцелі яны тады без духу. І больш баяліся ўжо хадзіць вечарамі, так напалохаліся яны.

## ПРОСЬБА ДЗЕДА

Аднойчы да нас на сход прыйшоў адзін дзед. Не паспеў ён пераступіць парог, як стаў гаварыць: «Дапамажыце мне, людзі, у мяне вялікая бяда. Ужо і даўнавата памерла ў мяне жонка, але з таго дня

яна заўсёды са мною. Я ніяк не магу ад яе адчапіцца. Яна прыходзіць да мяне вельмі часта ноччу. І трывожыць мяне яна. Мне з ёй і не хочацца зусім гаварыць, але яна не адстае ад мяне, усё распытвае і нешта робіць. Вось што я аднойчы прыдумаў: зрабіў рашотку і набіў туды цвікоў, а паставіў гэта ў парозе. Я думаў, што яна мяне ніколі ўжо не дастане, бо не пройдзе. Але ў гэту ноч было самае страшнае, што і прывяло мяне сідры да вас. У гэтую ноч яна страсянула мой ложак, я зваліўся і нават крэпка пабіўся. Дапамажыце мне!»

## ЗА БЕЛЫМ ЦЕНЕМ

Падвыпіў гэта я трошкі. Ну, з кім не бывае. Дальбог, у галаве закружыла, ну, вядома ж, у кума ў гасцях быў. Але ж дахаты трэба збірацца, а то жонка пэўне ўжо зачакалася.

Дарога ішла паўз лес. І могілкі ля дарогі. Я ж гэтае чалавек бывалы, усё згледзеў на жыцці сваім. Аж бачу: нейкі белы цень уперадзе, і мне ўсё хочацца за ім ісці. І ўжэ ў галаве пасвяжэла, здаецца, і хата павінна быць, аж гляджу: зноў у кума каля хаты апынуўся.

І ліха ж яго знае, што гэта са мною было такое. Бываў і п'янейшы, але ж дахаты прыходзіў. Во. людцы, нейкая сіла ж ёсць на свеце.

# ПАДАННІ, БЫВАЛІЦЫ, АПАВЯДАННІ-ЎСПАМІНЫ

## ПАДАННІ

Паданне, будучы таксама, як і казка ці легенда, вусным мастацкім апавяданнем, ад гэтых папярэдніх істотна адрозніваецца тым, што зместам сваім звязана з якой-небудзь канкрэтнай падзеяй гістарычнага жыцця-быцця народа і прымацавана да пэўнай мясцовасці. Іншымі словамі, паданне ўзнікае на аснове гістарычнай рэчаіснасці, гістарычнага факта. Часцей за ўсё яно вырастае з нейкай падзеі мясцовай гісторыі. Маюць слушнасць тыя фалькларысты, якія сцвярджаюць, што паданняў ^гістарычных няма наогул. Устаноўка на гістарызм — іх найбольш характэрная рыса. Адсюль і грамадская функцыя паданняў перш за ўсё — пазнавальнаінфармацыйная. Галоўнае назначэнне іх — пра штосьці даўняе мінулае паведаміць, расказаць — зразумела, пра штосьці вартае памяці людзей. Гэта, вядома, не азначае, што паданне як жанр фальклорнай прозы абыходзіцца без выдумкі, у тым ліку — цудадзейнага характару. Ёсць у ім і пэўная доля выдумкі, сустракаюцца і неверагодныя фантастычныя пераўтварэнні, але ўсё гэта выконвае ў творы ролю дапаможную, усё гэта «працуе» на рэальны факт. Паданне, як правіла, не карыстаецца сімволікай і не мае той ступені мастацкага абагульнення, якою вызначаецца казка.

Істотнай прыкметай многіх паданняў з'яўляецца іх растлумачальны характар — імкненне даць адказ на пытанні: адкуль што ўзялося, як узнікла і чаму так называецца. Вытлумачыць, напрыклад, паходжанне і назвы пэўных населеных пунктаў, рэк і рэчак, азёр і крыніц, элементаў ландшафту (курганоў, замчышчаў, валуноў і інш.), урочышчаў (лесу, паляны, балота і інш.). У беларускім фальклоры большасць паданняў менавіта такога зместу. Астатнія — іх меншасць — звязаны з лёсам і жыццём пэўнай асобы, канкрэтнага чалавека, нечым выдатнага і цікавага. У іх расказваецца пра які-небудзь адзін — найчасцей драматычны ці нават трагічны — эпізод з біяграфіі чалавека.

Патрэбна зазначыць, што каштоўнасць паданняў не ў іх летапісна-хранікальнай дакладнасці, а перш за ўсё — у перадачы агульнай сацыяльна-псіхалагічнай атмасферы часу, пра які расказваецца. Ужо забыліся многія гістарычныя назвы, канкрэтныя імёны, але не сцерлася ў памяці народа галоўнае — тое, якія людзі

жылі-былі калісьці на нашай зямлі і праз якія падзеі, праз якія нягоды і пакуты ім прайсці давялося! Вось гэта памяць народа і ёсць тое самае істотнае, чым заслугоўваюць паданні ўвагу сучасніка. Вядома, каб менавіта так успрымаць іх — трэба валодаць здольнасцю ганарыцца мінулым свайго народа і краю, цікавіцца ім, бачыць у ім сапраўды высокае і гераічнае. Гэта тым больш важна, што сярод беларускіх паданняў амаль няма твораў пра відных і выдатных дзяржаўнапалітычных дзеячаў нашага краю, у чыіх вобразах якраз і ўвасабляецца веліч нацыянальнай гісторыі. Як і ўсякі народ, які цягам доўгіх стагоддзяў не меў сваёй дзяржаўнасці, мы, беларусы, пахваліцца вялікім гістарычным эпасам менавіта такога роду, на жаль, не можам. Тым мацней трэба шанаваць тое, што ёсць, як мага глыбей пранікаць у ідэйны змест таго, што ёсць, — каб лепш убачыць і зразумець складаны гістарычны шлях свайго народа.

Што да асаблівасцей мастацкай формы падання, то яна не вызначаецца той традыцыйнай кананічнасцю, устойлівасцю кампазіцыйна-структурных элементаў, што ўласціва казкам. Кожны раз паданне расказваецца так свабодна, як бы складаецца нанава. Сюжэт у ім, як правіла, аднаэпізодны, часам і зусім няма выразна акрэсленага сюжэта, няма і такіх характэрных для казачнай прозы кампанентаў, як агульныя месцы, пастаянныя формы, дыялог, зачын, канцоўка. Натуральна, што паданне не вымагала ад народнага апавядальнікабаяра такога ўмення расказваць, якога вымагала казка.

## КАПЛІЦА

Каля нашай вёскі на скрыжаванні дарог стаіць капліца. Расказваюць, што прыблізна сто пяцьдзесят гадоў назад у вёсцы была страшная хвароба: халера. Вельмі многа памірала людзей, не паспявалі рабіць труны. Паложаць некалькі чалавек у сані і вязуць на магільнік. Вёска пусцела, з вясковых амаль нікога не засталося. Прыязджалі новыя людзі. З'явіліся новыя фаміліі. А хвароба не выходзіла. І тады вырашылі ахвяраваць. За адну ноч яны напралі, наткалі паспех, абняслі ім усю вёску, а затым спалілі на скрыжаванні. Пасля пачалі мураваць капліцу з камення. На самым версе капліцы стаіць крыж. Па баках у вокнах вісяць абразы. Расказваюць, што нехта бачыў ноччу каля капліцы жанчыну ў чорным адзенні, якая ўсё гаварыла, што ёй не далі тут разгуляцца.

## ПРА ПАНІ З ГАЛЬШАНСКАГА ЗАМКА

У замку жыла пані. Яна сваім парабкам давала прасці лён. Грошы, колькі трэба плаціць, не плаціла, а толькі хацела, каб іх ашукаць. Парабкі за гэта яе праклялі. Яна сама стала прасці. І калі толькі хто з парабкаў гляне, то яна ўсё прадзе воўну. І вось усе баяліся ісці да яе.

У гэты час надарылася новая служанка — здалёку аднекуль. Ёй сказалі ўбіраць усе пакоі. І калі яна дайшла да пані, то ўбачыла яе прадучы. Служанка спыталася, чаму пані прадзе. Пані адказала: «Ідзі, вазьмі спіс парабкаў, каторым мне трэба даплаціць за работу. Грошы і спіс ляжаць у куфры. Грошы раздай абавязкова парабкам».

Калі ўсё гэта зрабілі, стала прасці. А сын пані І з таго часу не абманвалі тады толькі пані пераўзяў у жонкі служанку, парабкаў.

## ЧАМУ СТАРОБІН НАЗЫВАЕЦЦА СТАРОБІНАМ

Было гэта даўным-даўно, у час мангола-татарскага нашэсця. Манголы з нарабаваным дабром і палоннымі ішлі ў сваю Залатую Арду. Але палескія балоты і вясенняе разводдзе перагарадзілі ім дарогу. З імі было сто маладых дзяўчын. І вось, каб не карміць сваіх рабынь, яны закапалі іх жывымі. Кажуць, што гэта было недзе бліз цяперашняга Старобіна. Спачатку гэтае месца называлася Старобынь

(сто рабынь), а затым — Старобін.

## ПРА САБАЧУЮ ГОРКУ

Яшчэ калісь, як не было мяне, а мой дзед быў маладым хлопцам, у нашай мясцовасці здарылася адна гісторыя, якая дала назву гары, што ў парку. Здаўна на нашай зямлі княжыла дынастыя магнатаў князёў Радзівілаў. Князь Радзівіл вельмі любіў паляваць у сваіх вялікіх багатых лясах. Нездарма слава аб княжыцкіх сабаках ляцела па ўсяму краю, і к яму прыязджалі многія любіцелі палявання, каб палюбавацца вядомай сабакарняй.

Але ў адзін год штосьці здарылася з княжацкімі борзымі: сем любімых сабак Радзівіла здохла. І тады князь даў волю свайму самадурству і жорсткасці. У першую чаргу ён расправіўся з даглядчыкамі сабак. Але гэтага было мала для крыважэрнага князя. Таму ён сагнаў з навакольных вёсак мужыкоў і загадаў выкапаць вялікую яму і закапаць, з чэсцю пахаваць сваіх любімцаў. Аднак і гэтым не задаволіўся. Ізноў сагналі сялян і заставілі іх зрабіць над магілай вялікі насып, узвышша, як помнік псам. Некалькі дзён пралівалі крывавы пот людзі, цягалі зямлю для княжацкай уцехі. І вось ужо закопчана работа. Радзівіл мог ужо кожную раніцу любавацца васьмімятровым узвышшам, у якім былі пахаваны сабакі.

Многа вады пацякло з тых часоў у мора, а гара яшчэ і цяпер узвышаецца — як успамін аб тых цяжкіх часінах. Праўда, яна ўжо не такая высокая, але людзі і цяпер завуць яе Сабачай.

## КУКАЛКА

Гэта было даўно, у часы прыгону. На гэтым месцы, дзе цяпер вёска, раслі дубы. Уся гэта мясцовасць належала злому, лютаму пану, прытым сляпому. Пан быў хоць сляпы, ды часта любіў хадзіць са стрэльбай на паляванне. Страляў ён трапна, па слуху. Пачуіць, бывала, што цецярук недалёка балбочыць (тады цецерукоў тут многа вадзілася), ці зязюля кукуіць, ён прыслухаецца і застрэліць птушку здалёку, не бачачы.

Аднойчы гэты люты пан загадаў адной вясковай жанчыне лезці як мага вышэй на дуб. Калі жанчына ўзлезла высока на дуб, ён загадаў ёй сесці там і кукаваць. Сам адышоўся на патрэбную яму

адлегласць і стрэліў на гук, на кукаванне. Жанчына мёртвай упала з дуба. І гэты пан застрэліў так не адну жанчыну — ён усіх «непакорных» яму прымушаў лезці на дрэва і кукаваць. З тых пор мясцовасць гэту людзі і пачалі называць Кукаўкай.

## ПРА НЁМАНСКІ КАМЕНЬ

Дзесьці на Нёмане ёсць вялікі камень. Вось якую гісторыю расказалі аб гэтым камені.

Калісьці ў тутэйшага князя быў паляўнічы, малады хлопец. Без яго князь ніколі ў лес нават не ступаў. Падстрэліць той хлопец якога-небудзь звера ці птушку, а князь перад панамі выхваляецца, што гэта яго здабыча. Не вытрымаў княжацкі паляўнічы, расказаў людзям, што князь толькі на кані гарцуе, а сам нават страляе рэдка. Дакаціўся гэты расказ да князя. Вельмі раззлаваўся ён і загадаў хлопцу збірацца на паляванне. Прыйшлі ў лес, князь і гаворыць:

Паданні, вываліцы, апавяданні-ўспаміны

— Лезь на дрэва і паглядзі, ці відаць адсюль твая хата.

Залез хлопец на дрэва, паглядзеў і гаворыць:

— Не, не відаць, ваша вялікасць.

— Ну дык і не ўбачыш ты яе больш, — прамовіў князь і выстраліў з ружжа.

І зваліўся хлопец на зямлю. Пахавалі яго на беразе рэчкі, курган на магіле насыпалі. А потым акамянеў той курган, і ляжыць ён зараз Каменем.

## ПРА КУРГАН «ГАРАДЗІШЧА»

Калісьці даўным-даўно ў нашай мясцовасці католікаў зусім не было. А раней жылі тут толькі праваслаўныя. Былі ў іх свае звычаі, адзначалі свае святы. Калі палякі напалі на нас, то панаязджала сюды вельмі шмат польскіх паноў. Пачалі яны прымушаць усіх людзей прымаць польскую веру. Некаторыя, больш багатыя, збаяліся паноў і прынялі іхнюю веру, а большасць людзей адмовілася.

І быў у нашай царкве поп, які заклікаў людзей не прымаць новай веры. Дазналіся пра гэта паны, і рашылі яны знішчыць папа, ды так, каб усім стала страшна.

Аднойчы ў час малебна паны са сваімі войскамі зачынілі дзверы

ў царкве і засыпалі царкву і людзей у ёй пяском.

Цяпер людзі кажуць, што адзін раз у год, ноччу, выходзіць з кургана поп і заклікае людзей раскапаць курган і вызваліць людзей закапаных.

Але калі настае тая ноч, цяпер ніхто ўжо не ведае, пагэтаму ніхто і не раскопвае кургана. У народзе гэты курган называюць «гарадзішчам».

## ПРА КНЯЗЯ РАДЗІВІЛА

Паехаў князь Радзівіла на фурманцы на паляванне ў Дзяніскаўскі лес. З княжацкага акружэння нікога пры ім не было. А князь гэты ліха абходзіўся з сялянамі, не вельмі любілі яго.

Быў такі Арлоўскі, і сабраў ён атрад верных людзей, заступаўся за просты народ. Даўно ўжо палявалі хлопцы на злога князя Радзівілу. Дазналіся, што князь на гэтай дарозе будзе ехаць, зрабілі па яго засаду. А князь як усё роўна ведаў гэта. Пад'язджаючы да лесу, князь сам сеў на козлы, на месца фурмана, а яго пасадзіў у фурманку. Праехалі так трошкі, раптам раздаўся стрэл з абрэза. Быў забіты не пан, а фурман. Хітры Радзівіла змог уцячы.

Сям'і забітага фурмана князь падарыў цэлы фальварак. А тое месца, дзе хацелі забіць князя, ён абгарадзіў. Загадаў паставіць белыя слупкі з ланцугамі. Гэта месца і цяпер можна пазнаць па агароджы.

## У ПАМЯЦЬ ПРА ТЭОЛУ

Гэта не казка, а быль. Некалі тутэйшы маёнтак купіў Дабычын, яны і былі апошнімі панамі ў нас. Бачыла, у парку каля дарогі і канала ёсць яшчэ груды камення? Гэтыя камні былі вялікай сцяной, якая акружала маёнтак.

А ў гэтага самага Дабычына была дачка, якая доўгі час жыла ў Парыжы. Бацька і падарыў ёй гэты маёнтак, і назваў яго ў чэсць дачкі — Тэалін, бо дачка тая звалася Тэола. Кажуць, што яна была вельмі красівая. Старыя казалі, што чуткі аб ёй ішлі далёка, ад гэтых месц, многія паны прыязджалі ў сваты да яе, але паненка была вельмі ганарлівая. Кругом маёнтка быў лес, і, відно, скучна было ёй тут пасля Парыжу. Кажуць, яна збіралася ўжо ехаць у Варшаву да цёткі.

А ў пана быў батрак Алесь, які быў даглядчыкам коней. Вось і

ўлюбіліся гэты самы Алесь і паненка Тэола. Места для ўстрэч яны выбралі далёка не толькі ад маёнтка, але і ад вёскі.

У лесе ёсць гара, ты яе ведаеш, — вось там яны і сустракаліся, на самай вяршыні горкі, каля дуба. Бачыла яго там?

Як аб гэтым дазналіся бацькі Тэолы — ніхто не ведае, але яны рашылі Тэолу адправіць у Варшаву, а Алеся забрылі ў гайдукі. І яны нашлі адзіны шлях, каб быць разам. Ноччу яны ўцяклі ў лес на гару, і Алесь забіў нажом спачатку Тэолу, а потым сябе. Раніцой іх нашлі на той гары, пад дубам. Бацькі не рашыліся пахаваць іх па аднаму, таму і пахавалі іх тут жа, на гары, пад дубам. Раней тут памятнік стаяў, і за магілай быў дагляд, а цяпер усё зарасло, але пад дубам яшчэ ляжыць камень, на якім нешта напісана. У народзе з той пары і завуць гэту гару — гара любві, а мястэчка — Тэалінам. У памяць аб той парыжскай паненцы.

## НАВАСЁЛКІ

Раней гэтай вёскі не было. Была другая і яна звалася інакш. У той ранейшай вёсцы ўсе паўміралі ад хваробы. Як жа гэта яе звалі?.. Ад чумы, мая дзетка, ад чумы! Найшоў на людзей мор, і ўсе памерлі. Але поле было добрае, лясы. Тады людзі высвенцілі гэта месца, і чалавек збудаваў новую хату. Тады іншыя людзі пачалі побач сяліцца. Яны ўсе і назвалі сваю вёску Навасёлкі. Так яна і зараз завецца.

## ПРА КРЫЖ ПАД САСНОЮ

У дзярэўні Мішневічы ёсць сасна, а пад сасной ляжыць каменны крыж. У народзе гавораць, што некалі ў гэтай дзярэўні жыў багаты пан з пані. У работніцах у іх была красівая дзеўка, яна няньчыла дачку пана і пані. І вот здарылася няшчасце: яна ненаўмысна прыдавіла іх дачку. Паны яе сільна білі, а тады ўзялі і закапалі яе жывую. А людзі на тым месце пасадзілі сасну і палажылі каменны крыж. Вот і цяпер стаіць сасна каля дарогі, а пад ёй ляжыць крыж.

## ПРА ВОЗЕРА КРОМАНЬ

Недалёка ад вёскі Налібокі, у лесе, ёсць вельмі прыгожае і вельмі

глыбокае возера Кромань. Старыя людзі расказваюць, што калісьці на месцы гэтага возера была вялікая вёска. Яна належала аднаму пану. Але пан рэдка заглядаў туды, бо дабрацца ў тую вёску было вельмі цяжка. Яе абступаў непраходны лес і непралазныя балоты. Людзі там жылі вольна, не ведаючы панскага прыгнёту. Яны палявалі, збіралі мёд, лес іх карміў, адзяваў.

Але аднойчы пан, які быў на паляванні, папаў у гэтую вёску. Ён убачыў, што людзі жывуць там і вольна і весела. Яму гэта вельмі не спадабалася. Праз тыдзень ён, ужо з атрадам гайдукоў, наведаўся яшчэ раз і аблажыў сялян цяжкім аброкам. Але ўсяго сабранага яму падалося мала. Праз месяц ён зноў выслаў туды атрад гайдукоў сабраць яшчэ большую даніну. Тыя пачалі забіраць усё, што пападалася. Сяляне ўзбунтаваліся. Яны перабілі гайдукоў і забралі сабе сваё дабро. Раз'юшаны пан сабраў яшчэ большы атрад са свайго і суседніх панстваў і рушыў з гэтай зграяй у тую вёску. Калі яны прыйшлі туды, усё мужчынскае насельніцтва пахавалася ў лесе, а ў вёсцы засталася толькі старыя, малыя ды жанчыны. Пан аддаў на рабаванне вёску. Цэлую ноч і цэлы дзень ішоў гэты рабунак. Забівалі старых, дзяцей. Многія хаты былі спалены.

Калі яны здаволіліся гэтай крывавай гульбой, пан парашыў устроіць баль. Было выбрана месца, пастаўлены сталы. Пачаўся пір гарой. Калі гайдукі захмялелі, а пан быў моцна п'яны, цівун яму шапнуў, што на водшыбе ад вёскі жыве стары гусляр, які заўсёды цешыць пасяляй на вяселлях і другіх вясковых забавах. Прывялі гусляра. Пан загадаў, каб той зайграў што-небудзь вясёлае. Але стары маўчаў. Пан загадаў, каб яму ўсыпалі бізуноў. Але стары ўсё роўна маўчаў. Нарэшце раз'юшаны пан загадаў, каб гусляру выкалалі вочы. Напаліўшы на вогнішчы кінжал, п'яны гайдук выканаў загад пана. Стары страціў прытомнасць. Яго аднеслі ў гумно, якое стаяла паблізу, і там заперлі.

У поўнач, калі стары апрытомнеў, ён стаў на калені і, узняўшы рукі да неба, пракляў гэта месца, пана і гайдукоў. Ён устаў, падняў свае сляпыя вочы ўгору і выкрыкнуў: «Няхай скрамянее гэтае месца!» Пракаціўся страшны гром, раскалолася зямля. Усё скаланулася. На месцы вёскі атрымалася глыбокая-глыбокая ўпадзіна, якая хутка пачала напаўняцца вадой. А на раніцу на месцы вёскі ўжо было роўнае люстэрка вады — вялікае, як ахапіць вокам.

З таго часу возера пачало называцца Кромань. І цяпер старыя людзі, якія жывуць недалёка ад возера, расказваюць, што ў ціхія летнія раніцы, калі сонца толькі кранае вяршаліны старых высокіх сосен і ветрык не паспеў зарабіць ціхае люстэрка вады, можна

пачуць, як з глыбіні возера даносяцца прыглушаныя галасы людзей.

## ПРА ВОЗЕРА НАРАЧ

Жыў некалі даўно багаты пан, і была ў яго прыгожая дачка Ора. Закахалася Ора ў батрака. Бацька Оры не ўзлюбіў будучага зяця і рашыў яго забіць.

Пахавалі батрака на панскім полі, а на магілу ўзвалілі вялікі камень-валун. З вялікага гора Ора пайшла на камень, села і доўга плакала. Так плакала, што ўтварылася з яе слёз вялікая сажалка. З даўніх часоў берагі сажалкі размываліся вадой, і так утварылася возера Нарач. І цяпер той камень ляжыць у гэтым возеры. Калі хто яго ўвідзіць і напомніць імя паненкі і таго батрака, — так узбушуюцца хвалі на возеры, што абмываюць гэты валун.

## ПРА ВОЗЕРА БАТОРЫНА

1

Раней Мядзель быў вельмі вялікім горадам, які цягнуўся ад цяперашняга Мядзеля аж да Болачка. Горад быў багаты і меў гарговыя шляхі. Са сваім войскам, для захвату Мядзеля, рушыў князь Батурын. Каб хутчэй дайсці да горада, ён павёў сваё войска не вакол возера, а напрамую праз возера. Але чужынцаў чакала вялікая бяда. Калі войска дайшло да сярэдзіны возера, раптам лёд праламаўся, і возера пад лёдам схавала ўсё войска князя Батурына, разам з ім самім. Ні адзін воін не дайшоў да горада. З гэтага часу возера носіць назву «Батурына». Яно дайшло і да нашых дзён. Яшчэ і цяпер рыбакі часта выцягваюць з возера каскі чужынцаў.

2

Непадалёку ад Мядзеля знаходзіцца возера Баторына. Раней яно не мела ніякай назвы. Але старыя людзі ведаюць легенду аб тым, як гэта возера пачало называцца Баярынам.

Гэта было ранняй вясной. Польскі кароль Стэфан Баторый уцякаў са сваім атрадам з Масквы. Дарога ішла праз возера. Лёд на возеры быў ужо слабы, і ўвесь атрад патануў у возеры. Пасля гэтага возера і сталі называць Бабрыным.

## ПРА РЭЧКУ ВОЛЕЧКУ

Цяжка жылося людзям у вёсцы. Працуюцьгаруюць, як тая гэта казала, жыўцома ў пекла лезуць. Пан як гаркне, дык мужык, хоць парой скажа бы звяжа, цяпер гэтака змоўча.

І вот адзін мужык не вытрымаў пана-здзякоўца і распусціў стрым, патрусіў да рэчкі. Зарадаваўся ён, убачыўшы, як вада ў рацэ бяжыць. І тут-ка здалося яму, што гэта сама воля-праўда бяжыць, уцякае некуды. Спалохаўся ён, распасцёр рукі лавіць яе і кінуўся з берага ў вір страшны, крыкнуўшы: «Волечка мая!»

Праходзілі жнеі і ўчулі гэта слоўца адчайнае. З таго часу і пачалі ў вёсцы тую раку Волечкай зваць. Забаліць сэрца ў краснай малодкі па мілым, дык яна на Волечку бяжыць. Затужыць маці па сыну — таксама туды ідзе.

## ПРА КРЭЎСКІ ЗАМАК

У Крэўскім замку жылі Ягайла з Ядвігай. Была ў іх дзяўчына-прыслуга. У нечым перад імі яна правінілася, і яны яе праклялі. Кожнай ноччу ў дванаццаць гадзін яна хадзіла па замку, спявала і галасіла. Людзі баяліся прыходзіць. І далажылі духавенству. Бацюшка адмовіўся пайсці, а ксёндз згадзіўся. Дзяўчына прасіла выбавіць яе. Каб выратаваць яе, трэба вынесці ўсё нажэндзе — і тады яна выйдзе з праклёну. Але ксёндз нешта адно забыў узяць. І дзяўчына загаласіла і пайшла. Яна назаўсёды засталася праклянёная. Людзі бачылі яе да той пары, пакуль не пачаў разбурацца замак.

## ПРА НАЗВУ ВЁСКІ КАШКАНЫ

Вёска называецца так таму, што даўно-даўно сярод лесу на палянцы жыў стары Кашкан з жонкаю. Ніхто з людзей не ведаў, што там чалавек жыве. Не было ў іх ні солі, ні жалеза. Усё яны рабілі з дрэва. І калёсы ў іх былі таксама з дрэва.

І было ў гэтага старога Кашкана дванаццаць сыноў. Усе здаровыя, каранастыя малайцы.

І вось аднойчы па гэтаму лесу гуляў пан са сваёй світай. І ехаў ён у брычцы, а колы былі жалезныя. Неяк незнарок натрапіў той пан да сядзібы Кашкана. Так раскрылася патайная сядзіба. Стары

Кашкан сказаў сынам: «Ну, сынкі, раз праехала тут жалезнае кола, значыць, нам тут больш не жыць». У хуткім часе сыны яго пажаніліся, і ўтварылася вёска. З таго часу і сталі называць яе Кашканамі.

## ПРА ВЁСКУ ІГРУШКА

Раней было возера. За возерам жылі людзі, якія хутка паўміралі. Засталіся толькі тры браты: Сяргей, Ціт, Макар. Сяргей неяк прысніў сон, у якім яму гаварылі: «Ідзі па лесе, знойдзеш рэчку, пры якой будзе стаяць грушка, там з братамі паселішся і застаяцеся жывымі». Так тры браты і зрабілі. Яны найшлі па лесе, знайшлі рэчку, а пры ёй расла груша. Яны там насяліліся і засталіся жывымі.

Адзін брат пасяліўся ў адным месцы, другі ў другім, трэці — яшчэ далей.

Так і найшла назва вёскі ад той грушы, а ў вёсцы тры канцы, якія называюцца Цэхаўшчына, Сяродак, Макараўшчына.

## «ГАРБАРКА»

У даўнія часы ў горадзе Паставы жыло многа татар. У вялікай гарбарні яны займаліся апрацоўкай скур. На тым месцы, дзе раней была гарбарня, зараз — гарадскі парк культуры і адпачынку. З тых часоў гарадскі парк усе называюць Гарбарнай. «Сустрэнемся на Гарбарцы», — кажа хлопец дзяўчыне.

## ПРА КОНЕЙ У ПАДЗЯМЕЛЛІ

Даўным-даўно каля вялікага прыгожага возера стаяла маленькая цэркаўка. Кожны год яна апускалася пад зямлю ўсё глыбей і глыбей. І вось настаў час, калі яна зусім схавалася ў зямлю. Усе людзі, што яе ведалі, перамерлі. Часам людзі чулі, як з-пад зямлі даляталі прыглушаныя гукі — ці то звон жалеза, ці то ржанне коней. Некаторыя людзі гаварылі, што ноччу каля возера стаяць белыя здані, — то нерухома, то ціха спяваючы, ходзяць па. тым месцы, дзе калісьці стаяла цэркаўка. Страшныя расказы хадзілі аб гэтым месцы. Ніколі ноччу людзі не падыходзілі да возера блізка. Калі ж падарожны па свайму няведанню пападаў туды ноччу, то раніцай яго знаходзілі

мёртвым. Ён аказваўся раздзетым, і ў яго руцэ быў маленькі крыжык.

Недалёка ад возера стаяла хатка лесніка. Гэта быў чалавек сярэдніх гадоў, каржакаваты і прыь садзісты, як дуб, зарослы чорнаю барадою. Быў ён надзвычай маўклівы. Аб ім гаварылі, што ён водзіцца з нячыстай сілай. З леснікам жыла яго жонка і дзяўчынка-сірата. Дзяўчынка ад раніцы да вечара пасвіла кароў лесніка. Не адзін раз, пасучы каровы, яна чула ржанне коней на месцы цэркаўкі. Яна расказала аб гэтым гаспадару. Але той сказаў, што гэта яна чула шум ад падземнай цэркаўкі. Узяла дзяўчынку цікавасць. І яна пачала наглядаць за тым месцам. І аднойчы яна ўбачыла, як недзе з-пад зямлі ляснік выводзіў коней. Вечарам яна расказала аб гэтым гаспадыні. Як пачуў гэта ляснік, схапіў нож і да дзяўчынкі. Яна імгненна выскачыла з хаты і пабегла ў вёску і расказала там аб усім.

Прыбеглі людзі, а лесніка і след прастыў. Выявілася, што пад зямлёй знаходзілася прыстанішча разбойнікаў. Там знайшлі людзі многа нарабаванага дабра.

## ПРА ВЯСЕЛЛЕ Ў РАДЗІВІЛА

Паміж вёсак Сачыўляны і Явар, што на Гродзеншчыне, у маляўнічым месцы стаяў калісьці замак князя Радзівіла. Мноства легенд і паданняў звязана з гэтым месцам. Многія з іх ужо забыты, а некаторыя яшчэ захаваліся ў людской памяці. Але старажылаў з цягам часу застаецца ўсё менш і менш. І вельмі нямногія з іх могуць расказаць гісторыю замка. Адзін расказ пра тыя часы і князя Радзівіла ўдалося мне пачуць.

Старыя людзі кажуць, што ў тым старажытным замку жыў жорсткі і люты князь Радзівіл. Была ў князя Радзівіла дачка. І вось, ці то па добрай волі дзяўчыны, ці то па злой волі князя, выходзіла паненка замуж за непрыгожага, але знатнага і багатага князя. Імя яго ў памяці людзей не захавалася.

Доўга рыхтаваўся князь да вяселля сваёй дачкі. Звычайна вяселлі спраўляліся зімой, у так званы мясаед (час паміж калядамі і вялікаднём). Але князь зажадаў згуляць вяселле летам. І вось у летнюю гарачую нядзелю з варот замка выехалі маляўніча ўпрыгожаныя сані, у якія была запрэжана тройка мядзведзяў. Ехалі ў гэтых санях маладыя з маладою. Ехалі яны ў Навагрудак, каб павянчацца. Дарога не блізкая — вёрст восемдзесят. У карэтах, з шумам і гоманам, ехала шляхта^. Уздоўж усёй дарогі стаяў просты люд, які быў сагнаны

сюды, каб вітаць маладых. Стаялі людзі, але радасці ў іх было мала. Цэлую ноч яны працавалі на гэтай дарозе: выраўнялі яе, засыпалі цукрам. А як жа? Калі ехаць у санях, то патрэбен снег. А калі няма снегу — дык і цукар падыйдзе.

Кажуць, ксёндз, убачыўшы такі дзіўны абоз, вельмі спалохаўся. Яго абразіла тое, што ў касцёл маладыя прыехалі на мядзведзях, але маладых ён усё ж павянчаў — гэта дзеці князя Радзівіла!

Хутка вярнуліся ўсе ў замак. Але нядоўга піравала шляхта. Даведзеныя да адчаю, паўсталі сяляне. Доўга кіпела бітва, доўга абаранялася шляхта. Але ні адзін з шляхцічаў не змог уцячы. У час бою бачылі людзі, як у акне мільгалі цені старога князя Радзівіла і яго дачкі. Але калі бой заціх, ні князя, ні яго дачкі сярод забітых не аказалася. А на другі дзень наляцела з Навагрудка шляхта начале з... князем Радзівілам! Кажуць, быццам па падземнаму ходу ўцёк князь са сваёй сям'ёй у самы Навагрудак. Другія казалі, што падземны ход існаваў толькі да так званага Малацікавага саду. Хто з іх праў — невядома. Але што падземны ход існаваў — гэта праўда.

А замак з цягам часу разбурыўся, яго разваліны параслі горкім палыном.

## ПРА УРОЧЫШЧА ЗВЯРЫНЕЦ

Паміж Яварам і Казлоўшчынай, дзе жылі калісьці Врублеўскія (Валерый Врублеўскі — адзін з трох генералаў Парыжскай камуны), яшчэ раней^ да іх, стаяў незвычайны палац. Сам палац быў пабудаваны ў зямлі. Столь яго была зроблена з чыстага празрыстага шкла, якое ўмелі вырабляць ужо тады навагрудскія майстры. Паверху палаца працякала рака, у якой плавала мноства незвычайных рыб і марскіх жывёл. Уздоўж ракі рос лес, у якім гадавалі звяроў, сабраных з усіх куткоў зямлі.

У гаспадара палаца было дзве прыгажуні-дачкі. Прыйшла пара — пакахалі паненкі на сваю бяду бедных, беззямельных хлапцоў. Дазнаўся аб гэтым бацька і рашыў хутчэй выдаць іх замуж за багатых і знатных шляхцічаў. Сёстры як прыгожыя, так і гордыя. Вырашылі яны за лепшае памерці, чым выканаць такі загад жорсткага бацькі. Кінуліся яны ў ваду і ўтанулі. Бацька, які ўсё ж любіў сваіх дачок, вельмі перажываў іх смерць. І ён пакінуў палац, які кожную хвіліну напамінаў яму аб загінуўшых дзецях. Гаспадар паехаў, а палац з цягам часу разваліўся. Ці сам ён разбурыўся, ці то людзі дапамаглі — хто яго ведае. Але ў цяперашні час слядоў ад палаца не засталося. А

месца тое, дзе стаяў палац, і па сённяшні дзень называецца Звярынцам.

Яшчэ кажуць людзі, што ў цёмныя-цёмныя ночы з'яўляюцца там на дарозе дзве дзяўчыны. І калі здараецца ў гэты час на той дарозе чалавек, яны ветліва з ім пагутараць, пакажуць дарогу і бясследна знікаюць.

## ПРА КАХАННЕ ПРЫГОННАГА МУЖЫКА І КНЯЗЁЎНЫ

Даўно гэта было. Яшчэ ў часы панскага прыгону. У нашай мясцовасці жыў князь Раманаў. За вёскай на ўзвышшы стаяў яго замак. Яшчэ здалёк відзён быў ён сваімі сценамі. Вакол замка быў земляны насып. З аднаго боку гэтага насыпу была вырыта-нара, яна вяла цераз увесь замак пад зямлёй да ракі. З самога замка таксама быў зроблены ход к рэчцы.

Многа слуг было ў князя. Служылі ў яго і маладыя дзяўчаты і хлапцы. А была ў князя прыгожая дачка. Як яе звалі — гэтага ніхто не ведае. Адно вядома, што яна пакахала аднаго з прыгонных свайго бацькі. Сустракаліся яны ўпотай, каб не бачылі прыбліжаныя, каля калодзежа. Але аднойчы князь заўважыў, што яго дачка пачала часта аб нечым задумвацца, ні аб чым днём не клапацілася, а як наставаў вечар — яна рвалася на прагулку і кожны раз к аднаму і таму ж мосту ў канец двара замка — да калодзежа. Пазваў князь свайго вернага слугу Архіпа і кажа яму:

— Служыў ты мне верна ад самага свайго маленства (бацька твой таксама быў мой верны слуга), выканай яшчэ маю адну просьбу. Узнай, чаго мая дачка стала худнець, спахмурнела. Па вечарах яна ўсё чагосьці ходзе к к'алодзяжу.

Пакланіўся слуга князю да самага долу і гаворыць:

— Добра, ясны пан, пастараюся выканаць загад.

Вечарам гэтага ж дня князёўна чакала сустрэчы са сваім Васілём. Чакала, не магла дачакацца. Толькі пачало змяркацца, пайшла яна сваёй знаёмай сцяжынкай да калодзежа. А ўслед за ёй і слуга Архіп. Не знала, не знала бедная панна, што яна ў апошні раз ідзець да свайго каханага. Прыйшоў яе Васілёк, але злы слуга, убачыўшы яго, набег да князя.

— Яснавяльможны князь, панна стаіць каля калодзежа з халопам Васілём. Пан, яны кахаюць адзін аднаго.

— Што? — закрычаў князь. — Панна на спатканні з халопам?

Прывесці яго да мяне, я з яго выганю халопскі дурман!

Слуга рад быў выканаць загад свайго яснавяльможнага. Наляцелі, скруцілі рукі Васілю панскія гайдукі, панну прывялі да князя.

— Дык што ж гэта ты, халопе, дадумаўся маёй дачцы галаву дурманіць?

— Ясны князь, — мовіць яму Васіль, — мы кахаем адзін аднаго.

— Вось я вам пакахаю! — ускрычаўся князь. — Пазваць мне гайдукоў!

Прывялі гайдукоў.

— Усыпце гэтаму халопу гарачых, покуль не скажа: «Хопіць, не кахаю я вашай дачкі».

— Добра, князь, — быў адказ гайдукоў.

Але колькі яны ні катавалі яго, Васіль быў нем, як рыба. Толькі затым, як аблілі гайдукі яго вадой і ўзяліся выносіць са стайні, заўважылі, што ён на самай справе мёртвы. Прыйшлі яны да князя і гавораць:

— Князь, дзе закапаць гэтага халопа?

Як пачула гэта панна, так і ўпала/ абмёрлая. Ачнулася яна ўжо ў пасцелі вечарам. Тры дні плакала яна па сваім каханым, а на чацвёрты дзень вечарам, калі за ёй ніхто не сачыў, выйшла на двор да калодзежа і са словамі «Прыміце мяне ж бог і мой Васілёк» кінулася ў калодзеж.

На раніцу князь паслаў слуг клікаць панну на сняданне. Але слугі' паведамілі, што панну не знайшлі ў пакоях. Тады князь загадаў шукаць панну. Дзень шукалі, другі шукалі, а толькі на трэці дзень знайшлі яе ў калодзежы.

Пахаваўшы панну, князь прадаў сваю зямлю і замак і кудысьці выехаў. Затым гэты замак разбурылі, але земляны насып застаўся і да цяперашняга часу. Вёску ў гонар князёўны пачалі называць Раманава.

## ПРА КАХАННЕ ПАНА БАТУРЫНА

Аднойчы мой дзед расказаў такую гісторыю. Шыў некалі, вельмі даўно, на гэтым месцы, дзе цяпер мы жывем, пан Батурын. Быў ён яшчэ зусім малады, але меў свой маёнтак. Малады ён быў і вельмі прыгожы. І вось аднаго разу сустрэўся ён з адной таксама вельмі

прыгожай дзяўчынай з сялянскай сям'і, якую звалі Марыляй. З першага разу Марыля спадабалася пану. Была яна невысокая, стройная, як бярозка, з чорнымі вочкамі. Стройны стан яе абвівала каса. Было нейкае летняе свята, усе сяляне святкавалі і частаваліся панскім падарункам. Была на гэтым святкаванні і Марыля са сваім бацькам. Малады пан гуляў пад музыку з сялянскімі дзяўчатамі, а потым прыказаў сваім слугам прывесці Марылю да яго ў пакой. Прывялі Марылю да маладога пана, і ён ад усяго сэрца прызнаўся ёй у сваім каханні. Але Марыля не паверыла сваім вушам і таму, што яна пачула. Марыля кахала вясковага музыку Міколу, які служыў пры панскім двары. І таму яна не магла здрадзіць свайму каханаму. І калі Марыля адмовіла маладому пану ў каханні, пан прыказаў сваім служкам утапіць Марылю ў рэчцы. Служкі схапілі бедную дзяўчыну і панеслі да рэчкі, дзе з абрыву і скінулі звязаную Марылю ў самую глыб.

Загінула Марыля, але малады пан не мог забыцца пра Марылю. Ён кожны вечар прыходзіў на гэта месца, дзе загінула Марыля, і падоўгу сядзеў на беразе. А аднаго разу, казалі людзі, знайшлі пана ў рацэ. Ён быў мёртвы. Людзі гаварылі, што ён загінуў ад свайго няшчаснага кахання. І з таго часу наша вёска і называецца Батурын, як памяць пра пана Батурына.

## ПРА «СЛІВА-МАГІЛУ»

Гэта было даўно. Па Вяліка-Долецкай дарозе ехала карэта. У карэце сядзеў пан і яго маладая жонка. Яна не любіла мужа і рашыла ад яго пазбавіцца. Яны ўехалі ў густы лес. Было ціха. Жонка пана выняла нож і забіла нялюбага мужа.

Раптам зашумеў лес, і коні панесліся. У карэце засталася адна жонка пана. Коні несліся і несліся і занеслі карэту ў Цвецінскае возера. У гэтым возеры і патанула карэта з жонкай пана.

Цераз некалькі дзён пана знайшлі сяляне і пахавалі яго ў лесе. Месца, дзе пахаваны пан, называецца «сліва-магіла». Так як прозвішча пана было Сліва.

## ПРА КАВАЛЯ СЦЯПАНА І НАСЦЮ

Гэта было яшчэ пры панах. На гары ў вёсцы Вялікія Дольцы

стаяла кузня, а каля яе ўнізе была сажалка. Яна цэментаваная, у сажалцы б'юць крыніцы. І таму вада чыстая цячэ ў латаку. Каля сажалкі быў панскі калодзеж. У кузні працаваў малады, прыгожы, дужы хлопец. Звалі яго Сцяпанам. Каля панскага дома стаяў свінарнік, у якім рабіла дзяўчына Насця. Яна была вельмі прыгожая, у яе былі прыгожыя доўгія косы. Насця жыла толькі з маткай, і больш у яе нікога не было. Сцяпан вельмі любіў Насцю, і яна яго таксама.

Але вось у панскі дом прыехаў пляменнік старога пана Эдуард. Ён убачыў гэту дзяўчыну, і яна вельмі яму панаравілася. А на дарозе ў яго стаў Сцяпан. Эдуард пачаў прасіць свайго дзядзьку, каб ён выслаў Сцяпана ў другую вёску. Насця з вялікім болем у сэрцы рассталася са Сцяпанам. Яны пакляліся не забываць адзін аднаго. Пасля гэтага Сцяпан паехаў кудысьці з вёскі, і яго больш ніхто не бачыў. А малады панскі пляменнік пачынае хадзіць за Насцяй. Насця ненавідзіць Эдуарда, так як ён разлучыў яе са Сцяпанам, якога яна так кахала. І Насця рашыла: чым здрадзіць Сцяпану, лепш пакончыць жыццё самагубствам. І яна кінулася ў калодзеж.

Праз нейкі час прыехаў Сцяпан. Ад маткі Насці ён даведаўся, што Насця пакончыла жыццё самагубствам. І Сцяпан рашыў адпомсціць Эдуарду за Насцю. І вось аднойчы ноччу ўрываецца ён у панскі дом і забівае соннага Эдуарда. Захацелася Сцяпану ў гэту ноч пабываць у кузні. Але калі ён зайшоў у кузню, яна абрынулася на яго і забіла.

Цяпер на тым месцы, дзе быў калодзеж, расце вялікі куст ружы. А на месцы, дзе была кузня, усё зарасло травой.

## ПРА ЯЎРЭЙСКІ КАЛОДЗЕЖ

Ёсць у нашай вёсцы яўрэйскі калодзеж. Доўгі час з яго не бралі ваду. Але з цягам часу прычыну, па якой людзі не хацелі браць вады, забылі і цяпер ваду бяруць. Але старыя памятаюць гэтую гісторыю, памятаю яе і я.

Было гэта перад самай калектывізацыяй, у годзе мо якім 29-м ці 30-м. Жыў тады ў нашай вёсцы добры знахар. Ад усялякіх хвароб лячыў ён, усім добрым людзям памагаў. А ў Капыльскім раёне жыла сям'я аднаго яўрэя. Была ў іх прыгожая дачка. Але вось бацькі заўважылі, што яна чымсьці захварэла, занядужала. Прыехалі яны к гэтаму знахару.

— Памажы нам, добры чалавеча, чахне наша дачка.

— Прывядзіце яе да мяне, — кажа знахар.

Прывялі да яго дзяўчыну. Паглядзеў знахар на яе да й кажэ:

— Памрэ яна ў вас сёння ад вады.

— Як так?! — усклікнулі бацькі.

— А вось так, — адказаў знахар.

— Паглядзім, — сказалі бацькі.

Начаваць засталіся ў адных знаёмых у Раманаве. Дзяўчыне не давалі вады, калі яна прасіла ў іх вады, давала маці або бацька і зусім трошкі.

Ноччу дамовіліся дзяжурыць каля яе па чарзе. Першую палову ночы дзяжурыў бацька, затым маці. Але змораная за дзень перажываннямі і трывогамі за дачку, яна заснула. У гэты час прачнулася дачка, выйшла на вуліцу і натрапіла на калодзеж. Як і якім чынам яна ўтапілася — ніхто не ведае, але яе знайшлі назаўтра ў калодзежы. Доўгі час не бралі з яго вады. Да цяперашняга часу гэты калодзеж называюць яўрэйскім.

## ПРА АСІЛКА І ЗМЕЯЎ

Калі ісці шашою ў вёску Капці, то ў лесе відаць узгорак. На гэтум узгорку пахаваны Асілак, які спас людзей ад лютай смерці.

Было гэта так. Даўным-даўно, некалькі соцень гадоў таму назад, было ў нашум лесе надта многа ўсялякіх ядавітых змеяў. Людзі баяліся хадзіць у лес, а калі хто-небудзь пойдзе, назад не вернецца: яго заядуць змеі. Так і прападалі ў лесе ягады, грыбы і ўсялякае дабро.

Але жыў у нашых краях мудры Асілак, які кіраваў гэтымі змеямі. Шкада стала яму, што ад гэтай нечысці гіне многа людзей, і захацеў ён зрабіць людзям дабро. Сабраў Асілак усіх мужчын з вёскі і прыказаў ім выкапаць яму — там, дзе цяпер мы бачым, ідучы ў Капці, узгорак. Калі яма была гатова, Асілак свіснуў у пальцы, і з усіх канцоў лесу пачалі паўзці ў яму змеі. Асілак прыказаў мужчынам засыпаць іх увесь час пяском. Калі поўз самы паследні змей, ён абкруціў хвастом Асілка і пацягнуў за сабою. Людзі спалохаліся і перасталі засыпаць яму, але Асілак крыкнуў ім з ямы: «Засыпайце!» Тады людзі ізноў пачалі засыпаць.

Гэдак загінуў Асілак, але ачысціў нам лес ад змеяў.

## ЯСЕЎ КРЫЖ

Было гэта пры панах. Стаяў тут недалёка ад Дамуцёў маёнтак. А ў пана служыў парабкам малады хлопец-сірата Ясь. Удалы быў такі, што ўсе дзеўкі вясковыя па ім сохлі. Працаваў ён у пана ад цямна да цямна, і пан яго любіў.

Аднаго разу паехаў Ясь у лес дрэва пілаваць. Многа было ў пана лесу. Увесь гэты лес, што кругом Дамуцёў, быў панскі. І як там было, што беднага Яся дрэвам і прыціснула да зямлі. Там, дзе забіла Яся дрэвам, яго і пахавалі. Паставілі на тым месцы крыж, каб помнілі людзі.

Ужо не адзін раз мянялі людзі той крыж. Ён і сягоння там стаіць. Неяк з таго часу людзі не адважваліся пілаваць там дрэвы. Дык яны там павырасталі тоўстыя, хто ведаіць, колькі ім гадоў тым дрэвам. А ягад колькі ў тым месцы! Толькі адна туды ісці я баюся, а ўсягды іду з кампаніяй. Кажуць людзі, што гэта кроў Яся такая жывучая, што ягад там чырвана-чырвана.

## ПРА ГАРУ ДЗЯВОЧУЮ

У канцы нашай вёскі стаіць высокая гара, уся паросшая арэшнікам. Людзі называюць гэту гару Дзявочай. Расказваюць, што калісьці даўно ў вёсцы жыла вельмі прыгожая дзяўчына. Кожны хлопец лічыў за вялікі гонар запрасіць яе на танец або правесці дадому з вечарынкі. Многія хлопцы сохлі па ёй, а найбольш дык два — высокія абодва, стройныя. Дзяўчына таксама думала пра іх, але каго выбраць — не ведала. Прыйшоў час, калі бацькі хацелі аддаць яе замуж. Дзяўчыне трэба было зрабіць выбар, з кім век векаваць. І вось паставіла яна перад хлопцамі такую ўмову: хто першы ўзбяжыць на гару з вялікім каменем перад сабою, за таго яна замуж выйдзе.

Гара была высокая, і мала хто ўзыходзіў на яе прамой дарогай. Дзяўчына ўзышла на самы верх і чакала там аднаго з двух супернікаў. Хлопцы ўзялі па вялікім камені і пачалі бегчы на гару. Беглі, беглі, да палавіны гары дабеглі — змарыліся, і тут адзін упаў: сэрца разарвалася ад хвалявання і ад стомы. Другі ўзбег на гару і таксама, не дабегшы крокаў пяць, упаў мёртвым. Дзяўчына гэтага не вытрымала і пакончыла жыццё самагубствам. Яе пахавалі на той гары, якую з тога часу і завуць Дзявочай.

## ЁЎГІН КАЛОДЗЕЖ

Некалі ў далёкія часы жыла ў нашай вёсцы прыгожая жанчына Ёўга. Аднойчы яна пайшла ў лес. У лесе яе застала ноч, і яна заблудзілася. А Ёўга была цяжарная. Тут у лесе ў яе і пачаліся роды. Доўгі час жанчына была ў непрытомным стане. Праз некаторы час яна ачнулася. У пакутах перасохлі губы, хацелася піць, але побач нічога не было. Жанчына пачала рукамі разграбаць зямлю, і нечакана выбіў з-пад зямлі чысты струмень крынічнай вады. Жанчына прагнала смагу, памылася сама, памыла сваё дзіця.

Раніцай яе адшукалі аднавяскоўцы. З таго часу ў народзе гэтую крыніцу называюць Ёўгін калодзеж.

## ВОЎЧАЕ БАЛОТА

Было гэта даўно, прыкладна семдзесят гадоў назад. Дзесь у той бок, каля вёскі Савані, крыху больш улева, быў густы лес. Гаварылі, што калісьці там было многа ваўкоў, людзі нават блізка баяліся падыходзіць да гэтага лесу. Вельмі ж ужо ноччу гэтыя ваўкі давалі сябе знаць. Кругом чулася страшнае выццё ваўкоў і брэх сабак. Сабак было таксама вельмі многа. Кожны хазяін трымаў па два сабакі. І не дзіва: вёска ж была не так і далёка ад лесу.

Аднойчы дзеўка ішла са свадзьбы. Было не так позна, пад вечар. Ніхто не бачыў, як з'елі яе ваўкі. Доўга бацькі шукалі яе. Толькі на трэці дзень знайшлі на дзераве яе хустку.

Аднойчы прыехала ў гэтую вёску навучыцелька. Яна і жыла не так далёка ад гэтай вёскі. Хадзіла, сабірала яна дзяцей у школу. Дванаццаць дзетак сабрала яна. А школы ды той не было, навучаліся ў хаце адной, і жыла ў той хаце гэтая навучыцелька. Захацела яна аднойчы схадзіць дадому. Было дзела зімою. Туды зайшла, а як назад вярталася — была крыху некая мяцель. Ды і было ўжо пад вечар. Не ведала яна дарогі, зблудзіла крыху. І налучылася, што вышла да самага лесу. Заўважыла яна ўперадзе нейкія агеньчыкі.

Ніколі і не падумала, што гэта могуць быць ваўкі. Але яны ўбачылі яе і пачалі бегчы на пажыву. Спалохалася навучыцелька. Потым успомніла, што ў яе былі запалкі. Пачала паліць яна іх. Але не запалка зусім маленькая. Тады скінула яна з галавы хустку і запаліла. А дарога дадому была яшчэ не малая. Наткнулася навучыцелька на стог з сенам, і давай яна сена жменькамі выцягваць ды паліць. Ваўкі

страшна вылі, абступіўшы яе, і не адыходзіліся. Потым навучыцелька падпаліла ўвесь стог. А было гэта ўсё каля самага балота. Ваўкі перачакалі, пакуль згарыць стог, а потым ізноў кінуліся на дзеўчыну. Пасля яе засталася толькі запіска ды пальто, ды і тое парванае. Вось з таго часу і назвалі балота Воўчым.

## БЫВАЛІЦЫ

Бываліца — вуснае мастацкае апавяданне пра жыццё і падзеі не так далёкага мінулага, расказанае адметнай, «складнай», рытмізаванай і збольшага рыфмаванай мовай. З'ява ў беларускім фальклоры цікавая, самабытная і амаль зусім не даследаваная — ні ў плане паходжання, ні ў сутнасці сваёй мастацкай прыроды. Зрэшты, даследаваць яе і не проста, хаця, трэба спадзявацца, аднойчы гэта будзе зроблена. Тут абмяжуемся толькі некаторымі агульнымі меркаваннямі і асобнымі заўвагамі.

Тэмай, зместам, характарам адносін да рэчаіснасці бутэліцы блізкія, з аднаго боку, да бытавых казак, з другога — да вусных апавяданняў-успамінаў. З казкамі іх збліжае імкненне стварыць абагульнены вобраз рэальнага жыцця, падняцца над канкрэтным фактам — падзеяй, здарэннем, выпадкам, адарвацца ад геаграфічнай і іншай дакладнасці, уласцівай мемаратам (паданням, апавяданням-успамінам). Іншымі словамі, у іх многа выдумкі — найчасцей такой, якая не выходзіць за межы рэальна магчымага. Але ім не хапае той мастацкай «апрацаванасці», сюжэтна-кампазіцыйнай зладжанасці і завершанасці, якія характарызуюць сапраўдную бытавую казку. Не карыстаецца бываліца і традыцыйнымі прыёмамі казачнай паэтыкі.

З апавяданнем-успамінам бываліцу радніць устаноўка на рэальнасць, непрыдуманасць таго, пра што расказваецца. Пра яе змест можна сказаць: гэта сапраўды было; вядома, трохі не зусім так ці нават зусім не так, як расказана, трохі, а то і добра «прыманена», разбаўлена выдумкай, але — было. У той час як пра змест апавяданняў-успамінаў гэтага не скажаш — там прыдуманага або няма зусім, або яно зведзена да мінімуму.

Галоўнае, што вызначае ўласнае жанравае аблічча бываліцы, што аб'ядноўвае досыць разнародныя і ў тэматычных і ў мастацкіх адносінах творы, — гэта іх складная, блізкая да вершаванай, мова. Імкненне гаварыць мернай мовай, рытмічна ўпарадкаванымі сказамі і ў рыфму ўласціва беларусам, як і іншым славянскім народам, з даўных-давён. Не кажучы пра замовы — сапраўдныя народныя вершы, прыгадаем нашы прыказкі і загадкі — колькі сярод іх выказаных складна, так, што гучаннем сваім нагадваюць вершаванае двух-, трох-, чатырохрадкоўе. Прыгадаем тэксты батлеечных сцэнай — зноў жа тая самая цяга гаварыць складна. Возьмем, нарэшце, вясельныя прыгаворкі свата, — напрыклад, вось гэту, змешчаную ў восьмым выпуску «Беларускага зборніка» Е. Р. Раманава: «Пакуль я да

стаўба дабраўся, увесь мой насоў падраўся. А пакуль на стоўб узлез, і другей саўсім разлез. Тры гады пад лаўкай валяўся, на ёту свадзьбу спадзяваўся. Сем гадоў на печцы капцеў, на ёту свадзьбу хацеў. Мір вясёл і дом свяшчоні У гэтым доме і хаце ёсць атцы і маці, сёстры і братцы, відцы, навідцы, красныя дзявіцы і добрыя маладзіцы, і тыя бабылкі, што не маюць ні кароўкі, ні кабылкі, на сабе дроўцы носяць, у бога шчасця-долі просяць. Госціш сазваныя, сабраныя, дальнія-прыезджыя, бліжнія-прыхожыя: бліжніх бог прынёс, дальніх конь прывёз, каго кабылка прывязла, а каго мамка на руках прынясла і Жоначкі — божыя пчолачкі! Усе гучалі, крычалі — на ёты б час памаўчалі: маладая княгіня просіць песню пачаць і ў звонкі гуслі зайграць! Пан тыседкі, сын ацецкі, ваявода шляхецкі! Сядзіш ты на куце, як сокал у гняздзе, зорамі абгарадзіўшыся, звёздамі абторкаўшысь! Перад табой залатыя кубкі з мядом, а я сяджу за сухім стаўбом: жывот, як дошка, галава, як лукошка, горла, як тросць, язык, як косць! Ці не далі б вінца, а на закуску блінца, горла прамачыць і язык навучыць, — тады б я яшчэ што-небудзь можа сказаў бы!»

Прыгаворка-запрашэнне, дзякуючы несумненнай паэтычнай здольнасці свата, абярнулася, як бачым, у цэлую вершаваную прамову. Міжволі ўспамінаецца расказ А. К. Сержпутоўскага пра маладога човеншчыка-палешука, які, «старанна працуючы вяслом, у той жа час бесперапынку расказваў розныя байкі і імправізаваў даволі доўгія ўрыўкі. Усё гэта ён гаварыў у вершаванай форме з багатымі рыфмамі. <...> На мае роспыты ён адказаў, што ведае ўсе мясцовыя песні і казкі і што ў яго само сабой складна гаворыцца».

Вось на такі ж спецыфічна фальклорны, прыгаворкавы лад расказваліся таленавітымі апавядальнікаміпаэтамі бываліцы, — такою ж мернай мовай і такім жа вясёлым, жартоўным тонам, з добрым і дасціпным гумарам, які, дарэчы, вельмі часта дасягаўся дзякуючы іменна рытму і рыфме — любай і высока цэненай у народзе паэтычнай складнасці.

## ЯК НАРЭШЦЕ І ПАНУ ЦЯЖКА ПРЫЙШЛОСЯ

Усё ж паншчына была. Хадзілі людзі на работу да паноў. Цяжка было людцам жыць. І нарэшце высокія рускія людзі захацелі для ўсіх права дабыць. Прачуліся пра гэта мужычкі-сяляне і не пайшлі да пана. «Учора былі, а сёння не пойдзем — вот так!» І панок забедаваўся, што не пайшлі на работу сяляне. І сказаў ён аконаму ісці ў вёску, каб заганяў пся-мужыкоў на работу. Але людзі не паслухалі аконама, не збаяліся пана.

І прыходзе аконам да пана, а пан пытаецца:

— Што там цяпер людзі строяць-робяць, што аж на работу да мяне ісці не хочуць?

— Сярмягі на сурдуты крояць, мой пане.

І пан так злякаўся, што аж за вушы ўзяўся. Рашыў пан, страціўшы стрым душы, сам ісці ў вёску. Прыходзе да аднаго знаёмага мужыка.

— Дзень добры, пане Сцяпане!

А той яму ў адказ:

— Жыві сабе, мой пане.

Пан сцярпеў і пытаецца:

— А ці дома панская жонка Дарота? Калі дома, то няхай яна прыдзе да мяне ў маёнтак на работу. Ведаеш, пане Сцяпане, касіць-сушыць пільна трэба, ды хай яна сільна не беспакоіцца: дам пінэндзы, дам і хлеба.

А Дарота, учуўшы гэта, выскачыла з-за печы і строчыць пану, які аж збялеў, Дароту такой ўбачыўшы.

— Ой, паночку! Панскі хлеб нам ужо надакучыў. Добра панок дагэтуль нас памучыў.

Сцяпан перабіў Дароту і кажа:

— А ці ж гэта, панок, не было, што за сабаку аддавалі цэлае сяло?!

Заплакаў пан і паехаў у маёнтак.

## ЖЫЦЦЁ КАВАЛЕРА

Ну і жыццё было кавалера! Усе на цябе скоса паглядаюць: і войт, і камендант, і паліцыянт, нат солтыс і той вочы на цябе слупіць. Здаецца, усім дагаджаеш, кожнаму шапку знімаеш, або пойдзеш,

ляжаш спаць у ложка ды задрэмлеш трошка, дык паліцыя трах, трах у дзверы, звіняць шыбы без меры, схопішся ў кальсонах, пакуль апамятаешся, што гэта такое, дык вылятаюць дзверы абое. А назаўтра зноў шукаюць нанова, каб знайсці штось антыпанствова.

А жанатага яны не так чапаюць, нораў культурны памятаюць. Вось каб нарэшце спакой дастаць, задумаў Настулю засватаць. Узяўшы ў торбу хлеба, каўбасу, падвязаўшы каню хвост да часу, каб больш з паліцыяй не знацца, давай сватацца.

Еду... Хата... Недалёка блішчыць агонь, патрухівае мой конь. Тр-р-р, стаў... Стаяць двое коней ля хаты: пэўна прыехаў другі сват ды багаты. Агонь відно, я зірк пад вакно, а там войта відно. Нядаўна ўдаўцом стаў, каб ён ногі задраў. Што яму — толькі гулі, сватаецца да Настулі. За сталом сабе сядзіць, на стале бутэлька стаіць, а ў патэльні каўбасы сквірчаць. Войт выняў папер, давай пасаг чытаць: за падатак дратвы — куфар новы, за страхоўку — жыта ліпоўку, а за грунтовы — жоран новы. Гэй, няма мне чаго тут стаяць, нам тут войт пераняўся. Трэба ехаць Марылю сватаць.

Еду... Хата... Недалёка блішчыць агонь, патрухвае мой конь. Стой. Што тут такое, што галосяць абое. Агонь відно, я зірк у вакно. Ах, бадай маё шчасце з'елі каты, дзіўлюся — аж тут сваты. Бачу, урадовец сыскнога ўраду, тупае па хаце, кружыцца на адной назе — пэўна і яму вязе. Крычыць, як не дасць пяцьсот златовак, дык і з хаты не пайду, а то і з хлява ўсё павяду. Эх, няма мне чаго і тут стаяць. Хоць дастаў пад нос дзве дулі, паспрабую да Ганулі.

Я да Ганулі ўсадзіў нос, там чорт паліцыю прынёс. Яны мне і кажуць:

— Чаго ты сочыш нас, хам пракляты?

А я ім кажу:

— У сваты.

— Мы сваты табе пакажам, зараз шыю тут намажам.

Набілі мне на карку шышку вельку, з кішэні выцягнулі бутэльку і ў шыю добра мне наклалі, ды за парог прагналі.

Дык вось, браткі, хоць сватаўся блізка году, ды за панамі няма ходу, дзе, куды не паткнешся, дык на пана ўсё нарвешся. Яны добра ў нас сватаюць, усё галоцяць, забіраюць. А з такой мне навукі, хоць налажы на сябе рукі, а паліцыя, дасце вы веры, ходзіць штоноч, калоціць у дзверы, ходзіць сем раз на нядзелі і трасе, трасе пасцелі. Так, браточкі, цяжка жыць кавалеру.

## ЗА ПРЫГОНАМ

Паслухай, грамада, якая даўней была бяда. От Тарас і Даніла помняць ўсё, што тады была. Прэждзе першых урамён была многа перамен. Да 1860-га году , Была нам

жызня кепскага роду. Каталікі былі тады панамі і начальнікамі над намі. Паны былі за судзей, а нас не лічылі за людзей. Яны былі крапаснымі, а мы у іх запаснымі. Яны смачна пілі, елі, раскошнічалі, гулялі, а нас на скаціну мянялі. А мы елі хлеб з адной мякіны, і нас мучылі мудрэй скаціны. Не было ў лесе ні адной бярозкі, з якой бы не ламалі розгі. На нашу грэшную спіну ламалі й лазу і асіну. Вадзіцы, кажуць, напіся і на прыгон тарапіся. А калі ты не прыйшоў у срок — То і ў спіну палучыш і ў бок.

І калі што зрабіў без ведама пана, то будзе ўжо скура твая драна. Сорак раз далі Дзянісу, што прадаў цялушку лысу. І сорак раз далі Дзям'яну, што выкапаў на полі яму. А хмельнаму Саўку паламалі на спіне палку. А пана войта баяліся мудрэй чорта.

## ШЛЯХЕЦКІ КІРМАШ

У Магілёўскай губерні,
у горадзе Кручы,
сабіраліся шляхты,
што цёмныя тучы.
Яны каталісь вулкамі,
пілі вінцо, закусвалі булкамі.
Пілі водку і вінцо,
а козы кушалі іх сянцо.
Вот усе вазкі з картузамі,
і ўсе напоўнілісь казамі.
А адзін вазок без картуза —
і туды забралася каза.
А кручынскія ж...
выпусцілі яшчэ і кароўкі.
Ідзе карова да казы.
«Здраствуй, — кажа, — суседка!»
«Здраствуй, бурая!
А дзе ж тая красная, другая?» —
«Да еслі б нас сабралося болей,

так нам бы сена не было ў даволю.
А ежма сена паскарай
да ў разгаворы весялей».
Вот гаворыць казе суседка:
«Як табе сена едка,
што ты ясі, ўвяродка,
аж трасецца твая бародка?
Вот я, бедная карова,
Я на зубы не здарова:
Спераду саўсім не маю —
толькі языком займаю».
«Занімаеш ты, — кажа каза, — вужасна,
ды і путаеш прэкрасна».
Тут выскачыў паніч малады
і ўрэзаў пугай казу:
«Не скачы па майму вазу!»
Карова ад вазка адляжала,
уздыхнула і сказала:
«Нікагда я не відала,
каб за такое пустое дзела
і ўрэзаць да жывога цела!»
Вось сталі шляхты раз'язджацца
і між сабою праймацца:
«Спасіба, братцы, за кумпаню,
што бавілі час лагодна,
але ехаць нам невыгодна:
голы нашы возкі —
паелі сена вашы козкі.
Трэба ўстанавіць такімі ўказамі,
каб не травіць сена пазамі.
Трэба сказаць Феліксу і Пятру
прыйсці на прыгавор паутру».
Вот у назначоны срок
прыйшоў Фелікс і Пятрок.
А Рыгора нету —
нет і ніякога савету.
Патом прыйшоў Антон.
Пагаварылі аб том,
як у горад Кручу ўязджаць
і чым вазкі высцілаць:
ці пянькой, ці льняным,

каб палучша было ехаць п'яным.
Гаворыць Міколка:
«Так жа будзе колка!»
Гаворыць Пятрок з Юльянам:
«Нада высцілаць дыванам».
І з ім усе сагласны,
бо савет прэкрасны.
Вот на святое Вадохрышча
сталі шляхты збірацца
і між сабою вітацца.
А козы к вазам падбіраюцца
і між сабою здзіўляюцца:
«Наверна, перамена свету,
што ў кожным вазку сена нету?»
Адна каза бязрога —
тая глянула да бога.
А другая глаз не мае.
«Наверна, — кажа, — нас бог карае.
Вот ад бога ды да неба
нам нямнога сена трэба.
На мінутку ці на час,
пака не наемся якраз».
Вот карова і каза
прыйшлі да аднаго ваза.
А карова не стыдзілась
і за дыван хапілась.
А каза з яе смяецца,
аж у бакі бярэцца.
І карове стала стыдна
і вочань абідна.
Карова языком дыван занімае
Ды казе адвячае.
«Ты, — кажа, — каза, з натугі
паспытала панскай пугі».
«Дый ты, карова,
ад панскай пугі на зубы не з дарова».
Ідзёт казёл сівы з рагамі:
«Што за драка между вамі?
Я над каровамі і пазамі
дэпутатар между вамі.
Ты, карова, не сварысь з казой,

бо абсякуць цябе лазой.
А ты, каза, не сварыся з кароўкай,
бо абсякуць цябе вяроўкай».
Сказаў і сам пайшоў
к таму самаму Віктору.
А той Віктор даўганос,
і вядуць яго козы на дапрос.
«За што ведзіцё
мяне на дапрос,
што я у вас вараваў?» —
«А не за тое, што ты вараваў,
А за тое, што даўганос.
І вялеў шляхтам п'яным
вазкі высцілаць дыванам».
«Эх вы, — кажа, — козы, козы!
Мой нос абыкнавенны,
а ваш суд гавенны!»
Расплакаліс козы,
пацяклі ў іх слёзы.
Паслалі па рабіна.
Рассердзіўся рабін,
як найхудшы д'ябал.
У крэсле сядзіць і біблію чытае
і сам сябе за пэйсы хватае.
«Эх вы, шляхты, шляхтуры,
дываном вазкі высцілалі.
Бога вы пабойцесь і над пазамі змілуйцеся
Пайдзіце вы ў косцел да споведзі,
што вам ксёндз паводзіць —
ён гэта вшыстке ведзі».

## БАЎТРУЧКА ПАСЛУХАЎ

— Ну, што, — нажа Баўтручок, — пойдзем вып'ем хоць кручок?

— Добра пажані: выпіць то выпіць, палі мая жонка ліхая, піць водкі не дазваляе.

— Да і мая была такая звярыца, каб яе не насіла сырая зямліца. Як даў раз, другі харашэнька, дык зрабілася мякчэнька.

— Добра кажаш. Даць то даць, але як з маёй звярой ліха

расчаць.

— Да вот, — нажа, — трэба ісці ў парчму, напіцца, прыйсці дамоў, да бабы прычапіцца.

Прыйшлі ў карчму і не ўспелі сесці, крыкнулі: «Водкі прынесці». Аж глядзім, два зухвалцы сядзяць і на нас скоса глядзяць.

— Вы таго не знаеце, што дабро бацькі прапіваеце?

Яны на нас сыпнулі, як восы са збанка. Мне дык трошкі папалося, а як нашаму Баўтручку, дык добра давялося. Абкацілі пад плотам, абхляпалі кажух балотам.

Іду і спяваю:

Цёмная ночка,
Цёмная будзе,
Асмяюць мяне,
Беднага, людзі.

Іду, гляджу: сядзіць баба ў акне і вышчарае клыкі на мяне. Глядзіць, смяецца, а што будзе — не спадзяецца. Я:

— Баба, адчыні!

Баба не адчыняе. Я другі раз:

— Баба, адчыні!

Баба адчыніла. Я іду, скасерыўшыся, каля печы, а яна груп мне пулаком у плечы. Як грук, дык грук. Баба раз'ярылася і каленькамі на грудзі ўзбілася.

А я:

— Бабка, перастань! Чы ж я б цябе біў, чы ж я б цябе губіў, каб не гэты Баўтручок, каб не гэты водкі кручок?

**ВЯСЕЛЛЕ**

Можа з вас яшчэ хто не забыўся,
Як Піліп з Магдуляю жаніўся.
Можа і з вас яе хто знае, —
Яна была вельмі ліхая.
Была тая Магдуля
Горкая, як цыбуля.
Усімі хлопцамі ганьбавала,
А Піліпа ўпадабала.
Адно ж: горка доля яго напаткала.
Піліп быў хлопец стройны, высокі, выхілы,

Усім дзяўчатам ён быў мілы.
А Пiлiп як Магдулю палюбіў,
Усякага ўбрання накупiў.
Убраў на славу, як чорт паву.
І свадзьбу справiў,
Ды й музыку наняў,
Ды толькі й таго паджыдаў.
У нядзелю раненька, як зазванілі,
Усе да Пiлiпа на вяселле пакацілі.
На вяселлі ўсяго ўдоваль маюць,
П'юць, гуляюць ды Пiлiпа ўспамiнаюць.
Пiлiп сядзіць за сталом, як хворы,
А Магдулю ўбіраюць у каморы.
Кажа сват брату:
«Трэба ж весці і Магдулю ў хату».
Прыводзяць Магдулю ў белі —
,Хоць калышы ў калыбелі.
Кажа сват:
«Ты, мельнік, купі млынок,
А ты, Магдуля, на прымі вянок,
Усё вяселле на галаве трымай,
А па вяселлі над падушку схавай,
Каб гэты вянок не сціраўся,
Каб Пiлiп па другiх бабах не цягаўся».
«А каб вы здаровыя былі,
Які ж вы мне вянок звілі?
Руты-травы не пашкадавалі,
Вянок на голаў, як хамут, усклалі», —
Магдуля нізенька ўсім скланялася,
Ледзьве на воз ускацілася.
Пiлiп узяў кветку-любу
Ды паехаў да шлюбу.
У цэркві поп іх звянчаў,
Рукі звязаў, як сам бог прыказаў.
Выйшлі з цэркві, Пiлiп кажа".
«Магдуля, садзіся на мой воз».
А яна: «Ого, абатры нос,
Дык сяду да цябе на воз!»
«Гэтак? Я, выходзіць, смаркаты?»
Завярнуў кабылу ды й ну дахаты.
Музыкі дылі-дылі, дылі-дылі,

А Піліп лупіць па набылі.
Узяў ды ўцёк.
«Што ж нам рабіць, — «
Стаў сват гаварыць, —
Дзе ж нам Піліпа злавіць?»
Вось ехалі яны
І ў карчме Піліпа знайшлі
Ды да Магдулі прывялі.
Піліп да Магдулі за стол,
А яна яму: «Падзі вон!»
Ды як турнула,
Дык уся свадзьба схіснула.
Хто смяецца,
Хто галавой качае:
«Вось дык добрая маладая.
Што ж нам рабіць?»
Сталі бабы гаварыць:
«Трэба з папаратніку карэнне варыць
Ды даваць Магдулі піць,
Ці не будзе Піліпа любіць».
Піліп бедны плача і гаруе,
Што без Магдулі начуе.
Плача і не сціхае:
«Дзе ж мая маладая?»
Адно ж і карэнне не памагае —
Усё роўна Піліпа не прымае.
І яшчэ як удзень —
Глядзіць, як на гнілы пень,
А як уночы —
Вон — ні на вочы!

## ЯК Я АЖАНІЎСЯ

Раскажу я вам пра даўнейшыя часы, як жаніліся хлапцы нашы. Яны мелі па год семнаццаць-васемнаццаць. А я маю год дваццаць пяты і жыву нежанаты. Маю матку, два браты. Гаворань: «Жаніся скарэй ты. Не трэба цябе будзе ні абшываць, ні абмываць. Добра будзе з жонкаю паляжаць».

Сеў я дый думаю пра сваё гора, што трэба будзе ехаць у сваты

скора. Устаў я раненька, памыўся, белым рушнічком уцёрся, адзеў рукавіцы і паехаў, дзе мне сваталі з'явіцца. Уехаў у вёску, аж мяне хлопцы пераняді і дом яе ўказалі. «Вунь той дом тваёй дзявіцы, дзе чырвоныя акяніцы».

Уз'ехаў на двор, гляджу на яе ачмі, а яна да мяне — плячмі. Швагры ўвазналі і ў дом мяне зазвалі. Увайшоў у дом, стаю ціха каля печы. А швагры гавораць пра свае рэчы. Швагры ўсё перагаварылі, белы абрус рассцялілі, віна, гарэлкі настаўлялі і мяне з ёй туды пазвалі.

Гавару ціха да свата:

— На пасаг ці багата?

— Пасля пажару і вайны — дзвесце рублёў, дзесяць коней, два валы — гэта будзе пасаг немалы.

Дзе чорт браў старую гаргару з печы. І тая стала гаварыць свае рэчы:

— Аднак вас ёсць маладых двое, даю вам на задатак курэй трое...

І так я там разгаварыўся, што праз пару тыдняў ажаніўся...

## У ДАЎНЕЙШЫЯ ЧАСЫ

У даўнейшыя часы
жаніліся па семнаццаць год хлопцы
нашы, а мне год дваццаты —
ні жонкі, ні дзіцяці.
Чую нejак ад брата.
Што ёсць дзеўка багата.
Паехаў я ў тую акаліцу,
дзе мне сваталі дзявіцу.
Яе дом з канца чацвёрты
ды падпорамі падпёрты,
яе бацька быў багаты —
не любіў з комінам хаты.
Прыехаў, а мая дзяўчына
стаяла ў акно плячыма,
галава ў струлеках,
залатыя кольчыкі ў вушках,
платок з цвяткамі
назад завязаны ражкамі.

Доўга мы гэтым домам любаваліся,
узглянулі мы й засмяяліся.
Са сватам пагаварылі
і скора дзверы адчынілі.
Сват да стала пабраўся,
а я каля печы застаўся.
Яны вядуць рэчы,
а я стаю каля печы.
Стаю і трасуся,
на яе глянуць,
страх, як баюся.
Яна была крэсіва:
пляма рыжа, пляма сіва,
полкі былі ў паклажы,
сцены скурэлі ад сажы.
Ох там былі і парадкі —
па вушы смецця сярод хаткі.
Абрус новы разаслалі
І нас, маладых, пасаджалі.
Мы сядзелі і выпівалі
і я там смеласці набраўся
і ў бацькі запытаўся:
«Бацька, што за пасаг назначаеш,
калі дачку за мяне аддаць жадаеш?»
Бацька быў папілы
і кажа:
«Зяцю мой мілы, дам я табе
дзесяць рублёў грашамі,
дзесяць штук аўцамі,
карову і два валы —
здацца, пасаг не малы».
Маці была напіла,
трое курэй падарыла:
«Дару вам курэй трое,
будзе з вас людзей двое,
а астальное будзеце ў любві
шчытаць і рублі».
Я там разгаварыўся
і цераз дзве нядзелі ўзяў ды ажаніўся.
Жыццё пайшло не завідна —
нават расказаць стыдна.

Недалёка жыў аканом,
мая жонка хадзіла да яго вечарком.
Я гэта дазнаўся,
нагайку ў рукі ўзяў —
за мінуту там стаяў.
Прыходжу я к таму дому —
мая жонка сядзіць з аканомам,
водку п'юць, калбасы ядуць,
красны рэчы вядуць.
Як я праз парог ступіў —
то ім красны рэчы перабіў.
Я там смеласці набраўся,
Аканом страх як збаяўся.
Я на тую прычыну
разбудзіў людзей рознага чыну:
следавацеля і прystава з прыказам,
звязалі маю жонку
з аканомам разам.
Звязалі
і к следавацелю адаслалі.
Следавацель распісаўся,
глянуў і засмяяўся.
Прападзі ты з красатой,
як я прапаў за табой!
Я за тое прапаў,
што багатае шукаў.

## ЯК БЫЛА ВАЙНА ВЯЛІКАЯ

У адно лета было гэта:
як цары ўсяго свету
задумалі весці вайну вялікую.
Сабралі людзей без ліку,
не далі нам жыта пажаці,
а прыказалі ваяваці.
І адразу пайшло па два, па тры з хаты
у тыя праклятыя салдаты.
А там далі шынелі,
у казённае адзелі,

вучылі страляць —
людзей-брацціяў забіваць.
Зато нас звалі ўрагамі,
што людзі гіблі стагамі.
То ад пуль, то ад газу —
па некалькі тысяч зразу.
Вось снарады загудзелі,
а мы ў Прусію паляцелі.
Хоць там была каша,
але брала наша.
Калі была занята Львова,
Перамышлена крэпасць гатова, —
бліжай былі Пабеды,
але знайшліся самаеды.
А наш гэты Сухамлына, —
каб навекі ён загінуў! —
не даў ён нам снарадаў —
мы збіліся з толку, з ладу.
Толькі мы знайшлі адно спасенне —
кінуцца ў адступленне.
Беглі, як у вырай гусі,
цераз Польшч да Беларусі.
У Беларусі стаялі,
але не ваявалі.
Прыйшла пара,
што скінулі цара.
Сталі думаць пра долю,
ці ваяваць нам болей.
Ці не лепей памірыцца,
бо біць бліжніх не гадзіцца.
А што далі землю й волю —
было гутаркі ўдаволю.
Нават глухая Параша
шаптала, што бярэ наша.
Зямлю, лясы, двары —
бярыце, гаспадары!
Бо з тэй гаспадаркі
застаюцца адны сваркі.
Калі ў гаспадыні хлеба не стала,
гаспадыня іншая стала.
Калі не стала пасеелкі для сучкі,

ані кашулькі для ўнучкі.
Так і ў нас на полі
валялася куча дохлых коней.
Як не было чаго есць,
паехалі салдаты на Брэсць.
Паданні, бывальцы, апавяданні-ўспаміны
Добра было толькі,
як скасавалі манапалькі.
Хоць нас мучыла, як трэба,
але над зямлёй стаяла неба.
А для чарцей сухоты,
што без гарэлкі няма работы.
Сталі д у маці, гаварыці —
навучыліся бабы квас варыці.
Квас кумушкі варылі,
муку, цукар глумілі.
А патом падгаварылі Сымонку,
каб гнаў самагонку.
Пайшла ўгору самагонка,
разбагацеў наш Сымонка.
Кучу грошай наскладаў,
муку з жыта перагнаў.
І есці плачуць дзеці,
і мышы дохнуць ў клеці.
А жонка галаву скрабець:
не дастанеш мукі нідзе.
З тэй пацехі
чуць не парвалі ў Сымона стрэхі.
Анцыпар сказаў сам:
«За самагонку медаль дам!»
Каб не гэта самагонка,
было б у пекле тонка.
Без гэтай гары
не было б у пекле кары.
Там ёсць гэтых гасцей,
што яе п'юць часцей.
Там ёсць шуму, крыку,
гэдакіх п'яніцаў без ліку.
Толькі дзеўкі спахмурнелі,
што выйсці замуж не паспелі.
Катора зразу хацела,

дык жаніха імела.
А патом не магла адхрысціцца,
бо кожны салдат лез жаніцца.
Каторы лепей ухітрыўся,
разы два і тры ажаніўся.
І ўсё «везлі» ў тыя краі,
дзе добра жыць, як у раі,
нічога не трэба рабіць,
толькі па-панскаму хадзіць.
Тры гадочкі
насілі дзеўкі крамныя сарочкі.
У руках работы не мелі,
хадзілі з салдатамі і семачкі елі.
Ды часта гралі ў карты,
былі смехі і жарты.
А патом на адной нядзелі
усе салдаты паляцелі.
Асталіся Ашоткі, Манькі,
Агаткі кожная ў сваёй маткі.

## ПРА ВАЙНУ ЧАТЫРНАЦЦАТАГА ГОДА

Пятнаццатага ліпца
Тысяча дзевяцьсот чатырнаццатага года
Цар іздаў прыказ:
Невясёлы для нас —
За нумерам семдзесят пятым:
Ісці няшчасным у салдаты.
Завязалася ўсямірная вайна, —
Відна, пойдзе жэртва не адна.
Нямала было плачу і ляманту,
Каб апісаць, то не хваціла б атраманту.
І штобы гэты слёзы зліў бы —
То ўсіх цароў утапіў бы.
Набралі мільёны народу,
Разаслалі ў розныя староны.
Адных — у Карпацкія горы,
Другіх — за Чорнае мора.
І быў глаўнакамандуючы Сухамлінаў, —

Каб ён прапаў і згінуў!
Ад немцаў грошы браў —
Усе гарады паздаваў.
Як на фронт патрабавалі
Снарады і патроны,
Дык ён прысылаў хлеб для абароны.
Як трэбавалі хлеб з другімі пасылкамі,
Дык ён прысылаў снарады,
Набітыя апілкамі.
У арудзію снарад залажылі і выпалілі —
Чуць арудзію не парвала,
Бо было апілкаў нямала.
Далажылі гэта гусудару,
Штобы даць за гэта кару.
Ды цар не пачуствваў людскія беды
І гаварыў, што вайна толькі да Пабеды.
Бо і цара апутаў Грышка Распуцін:
Да царыцы дабраўся,
Што цар не замог, то Распуцін памог.
І далей сунулася нямецкая хмара
І проста на Познань і на Варшаву,
І забралі Коўна, Вільна і Лібаву,
Забралі і Замосце
І прыйшлі к нам у госці.
І прастаялі яны ў Відзах чуць не тры гады,
Нямала нам нарабілі бяды.
Як ад Богіна адхадзілі,
То ўсе дзярэўні папалілі.
І гэта «каінская кроў»
Забрала ўсіх авечак, свіней і кароў.
Ну, немцы каля плоту шлялісь,
І нарэшце тыя здалісь.
Ну, падзякуем французам, англічанам,
Што падбілі рогі шатанам,
Укараніцца ім не далі,
Добра хвост ім наламалі.
Але пацярпела наша старана нямала,
Няхай будзе богу пахвала!
А пад рускімі што рабілася!
Колькі нашых баб з салдатамі ажанілася!
Бабы, дзеўкі, удовы-цыцэркі

Думалі, што будуць усе афіцэркі.
Каторы салдат ухітрыўся —
Сем раз ажаніўся.

## ЦЯРЭШКА І ДАВЫД

Жылі два суседы адзін ад аднаго
На во столечкі
І не зналі адзін аднаго нісколечкі.
Сустрэліся яны аднаго разу на вуліцы.
«Здароў, Давыд!» —
«Здароў, Цярэшка!» —
«Адкуль жа ты знаеш, што я Давыд?» —
«Дык у цябе ж паважны від». —
«А адкуль ты знаеш, што я Цярэшка?» —
«Дык у цябе ж нос, як качарэжка». —
«Э, дык мы, значаць, адзін аднаго знаем,
За сабой бяды не маем,
Дык хадзі, хадзі, сядзь во дзе —
На выгодзе, на асінавай калодзе.
Табачку нюхнём
Дый за мора махнём».
Ну, і селі ж яны во дзе —
На выгодзе, на асінавай калодзе.
Цярэшка табаку нюхнуў,
А Давыд яму ў вуха дзьмухнуў.
«Дык ты што да мяне маеш,
У гэта мяне забіваеш?» —
«А на што ж ты мой ражок
За пазуху запіхаеш?» —
«Эй, дык гэта ж мяне бог пакараў.
Я ўчора ў сваты хадзіў
І нікому не сказаў». —
«Дык ты што, ашалеў? У сваты
Ды яшчэ ў гэтай шапцы лахматай?
А я ж во ў шапцы новай,
Дык пайшлі да дачкі старшыновай».
Цярэшка ўзяў хлеба букатку
І сала лапатку

К плячам прывязаў,
Каб іх ніхто там не дараваў.
Яшчэ сонца не заходзіць,
К старшыну на двор прыходзяць.
«Здароў, брат Курыла!
Дзе ж твая дачка Куліна?» —
«Што вам нада ад маёй Купіны?
Ды яшчэ супроць ночы?
Павыкалю вам вочы».
Як падмазалі яны пяткі
Ды хутчэй да сваёй хаткі.
З таго часу Давыд
Страціў паважны від,
А Цярэшка
І цяпер ходзіць, як качарэжка.

## АПАВЯДАННІ-ЎСПАМІНЫ

Пра апавяданні-ўспаміны як пра жанр няказачнай прозы пачалі ў беларускай фалькларыстыцы гаварыць зусім нядаўна, у самы апошні час, і, як ужо зазначана ва ўступным слове да гэтага выдання, — з пэўнымі перасцярогамі наконт таго, наколькі справядліва надаваць гэтаму жанру «правы грамадзянства». Між тым звернем увагу, што яшчэ ў пачатку стагоддзя А. К. Сержпутоўскі адзін са сваіх фальклорных зборнікаў назваў «Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў». Казкі і апавяданні... Дасведчаны вучоны-фалькларыст адчуваў і бачыў розніцу паміж, з аднаго боку, творамі, вытрыманымі — цалкам ці хаця б часткова — у духу казачнай традыцыі і ўзгодненымі з законамі казачнай паэтыкі, і, з другога боку, творамі, якія, хоць і расказаны мастацкай мовай, аднак жа складзены па іншых «правілах» творчасці,, маюць іншы характар адносін да рэчаіснасці і валодаюць іншай мастацкай структурай. Асобныя творы гэтай іншай якасці, якія ў Сержпутоўскага відочна ішлі па разраду апавяданняў (разбіўкі на раздзелы ў яго зборніку няма), па сучаснай класіфікацыі могуць быць аднесены да анекдотаў, да прымхліц, да легенд. Але ёсць і такія, якія безагаворачна не залічыш ні да аднаго з вядомых, традыцыйных жанраў няказачнага эпасу: гэта — менавіта апавяданні, у якіх ад першай асобы, проста і звычайна без прэтэнзій на мастацкасць расказваецца пра нейкія сапраўдныя, нявыдуманыя падзеі, здарэнні, выпадкі з мясцовага жыцця, удзельнікам ці сведкам якіх быў сам апавядальнік (або чуў пра іх ад сваіх добрых знаёмых). Паколькі здарэнні самі па сабе цікавыя, а мова апавядальніка — жывая, дакладная, эмацыянальная, гэтыя апавяданніўспаміны робяць на слухача адпаведнае ўражанне і ўспрымаюцца ім як творы мастацкія.

Хочацца спадзявацца, што і апавяданні ўспаміны, адабраныя мною для гэтага зборніка, з'яўляюцца менавіта такімі творамі.

Вядома, па сваіх мастацкіх вартасцях, па займальнасці і яркасці расказу, па выразнасці і прыгажосці мовы яны не роўныя. Большасць з іх стаіць на мяжы звычайнай інфармацыі і мастацкага апавядання. Асабліва гэта датычыць многіх апавяданняў-успамінаў аб Вялікай Айчыннай вайне, аб перажытым нашымі людзьмі ў дні таго страшнага ліхалецця. Кожнае з іх да гэтага часу жыло ў памяці аднаго чалавека, адной асобы, і расказвалася толькі ёю, — у традыцыю вуснага бытавання яны яшчэ не ўвайшлі і ў поўным сэнсе слова фальклорам пакуль што не сталі.

Зрэшты, менавіта публікацыя іх можа пасадзейнічаць таму, каб

яны хутчэй фалькларызаваліся, гэта значыць — з набытку памяці і душы аднаго (таго, хто расказаў) сталі набыткам душы і сэрца многіх і пры гэтым падлеглі непазбежнаму ў такім выпадку ўздзеянню вуснапаэтычнай апавядальнай традыцыі. Сама рэальная аснова, на якой апавяданне-ўспамін трымаецца, зусім дастатковая для таго, каб уразіць слухача (чытача) і застацца ў памяці, а ў таго, хто надзелены пэўнымі задаткамі мастацка-вобразнага мыслення, — абудзіць паэтычную фантазію і жаданне ўмяшацца ў змест і форму, сёе-тое перайначыць на свой лад. Нават калі гэтага і не адбудзецца, апавяданні-ўспаміны — гэта голас народа, голас творцы і носьбіта фальклору, і голас праўдзівы, важкі — голас пра тое, што было жыццём і лёсам мільёнаў. Тыя цікавыя здарэнні і падзеі з нейчага жыцця, тыя драматычныя і трагічныя эпізоды нашай нядаўняй гісторыі, пра якія ў іх расказваецца, — гэта ўсё ж і здарэнні, і падзеі, і эпізоды характэрныя, у іх выяўлены тыповыя рысы часу, эпохі, людзей. Гэтым яны і каштоўныя. Каштоўныя сёння, і тым больш будуць каштоўнымі заўтра.

## МУЖЫЧАЯ ПОМСТА

У нас тут, у Вялікай Мысе, была некалісьці, яшчэ пры панскай Польшчы, царква, і тамака фэст збіраўся. Ну, я неяк быў на фэсце і пайшоў і пайшоў там да панскага палаца — некалісьці пан там жыў. Ну, і на могілкі на іхнія. Гляджу, там памятнік такі: чыгунная дошка, вот, і чыгунны слуп стаіць, значыць. І гэты слуп абвіты плюшчом, руятмі чыгуннымі, пакратанымі, а на версе — анёл. Ну і на дошцы напісана: «Аляксандр Букаты, рэзыдэнт повяту Ашмянскего...» і яшчэ штосьці. Ну вот, я, гэта ўбачыўшы, прыйшоў і пытаю ў бацькі: «Што гэта такі за рэзыдэнт тут пахаваны ў нас?» Вот тады бацька зачаў расказваць, што дзед яму расказваў так...

Гэты пан быў надта багаты. Ягоныя землі тутака аж на Смургоні сягалі, на Ашмяну, на Крэву — скрозь. І гэта Суцькава, скрозь гэтыя землі належалі яму. Ну, і ён госці часта спраўляў гэты пан. Гуляка такі быў. Ну, і яшчэ было ў яго такое... Тады ж яшчэ хадзілі паншчыну адрабляць. Мыса, Глінна — усе блізкія вёскі паншчыну ў яго адраблялі. Дык ён яшчэ меў моду такую. Як толькі наважоны ажэняцца, то каб малады першую ноч сваю жонку, панямаеце, спаць пусціў да пана. Ну, гэта так вялося і вялося. Але вось у адну нядзелю спраўлялі свадзьбы Жываткевіч і Каравай. З Караваеў самі людзі гэтыя. Яны ажаніліся, павянчаліся, згулялі вяселле і не пусцілі жонак да пана. Пан тады зазваў і гэтага Жываткевіча і Каравая і так ссек іх розгамі. Ну, ссек, што зробіш, іхняя ўлада, панская, была. Але ім гэта запала на душу. Мажа прайшло год, і вось заселі яны раз у жыце каля дарогі, а пан ехаў на Глінна, туды, у гэны бок. Там такія ліпы, прысады, але яны ў жыце заселі і з гэтымі, з ружжамі даўнейшымі, з гэтымі. Ну, і прыцэліліся ў пана і пярнулі абодва. Пан толькі падскочыў і: «Врацай назад коні!» Завярнуў фурман ужо коней, прыехаў на дзядзінец, і пан гэты тут жа і памёр.

Як пан памёр, дык тады сабралася тут следства: і з Ашмян, і з Вільнюса, нават і з Варшавы папрыязджалі. Дапытваліся: як гэта, хто гэта мог забіць пана? Сабралі ўсіх людзей: Глінцаў, Караваяў, з блізкіх вёсак мужчын маладых ваабшчэ. Самых старых толькі не бралі і недарослых. І тады ўрачы правяралі кожнага па парадку, каб узнаць, хто гэта зрабіў. І ўжо Караваі гэта былі прайшлі, а гэты Жываткевіч такі труслівы быў, надта тросся, панямаеця, дык яны: «Ты!»

І ён узяў і прызнаўся. Прызнаўся сам і выдаў Каравая, вот. Выдаў Каравая. Тады прывезлі з Вільні ката і такі станок, і рукі ім парасцягвалі, пальцы паабрывалі, кісьці павырывалі — усё, так і

замучалі гэтага Жываткевіча і гэтага Каравая.

Дык вот пану-распусніку помнік стаяў доўга, і пад анёлам, можа яшчэ і цяпер стаіць. А дзе магілы тых, што панам помсцілі? І следу нідзе няма. Хай хоць гэта, што я расказаў, помнікам будзе.

## КУЛАЦКАЯ ШЧОДРАСЦЬ

Было гэта пры Польшчы ў вёсцы Міськіе. Жыла адна сям'я, гаспадаром якой быў Пётра. Было ў яго шасцёра дзяцей. Домік саўсім маленькі, зямлі два гектары. І з-за гэтакага агарода няможна было дзяржаць скаціны многа, толькі адну кароўку. Ад гэтага і зямля была ў Пётры пустая, хлеб не рос. Хлеба мала было, чорны і той напалову з мякінай. Бульба саўсім не расла. Дзеці былі малакроўныя і худыя. Бацька з маткай былі саўсім неграматныя, капаліся каля хаты і болей нідзе не зараблялі грошы.

А Пётра любіў піць. Можа з тых недастаткаў ён хадзіў па вёсцы, іграў у карты, у грошы. Старэйшай дачцэ было дзесяць гадкоў, як бацька адправіў яе служыць да кулака. Так трэба было мучыцца беднай дзяўчынцы: уставала з сонцам і гнала пасціць аж да паўдня не еўшы. А па абедзе трэба было пакарміць свіней і ізноў ісці ў поле. Вот гэта дзевачка батрачыла так да семнаццаці гадоў. А на семнаццатым годзе яна ўжо коні даглядала. І адзін раз яна путала каня, а ён ёй нагой як даў у вісок і забіў насмерць.

Кулак прыказаў бацьку маўчаць, нікуды не жалаваць і пахаваць ціха. Кулак паабяцаў заплаціць за труд дачкі на тры пуды болей таго, што яна зарабіла. І на гэтым бацькі згадзіліся.

## СІРОЦКАЯ ДОЛЯ

Расла я сіратой, асталася ад маткі ў тры нядзелі. Сястра мяне гадавала дванаццацілетняя. Брату было — шаснаццаць, другой сястры — сем. Тата не жаніўся, не ўзяў нам чужой маткі, але без пары ажаніў сына.

Калі мне было дванаццаць гадоў, я асталася адна ў доме. Зямлю аддалі пад арэнду, і поп узяў мяне — як бы падгадаваць. Пасля ён аддаў мяне вучыцца шыць на сталаванні хазяйскім. Адышла я ад партніхі да дзядзькі, да мамінага брата. У дзядзькі адбыла я тры гады — рабіла ўсё па гаспадарцы, ён за гэта мне купіў платок на галаву за

пятнаццаць капеек і падмёткі. Ад дзядзькі я ўжо і замуж выходзіла. Падарыў ён мне пяцьдзесят капеек на талерку, а цётка абяцала даць пояс, да забылася прывезці.

Як я выйшла замуж, за мной было трохі зямлі бацькавай. Дзевер мой хацеў, каб я сваю зямлю апісала на іхнага бацьку, гэта значыць, на свайго свёкра. Але я не ўступала, за гэта мяне моцна блоціў муж і ўся сям'я. Вот я выйшла з цярпення і аддала сваю зямлю за палову іхняй.

Так і после не вязло. І ў дзяцёх таксама. Было на раду чатыры дачкі. Адну пахавала дваццаць другім годам, другую — па дваццаць сёмым. Трэцяя дачка была вышаўшы замуж, і вайной, блакадай, яе вывезлі спачатку ў Германію, а пасля ў Амерыку. Колькі пабыўшы, паехала і я ў Амерыку з дачкой-калекай — праведаць тую. Там пабылі мы два-тры месяцы, не панаравілася нам, і ізноў вярнуліся дамоў. Вот цяпер і жыву з дачкой-калекай у сваёй вёсцы.

## АПАВЯДАННЕ ПАПОВАЙ ПАСТУШКІ

Служыла я два гады ў папа за пастушку. І часта бывала ля царквы. У бога я верыла, але папоў не любіла, каб іх распундырыла. На вялікдзень поп людзям казаў: нельга скаромнае есці, трэба пасціцца. А сам, каб яго распундырыла, чорт кульгавы, лыжку масла ў рот.

Вось раскажу вам адзін выпадак. На Юр'я пяклі булачкі. Людзі неслі іх у царкву, поп свянціў іх. Вось гэтых булачак панакладаюць цэлыя сталы. Старажы ў мяшок складваюць, ну, а поп ужо дзеліць. Сабе бярэ два мяшкі, дзяку адзін. Свінням, цялятам іх давалі. Ну, а мы, пастушкі, давалі булачкі бедным. Бацюшка за гэта сварыўся вельмі.

Людзі былі вельмі цёмныя, неслі ахвяры. Прынёс нехта парасё. У хлеў пусціць — дрэнна, прынёс у хату. А ў іх былі госці. На сталах стаяла шмат талерак. Парасё пабіла ўсе талеркі і выскачыла праз акно.

А на каляды, зімой, было яшчэ такое здарэнне. Адзін дзень з бацюшкамі едзе дзякова матушка. Бацюшка ходзіць па хатах і свенціць. Калі ён выходзіць, яму трэба даць лубачку дабра і каўбаску. Гэта было ў Янавічах. Нейкі чалавек перавярнуў сіта, насыпаў на верх зерня, і даў вялікую-вялікую каўбаску. Ну, прыехаў бацюшка дамоў. Пачалі дзяліць каўбаскі. Бацюшку — дзве, дзяку адну. Бацюшніха

казка, што бацюшку трэба вялікую каўбасу, і забрала яе сабе. А тая каўбаса была напхана вяроўкай. Бацюшніха вельмі лаялася і пайшла да дзячыхі забіраць каўбасу. Хай іх халера!

## ХОДЗЯЧЫ ПА СВЕЦЕ

Гэта было гадоў восемдзесят назад, калі мне было ўсяго пяць гадоў. Жыла ў той час у нашай вёсцы бедная старушка. Яна хадзіла па свеце і жабравала. Як пойдзе — доўгі час не бывае яе дома. А вернецца, то любіла расказаць хлапчукам, што яна чула на свеце. Аднойчы, помню, яна расказвала...

Зайшла ў адну хату, папрасіла есці, мне гаспадыня паліла міску булёну. Я папробвала, мне аказалася мала солі. А сама гаспадыня пайшла ў гумно да мужыка. Я стала мяшаць лыжкай, а там — маленькага дзіцяці пальчыкі. Я спужалася, што гэта былі людаеды. Тады свае торбы на плечы і ўцякаць. Уляцела ў лес. Колькі ішла — не знаю. Выйшла з лесу, там стаяла хата. Відаць, што чалавек жыў разумны. Я папрасілася пераначаваць, сказала, што жывём бедна, есці няма чаго, мушу па свеце хадзіць і прасіць кусок хлеба. Ён стаў расказваць, што будзе наперад. Я паслухала яго і запамінала ўсе словы. Ты, кажа, старуха і я, мы не дажывём можа быць, але прыдзе час, калі будуць лятаць жалезныя птушкі і кляваць людзей, зямля будзе звязана дротам, па полі будуць хадзіць жалезныя печы. Вось усё гэта ўжо і ёсць на свеце.

## Я ВІДЗЕЎ ГАДА

Калісьці дзед мой, я помню, расказваў, што забіў бальшога гада. Ён — вялікая рэдкасць у нашым лесе. У час той яшчэ былі лясэ намнога гусцей, старэй і цямней.

Мне было адзінаццаць гадкоў ад роду, калі давялося мне відзець бальнога гада.

Пагнаў я свае і суседскія каровы на пашню ва ўрочышча і сам сабе гуляю — малы яшчэ быў, а каровы пасуцца сабе спакойна ды толькі ад машкара адмахваюцца. І вот чую я, як адна мая карова залупіла хвост і панеслася, да так хутка, так быстра, што мільгае сярод кустоў. І раптам я пачуў трэск. Я спужаўся і схаваўся за здаровую хвою. І тут я чуць не абамлеў.

Ён быў не карацей, як жэрдка, што вунь там ляжыць, прымерна шэсць-сем метраў, ну, не меней, а грубошчы [таўшчыні] больш, чым шляга, на якой ты сядзіш, ну шаснаццаць-семнаццаць санометраў.

І як ён ішоў!!! Палкі й сухія веткі трашчалі і ламаліся, а ён ішоў надта быстра. Мае каровы пабеглі каторая куды, а ён, гад, нёс галаву з метру ад зямлі, і яна качалася ў яго ў бакі туды-сюды. І было так жутка глядзець, а ён вачыма сваімі так лэпае, ажно мурашкі па спіне бегаюць.

Вунь яно што! А калісьці дзед мой, я гаварыў, забіў балынога гада са стрэльбы. Ён увідзеў яго і скеміў, што трэба ўзлезці на дрэва і тады стральнуць. І ён залез і стрэльнуў якраз у галаву. Ой, як ён кідаўся ў бакі і ўсё ламаў на сваім пуці, і вунь такі ельнік ламаўся, як палкі, і трашчэла на ўвесь лес.

Да, лясэ нашы радзей сталі, да і гадаў такіх не сустракаюць часта. Ёсць яно, гадаўё, ды малое ўсё нейкае, вунь повен лес развялося.

## «СМАЧНЭГО»

Радзілася я ў вялікай сям'і, дзе было шэсць дзяцей. Цацак ніякіх не было, і мы сабе самі выдумлялі ўсялякія забаўкі. Бывала, мы, дзяўчаты, «наварым есці» і садзімся «абедаць», а да нас прыходзяць «госці», браты, і гавораць: «Смачнэго!» Гэта тое самае, што «прыемнага апетыту». А мы ім адказваем: «Што табе до тэго, што нам смачнэго?» Тады «госці» злуюцца, пачынаюць дражніцца. Гэта так мы гулялі.

Вот, помню, адзін раз селі мы сям'ёй абедаць. Ядзём гэта мы, як заходзіць да нас сусед, пажылы ўжо чалавек быў, і гаворыць усім:

— Смачнэго!

А я была самая меншая ў сям'і і так з-за стала яму скоранька:

— А што табе до тэго, што нам смачнэго?

І тады бацька, нічога не гаворачы, як дась мне лыжкай па лбе, аж гузак ускочыў. З таго часу ніколі так не гаварыла, ды і забаранялі ўжо нам гуляць у «абед» і «госці».

## НАЧЛЕЖНЫЯ ЗАБАВЫ

Раскажу, як мы раней коней у начлег ганялі. У каго хлопцы, дык тыя і гоняць, а як у нас хлопцаў не было, то я ганяць хадзіла. Пагонім,

бывала, ў лес, а кругом шкода, палоскі, глядзіш, каб не зайшлі ў шкоду коні гэтыя. Палянка ў нас такая была, то мы агонь раскладзём і ноч так і правядзём. А вядома, калі хлопцы і дзяўчаты сабяруцца, то што толькі не робяць. І штукі розныя прыдумліваюць. Бывала, не вытрымаеш ноч дый заснеш, а яны возьмуць развяжуць аборкі — у лапцях жа раней хадзілі, ды з адной нагі прывяжуць за які куст, а ля другой — кол уб'юць і прывяляць. Раніцой прачнешся, а ўстаць не можаш. І не дай бог хлопцам што насупраць зрабіць — яны тады над табой штуку абавязкова праробяць: прыгнуць дзярэўца, пад якім ты спала, прывяляць цябе, а затым адпусцяць, то так уверх і паляціш.

Ночы ядраныя стаяць, а спаць хочацца, палягам у ключ кругом вогнішча. Хто корч які пад галаву падсуне, а то адзін на аднаго ўлягамся і спім. А ноччу каго ўдзвюх звяжуць, а затым крыкнуць: «Коні ў шкодзе!» Памкнешся бегчы і вобземлю як бразнешся. Ну, то і смеху наробяць. А яны барахтаюцца, устаць ніяк не могуць. Смяшлівыя ўсе былі.

А то яшчэ вымажуць двух сонных чорным вуглем, а яны раніцой прачнуцца і ну давай адзін з аднаго смяяцца. Той не бачыць, што і сам жа такі, а на другога пальцам паказвае і смяецца. То пакуль яны разбяруцца, што да чаго, дык мы ажно жываты пападрываем.

## ГРАД

Пайшлі мы з Юзюняй жаць. Найшла хмурна, я й кажу на Юзюню, каб яна ішла дамоў, падаіла там карову, у поле прагнала, дала дзецям есці, а потым прыйшла да мяне, а я тут буду, не буду напрасна бадзяцца і час марнаваць, бо з гэтачкай хмуркі дажджэ не будзе. Але ж з малой хмуры заўсёды вялікі дождж, кажуць. Дык вот была маленькая хмурна, а тады як стала цёмна з яе, стала вялікая бура, вецер вялізны. Я села пад мэдлікамі, дык вецер узяў панёс усе снапы, як птушак, паімчаў па полі. Тады пашоў град. Ішоў па аднаму кілаграму — але да трох, вельмі цяжкі і кантаваты, як сякера, востры. Як зваліцца, дык зямлю прама прабівае наскрозь. Пабіла тады і куры, і гусі, стрэхі папрабівала. А сама я сядзела на полі і дзяржала сноп над галавой рукамі, дык мяне, як цуда нейкае, не дастаў град. Прыйшла яе дадому, дык дзеці папалохаліся, град вокны пабіў, многа наляцела ў хату. Дзеці мае знялі дзверы і прыставілі да аднаго акна, а сталяніцу да другога акна.

Абабіў град усё чыста на полі, зямля ажно белая была, не было

чаго жаць. Дзе град ніву збіў, там забаранавалі, і на лета было жыта. Такі галодны быў гэны год і цяжкі! Трудна было нам пражыць, бо ўсё прапала, але ж чалавек, што чарвяк: неяк дабудзе на жыццё і прабудзе. Калі чалавеку трудна, то ён усё пераживе, бо думае, як здабыць кусок хлеба, а як добра жыць, раскош, то не пераживе, нейкую пачу выдумае, глядзіць, на якой бэльцы павесіцца..

## У ЛАПЦЯХ — І НА РАБОТУ І НА ТАНЦЫ

Цяпер усе абуўшыся ходзяць цэлае лета, а раней хадзілі босыя па халоднай, мёрзлай зямлі, па балоце, па іржышчы, ногі прабівалі, калолі. А нага тады абрывае, не абуешся ні ў што, ні ў лапці нават. Зімой хадзілі ў лапцях і на работу, і на танцы, а летам на танцы босыя хадзілі, танчылі босыя. Лапці плялі з кары ліповай, кару дралі палосамі і плялі лапці, вот як цяпер падобна на кашы дзяруць многія. Я тэж мела лапці, як малой была. А як стала паненкай, ды яшчэ да таго багатай была, адна ў бацькоў, татка вельмі любіў мяне, ды захварэла тыфам, то купіў — не пашкадаваў — бацінкі і боты. Каб не салгаць, то скажу, што тады ж не было дзе купіць, а заказвалі ў шаўцоў, і яны шылі. Вот і мне пашылі боты, вельмі харошыя былі, са скуры, я нацешыцца ніяк не магла з іх. Як стала папраўляцца, дык толькі і глядзела на іх. А як толькі паправілася, стала хадзіць, то на мяне новая бяда навалілася. Вечарам у пятніцу расчасала я валасы, спляла іх у косы, а яны ж у мяне былі доўгія-доўгія і тоўстыя, а я іх, пакуль хварэла, ні разу і не часала. Мне так лёгка стала галаве, як бы я на свет толькі нарадзілася, і лягла спаць. А назаўтра ўстала і думаю: чаму мая галава такая лёгкая? Я за свае косы, хацела ўзяцца, а іх няма. Мне ажно ў вачах пацямнела. Паглядзела я, а мае косы ляйцаць на падушцы, адваліліся за ноч. Вот якое дзіва было! Вот жа шкадавала я іх! А на танцы хадзіла, то завязвала хустку на галаву.

## ДЗІСНЫ МАРКА

Жыў у нашай вёсцы адзін дзядзька, звалі яго Марка. З сям'і ў яго — жонка, двое сыноў і дзве дачкі былі. Дык вось, гэты самы Марка быў нейкі дзіўны чалавек. Ці ўжо прырода надзяліла яго весялосцю, уменнем што-небудзь прыдумаць і не засмяяцца. А яшчэ ў яго была цікавая прывычка: калі што-небудзь збіраўся расказваць,

дык абавязкова плюне ў далонь і з усяго размаху трэсне сябе па ілбе і потым, расказваючы, паўторыць гэтую аперацыю некалькі разоў.

Павёз аднойчы ён прадаваць падсвінка ў Оршу на кірмаш. Усю дарогу думаў, колькі ж рублёў прасіць за яго. І рашыў, што падсвінак больш за сто рублёў не каштуе. На кірмашы свіней у той дзень было як гразі. Дзень выдаўся занадта цёплы і сонечны, і кожнаму хацелася папасці на кірмаш, калі не купляць, дык хоць вочы прасвяжыць і на людзей паглядзець.

Марка наш стаяў на грузавіку (калгаснікі ездзяць на кірмаш на машынах) і, як герой, з пераможным выглядам паглядаў ва ўсе бакі. Праз некаторы час да яго падышоў пакупнік і запытаў, колькі б хацеў прадавец за свайго падсвінка. Марка, пляснуўшы па ілбе, сказаў: «Што дасі». Пакупнік прапанаваў сто дзесяць рублёў.

— Не, столькі я не хачу. Мой падсвінак каштуе толькі сто рублёў.

— Ну, раз сто дык і сто. Па руках давай.

Дачка, якая была разам з Маркам, пачала на яго сварыцца. Але ён не здаваўся: «Калі я сказаў круглую, значыць, ты нос свой не сунь не ў сваю справу»

І да сённяшняга дня жыхары вёскі смяюцца з яго і, як толькі прыйдзецца к слову, не забываюць успомніць «круглую».

## ПУЦІЛА — СВІННЯ ВУХА АДКРУЦІЛА

У адной цёткі-пасялухі было малое дзіця. Аднойчы свінні пасліся на двары, а ля нарога гуляла малое дзіцё. Што малы застаўся адзін, жанчына забылася, а вот на сяло пабегчы яна ніяк не забывалася. Пакуль тая пасялуха растарэквала з сяброўкамі, гэткімі ж пляткаркамі, як і сама, рабая свіння адкусіла малому вуха.

Прайшло шмат год, вырас хлопчык, але не сцерлася ў памяці людзей, што яму калісь свіння вуха адкусіла. Дзеці бегалі за ім чарадой і гарланілі: «Пуціна! Свіння табе вуха адкруціла!»

Не сцярпеў хлопец крыўды і здзекаў, кінуў усё і з'ехаў туды, дзе яго ніхто не знаў і не мог з яго пасмяяцца.

## ПАСЛУХАЎШЫ ПАРАДЫ

Мужык мой у арміі быў парашуцістам. І валасы вылезлі ўсе тут

во — на дахоўцы. А сам харошы быў, ды такі дэфект. Нейкі дурань параіў памазаць лысіну мёдам, каб валасы выраслі. Я ж мужыка любіла, ды і маладая была.

Схадзіла ў Зубовічы, купіла мёду. Прыйшла дамоў. Ён ляжыць п'яны ля сенцаў. Намазала галаву. А мы жывём ля балота, там галлё палілі. А дыму, дыму было! Мухі з балота такія вялікія як наляцелі на мёд! Мужык прачнуўся, а яны апанавалі яго — жах глядзець. А мы са свякрухай пасуду мылі. Вынесла я ваду выліваць і ўбачыла, як яго мухі заядаюць. Крычу: «Мама! Мама! Гляньце, што робіцца!» А мухі такія вялікія на галаве. Сагналі мухі, паставілі ваду грэцца. Памылі яму галаву, а то спасу няма.

Во як мужа красівым рабіла. Смеху было на ўсё сяло. І цяпер успамінаюць.

## ЯК ЖОНКА СТАЛА ПАСЛУХМЯНАЙ

Некалісь мы на торф хадзілі, дык нам мужык адзін расказваў.

Нейкія маладыя пажаніліся. Ды ўжо дзеўка гультай была. Ранта ж зямлю сеялі самі. Трэба было і пасеяць, і папалоць. Мужык кажа ёй, кажа, што трэба лён палоць. А яна не ідзе, ляпіцца. Спіць увесь час. Тады ён кажа: «Пойдзем удваіх». Пайшлі. Не хоча яна рабіць. Хаўкае. Ляжа і ляжыць. А ля мяжы клён стаяў. Раздзеў мужык яе і прывязаў к таму клёну, а сам пайшоў дамоў. Пад вечар вярнуўся і адвязаў яе. Але ёй далося. І камары пакусалі ўсю.

І вот паехалі яны неяк к цесцю ў госці. Іх было трое зяцёў усіх. Але ўжо тыя дзве сястры былі не такія гультаяватыя. Жонкі іх пайшлі ў лазню, а яны селі выпіваць. Ну і паспорылі, чыя жонка ўжо болей мужыка слухае. Залажыліся на літар гарэлкі. Пайшоў першы і кажа жонцы сваёй пад дзвярамі, каб выйшла з лазні. Жонка нарабіла крыку: «Ты што, здурнеў?» І не выйшла. Другі ўжо просіць сваю, каб выйшла. Яна таксама не пайшла. А трэці тады і кажа: «А вот мая выйдзе». Ну, дзе ж, гэтыя не вераць: калі ўжо іхнія не выйшлі, дык яго і падаўна не выйдзе.

Падышлі яны ўтрох да лазні, гэты мужчына і кажа: «Уздумай на лён і на клён і выйдзі з лазні вон!» Яго жонка скок і выскачыла з той лазні.

Ну і выйграў ён літру.

## САМА СЯБЕ ПЕРАХІТРЫЛА

З адной вёскі жанчына хадзіла ў другую спекуляваць. І кожны раз начавала ў адной і той самай знаёмай, якая жыла добра, шмат грошай мела. Разгаварыліся яны адзін раз. І знаёмая расказала, што ўсё ў яе добра, але мужа няма. Кажа: дала б шмат грошай таму, хто найдзе ёй мужа. Вось спекулянтка і думае: «Мушчызна ў мяне добры, крэсівы. Прывяду, хай пажыве з нядзельку, грошы забяру, а там і ён дамоў прыдзе». Так яна і рашыла.

Муж спачатку не хацеў, але жонка — гэта ж не хто чужы: раз пакрычала, раз добра папрасіла, ён і сагласіўся.

Прыехалі яны да той жанчыны. Бачыць яна: мужчызна красівы, харошы. Выпілі яны, закусілі, аддала яна абяцаныя грошы, і астаўся мужчына ў яе.

Гэтая ж жанчына адзела яго добра з ног да галавы. І рабіць не застаўляла, абы жыў, а рабіць і не трэба, у яе і так усё ёсць.

Жонка ж чакала, чакала мужа — няма. Сама туды едзе. Калі хазяйка выйшла, яна і пытае, чаму ж ён не едзе дадому. А мужчызна і кажа, што яму і тут добра.

Жонка тая і ў суд надавала, але раз грошы ўзяла за мужа — то і ўсё тут.

Вось так і прадала жонка мужа за пяцьсот рублёў.

**Апавяданні-ўспаміны з часоў**
**Вялікай Айчыннай вайны**

## У САМЫМ ПАЧАТКУ ВАЙНЫ

Як разбілі нашу дзівізію, і трохі стала цішэй, дэк гавару на сваю Маньку:

— Хадзем паглядзім. Да трэба ж есці што шукаць. і

Мы ў лесе булі. Прыйшлі ў сяло. Усяго чатыры хаты асталоса. Ціха, няма нікога. Тады мая Манька кажа:

— Мамачка, немцы едуць!

Аглянулася, а немцы плённых вядуць. Ідуць па вуліцы чалавек дзесяць нашых салдацікаў. На іх страшна було глядзець: у сіняках, кроў усюды, адзежы амаль ніякае не було, усё на іх падрана. А немцы едуць на конях і падганяюць іх прыкладамі. А яны ж, бедненькія, ледзь-ледзь ногі перастаўляюць, паддзержваюць адзін другога. А як

жа параўналіса са мною, маё ж сэрцэйка крывёю аблілоса. Як глянула на аднаго, дак і зараз яго бачу: у крыві ўвесь, а грудзі яму нечым разарвала. Як ішоў, дак лёгкія відаць булі, відаць, як яны ўзнімаліса, калі ён дыхаў. Нейкаю сарочкаю яму перавязалі. Ён так глянуў на мяне і гаворыць:

— Матушка, раскажы жывым пра нас. Мы не здаліса, мы ім нічога не скажам. Нядоўга ім тут быць. Рускія пабядзяць!

І запеў песню. Якую, ужо не помню. Таварышчы сталі памагаць. Дык немцы біць іх і бягом пагналі цераз сяло. Казалі, што па дарозе ў Пасеку іх усіх забілі.

## НЕ РАЗГУБІЛІСЯ

Як разбілі дзівізію, так нашый салдаты прабіралі ж у сяло. Мы 5кылі ў канцы. Хата стаяла з краю. Кожны дзень пад вечар стукалі ў акно. То адзін, то двое, а то і кучамі прыходзілі. Есці ж хацелі. Так я тчэ ўдзень навару вялікі чыгун картопляў і пастаўлю на прыпечку. Як прыходзяць, так я ім даю. А немцы ўсюды гаворац, што, калі хто схавае рускага ці дась яму есці, то застрэляць. Сям'ю застрэляць, хату спаляць. Шкода было нашых салдацікаў. Усе людзі есці ім давалі, адзежу.

Раз мы на полі з сястрою проса палолі. Падышоў да нас салдат. Такі счарнелы, заросшы, што страшна на яго було глядзець. Тут шчэ к нам падышлі жанкі. З сабою ў нас полудзень буў. Так мы яго частуем, кормім. Ён нам расказвае пра сябе. І тут Змітрава Прося крыкнула: «Немцы! Бабачкі, немцы едуць к нам!» А яны на лісапедах, чалавек восем, едуць. Яму няма куды ўцякаць. Лес далекавата. Мая сястра скінула з сябе кофту і спадніцу, нехта кінуў хусту. Салдат скоранько ўсё надзеў і сядзіць сярод нас. Праўда, яны блізка не пад'язджалі. Паглядзелі, што ўсе бабы, і далей паехалі. Шукалі і лавілі па лесе салдат. А мы етага выратавалі.

## У ПАЛОНЕ

Дзеткі мае, пра етае страшна гаварыць. Хай вам ніколі не прыйдзецца яго бачыць! Цяпіна па сэрцы, як я ўспамінаю тыя гады.

У баі пад Слуцкам мяне кантузіла. Не помню, як мяне немцы бралі. Але зразу ў Мінску ў нейкай бальніцы лячылі. А тады завезлі ў

лагер для плённых. Ёты лагер у Трасцянцы. Блізка ад Мінска. За калючым дротам нас было тысячы. Поле було вялікае, але народу столькі, што яблыку не было дзе ўпасці. Хто сядзеў, хто стаяў. Легчы не было дзе. Галодныя булі. Страшна паміралі людзі. Прынясуць хлеб з апілкамі, суп, у якім нічога не было, апроч вады. Каму пападала, а хто і галодны аставаўся. З-за вошай свету не бачылі. Лезлі ў вочы, вушы. Скідвалі сарочкі і па іх бутылкамі качалі, каб трохі іх надушыць. Кінуць немцы конскую нагу з шэрсцю і смяюцца. А мы ж грызлі яе. Бо вельмі есці хацеласа. З аднаго боку лес да самай провалакі даходзіў. Мы з таварышамі некалькі дзён падкопваліся. Уцяклі. Шэсць дней ішоў я пяшком з Мінска да Сінягова.

## ЗДЗЕКІ З ПАЛОННЫХ

Пайшлі мы з мамаю картоплі перасякаць у поле. Ужо ж трохі цішэй стала, немцы не ездзілі. А мы ў зямлянцы жылі. Тато буў у парцізанах. Ето ж перасякаем, а па дарозе з раз'езду людзі паказалі. Едуць на конях нямчуры, а да коней прывязаны нашы салдацікі. Маладзенькія. Ідуць, чуць перастаўляючы ногі. У крыві, абросшыя. Немцы ўсё нешта ім гаварылі. Мабуць, хацелі пра дакументы дазнацца. Гаварылі ж пазней, як разбілі дзівізію, дак нашы нейдзе там у лесе закапалі сцяг і дакументы. А тады немцы як пагналі коней бягом, і нашы, бедненькія, пабеглі, прывязаныя. А патом пападалі і цягнуліса за коньмі да самай Пасекі. Там іх і пакідалі нежывых.

## ТОЙ РАЗ НЕ ЗАБІЛІ

Вясна ў тым годзе була вельмі ранняя. Трэба ж нешта есці. Усе сталі араць, сеяць. І я пашла. Салдаты тут кінулі крывую кабылку. Дан мы ўсе па вочарадзі аралі сабе па кусочку зямлі. Ну, і я ўзялася араць. Толькі прашла раз плугам і завярнула назад. А тут усе пачалі ўцякаць. Усе паўцякалі, а я адна з конікам стаю. Можа б і я пабегла, але мая кабылка ў другі бок заварочана була, і я няскора ўбачыла. Яны з лесу ў зялёных халатах, як жукі якія, выпаўзлі. І ўсё страляюць, страляюць па тых людзях. Пулі, як чмялі, гудуць. А я ж ужо стаю. Думаю, што ўсё, мне канец будзе. І дажа сёння не ведаю, як гэта не ўбачылі. Але мяне тады не забілі.

## УЗВАРАЦЕНЬ ДАПАМОГ

Ідом мы з Насцінаю Воляю. Ведаем жа, што ў сяле нікога няма. Нас людзі паслалі ў сяло паглядзець, ці е немцы. Нашы ўсе ў лес сышлі, бо яны папалілі ўсё. А як парцізаны разбілі іх ля раз'езду, дый шчэ жалезную дарогу ўзарвалі, дай яны булі злыя, як сабакі. Мабуць, яны пабулі ў сяле, паглядзелі, што няма нікога, дак і пашлі па лесе шукаць. А мы ідом і чуем, што гергечуць. І поўна іх. Ну, што нам рабіць. Уцякаць? Не ўцяком. А тут узварацень. Мы селі пад ім і зверху нейкаю галінаю накрылі. А ў тым годзе було столькі заядзі ўсякай, камароў — што вачэй нельга було адкрыць. І нам ніяк няможна сядзець. А тут яны падходзяць. Шарэнгаю ішлі, мабыць, шукалі людзей. Ля нас сталі і стаяць. А мы сядзім, а камары пякуць. Добра, што доўга не стаялі. Пашлі далей. А мы да самага вечара прасядзелі.

## ВЫРАТАВАННЕ

Прыехалі немцы ў сяло. А тут няма ніводнага мужчыны. Адны бабы з дзецьмі. Павыганялі ўсіх нас і сагналі к Боцікавай хаце. Пастаўлялі ў рад к сцяне. Перагаворшчык і кажа: «Калі скажаце, дзе парэзаны, то мы вас пусцім, а калі не — пастраляем». Мы стаім, ждом смерці. Хто ім будзе Будаваць сваіх мужыкоў. А ля мяне двое малых дзетак. На шчасце, парцізаны з Брадоў пачалі страляць. Немцы ж нас кінулі і давай адстрэльвацца. Тады яны нікога не ўбілі і сяла не паспелі спаліць. Усё шукалі маю сястру. Яна парцейна була.

## УДАЛОСЯ ВЫРАТАВАЦЦА...

Я була ў суседкі ў хаце. Асталаса тут адна хата ў Хімы. Дан я пайшла і пякла там нейкія каржы. Патом бачу ў акно: бягуць з таго боку людзі. Пакуль я выбегла на вуліцу, а там ні душы ўжо. Бягіць тут чалавек адзін, Якаў. Гаворыць: «Уцякай, з Макарыч немцы едуць». Я схапіла сваю меншую, Зіну, і за ім. Яны пачалі страляць. Якаў бег уперадзе. Бачу: як сноп упаў. Але ж не забілі яго. На ўсю жызню астаўся крывы. А пулі па лісцях шарахцяць і над галовамі свішчуць. Я прыгнуласа. Дзе бегла, а дзе паўзла. Наканец, убегла ў алешнік. І на ёты раз удалоса выратавацца.

## НА ПЛАЧ-СЛЁЗЫ ЯНЫ І НЕ ГЛЯДЗЕЛІ

Даў ето мне парцізанскі камандзір Шуба кароўку. У мяне ж булі ўсе дзеткі маленькія. Ну, я ж, думаю, пайду сваіх шукаць уге. У лесе адной страшна дай вельмі холадна було. Уге ж падходжу к сялу, чую, што ўге страляюць. Бягіць тут адзін чалавек і кажа ўге: «Уцякаймо, бо немцы ўге ўсіх хапаюць і страляюць». Узяла я сваю кароўку, уге адвязала, дзетак схапіла ўге дый іду. Кругом пулі, як пчолы, гудуць. Я ж уге думаю: дагоняць, заб'юць усіх. Разгрэбла ўге снег, паклала дзяцей падніз, а сама зверху легла. Думаю: «Хай заб'юць мяне, а дзеці астануцца». Падышлі двое. Адкінулі мяне і дзяцей паднімаюць. Я стала галасіць, прасіць: «Не чапайце іх, галубочкаў маіх». Яны на мяне і не глядзяць. Тады ўге ракету немцы пусцілі. Так яны ўге адвязалі маю кароўку і пабеглі. А нас уге і не зачапілі.

## РАСПРАВА

Я ў хаце сядзела, а потым выйшла на вуліцу. Бачу: сяло гарыць з таго канца. Ето ж Мацвеіха була ля нас. Дан яна бяжыць. Бачу: і яе хата гарыць. Толькі хацела я ў хату назад, а ён бяжыць у двор мой.

— А, дома парэзаны! — кажа на мяне.

Тады йшчэ бягуць. Я ж гавару, што няма.

Дык ён сказаў:

— Мамент!

Я ж дагадалася, што паб'юць. Я іх стала прасіць:

— А, паночкі, а за што ж іх?

Яны ж мяне не пусцілі ў хату, а самі павыганялі ўсіх з хаты. Мабуць, некуды спяшалі. Я зноў іх прашу. Адзін стукнуў прыкладам мне па галаве. Выцяў, дык я во так к сцяне і, здаецца, нічога не бачу, паваліласа. Бачу, мае ўжэ валяюцца, ляжаць. А Кірэя прыкладам забілі. Майго Мішу выцялі во тут во [паказвае на галаву], а хаджаіна выстралілі тут [паказвае плячо]. Упаў мой хаджаін, Алена ўпала, Міша застагнаў. А ў Пірэя з роту пена пацякла, кроў ручаём палілася.

Мой Міша буў з дваццаць чацвёртага году. Прыйшоў з бацькам па хлеб парцізанам. А немцы абнялі сяло. Хто ўцёк, дык уцёк. А хто буў у хаце, дык астаўся. Пабілі ж маіх. Мабуць, думалі, што й мяне ўбілі. Пабеглі паліць Хіміну хату. А недалёка ад нас карчэ булі. Дык я туды папаўзла. А сваіх хавала на трэці дзень.

## І ДВОЕ ДЗЕТАК З ЖАНЧЫНАМІ…

Спалілі немцы ў сяле ўсё. А ў мяне ў Западні, ето поле так завецца, було дзве сотачкі картопляў. Дык я думаю, што пайду ў сяло, мо знайду якую жалязяку і абматычу іх. У мяне трое дзетак у лесе було. Прыйшла ў сяло. Ціха. Стаіць усяго дзве хаты, і школа асталаса. Сцяпаніха са сваёю ўнучкаю ідзе. Дай гаворыць на мяне:

— Чаго ты па смерць сюды прыйшла?

Я ж гавару:

— Цётко, то мо іх няма? Яны ж усё ўжо папалілі.

Яна пайшла далей. А я знайшла ў сваім дварэ нейкую матычку зломленую. Стаю і ляпаю. Яе прыбівала. Тады ж бачу: з лесу ідуць, як хмара якая. Я ўцякаць. Ля хаты жыта було. Я — паўзці, і дапаўзла да равоў. Схавалася ў яму і сяджу. А яны загналі ў школу чатыры жанчыны і двое дзетак і падпалілі. Ні разу не стрэлілі. Школа згарэла ўся, як свечка.

## АД СМЕРЦІ — У СМЕРЦЬ

Тата наш на фронце бyў. Большыя два браты ў парцізаны пайшлі. А мы ўсе меншыя з мамаю. Сяло ўжэ спалілі. Так мы па лесе і хаваліса. Так мы ноч сядзім пад хвояй ці ў яме якой, а ўдзень есці шукаем. Брат мой Міша агледзеў поле з картоплям!. Нехта не сканаў. Мы пайшлі туды. Цэлы дзень бул і па полі. Усе булі, з мамаю. Трэба ж було чым карміцца. Цэлы дзень усюды ля нас ляталі вароны і не сціхалі ні на мінуту. Каркалі і каркалі. Я лі гавару маму: «Хадземце туды, дзе ўсе людзі». А яна хацела больш назапасіць. Пяцёра ж було нас. Ажно і праўда. Улавілі немцы яе з самымі меншымі. Вароны, мабуць, спавяшчалі нам нядобрае. Мы, большыя, пабеглі і ўцяклі. А яна з Алейнаю, Мішам і Адамам у другі бок пабегла. Ну, яе і злавілі. Завялі ў Макарычы. Там іх дзяржалі да ночы. Уночы іх павезлі ў Старыя Дарогі. Яна з возу саскочыла і пабегла. Па ёй стралялі. Але яна бегла і бегла. У лесе ля Шумараўкі ўпала і памерла. Мабуць, разрыў серца буў. Ужэ ж холадно було. Дзеткі ад яе нікуды і не беглі, двое сутак пры ёй на холадзе булі. Праз два дні іх знайшоў ляснік. Алёнцы было чатыры гады. Яна была пачці мёртвая. Цэлую нядзелю не гаварыла, не хадзіла. А мама ляжала там. Мы яе прыкрылі дзёрнам і галлём, каб ваўкі не чапалі. Толькі вясною перавезлі яе ў сяло, на клады. А Алёнка ажыла. Цяпер, слава богу, здаровая. У Магілёве

настаўніцаю робіць.

## НАЛЁТ У ПОЛІ

Булі мы ў лесе. А свёкар, Паўлаў бацька, у сяле. Жыў там у зямлянцы, бо немцы ўжэ ўсё папалілі. Прыйшоў ён к нам у лес і гаворыць: «Што вы думаеце? Вясна праходзіць, людзі сеюць, аруць». Ну, і мы пайшлі ў Пелі, каб што пасеяць трохі. Я ўзяла дзяцей, свякруха трошкі гіроса^ ячменю ўзяла. Дзецям есці таксама ўзялі. Прыйшлі ў Пелі — гэта поле такое ў нас, а там людзей поўна ўжэ. Свёкар конікам арэ, а я граблямі бараную. Цёпла тады було, Бельма ярка свяціла сонейка, верабейкі ўсюды пелі. Але сэрцэ нешта чула, бо, як вазьмуса за што-небудзь, дак і рукі апускаюцца.

Толькі хацелі ўжэ сеяць, а мой Іван крычыць: «Мамачко, немцы!» Адкуль яны наляцелі, мы не бачылі. Усе на конях, з аўтаматамі. Людзі нікуды не паспелі ўцячы. Едуць і страляюць. Кулі, як вераб'і, ціўкаюць. Бачу, Насцю Трафімаву застрэлілі. У яе на руках дзевачка маленькая була. Тое ж дзіцятка крычыць. Яго ранілі. Пад'ехалі к нам. Злыя, як сабакі. Сталі правяраць нашу скрынку. Самі сабе нешта гергечуць. Толькі я і паняла, што яны сказалі: «Цвай Піндар і цвай ложка». Узялі гладышык кіслага малака. Недалёка ад нас стаяў Сяргееў сявок. Яны кінуліся туды. А свёкар кажа: «Уцякаймо!» Схапіў меншага Івана, я — Семка. Пабеглі. Добра, што ля нас густыя карчы булі. Яны пачалі страляць па нас. А мы пабеглі ў лес далей. Уцяклі. А тады ў Пелях багата забілі людзей.

## І НЕНАРОДЖАНЫХ ЗАБІВАЛІ

Ужэ цішэй стала. Усе папрыходзілі з лесу, кароў папрыводзілі. Па вочарадзі пасцілі. Пагнала я каровы. Недалёка ад сяла пасціла. Чую: нешта гудзе. Я адразу не паняла, пакуль не ўбачыла, што самалёты ляцяць. Ужэ адзін раз яны булі. Але праляцелі над сялом і нічога не рабілі. Я думала, што і цяпер паляцяць. Ажно ж пачалі бамбіць. Бомбы падалі, як гарох. Бачу, ужэ хаты пачалі гарэць. Дык я кінула кароў і пабегла ў сяло. Дурная була. Трэба ж було хавацца, а я сама па смерць бягу. Бягу, а Петрушэнкава хата гарыць. Сама Таццяна ляжыць, хлопчык гадоў трох, ухапіўшыся ручкамі за валасы, паранены, дыхае ля яе. Яна другім бярэменна була. Так тое дзіця з

жывата вырвало ў яе. Доўга шчэ кружыліса над сялом самалёты. Багата людзей пабілі, а сяло було не пазнаць. Вот аж да клуба цяперашняга булі адны ямы, а хаты ні аднае не асталоса.

## ГАРЭЛА ДА САМАГА ВЕЧАРА...

Пра гэта расказаў мне дзед Марцін.

...Калі ты быў у Хатыні, дык заўважыў у ліку спаленых вёсак і нашу Багуту. Я помню той дзень, калі гарэла наша вёска. Было гэта зімой. Аднаго разу ў Багуту ноччу прыйшлі партызаны. Гаварылі, што яны вярталіся з задання і рашылі ў нас адпачыць. Пасядзелі яны ўсю ноч і раніцай пайшлі далей. І вось нехта расказаў пра гэта немцам. І немцы рашылі адпомсціць нам за сувязь з партызанамі.

І вось у сярэдзіну дня ў нашу вёску ўварваліся карнікі, пачалі разбой. Людзей выганялі з дамоў і расстрэльвалі на дварах. А хаты падпальвалі, і так было па ўсёй вёсцы. Вёска наша гарэла да самага вечара. Шмат тады загінула людзей.

Я якраз быў у той дзень у Смалявічах і, вяртаючыся ў вёску, убачыў пажар, завярнуў у лес і там прасядзеў усю ноч. Людзі, якія асталіся жывымі, назаўтра прыйшлі ў вёску, пахавалі забітых і пайшлі жыць у лес. Праз некаторы час у лесе выкапалі шмат зямлянак, і жылі мы там да вясны.

## РАТАВАЛІСЯ У ЛЕСЕ

Было гэта ў час вайны. Яшчэ наша вёска стаяла.

Матка, брат, сястра і я хадзілі ў лес — хавацца ад немцаў. Бацька быў дома. Адзін раз прыехалі немцы ў вёску і засталі бацьку дома. Немцы абкружылі вёску, і неяк было ўцячы. Хата наша была блізка ля кустоў. Бацька зайшоў у хлеў, адбіў даску і канавай папоўз да кустоў. Немцы па ім стралялі. Ад кустоў блізка быў лес. У лесе знайшоў нас. Расказаў нам, што ў вёску прыехалі немцы і ісці туды неяк. Мы доўга плакалі. Хацелі дамоў, есці хацелася. Немцы спалілі нашу вёску. Хто ўспеў жывым уцячы ў лес, той астаўся жыць, а каму не ўдалося ўцячы, то немцы забілі.

У лесе сабралася многа людзей. Сядзелі ў лесе чатыры дні. Няма чаго есці, і холадна — адзежы няма. Злавілі мужчыны нейчую карову. Зарэзалі яе. Сабраліся ўсе. Зварылі мяса ў катле. Чуць не ўсё адразу

з'елі. А потым зноў няма чаго есці. Пайшлі з бацькам мужчыны ў дзярэўню. Знайшлі закапаны мяшок ячменю пад хлевам. Палавіна ячменю было згарэўшы, а палавіна была добрая. Знайшлі некалькі бульбы, цыбулі. Прынеслі ўсё і пачалі варыць есці. Варылі ячмень пятоўчаны. Не ў чым было таўчы. Потым знайшлі ступу і рэшата, тады пачалі таўчы. Спалі ў зямлянках, якія зрабілі за гэтыя дні, што былі ў лесе. Аднаго разу ноччу чуем, што нешта лопае па вадзе. Мужчыны пайшлі глядзець, але нікога не было. Так прасядзелі ўсю ноч, але ніхто не прыйшоў да нас. Тады мужчыны кажуць: «Будзем перабірацца ў другое месца, а то і сюды прыдуць немцы і паб'юць нас усіх тут».

Пачалі сабірацца, каб пайсці ў другое месца. Доўга ішлі лесам. Падыходзім да дарогі, аж па дарозе немцы едуць на конях. Пасядзелі ў кустах, пакуль немцы праехалі, і пайшлі далей. Ішлі мы доўга. Толькі чуем: нехта збоку яшчэ ідзе. Сталі прыслухоўвацца. Потым падыходзяць да нас чужыя мужчыны. Падыходзяць яны да нас і пачынаюць гаварыць. Мы расказалі ім, хто мы такія і куды ідзём. Завялі яны нас далей у лес, а там выкапаныя зямлянкі, шалашы. Гэта мы прыйшлі да партызан. Доўга былі мы разам з імі. Потым жанчын і дзяцей адправілі ў вёску, а мужчыны засталіся ў лесе. Жанчыны часта прыходзілі ў лес і прыносілі розныя весткі і што-небудзь зжы. А я быў у партызанах да канца вайны.

## КУЛІБІН ВОСТРАЎ

За рэчкай Бярэзінай, дзе вёска Бабцы, сярод топкіх балот ёсць востраў, доўгі, прыгожы. Сакавітыя травы растуць на ім. Як бы ратуючыся ад гібельнай багны, узбеглі на яго тонкія беластвольныя бярозкі. Пасярод вострава, хаваючыся ў густых травах, стаіць магіла — грудок зямлі, зарослы травой і клапатліва абнесены загарадкай. З гэтай магілай і з гэтым востравам звязана трагедыя адной сям'і, трагедыя вёскі Бабцы.

Гэта было ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Азвярэлыя фашысты забівалі цэлыя сем'і. Шмат людзей, як толькі быў створаны партызанскі атрад, уступілі ў яго. Уступілі ў атрад і два сыны Купіны Андрэеўны Герасімёнак — Ваня і Міця, маладыя васемнаццацігадовыя хлопцы. Аднойчы ім і яшчэ аднаму хлапцу далі заданне — спаліць мост. Бензіну не было, трэба было нанасіць саломы, а ўжо потым запаліць яе. Мост вельмі пільна ахоўваўся. Хлапцы нанасілі

саломы і падпалілі яе, але самі ўцячы не паспелі, іх злавілі фашысты. Мост усё ж згарэў. Міцю павесілі адразу, тут жа, ля моста, на слупу. Ваню тры дні яшчэ катавалі, дапытваліся, дзе знаходзяцца партызаны і іншае. Ваня маўчаў, з яго вуснаў ворагі не пачулі ні слова. Нарэшце Ваню павесілі. Шмат дзён віселі пасінелыя трупы — немцы не дазвалялі хаваць іх. Шмат слёз праліла маці, выцвілі яе вочы, пасівелі валасы, яна вымушана была глядзець на мёртвых сваіх сыноў. Аднойчы ноччу вяскоўцы сабраліся і ціхенька прабраліся к масту, пад страхам смерці знялі са слупоў мёртвых хлапцоў і пахавалі.

Пачалі актыўна дзейнічаць партызаны. Немцы зусім разлютаваліся, і вяскоўцы ўсе як адзін уцяклі на востраў, за Бярэзіну. Летам сюды немцы не маглі дабрацца, і тут было бяспечна. Але немцы, раз'юшаныя, зрабілі блакаду, яны стралялі па востраву з кулямётаў і мінамётаў. І вось аднойчы, калі Куліна з дзецьмі (а іх было пяцёра) варылі каля кастра есці, варожы снарад усё-ткі дацэліў — ён папаў прама ў кацёл. Забіла ўсіх, хто стаяў ля катла, загінула ўся сям'я Герасімёнкаў.

...Іх пахавалі ўсіх у адной магіле, тут жа на востраве. З той пары і стаў востраў называцца Кулісным.

## ТАК БЫЛО

Мой муж быў у парцізанах. А ў нас было двое дзяцей. Ён быў у Асаўцы ў атрадзе, дык забраў і мяне з дзецьмі туды. І мы там пабылі трохі ў вёсцы, і там было спакайней. Пасля там сталі наступаць немцы. Етыя атрады пайшлі ў балата. Ужэ й нам месца ў вёсцы не було. Мне зрабіў ён шалаш у лесе ў Асаўцы, і я з дзецьмі була ў шалашы.

Патом яны сталі лавіць. Мяне з дзецьмі ў час ночы ў лесе ўлавілі тамака і мяне крэпка збілі. Папрывешвала я дзеці на плечы, і я не магла ісці. Яны йшчэ ў дабавак далі ў рукі карову маю весці. Я колькі магла, стольки ішла. Патом упала і паскідала з плеч дзеці. Ён мяне ляжачую прыкладам. І хлопца насакамі збіў. Сёмку. А патом я ўстала, ачуняла. Яны загналі нас у Крываль. Мы ў Кілявалі аддыхпулі. З Крываля нас загналі ў Любань. Загналі ў Любань і заперлі ў хлеў. У хляве і пераначавалі. Мы думалі, нас там спаляць. Аж нас забралі і загналі ў Старыя Дарогі ў лагер. У лагеры мы былі два тыдні з дзецьмі. Патом нас угаварвалі: «Аддайце дзеці дабравольна. А вас мы будом сматрэць, вы будзеце работаць. Мы вашыя дзеці будом гадаваць. Як

вы вернецеся, вашыя дзеці вам аддадзім». Так што ж ето?! Дзіця не тавар. Мы не сагласіліся аддаваць. Дык яны тады вывелі нас на двор, а дзеці пакінулі ў лагеры.-Патом нас загналі ў падвал і не выпусцілі, пакуль пагрузілі дзеці на машыны. Мы ў тым падвале... дзве тронулася с ума вабшчэ, а мы рвалі валасы, біліся адна аб адну. Усе былі не пры сваём уме. Патом нас выпусцілі. Мы ў лагер увайшлі. Нашых дзяцей ужо ў лагеры не було. Увязлі.

Тады яны за нас і пагрузілі ў вагоны. На вагонах напісалі: «Парэзаны». І забілі вокны калючым дротам і дзверы замкнулі. І нас везлі пятнаццацера сутак. Загоняць у тупік, пастаім у тупіку — пуць разбамбяць, везці няма кудэю. І за пятнаццаць сутак нам: усяго тры разы кідалі ў акно па тры буханкі хлеба. Хто мог устаць, узяў і з'еў. А хто не мог і не кратаўся. Так, апухшы, і ляжаў. Толькі, як пойдзе дождж, так нітачку зачэпім на дзверы і на язык, каб капля вады папала на язык. Каб напітацца хоць вадою.

Тады нас хацелі ссадзіць у Бельгіі. Бельгія была разбіта. Так яны нас завезлі ва Хранцыю. Ва Хранцыі, праўда, мы пабылі месяцы два. Як завезлі нас ва Хранцыю, мы вылазілі з вагонаў. Але не маглі павылазіць: мы булі папухшыя, сташчоныя. Па нас поўзалі вошы. Не маглі глядзець дажа. Аграбалі жменямі з сябе. Тады яны нас параздзявалі, як маці радзіла, загналі за калючы дрот на мураву. Там мы пасядзелі. І яны нас голых пагналі ў дзезінфекцыю. Там пражарылі нас, пазмазвалі, — чорт іх ведае, чым яны мазалі. Тады пусцілі нас у барак. Наслалі сена. На голом сене мы пабулі суткі. Патом вошы ап'яць — таксама як ішлі. так ідуць. Яны баяліса к нам прыступіцца. Дык ап'яць за пас і ў дзезінфекцыю. Тады нас пусцілі ў другі барак. Далі нам па адзеялу. Мы тыя адзеялы парвалі. пашылі сабе — хто юбку, хто кофтку. Яны нас сталі біць: «Нашто парвалі адзеялы?»

Патом, як угледзелі нас французы, што мы такія абарваныя да такія змучаныя, дэк яны нам неслі есці хто што мог. Палуналі яду на картачку, самі не елі, а нам кідалі за той калючы дрот. Тагды яны ім сказалі: «Гэта такія ж бандзіты, як вы, дэк нясеце есці, а мы ні будам ім варыць». Дан яны, французы тыя, уліэ нас і адзелі, і пакармілі, і мы трохі йакрапчалі. І скора б нас ужо занялі амерыканцы. Мы недалёка булі ад мора. Мы чулі ўжэ і стрэл. А яны — за нас, узялі, забралі і павезлі ў Германію. І ўсадзілі ў шахты на поўны год. Мы не бачылі поўны год, які быў белы свет.

Пяць кіламетраў нас пяшака гналі сюды і туды. Прыгоняць у лагер нас, замкнуць, дротам закруцяць. Самалёты бамбяць, і снарады рвуцца. І мы пападаем з тых нараў далоў і нічога не знаем, хто і што.

Тады нас вывезлі з тых шахтаў, а патом ап'яць у ш^хты — у другія. І поўны год мы ўжо гаравалі ў шахтах. А ў шахты як нас туды ўпусцілі, дэк яны булі во такія пячурачкі. А патом, як разрабілі тыя шахты, дэк куды ні зірні — вуліца, як у якой Маскве ці Мінску: туды і сюды. Электрычныя лямпы гарацьі трубы етык агравацельныя. У іх там і кантора, і яны самі туды прыбягалі, хаваліся ад бомбаў.,

А патом ужо, як сталі адступаць, дак выпускалі нас наверх, рабілі поезду ўход у шахты. Вельмі ўжо было страшна, як адступалі. Бягуць — той туды, а той туды. Да етыя шапкі з кукардамі страшныя. Дэк сарве з галавы, да кіне, да аруж'е кіне. Адзін з адным сварацца да бягуць — той туды, а той туды, не ведаюць куды. Адзін бяжыць к рускай граніцы, а другі — к амерыканскай. І так во снавалі. Нас загналі ў лагер — у той самы, дзе мы булі. Ужо хацелі пагнаць рыць акопы к рускай граніцы. А буў з намі ў шахтах немец, на шэсць год асуджаны, буў харошы чалавек. І ён гаворыць: Я, гаворыць, суджоны, і я вам буду гаварыць праўду. І ён сказаў, што будзе ў дзевяць часоў вечара ісці хронт сюдэю. І вы, кажа, так рабеце, каб вас да дзевяці часоў вечара адсюль не выгналі. Бо як выганяць, пагрузяць на машыны і вас там, на акопах, усіх паб'юць». Мы так і зрабілі. Хто рубашку намачыў, мые, хто боты пахаваў, хто галаву звязаў. Нас да дзевяці часоў не выгналі. Патом стало ўжэ дзевяць часоў, нас сабралі, па тры паставілі ісці. І тут ужо на дарозе нас застаў хронт.

Хронт нас разбіў. Мы ўцяклі па аднаму хто куды ў лес. І сядзелі да паўночы дзе хто. Патом стала страшна. І рвалася пуць, замініраваная. Крычалі, бегалі, гукалі. Сядзім мы па адной у лесе. Як жа ж було страшна! Але ж дзе дзенешся? Патом я думаю: «Няўжо ж усе ўцяклі? Куды? Няўжо ж тут няма нікога? Дай свісну. Улю ж мне ўсё роўна смерць. Я ўжо ўсё адно адсюль жывая дадому не пападу і не выйду». Я свіснула. Не чуваць нікога. Я другі раз. Нехта адсвіснуўся. Я гавару: «Хто такі? Ідзі сюды». Мне ўжо ўсё адно, думаю. Ажно такая самая, як і я, што ўцякла. Прышла. Мы паабшчаперваліся, давай цалавацца, што хаця мы ўдвох. Вот мы даждалі дня. Патом як стаў бой ізноў, як стаў бой — дак пассякала нават пянёчкі. Мы ляжалі ўжо на голай зямлі. То пулі, то снарад ляціць — дак падскочым ад зямлі і зноў. Паглохнем і ні ведаем, ці мы жывыя, ці не.

Тады мы вышлі на дарогу. Давай, кажу, хадзем куды-нібудзь, мо найдом сяло якое, мо што. Усё роўна ўжо нам прыйшло так, што дальш некуды. У чужым лесе, у чужых такіх зубах. Прыходзім мы ў сяло. А ўжо ідуць амерыканцы: заняла Амерыка. Ідуць, страляюць. Яны ўжо аб'яўлялі раньшэй, што, хто ў лесе — выхадзеце. Бо калі знайдом у лесе, будам убіваць. Мы бачым, што яны нас пастраляюць.

Мы рукі ўгору: свае. Яны нас пусцілі ў сяло. Прыйшлі мы ў сяло, бачым, што не немцы. Не такія. А яны сядзяць у дамах і глядзяць на нас. І пытаюцца:

— Што за вы?

Мы гаворым, што мы папалі ў плен, што ад нас пааднімалі дзеці.

— А што яны ў вас дзелалі? — пытаюць.

Так мы гаворым:

— Палілі, вешалі, тапілі, калолі. Што хацелі, тое з намі рабілі. А нас загналі сюды, і мы не знаем ужо цяпер, як нам дабрацца дадому. Хочам дадому, а як дабрацца, дак не ведаем.

— Цяпер добра, — кажуць, — паначуйце ў нас, мы вас пакормім і спаць палажым.

Яны нам наварылі макарону з мясам, праўда. Мы паелі і паляжалі трохі. А патом трэба ж уходзіць. Хто яго знае, хто ён такі — гэты, што з намі заняўся. Як мы палегчы, так ён: «Аф штэйн», як мы паўстаём, дык ён: «Аллес шляхен» па-нямецку. А ці ён немец, а ці ён амерыканец? А долі няхай ён не ведае! І етак нас мучыў да самага дня. Тады вывідняла, аб'яўляе:

— Бабкі, ухадзеце. Мы б вас яшчэ рады пакарміць, але сюдэю ісцімуць адступальныя баі. Мы вас не змолсам тут дзяржаць.

— А куды ж ісці, пытаем, а што рабіць?

— А куды хочаце.

Выйшлі мы за тое сяло, а там пабіты народ, пабітыя коні, каровы. Мы ішлі па костачкі па крьь ві, пазапяклася. Мы не маглі ісці. Пазакрывалі платкамі вочы. Павыходзілі на дарогу і пападалі без духу. Паляжалі. Куды ж нам цяпер падацца? Едзе машына.

— Каласочак, галубочак, мо ты знаеш, дзе які лагер, дзе людзей збіраюць такіх. Забяры, завязі нас.

— Бабкі, знаю, але мне некалі. Мне нада ехаць за сваім дзелам.

Мы сталі ў рукі, ногі цалаваць. Ён нас падвёз. Прывёз нас к лагеру. А там ля таго лагера!.. Лагер на пятнаццаць кілометраў, і на пятнаццаць кілометраў будзе за лагерам народу! А што рабіць? Мы столькі ўжо сташчалі з голаду. Як нам папітацца, пака нас прыпішуць да палучыш паёк? Тады неяк папала: якраз нас первых і прыпісалі.

А тады ўжэ была ўборка, і ўжэ мы былі на палявых работах. Мы ўжо ўбіралі ўражай. Мяне ўжо паставілі на кухню. Я была поварам. Мне ўжэ было харашо. Ну, аднак, усё роўна душа балела: дзе мае дзеці, дзе мая сям'я? Як я дадому даб'юса? Я і не думала, што буду дома. Патом нас з тых палявых работ адвезлі машынамі к польскай

граніцы. З польскае граніцы мы ўніз дабіліся, як хто сумеў, дадому.

Прыехала я дадому. Дома нікога няма. Старушка-маць сядзела ў пагрэбчыку, сагнуўшыся, дзе картошка була. Прыйшла я. Што рабіць, за што ўзяцца? Ні хаты, нічога. Я пайшла ў распалком. Мне ў распалкоме далі на пару дзён каня і чалавека ў падмогу. Перавезлі стопачку з лесу абсмаленую, і я збудавала хатку, і цяпер я ў етай хатцы жыву. А мужыка ўбілі. Не даждаў дзве нядзелечкі, як прышлі красныя. От я што знаю, што магу расказаць вам.

## ЯК Я ПАРТЫЗАНАЎ ВЫРАТАВАЛА

Была я ў хаце. Ну, тады вышла на вуліцу. Бачу, што людзі бягуць. Гэта яны ўцякалі ад немцаў. Два парцізаны беглі апошнія. Паліцаі выставілі палямёт. Я ж бачу, што скора застрэляць. Ухваціла за палямёт вот так во і гавару: «Гэта ж мае дзеці пабеглі. Не страляйце!» Дан адзін з вінтоўкай ка мне, а другі гаворыць: «Не нада біць!» Бо ён быў з Гасцін, дак пазнаў мяне. Ну, той і ні стаў біць. Дай гаворыць: «Вонь мы парцізан пабілі».

Пакуль я прасіла, тыя два парцізаны дабеглі да хлеўчука, — стаяць там. Бачаць, што паліцаі тут са мною затрымаліся, дак яны скінулі свае кажушкі дый у лес. Паліцаі пабеглі. Ажно не парцізан, а тыя кажухі пабралі. Як пайшлі яны па тыя кажухі, то я думаю, што ўжо і не просцяць мне. Дык я тым бокам паўз хаты пабегла дадому. Ужэ не бачыла, як яны пашлі з вёскі. Кароў тады з сяла пагналі. А людзі паўцякалі, чалавек пяцьдзесят. Самая задняя была Алеся. Дык яны б яе і мужчын пабілі б, каб я не схапіла палямёт.

## МУЖНАСЦЬ МАЦІ

Было гэта ў час Вялікай Айчыннай вайны ў вёсцы Чарняны Мядзельскага раёна. Жыла там сям'я Лашукоў: бацька з маткай і чатыры сыны — Антось, Паўла, Міцька і Лёнька. Паўла пайшоў у парэзаны, а астальныя былі дома.

У 1943 годзе немцы рашылі знішчыць парцізан і ўсё насяленне бліжэйшых вёсак. Лашукова сям'я пераехала ў вёску Будзева да родзічаў. А ў хуткім часе нямецкая блакада прыйшла і ў вёску Будзева. Усю маладзёж сталі забіраць у Германію. Дваіх сыноў Лашуковых — Антона і Міцьку — забралі немцы і правялі ў Паставы.

Але нашоўся здраднік і сказаў немцам, што гэта хлопцы з парцізанскай сям'і. Здраднік Антося пазнаў добра, а Міцьку — не. Дайшла вестка да бацькоў, што Антося забралі ў гестапа. Бацькі паехалі з меншым Лёнькам выручаць сына з гестапа. Прыехалі ў Паставы ў гестапа і сталі дапытвацца ў немцаў, за што пасадзілі сына. Даведаўшыся, што перад імі сям'я Лашукоў, сям'ю таксама затрымалі.

Сталі вясці дапрос: дзе іх сыны Паўла і Міцька. Збітую маці прывялі на пункт, каб паказала сыноў. Маці падвялі да Міцькі.

— Гэта твой сын?

— Не.

Маці «не прызнала» сына. Сын не падаў віду, што пазнаў сваю маці. На вачах у меншага сына Лёнькі расстралялі бацькоў і брата Антося. Міцьку і Лёньку павязлі ў Германію. Паўла прадаўжаў барацьбу ў парцізанах.

Толькі пасля вайны сустрэліся браты ў вёсцы Будзева ў родзічаў. Зараз браты жывуць у розных кутках Беларусі.

ПРА НАСТАУНІКА-ПАТРЫЁТА

Да вайны ў нашай вёсцы была пачатковая школа. Дырэктарам яе быў камуніст Мрочык Аляксандр Іванавіч. Калі пачалася вайна, Аляксандр Іванавіч застаўся ў вёсцы. Была ў яго жонка Соф'я Іванаўна і трое малых дзяцей. На школьным агародзе быў калодзеж, і туды Мрочык схаваў радыёпрыёмнік, па якім слухаў і перадаваў аднавяскоўцам навіны.

Праз нейкі час нехта перадаў немцам, што ў Мрочыка ёсць зброя і радыёпрыёмнік. І вось аднойчы раніцай у хату Аляксандра Іванавіча ўварваліся немцы і зрабілі вобыск, але не знайшоўшы нічога, збілі Мрочыка і выйшлі з хаты.

Аляксандр Іванавіч працягваў слухаць навіны і расказваць пра становішча на фронце. Праз некаторы час немцы ізноў прыйшлі ў вёску і забралі Аляксандра Іванавіча і павезлі ў вёску Рудня. У Рудні на ўскраіне вёскі Мрочык убачыў гурт людзей. І вось адзін з немцаў даў рыдлёўку Аляксандру Іванавічу і загадаў яму капаць яму. І тут Аляксандр Іванавіч усё зразумеў, што жыве ён апошнія хвіліны.

Калі яма была выкапана, немец зачытаў загад, і Аляксандра Іванавіча расстралялі. Людзі загаласілі, і іх немцы разагналі.

Праз некалькі гадоў пасля вайны Аляксандра Іванавіча перавезлі і пахавалі ў маладым бярэзніку ў вёсцы Задомля каля школы на беразе возера. Калі ехаць па Маскоўскай шашы і павярнуць налева каля Кургана Славы, дык здалёк бачны абеліск у бярэзніку. Тут

пахаваны Аляксандр Іванавіч Мрочык, наш аднавясковец, камуніст, былы дырэктар школы. Тут разам з ім захавана і яго жонка, якая загінула ў Бранскім лесе і знойдзена толькі год назад чырвонымі следапытамі. А пры ўваходзе ў двор школы стаяць дзве стройныя бярозкі з таблічкамі на памяць людзям пра тых, хто загінуў за наша шчаслівае жыццё.

## А БЫЛО ГЭТА ТАК...

Аставіла я дзяцей дома, а сама пайшла ў другую вёску, думала, можа што знайду — адзення якога ці з яды што-небудзь. Вяртаюся я дамоў ужо, сустракае мяне адна жанчына і кажа, што спалілі нашу вёску і разам усіх, хто там быў...

А было гэта так.

Панаехалі немцы. Сагналі ўсю дзярэўню — з малога да вялікага. Жанчын з дзецьмі на адзін бок, дзевак і мужчын, якія былі, на другі. Людзі думалі, што ў Германію. Дзеўкі чужых дзяцей пачалі хапаць.

Дванаццаць дзяўчат забралі, давезлі да Чэрвеня, а там, казалі людзі, расстралялі. Мужчын і баб некаторых паставілі ля канюшні і расстралялі ў спіну. А баб і дзяцей сагналі ў канюшню, дзверы закрылі, аблілі бензінам і падпалілі.

Тады ўжо, як раскапвалі, дык — адзін пад адным ляжалі. Гэта ж балела так, дык, відаць, хаваліся. Дзвесце сорак сем чалавек загінула. Пасля ўжо сваякі і хто ўратаваўся шукалі сваіх. Дык хто ніц ляжаў, таго можна было пазнаць. Відаць, ад сырасці, — у некаторых пашпарты захаваліся, хто па адзежы пазнаваў. У каго валасы ў косы былі заплецены, дык поўнасцю не згарэлі. Так яно ўжо ўсё кругом абгарэла, а косы засталіся. Адзін дзядзька падкапаўся пад зруб. Дык палавіна яго ў будынку і згарэла, не паспеў вылезці ўвесь на вуліцу.

Заходзілі і падпальвалі кожную хату. А што ўжо так не спалілі, дык з трасіруюшчых пуль. Усё начыста згарэла. Адна хата толькі засталася, бо на вотшыбе стаяла.

Адна жанчына ўцякла — праз акно вылезла. А немцы ў дыме яе і не ўбачылі.

І яшчэ. Зайшлі немцы ў адну хату. А там была бабка старэнькая, хлопчык гадоў чатырнаццаці і дзевачка ў калысачцы яшчэ. Бабка не захацела выходзіць з хаты, як яны пачалі выганяць. Тады немцы падпалілі сяннік і пачалі іх у хаце страляць. Бабка дзевачку накрыла ўжо сабой. Але і яе толькі ранілі, і хлопчыка таго. Вот яна і засталася

жыць. І хлопчык той жыў, але галава была ў яго на бок скрыўлена.

А ў адной жанчыны было пяць хлопчыкаў. Як паставілі іх у шарэнгу, маці пачала галасіць: «А што гэта будзе, нас жа заб'юць». А немец адразу па ёй вочарадзь з аўтамата. Тры хлопчыкі пабеглі. Аднаго забілі, адзін уцёк, а трэцяга ранілі. Пуля праз вока выйшла. Так і цяпер жыве. А ўжо маці і двух большых забілі.

Там цяпер памятнік стаіць у вёсцы: маці з мёртвай дзяўчынкай на руках.

## ПОДЗВІГ МАРКАВА

Жыў я тады недалёка ад Свіра. Прыйшлі немцы. Галоўным камендантам на Лынтупшчыне быў нейкі Бэк. Аднаго разу прыехалі паліцэйскія і сказалі, каб усе тыя, хто маіць каня, ехалі заўтра ў Лынтупы. Сам Бэк будзіць адбіраць коней у абоз. Паехаў і я на сваім кані. Многа сабралася нас на пляцы ў Лынтупах, чакаем Бэка. Так прачакалі мы чуць не да вечара, як нам аддалі прыказ ехаць дамоў.

Назаўтра чуім, што забілі Бэка па дарозе са Свінцян у Лынтупы. У лесе недалёка ад Шудаўцаў яго пераняслі партызаны і забілі. Разам з Бэкам ехала сакратарка. Яна была з нашай вёскі, служыла ў немцаў і была сувязной. Яна была звязана з партызанамі брыгады Варашылава, якой камандаваў Маркаў. Сакратарка знала, што іх пярэймуць партызаны. Калі машына з Бэкам уехала ў лес, на дарогу выйшаў добра адзеты малады чалавек. Гэта быў Маркаў. Ён падняў руку, а сакратарка і кажыць: «Трэба ўзяць, добры хлопец». Калі машына прытармазіла, Маркаў выстраліў у Бэка, а сакратарка ў шафёра. Пасля гэтага сакратарка пайшла ў партызаны — у брыгаду Маркава.

## ПРА БРАТА — ПАРТЫЗАНА

Быў у мяне яшчэ брат Яўхім. Дык яго павесілі немцы. Ён быў у партызанскім атрадзе каля Прыляці. Там было цяжка ваяваць: дарога жалезная і рака побач. Яўхім хадзіў на заданне ў Гродна. Чаго — я не ведаю. Прыйшоў дамоў з задання, нехта ўбачыў і прадаў яго.

Зіма была, мароз страшны. Лёг ён аддыхнуць і не знаў, што пра яго ўжо ведаюць немцы. Ён ляжаў на ложку, а жонка каля печы стаяла. Заходзіць паліцай і пытае гарэлкі. Мы сказалі: «Няма гарэлкі».

І тут ён прыкладам жонцы па галаве — і паставіў яе к сцяне вачмі. А дзевачку як кінуў аб печ, дык і цяпер горбік астаўся на спіне, як камень. А Яўхіма адразу ж схвацілі. Босага выгналі з хаты, на такі мароз. Кінулі ў крытую машыну і павезлі. У Гарадзішча завезлі і там доўга мучылі. А пасля павесілі. Казалі, што паліцаі стаялі некалькі дзён ля віселъні — каб не знялі яго. Каб усе глядзелі і ім страшна было.

## ЯК НАШЫ ВЯРНУЛІСЯ

Дык ты кажаш, цікава вам ведаць, як і што тады было? Ну, дык слухай жа, нябожа…

Цяжка нам было пад немцам. Усё, бывала, пазабіраюць: і курыцу дзе якую знойдуць, і яйцы, ды ўсё на свеце да сябе валаклі. А мы от так і жылі: дзе трохі ў лесе што вырвеш, дзе ў гародзе што вырасціш. Так і жылі. А недалёка, у барысаўскім лесе, парэзаны стаялі. Бывала, ужэ як трохі пацішэе з тым немцам, то прыходзілі і да нас. Вясёлыя такія хлопцы. Кажуць бывала: «Пацярпіце, хутка ім канец будзе!» А мы і чакалі.

Як адзін раз сядзелі мы пад хатай, пад вечар так ужо было, прыходзяць два такія ваенныя. Пачалі пытаць, як і што. Мы ім расказваем, а самі думаем: «А мопса гэта немцы пераадзетыя?» Яны распыталі ў нас усё ды кажуць: «Не бойцесь, заўтра ўжо ў вас немцаў не будзет». І пайшлі. Як раніцой я чую: нешта грукае і грукае. А мае ж вы міленькія, ды гэта ўжэ пачалося наступленне. А немцы на машынах, на матацыклах, пяшком, хто як бягуць во з Хамічоў, Стральцоў. А потым як пачалі снарады біць і ўсё ляцяць і ляцяць. І дыхнуць таму немцу не даюць. Выбегла гэта я з хаты за нечым, а тут Верушка ідзе (ну ты ж ведаеш яе, якая яна разумная баба) ды і кажа мне: «Гэта ўжэ «кацюшы» б'юць. От каб, здаецца, да гэтых «кацюшаў» ды яшчэ «ванюшы», дык той вайне адразу канец быў бы!»

А з Лунны ўжэ немцы пачалі біць (там гарнізон іхні быў). Але позна ўжэ было, нашы ў Марцінаўцы ўвайшлі. Ах, і радасці ж было! І абдымалі мы іх, і цалавалі. Пра сваіх пыталіся, мо хто бачыў, мо хто што чуў.

А мой вот і не вярнуўся, пакінуў во мяне з чатырма дзецьмі… Вот усё і плачу… Эх, усім дадалося. Я помню, ужэ як пагналі немцаў нашы далей, на Ваўкавыск, пайшлі мы на гару Суцькаву, там лес трохі быў. Бачым: ляжыць адзін забіты наш хлопец, ды такі ж ён малады, ды такі ж ён харошы! А яго ж яго маці не даждалася, а

нявеста яго не прыждала... І цяпер не магу без слёз успомніць. Пахавалі мы яго, во там і зорачка на яго магіле...

## ВЫРАСТАЛІ Ў ЗЯМЛЯНКАХ

Калі пачалася вайна, то неяк адразу ж самалёты скінулі парцізан. Шасцёра іх было. Ноччу стукаюць к нам у хату. А мы жылі на краю сяла. Адзін з іх быў брат дваюрадны маёй маці. Пытаюцца ў нас, ці ёсць у вёсцы немцы. А ў нашай вёсцы стаяў гарнізон. Толькі адны паліцэйскія былі ў гарнізоне. Вот яны ноччу іх усіх і перабілі. А пасля як наляцелі карнікі! Маладзёж у лес уцякла, а ўсіх старыкоў і дзяцей сагналі на плошчу, кулямётаў наставілі шчыльненька-шчыльненька, адзін паўз аднаго, і пачалі шукаць у вёсцы. Усё шомпаламі перапаролі. Не дай бог, знайшлі б дзе пісталет ці вінтоўку, ці патрон, то б усіх там і перастралялі. Але нічога не знайшлі.

Пасля яшчэ колькі разоў наляталі карнікі. Бацька наш быў ужо ў партызанах. І нас забраў у лес, бо немцы сям'ю перастралялі б. Жылі тры гады ў лесе ў зямлянках. А есці ж хацелася!.. Як хацелася есці!..

А блакада!.. Бацька нас пад кустамі ядлоўцу захавае, мы налягаем, а ён на густую сасну залезе і глядзіць, ці ідуць немцы. А немцы з сабакамі ідуць. Але не спускалі сабак. Добра, што не спускалі сабак, а то тыя сабакі паразрывалі б дзяцей. Немцы пазавязваюць хусткі і ідуць. А некаторыя па-руску гаварыць умелі. Дык ідуць і крычаць на ўвесь лес: «Наталля! Ганна! Юля! Выходзьце! Немцы ўжо пайшлі!» А мы сядзім, як мёртвыя. Бацька бачыць усё, што немцы ідуць. Свісне нам, каб мы толькі сядзелі і не вылазілі. Вот так тры нядзелі была блакада і мы тры нядзелі сядзелі, не вылазілі.

У цёткі адной сямёра дзяцей было. Трое большых былі ў парцізанах. Немцы і злавілі іх у лесе трох. Вядуць па вёсцы. Усе людзі стаяць, паглядаюць. І радзіцелі іхнія стаяць. Немцы пытаюцца, ці знае іх хто. Яны не прызналіся, што з нашай вёскі і што іх тут маці, бацька, сёстры стаяць. А яны тожа не прызналіся. А назаўтра іх усіх траіх і павесілі на плошчы.

Пасля вайны засталіся мы паміж небам і зямлёю. Вёска ўся спалена. Бацька пайшоў на фронт. Маці яго праводзіла. Ішлі праз лес. А ў лесе немцы яшчэ засталіся. Вось яны і пачалі перастрэлку. І маму нашу там і забілі. А пасля і бацьку ўбілі на фронце ў Польшчы. Засталіся мы ўтрох між небам і зямлёю. Зрабілі зямлянку. Шэсць гадочкаў жылі ў ёй. Вясной вады нойдзе пашці поўная зямлянка. МЫ

дошкі пакладзём ды па дошках і ходзім. На печ пазалазім і спім там. А есці ж хацелася! Як хацелася есці тады!..

## ПРА ВАЎКОЎ

Пасля вайны ваўкі дзяцей хапалі. Сядзелі дзеці на ўзмежку гарода, ля лесу і гулялі. Цераз плот прыбег воўк, ухапіў дзевачку — і ў лес. Нарабілі крыку, сабраліся мун^чыны, і я з імі пайшла. Бяжым мы за ваўком, а дзе ж ты ўслед паспееш. Глядзім: сарафанным А гэта воўк яе раздзеў і сарафанчык з нямецкай палаткі ў гразь утаптаў, а дзевачку далей панёс. Панёс ён яе ў гушчар, найшлі толькі гарлячок. А потым далей пайшлі слядамі ваўчынымі. Тады найшлі ручку дзевачкі. Дзевачцы гадоў мо дзевяць было, яна ўжо ў школу хадзіла.

Пасля вайны ваўкі многае хапалі. Я жыла ў зямлянцы ў лясу, і дзеці ў мяне малыя былі. Дык на мяне бабы:

— Не пакідай дзяцей, бо воўк можа ўхапіць.

А я і кажу:

— У мяне авечкі ёсць, то няхай іх бярэ.

Дык і ўзяў жа! Гляджу: бягуць толькі дзве. Во мне было праішэствіе! Бабы ізноў на мяне:

— Во, бач, і ўхапіў воўк авечку, а што каб дзіця?

— Ой, — кажу, — бабы, у мяне певень ё і курыца, то няхай лепей іх бярэ.

Дык ён і пеўня ўзяў! Прыбеглі дзеці:

— Ой, мама, воўк пеўня ўхапіў!

— Ну, — кажу, — болей воўк нас не кране, мы рашчыталісь з ім.

Мы паабедалі і пайшлі зноў капаць вугаль. Прышлі, а Іван і кажа:

— Глядзі, Саша, певень твой ляжыць ля ямы. Пачуў, значыць, воўк, што дзеці галодныя, пашкадаваў і аддаў пеўня.

## ДВА «УСПАМІНЫ» ДЗЯДЗЬКІ ІЛЛІ

Ой, мальцы, нікому не было так, як мне. Гэта ж, помніце, як наляцелі немцы на нас, ну, тады, як кароў усіх пазабіралі. Я ж тады выскачыў з хаты ды на матацыкл. Еду, еду, а яны, падлы, за мной. А ў мяне, ведаю, бензін канчаецца. Ну, і выскачыў з пушчанскай дарогі

на Лысае поле, дзе цяпер на пасту ганяюць, ды тут і заглох. З гарачкі саскочыў з матацыкла ды хацеў угрунь бегчы. Не, чую — яны ўжо блізка. Тады я (ня дурны ж во быў) — да скірды з саломай! Напіхаў яе ў бак матацыкла, падпаліў — і яшчэ добрых тры кіламетры так гасіў, што думаў і шлунні з мяне выскачаць. А каб не саабразіў — дык не сядзеў бы во з вамі.

А то во яшчэ што было. Тожа — наехалі немцы. Кажуць, у паліцыю будуць сіллю гнаць. Куды, думаю, мне дзявацца? Я на рэчку. А дзела зімой было. Гляджу — палонка, дзе Юлька мая транты мыла. Ну, я і ўскочыў у яе. Вады мне там трохі больш за пуп. Прысеў, саломіну ў рот, каб дыхаць, і сяджу. І што вы думаеце? Пакуль гэтыя сволачы па хутару ездзілі, зацягнулася палонка лёдам. Паехалі немцы — чую, шукаюць мяне бацька з маткай, Юлька крычыць: «Ілля, Ілля, дзе ты, каб ты аглох!» А я ўсё чую, а крыкнуць не магу. І прасядзеў жа я, мальцы, усю ноч у рэчцы. А рана ішоў Аўхім Іллюшкаў: глядзіць — саломіна з лёду тырчыць. Заглянуў у палонку, а лёд чысты, відна ўсё — аж вочы ў яго на лоб палезлі.

Ну, і высеклі лёд, выцягнулі мяне адтуль. Дык скажу вам, мальцы, трохі намярзаў. Каб яшчэ дзень прасядзеў, наўрад ці гаварыў бы цяпер з вамі.

# МУДРАСЛОЎІ

## Прыказкі, прымаўкі, прыгаворкі

У жывой гаворцы народа, у яго штодзённай моўнай практыцы сустракаецца безліч .вобразных, афарыстычных, крылатых выразаў, якія або выказваюць нейкую закончаную, самастойную і павучальную думку, або трапным параўнаннем ці ўдалым намёкам характарызуюць пэўную з'яву, рысу чалавека, узаемаадносіны паміж людзьмі, або проста ўпрыгожваюць, ажыўляюць гутарку дасціпным каламбурам, нечаканай ігрой слоў, да месца падкінутай складнай жартаўлівай заўвагай, нарадай, пажаданнем. У першым выпадку мы маем справу з прыказкамі, у другім — з прымаўкамі, у трэцім — з прыгаворкамі. Вядома, неперaходнай мяжы паміж гэтымі відамі народных мудраслоўяў няма, адрозніць іх адно ад другога часам нялёгка, асабліва — прымаўку ад прыгаворкі. І ўсё-такі адчуваць пэўныя паміж імі адрозненні пажадана, — каб яшчэ лепш бачыць вобразна-выяўленчыя магчымасці роднага слова, багацце і разнастайнасць спосабаў і прыёмаў мудрай мовы.

Параўнаем: «Адна пчала многа мёду не наносіць», або: «Ідзеш на чужую старану — пільнуйся, каб не было сараму». І ў адным і ў другім прыкладзе — думка закончаная, гучыць як вынашаны вывад, як абагульненне, як здабытая на аснове багатага жыццёвага вопыту мудрасць. І ў абодвух выразах ёсць павучальны сэнс: у першым — прыкрыты іншасказаннем, у падтэксце, у другім — адкрыты, на паверхні. Гэта — прыказкі. Цяпер возьмем два іншыя прыклады: «Ні людзям паказаць, ні сабе паглядзець», «Разлічымся на тым свеце вугалькамі». У гэтых выразах самастойнай, закончанай думкі няма, няма і павучання. Адчуваецца, што ім не хапае кантэксту, з якога яны вырваны, накшталт: «Узялі такую нявестку, што ні людзям паказаць, ні сабе паглядзець...» Або: «За доўг не пераживай, разлічымся на тым свсце вугалкамі...» Першы выраз трапна, дасціпна характарызуе чалавека, другі — узаемаадносіны паміж людзьмі. Гэта — прымаўкі. Нарэшце, два-тры ўзоры прыгаворак: «Запалі агонь і паглядзі, ці ў печы гарыць», «Казалі, што папа звязалі, а ён і цяпер развязаны», «Дай табе бог здароўя ў ручкі, у ножкі і яшчэ трошкі». У першым прыкладзе — звычайны досціп, іранічны жарт, у другім — складнае, крыху насмешлівае передражніванне, у трэцім — гэтакае ж

складнае, вясе. лае пажаданне.

Як бачым, пэўныя змястоўна-семантычныя і функцыянальныя адрозненні паміж прыказкамі, прымаўкамі і прыгаворкамі ёсць, аднак хочацца, і гэта будзе справядліва, падкрэсліць не іх рознасць, а іх агульнасць, тое, што іх радніць і збліжае. А збліжае іх мудрасць, афарыстычнасць, дасціпнасць, здольнасць крайне малой колькасцю слоў сказаць вельмі многа. Аб'ядноўвае іх і вобразна-паэтычная прырода афарыстычнага мыслення, і агульны — разлічаны на вусную жывую гутарку, на моўны кантакт — рытміка-інтанацыйны тон.

Прыгаворкамі па сутнасці з'яўляюцца і складныя, часам дасціпныя і, як правіла, вобразныя формулы вясельных зычанняў-пажаданняў. Блізкія да іх гэтаксама і выказаныя ў вобразнай форме праклёны і ўстойлівыя народныя параўнанні.

Усе гэтыя трапныя, крылатыя, афарыстычныя выразы з даўных-давён карысталіся і карыстаюцца ў народзе вялікай любоўю. Шчыра кажучы, чалавек працы без іх не абыходзіўся і абысціся не можа, як не можа перастаць думаць, разважаць, прыкмячаць, параўноўваць, ацэньваць, як не можа перастаць камунікавацца пры дапамозе слова з другімі людзьмі. Вось чаму з усіх традыцыйных жанраў вуснапаэтычнай народнай творчасці гэты жанр і сёння найбольш жыццяздольны і функцыянальна актыўны. Будучыня ў яго, можна сказаць, такая ж, як у самой мовы: пакуль будзе жыць мова, датуль будуць у ёй нараджацца прыказкі, прымаўкі, прыгаворкі і іншыя вобразныя, паэтычныя мудраслоўі.

**Праца і хлеб.**
**Народны сельскагаспадарчы каляндар**

Каб у пашане быць, трэба працу любіць.
Праца не паганіць чалавека, а корміць, і поіць, і вучыць.
Праца ды рукі — моцныя зарукі.
Хто робіць, той і мае.
Найсмачнейшы хлеб ад сваёй працы.
Хлеб смачны і сыты, калі сваім мазалём дабыты.
Хлеб не зяць, паглядзяць ды з'ядзяць.
Праца сама за сябе скажа.
Добра тады, калі спяваеш ды пра работу не забываеш.
Калі ёсць ахвота, то зладзіцца любая работа.
Трэба жыць, трэба і працаваць, каб не было ад бога грэха, а ад людзей — смеха.
Калі ёсць работа, то ёсць і турбота.
Рабоце няма канца.
Праца майстра баіцца.
Які майстар, такая і работа.
Добры певень заўсёды худы.
Былі б рукі, работа будзе.
Дзе няма ахвоты, там няма работы.
Першая работа заўсёды ў печы гарыць.
Не хочаш мецъ доўгу — не спі падоўгу.
Труд і горы раўнуе.
Сказана — не даказана: патрэбна зрабіць.
Незаробленаму грашу цаны ведаць не будзеш.
Не працуеш — не заробіш, не заробіш — не з'ясі і не зносіш.
Без працы не есці куляцы.
Хлеба не вымаліш, зарабіць трэба.
Дзе работа, там і густа, а ў лянівым доме пуста.
Павесіш цэп, прападзе й хлеб.
Кідай стрэльбу і вуду, то хлеб скажа: «Буду!»
Калі хочаш хлеба мець, то трэба зямліцы глядзець.
Дасі зямлі, дык і ад зямлі возьмеш.
Добра зямлі дасі — добра зямля табе аддасць.
Хто зямлі дае, таму і зямля дае.
Калі ёсць гной, то будзе і лой.
Рана ў поле выязджай, лепшы будзе ўраджай.
Глыбей узарэш — болей збярэш.
Калі добра ўзарэш, то і ўраджай збярэш.

Хто тры разы больш поле арэ, той на тры копы больш бярэ. Лянок не любіць лянот.

Кінеш у зямлю зерне — паднімеш колас.

Днём раней пасееш — тыднем раней сажнеш.

Калі ўрадзіў званец, то хлебу канец.

Калі хочаш, каб быў ураджай, агратэхніку паважай.

Як ні ары — абы чорным дагары.

Дзе многа васількоў, там мала каласкоў.

Надзейся, нябожа, а сам сей збожжа.

Закончыш жніво ўпору, будзе што вазіць у камору.

Калі ўрод, дык і ўмалот.

Буракі палоць — не языком малоць.

Прыйдзе пара — будзе трава.

Рабі сена, калі зязюлька кукуе — тады кароўка есць і смакуе, а наробіш, калі варона крана — тады кароўка есць і плача. Касі з машком — не будзеш вясной хадзіць з мяшком.

Касі, каса, пакуль раса. Раса далоў, каса дамоў.

Калі старанна косяць, то сена зімою не просяць.

Бусел на балоце — касец на рабоце.

Сышла раса — лемантуе каса.

Дажджом касі — пагодай сушы.

Да паўдня сонца на валах едзе, а з паўдня — на кані скача.

Не рупся вазіць, а рупся касіць.

Пастух і абмыты, і абсушаны, і пылам пацярушаны.

Пастуха і гром абыходзіць. Пастуха і маланка шкадуе.

Карова не кабан: кожны дзень поўны збан.

Жывёлу гладзь не рукой, а мукой.

З ляску дажджэшся, а з пяску ніколі.

Вады — хоць заліся, каменняў — хоць забіся.

Калі год сухі — купляй пчолку, калі мокры — кароўку.

Вясной і качка — прачка.

Вясну хваляць за дажджы і сонца, а лета за стагі і вазы.

Як у маі дождж і гром, то не патрэбен аграном.

Лета — прыпасіха, зіма — прыбярыха.

Не прасі лета доўгага, прасі лета цёплага.

Калі ўлетку на сонцы не напячэшся, то ўзімку з холаду натрасешся.

У цяньку летам добра — холадна, ды зімой дрэнна — голадна.

Той розум мае, хто ўлетку сані папраўляе.

Жыта ў колас — дзеці ў голас, жыта ў красу — дзеці ў плясу.

Калі боб цвіціць і сабака лінаіць, дык і пан хлеба не маіць.

Летам бочка вады, ложка гразі, восенню ложка вады, а бочка гразі.

Рыхтуйся да восені ранняй вясной.

Калі брусніца краснабока, дык і парабак заплюшчыць вока.

Восень на пярэстым кані едзе.

Увосень давай карове, што есць, а ўвесну — што ёсць.

Восенню не ідзе да яйца, а ідзе да селядца.

Увосень і кабан апаросен.

Прыйшла восень — работ восем.

Як апенькі, то грыбы ўсенькі.

Снегу навее — хлеба прыбудзе, вада разальецца — сена набярэцца.

На дварэ лядок, кавалю мядок.

Зіма з вялікім ротам — усё паесць.

На грамніцы вадзіца, то на Юр'я травіца, як на

Юр'я цвяты, то на Пятра снапы.

Калі на Стрэчанне певень пад страхою нап'ецца, то на Юр'я вол травы наесца.

Хто сее гарох у марцы, той гатуе ў гарцы, а хто ў маі, той у яі.

Святы Андрэю, я каноплі сею, дай божа знаць, з кім век векаваць.

Да Юр'я трэба карміць усякага дурня.

Да Юр'я павінна быць сена і ў дурня.

Мікола — абгародзіць плот наўкола.

Прыйшоў Мікола — сей наўкола.

На святы Антоній сей авёс для коней, а як удасца, дык і прадасца.

Не сей пшаніцы, калі дзеці ідуць па суніцы.

Хто не дасее да Івана Багаслова, той неварты божага слова.

Калі конь не Былінаў да Яна, няхай ідзе да другога пана.

Пачынай касіць не з Пятра, а калі вырасце трава.

Далёка Ілья — пажну яшчэ і я.

Пасля Барыса за сяўбу бярыся.

Макаў налье ў рукаў.

На прачыстае ў полі чыста.

На пакровы ў хляве зарыкаюць каровы.

Ноч не пятровая, а пакровая, нават гультай-лежабок не раз перавернецца на другі бок.

Да Дзімітра баба хітра, па Дзімітры — мужчыны хітры.

Прыйшлі Варвары — ночы адарвалі, а дня прытачылі.

Спорны піліпаўскі клубочак, а Пятроўскі стажочак.

Калядкі — добрыя святкі: пад'еў куцці і на палаткі.
Калі на стале хлеба ні крошкі, то гэта не стол, а дошкі.
Без кавалка хлеба — кепская бяседа.
Праца робіць чалавека разумным, а гарэлка — дурным.
На Пятра — прапякла, на Іллю — цэлу печ наллю.
Вясновы дзень праляжыш — зімой цэлы месяц па пазычках бегаць будзеш.
Да Міколы няма зімы ніколі.
Як прыйшоў Мікола — не пытай ні ў кога, а бяры сявеньку ды сей памаленьку.
Цераз хлеб крошкі не збіраюць.
Раніцай росна, у полудзень млосна, вечарам камары — і рабіць няма калі.
Нацягні, божа, аблачок, каб аддыхнуў бачок.

**Сацыяльна-грамадскае жыццё**

Па няволі ніхто не плача.
Папы з праўдай не знаюцца.
Абяцаюць зямлю — надзяваюць пятлю.
Для халуя і ката адна падрыхтавана хата.
Сёння, паночкі, не ваш кірмаш.
Пан на пана ківае, а мужыка паганяе.
Яшчэ жыта на загоне — саквістратар у пагоне.
Жывём — не тужым, паноў не горш: яны на паляванне, мы — на працу, яны спаць, мы зноў працаваць.
Каб хамы не аралі, дык паны паздыхалі б.
Што пан скажа, слуга мусіць.
У пана жыць пагана: адзін сыцее, а дзесяць пацее.
Адзін з плужком, а чацвёра з гаршком.
Панскі двор горш пятлі.
Добра паны гандлявалі: слуг на сабак мянялі.
Панскія слугі пагнуліся ў дугі.
Панскае каханне — на век гараванне.
Які пан, такі і падпанак.
Вясковы сабака і панскі служака — усё роўна.
Слуга слузе, а пану трасца.
Сам чорт не разбярэ, хто каго дзярэ.
У судзе праўды не шукаюць.
На базары долі не купіш, а ў судзе праўды не знойдзеш.
У судзе багаты рэдка вінаваты.
Без грошы мы і ў судзе не харошы.

У суд ідзі не з носам, а з падносам.
Праўда маўчыць, калі грошы гавораць.
Закон ходзіць каля акон.
Закон — што ёлуп: яго не паравернеш, але абысці можна.
Не свой брат, не скажаш: пасунься.
Хоць ваўком называй, а штодзень па барану давай.
Свет вялікі, а дзецца няма дзе.
Са свету па нітцы — жабраку пятля.
Багаты з бедным — не сябры.
Бедны мужык і хлеба не бачыць, а багаты і мужыка з'есць.
Аднаму шчасце ракою плыве, а другі ў няшчасці цэлы век жыве.
Скарэй будзеш гарбаты, чым багаты.
Пакуль сыты зліняе, дык голы сканае.
Як памрэ багаты, то па пяцёра з хаты, як памрэ бядак, то поп і дзяк.
Не зраўняў бог ляс [лес], не зраўняе нас.
Бедны беднага не цураецца, багаты нікому не рад.
Няма долі ні ў хаце, ні ў полі.
Сірочая сляза і камень пражытае.
Няма горшай балесці, як хочацца есці.
Калі ёсць хлеб і вада, то не бяда.
Жыць весела, ды есці нечага.
Нічога, трывайце, дзеткі: вясна прыйдзе, зайграюць
палеткі, каласкі заспяваюць — і хлябок будзе.
Калі б не клін і не мох — цясляр бы з голаду здох.
На галодны зуб усё смачна.
Дзяцей — як бобу, а хлеба — ні дробу.
Ад лебяды не нап'ешся вады.
Хрэн ды рэпка — і то рэдка.
Калі хлеба няма, і баранкі з малаком смачныя.
Голад у свет гоніць.
Што па той чэсці, калі няма чаго есці.
Прыйдзе куцця — ну, наемся хаця.
Дай божа дзяды заўсягды, а загавіны ніколі.
Хай багачы дзівяцца, чым беднага дзеці жывяцца.
Як не бачыў сонца зранку, дык не ўбачыш і пад вечар.
Не было шчасця зранку, не будзе яго і пад вечар.
Радзіўся без долі, дык еш без солі.
Голы збіраўся — голы пайшоў.
Не аддасі чорту душу — не разбагацееш.
Разумны ты, Колька, бліны здорам на два бакі мазаць; а вось

памазаў бы ты кісялём.

Жыць са свіннёй, але па-панску пыхаць.

Няма весялей, як хата без сяней.

Таму добра жыць, у каго ў кішэнь бяжыць.

Багатаму і чорт ладзіць.

Сытага добра і частаваць.

Тады чалавек разумны, як у яго поўныя гумны.

Як у страве саланіна, тады і кошка гаспадыня.

Зацірка ў хаце апірка, аладкі звядуць з хаткі.

Чаго ў хаце сварацца? — Што ў печы не варыцца.

Якая сошка, такая і ложка.

На каго людзі — на таго і бог.

На маё бяздолле дык ліхое і надвор'е.

Пакуль да бога, дык святыя душу вымуць.

Радзіся, жаніся і памірай, а папу грошы давай.

Цуды робяць людзі, а не святыя..

Даў бог цяля, ды не даў хлява.

На табе, божа, што мне не гожа.

Тым светам не страш — і на гэтым страху хапае.

Да бога адна дарога — смерць.

У папа, кажуць, дзве рукі: адна — што хрэсціць, другая — што бярэ, а той, што дае — няма.

Хто не служыў у папа, не разумее ні кляпа.

Не паможа кадзіла, калі хвароба зваліла.

Папу і дзяку не вер, як сабаку.

Поп гавора, што любіць, а сам вачыма стрыжэ і задушыць хоча. Папоўскую кішэню не напоўніш.

Поп, як той клоп: пака крыві не нап'ецца, то жывы не застанецца.

Каб папу не плацілі, ён і дарогу б забыў у царкву.

У каго плача, а ў папа скача.

Поп цягне з мужыка як з дойнае кароўкі.

Хто хлусіць, той вып'е і закусіць, а хто праўду

кажа, той так спаць лянт. Ліхая кампанія на ліха вядзе.

Злодзей паходзіць — сцены застануцца, пажар паходзіць — усё з двара змяце.

Што пісар зробіць — сам чорт не пераробіць.

Без камандзіра войска гіне.

Салдат не баіцца і пекла.

Дома і салома ядома.

У чужой старане і жук мяса.

На чужыне і гарачы тук стыне.
Хто не шануе чужога, той і свайго не маець.
Дома і вада смачнейшая.
Кіем таго, хто не пільнуе свайго.
Бедны пот лье, а багаты яго кроў п'е.
Багаты брат беднаму брату не рад.
Багатаму і ў полі родзіць, і ў хлеве плодзіць, а беднаму дзе ні кінь — то клін.
Дзе адзін пануе, там сто гаруе.
Багаты — што чорт рагаты.
У багатага і лятух нясецца.
Гузік ёсць, а каб яшчэ пальто, дык і добра б было.
Калі б я быў царом, то сала з салам еў бы і на саломе спаў.
За грошы — кожны харошы.
Я ў свет — і лёс услед.
На чужым кані едзеш — дык і ў гразі злезеш.
У сваім краі — як у раі.
Лепей на радзіме з голаду паміраць, чым на чужыне золата збіраць.
Няма смачнейшае вадзіцы, чым з роднае крыніцы.
На чужой старане рад сваёй вербіне.
Чалавек без радзімы, што птах без пер'я.
Чым на чужыне ў пярыне, лепей дома на мякіне.
Ідзеш на чужую старану — пільнуйся, каб не было сараму.
Моцны статак чарадою, а людзі — грамадою.
За агульным сталом і яда смачней.
Адна пчала многа мёду не наносіць.
Хто мову і веру мяняў, той не толькі сябе — і суседа прадаў.
Благая тая птушка, што свайго гнязда не пільнуецца.

## Каханне, шлюб, сям'я. Бацькі і дзеці, радня і сваяцтва

Куды сэрца ляціць, туды і вока глядзіць.
Каму ў вока зайдзе, той на печы найдзе.
Хоць мякіну есці, абы з любым сесці.
Пражыў бы і ў шалашы, ліж бы мілы па душы.
Разлюбіць — не адрэзаць.
Чорт лапці падзярэ, пакуль пару сабярэ.
Нідзе дзявоцкага сяла няма.
Лыка дзяры, калі дзяруць, а дачку аддавай, калі бяруць.
Жні пшанічку празеляненькую, аддавай дачку маладзенькую.

Не хвалі каня запрагаючы, а дзеўку — выбіраючы.
Замуж выйдзеш — бабай будзеш, усе прыпевачкі забудзеш.
Дачушку аддаць — начушку не спаць.
Што ў пасцелі, тое і ў пасцелі.
Шлюб пад плотам, а вяселле потым.
Жаніцца ніхто не ляніцца.
Замуж пайшоўшы хоць рыкай, але прывыкай.
Дзяўчына заплеценая, а хата не меценая.
Раз не было песень, то не было і вяселля.
Каня не купіш за тысячу, а жонку купіш за два ласкавых словы.
Машына любіць змазку, а жонка — ласку.
Жонка мужыку не прыслуга.
За добрым кустом — трава зеляна, за добрым мужам — жонка малада.
У добрага мужа жонка заўсёды нядужа.
Мужык і жонка — адна кішонка.
Сякі-такі — абы быў, абы на хлеб зарабіў.
Хоць жонка свіння, абы грошай сяўня.
Хто каго любіць, той таго і слухаецца.
Няма тэй хаткі, каб не было звадкі.
Добры замуж — нажывешся, а ліхі замуж — напнешся.
Мая ты дарагая! А памрэць — будзе другая.
Калі хата цячэ, дык жонка бліны пячэ, калі гумно цячэ, дык і з хаты уцячэ.
Дзе ў сям'і не годзяцца, там ліха плодзіцца.
Удзень — як каты, а ўночы — як галубы.
Удзень — як кошкі, а ўночы — як птушкі.
Няма той печы, каб не дыміла, няма той сям'і, каб не журыла.
Добра каша пры хлебу, добра бабе пры дзеду.
Не б'е жонку мужычок, а б'е жонку язычок.
Скідай, міла, свае шаты, ды выганяй свінні з хаты.
Няхай сабе мужык як шкарпэтка, абы я была за ім як кветка.
Жонка памірае, а мужык на другую паглядае.
Жыў — не любіла, памёр — не тужыла.
Нялюбая пара, што ўчарашняя вара.
Ад вялікай любошчы асталіся толькі мошчы.
Усё аддам, а мужыка — не.
Саламяны муж лепей залатога сына.
Якая мая мама, такая і я сама.
Якое ў маткі вочка, такое і ў дочкі.
З харошай пушачкі харошыя і птушачкі.

Якое карэнне, такое насенне.
Якое дрэва, такія і плады.
Якая матка, такое і дзіцятка.
Ад кепскага семяні — не чакай харошага племяні.
Яйка ад курыцы далёка не адкоціцца.
Шчасце мацеры ў шчасці дзяцей.
Птушка рада вясне, а дзіця маці.
Маці надзярэ запазуху, для дзяцей хаваючы, а дзеці — ад маці.
У каго родная матка, у таго галоўка гладка.
Матка дзіцятка б'е, але не заб'е.
Калі матка сына балуе — яна сыну пятлю гатуе.
Каго выгадуеш змалку, таго знойдзеш і ў старасці.
Аднаго бацькі і адной маткі бываюць няроўныя дзіцяткі.
Калі цялятка не рыкае, дык і кароўка не знае.
І ў харошай сям'і вырадак бывае.
Хто бацьку шануе, той і дзецям добрую долю гатуе.
Не будзеш слухаць маткі, не будзеш мець сваёй хаткі.
Памёр бацька — палавіна сіраты, памерла маці — круглая сірата.
Сіраце даварыцца ў жываце.
Добра таму гуляці, у каго родная маці.
Тады бацька дзяцём жалоснік, як ёсць маці.
Датуль маці міла, як за ручку вадзіла.
Хто бацьку і маці зневажае, той дабра не знае.
Хто бацьку і маці не слухае, той і бога не баіцца.
Пры сонцы цяпло, пры маці цякло.
Пакуль мамка жыва — патуль дарога дамоў міла.
Прыгожы на шубе і латкі ад роднага таткі.
Пяць пальцаў на руцэ, і ўсе аднолькава баляць.
Бяздзетны дзяцей б'е, а нежанаты жонку.
Дзіця жалей, а жаласці не паказвай.
Не слухаў бацькоў — няхай людзі вучаць.
Як быку да цяляці, так бацьку да дзіцяці.
Каб не шкадаваў лапцей, уцёк бы ад жонкі і дзяцей.
Не дай божа йсці на чужыя дзеці.
Гадавала сава дзеці, ды няма дзе галавы падзеці.
Хай адсохне тая рука, што на бацьку падымецца.
Па-рознаму па бацьках плачуць: хто ў кулак, а хто — ніяк.
Зяць любіць узяць.
Як добрая свякроўка, то добрая нявестка.
Снег белы, ды не сыр; зяць мілы, ды не сын.

Свой сячыся-рубайся, а чужы не мяшайся.
Свае дзесяць раз пасварацца і паміракцца.
Браты родныя, як чэрці зводныя.
Браты паб'юцца, браты і пагодзяцца.
Лепш блізкі сусед, чым далёкі родзіч.
Сваяк у боку, а сусед у воку.
Сваяк не заплача, то хоць скрывіцца.
Радні багата, а паабедаць няма дзе.
Кума куму не наробіць шуму.
Радня да паўдня: сонца пачало садзіцца, і на радню можна забыцца.
Ты — брат мой, але еш хлеб свой.
Брат брату сусед і яшчэ далёкі.
Не тая радзіна, што мяне радзіла, а тая радзіна, што жонку радзіла.
На голы кол не паляціць і сакол.
Калі ў хаце ціха — не бярэ ліха.
Не хваліся замужжам пасля трэцяга дня, а хваліся пасля трэцяга года.
Жаніўся на скорую руку — на доўгую муку.
За добрым мужам і варонка жонка, а за дурным і княгіня загіне.
За добрым гаспадаром і свінка гаспадынька.
Дзе ж тыя дочкі добрыя дзяюцца, адкуль нявесткі лядакія бяруцца?
Адзін хлеб прыядаецца.
Хоць пад лаўкай пасяджу, але на харошага пагляджу.
Кніжкі ў сумцы, а дзеўкі ў думцы.
Маміна крыло і ў мароз цёплае.
Удовіна і сякера не сячэ і кабылка не вязе.
Дзе пасаг чуе, там Грышка й начуе.
Малыя дзеткі — малыя бедкі, а вялікія дзеткі — вялікія бедкі.
Багаты Мацей: поўна хата дзяцей.
Гадуй, гадуй дзеці, а галоўкі недзе дзеці.
Малыя дзеці спаць не даюць, а як вырастуць — сам не заснеш.
Да зубоў наясіся, а да дзяцей наспішся.
Маці вучыць дабру, а сябры — дуру.
Хто матку не слухае, той у сабачую скуру стукае.
Бацька за парог, дзеткі — за пірог.
Без роднай мамачкі заклююць і галачкі.
Хто дачок мае, той гора не знае.
Калі дачок аддаваць — ночак не спаць.

У жаніха мех золата і мех падману.
Зяць любіць узяць, а цесць любіць чэсць.
Як нядоля — то хоць за кроля.
Гаспадар і баба — адна рада.
У Івана жонка Іваніха, у балвана — балваніха.
На прыгожую жонку глядзець прыгожа, а з разумнай — жыць лёгка.
Жонка тры вуглы дома трымае.
Гаспадар за чарку, а жонка ў сварку.
У людзях шануюць, але дома начуюць.
Любіць — не сена касіць.
Цяжка ўздыханне — далёка каханне.
Сілаю не быць мілаю.
Гора ж маё чубатае: ніхто замуж не бярэ, а толькі сватае.
Жаніўся б і сёння, але дзе жонка спаць будзе?
Жаніся, каб дурні не звяліся.
Бачылі вочы, што бралі, а цяпер плачце, хоць павылазце.

**Добрыя і заганныя рысы чалавека**

Хто за праўду гарой, той сапраўдны герой.
Грамада за аднаго і адзін за грамаду.
Можна жыць без брата, але не без сябра.
Дзе дружбай даражаць — там ворагі дрыжаць.
Для друга — і вала з плуга.
Той не можа быць другам, хто ў бядзе абыдзе кругам.
Адзін з'еш хоць вала — адна хвала, а як станеш з людзьмі есць — будзеш мець чэсць.
Згода будуе, а нязгода руйнуе.
Добрае брацтва — лепш багацтва.
Сцеражонага і бог сцеражэ.
Хто сумленне мае, той чужога не чапае.
З вучанымі і трэскі гавораць.
Беражэнне лепш выражэння.
Не худое рамясло, хто можа зрабіць і вясло.
Чыстае золата не ржавее.
Хоць пад лаўкаю сядзець, абы на харошага глядзець.
Рабоцьку і летам дзень кароткі.
Умеха і шылам рыбу ловіць.
Хлапец, як дубец, а да любой справы маладзец.
Хоць худы, але работнік дарагі.
Да харошага ўсё прыстае.

Як ты к людзям, так і людзі к табе.
Дрэва дорага пладамі, а чалавек справай.
Якая гаспадыня, такая і трапна.
Добры тавар сам сябе хваліць.
У розума тысяча вачэй.
У разумнай галавы сто рук.
Чужое бачу і пад лесам, а сваё не бачу і пад носам.
Меле дзень да вечара, а слухаць нечага.
Адзін: «Васемнаццаць!», другі: «Без двух дваццаць!».
Што ўбіў — тое і ўехаў.
Пустая галава не сівее, не лысее.
Пусці свінню ў агарод — не адгонішся.
Зачапі дурня — не абаронішся.
Невуч у жыцці, як пень у лесе.
Дурнога вучыць, што мёртвага лячыць.
На дрэнным полі і пустазелле не расце.
Пашлі дурнога, а за ім другога.
Благая з дурнем рада.
Па чым пазнаць дурнога? — Па яго смеху.
Дурнога і за багаццем відаць.
Чужы дурань — смех, а свой — сорам.
Не даў бог розуму, не махай рукамі.
Сам харошы, а розуму няма і на два грошы.
Ума няма — шчытай калека.
Барада вырасла, а ума не вынесла.
З пустога куста вечна ягад пуста.
Пустой птушкі пустыя і песні.
Дурная птушка сваё гняздо не шануе.
Яму хоць клін на галаве цяшы, а ён сваё брэіць.
Хто нясе луцце, а мой дурак — пруцце.
Колькі б варона ні крычала — салаўём не стане.
Скоры паспех людзям на смех.
Хто многа пачынае, той мала канчае.
А ні да танцаў, а ні да ружанцаў.
Пісаў пісака, а не прачытае і сабака.
Які стан — такі і кафтан.
Не той харош, хто тварам прыгож, а той харош, хто на справу гож.
З прыгожага ліца не спячэш блінца.
Ліцо, як яйцо, а ў сярэдзіне боўцік.
Як да танцаў — рой каханцаў, як да жніва — ледзьве жыва.

Разумная галоўка, ды розум траціць без толку.
Гуляючы, розуму не прыдбаеш.
Няўмеку рукі не баляць.
Пазыкі ходзяць па лыкі.
Хлеба не стане — бацька дастане.
Гаспадынь, што з голаду ўміраюць, пад прыпечкам хаваюць.
Абы-як жыць — толькі неба капціць.
Пад ляжачую калоду вада не цячэ.
Злятайцеся, вароны, на гультаёвы загоны.
Як не зрабіў цяпер, то не зробіш і ў чацвер.
Гультаю ды няўмеламу ўсё часу не хапае.
Гультаю ўсё няма калі: раніцай — слякота, днём — пякота, а вечарам спаць ахвота.
Яму коцікам быць: на печы ляжаць, лыжкі лізаць.
Хто лянівы, той санлівы.
Спаць доўга — жыць з даўгом.
На яду мастак, а на працу сяк-так.
На каўбасы і гультай ласы, а як сена касіць, дык у яго жывот баліць.
Гуляй, Агата, — заўтра свята.
Дзе праца, там густа, а дзе лянота — пуста.
Гультай робіць чужымі рукамі.
Адна звычка гультаёў усіх — рабіць чужымі рукамі, а ляжаць на сваіх.
Лежабоку і сонца не парой устае.
Дзе гультай ходзіць, там зямля не родзіць.
З лайдакі хлеб аніякі.
Не памочыш ножку, не памочыш і ложку.
Нашай Настулі на ўме толькі гулі.
Есці аладкі і ён не гадкі, а рабіць — жывот баліць.
У няўмечкі не баляць ні ручкі, ні плечкі.
Гультай сто разоў чухаецца, а раз мыецца.
Лежань ляжыць, а на яго доля бяжыць.
І я жнейка, як загон — жменька.
У мяне не малочана, а ў людзей і ў ток не залочана.
Бацька, ты ідзі араць, бо цябе валы знаюць, а я пайду на танцы, бо мяне дзяўчаты знаюць.
Хто любіць ружжо і вуду, у таго хлеб кажа «не буду».
Хто позна прыязджае, той косці абгрызае.
Яшчэ не злавіў, а ўжо скубе.
Воўчая натура да лесу цягне.

Куравыя вочы дыму не баяцца.

Калі хочаш прапасці — ідзі красці.

Украдзеным і падавіцца можна.

Добры злодзей ніколі ў суседа не крадзе.

Два разы ўкрадзеш, трэці — не, зловяць.

Няма лепш, як украдзеш, але няма горш, як зловяць.

Злодзей злодзея здалёк пазнае.

Хто пачынае красці з іголкі, той дойдзе і да кароўкі.

Хваціў з дзежкі, што не бачыць сцежкі.

П'яніцы і кропля дарагая.

Усё кірмашуіць, пакуль грош за пазухай чуіць.

Да работы рукі дрыжаць, а як чарку — добра дзяржаць.

Каму што, а п'яніцы — гарэлка.

Хоць заплачу, але дно ўбачу.

Калі п'яніца, то і манюка.

Сабака і на бога брэша.

Не хоча сабачая лапа ляжаць на стале, то няхай ляжыць пад сталом.

Баязліваму і корч мядзведзь.

Высока падняўся, ды нізка апусціўся.

У крывым воку ўсё крывое.

Як ваўка ні кармі, усё роўна яго ў лес цягне.

Хто сам сябе хваліць — хай таго вецер паваліць.

Каб свінні рогі — не было б нікому дарогі.

Не дай бог свінні рог — бо і неба скапае. Хто сам такі, на другога кладзець знакі. Усякі гад на свой лад.

Як адна сарока хвост задзярэ, то за ёю ўсе. І на чорта ёсць рада. У яго і снегу зімой не дапросішся. Сабака сена не есць і кашо не дае. Каб мог, дык паеў бы балота і мох. Гавары менш — думай больш.



Глухі як не ўчуе, то прыложыць. Хто многа абяцае — рэдка слова стрымае. Скажаш слова — даложаць дзесяць. Раскажаш пра вераб'я, а перакажуць пра жураўля. Рэшатам золата мерае, а рэшата няма за што купіць.

Язык доўгі, ды пяты кароткія. Глухі не дачуе, дык прыхлусіць. У глухога не прападзе: што не дачуе, дык прыкладзе.

Каб не схлусіў, дык бы і не жыў. Карова, якая многа раве, малака мала дае, чалавек, які многа гаворыць, пустадомак. Лгун нікому не верыць. Чорт праўды не любіць. Стары конь, а жарабячы розум. Хваліўся індык, што ён пан, ды ў калодзеж упаў. Галава

вялікая, а розуму мала. Адважны там знойдзе, дзе баязлівы згубіць. У хлуслівай бабы пірагамі вароты застаўлены. Як браць — дык вочкі салаўіныя, а аддаваць — савіныя.

Жаба малая, а рот вялікі (а горла вялікае).
Які розум, такая і гаворка.
Дай свінні рогі — то і кароль з дарогі!
Глухому — што дурному.
У добрага гаспадара добрая і падваротня.
Умеламу рукі не баляць.
Не гаспадыня, што на ніўцы краскі, а пад акном крапіва.
Белыя ручкі чужую працу любяць.
Чым багацейшы, тым сквапнейшы.
На сябе агляніся, тады з людзей смейся.
Даплыў: сабакі нечым выгнаць.
Багаты на латы, а не на шаты.
Худое парася і холаду баіцца.
Дзеля аднаго абеду сто міль еду.
Ляжы, лежа, але ці будзе хлеб і адзежа?
Брахаць — не цэпам махаць: брахнуў дый аддыхнуў.
На бабскім языку кароста сядзіць.
Напрамкі толькі сарокі ды вароны лётаюць.
Скупы і з камара кроў высмакча.
Не вер воўчаму сэрцу.
Наеўся абы-чаго і гаворыць абы-што.
Гаворыць — гародзіць, а на праўду выходзіць.
На языку жаба не спячэцца.
Язык без касці — што хочаш халасці.
Скупы — не глупы.
Гультай ляжыць, а ліха бяжыць.
Сяк-так наўскасяк, абы не па-людску.
Як не еў — дык не мог, а пад'еў — дык і лёг.
Гаварыў бы і польскі, ды язык конскі.
Як чорта ні хрысці, дык кажа: «У балота пусці!»
Не ўмела, сабачча лапа, ляжаць на стале, дык ляжы пад сталом.
У кожнага дурня — свая вінакурня.

**Вывады-абагульненні з назіранняў над жыццём**

Дзе няма згоды, там няма ладу.
Кожны кацялок па-свойму варыць.
У чужое шчасце не ўкупішся.
Мёртвага з магілак не варочаюць.

Поп два разы абедню не правіць.
Лепей мала, як нічога.
Са сваёй цаной на кірмаш не едуць.
З адной галавой на ўсе кірмашы не паспееш.
Калі не доля, дык і не талань.
Як нашаму бацьку жаніцца, дык і ночка кароткая.
Не штука даць, калі ёсць адкуль узяць.
Не кожны той спіць, хто храпе.
Не хваліся за сем дзён, а хваліся за сем год.
Пазыка — добра, ды адданка — кепска.
Якая справа, такая і слава.
Сарока ніколі салаўіных песень не пяе.
Той наперадзе, што за сабою цягне, а не той, што абагнаў.
Рада з людзьмі ніколі не шкодзіць.
На гнілы тавар знойдзецца і сляпы купец.
Хто ручыцца, той мучыцца.
З маку не ўраджай, а з курыцы не ўпадак.
На чужы рот гузіка не нашыеш.
Кось-кось — пака ў аглоблі, а як запрог — дугою па баку.
Не ўмірае стары, а ўмірае каравы.
Хто не мае сілы, таму свет нямілы.
Папрасіць — не ўкрасці.
За просьбу ў морду не б'юць, але і дарам не даюць.
Няма шчасця зранку, не будзе да астанку.
Няма шчасця ў летах, не будзе і ў дзецях.
Просьба месца мае.
Галодная варона камень не клюе.
Чый бераг, таго і рыба.
Не ўсё тое пад плот, што не ў жывот.
Воўк не пастух, а свіння не агародніца.
Тоўк проса, а вытаўк зубы.
Чужая вош і кусаецца мацней.
Хвораму і падушка муліцца.
Да мокрага цяляці ўсе мухі льнуць.
Куды б трэска ні плыла, то к берагу прыплыве.
Воўк не травіць, дык давіць.
Не ўсякая хмара дождж.
Прыйдзе пара, будзе трава.
Не дагледзіш вокам, заплаціш бокам.
Чым галей, тым смялей.
Што бог прызначыць, таго ніхто не перайначыць.

Слова — вецер, а пісьмо — грунт.
Лепей дрэнна ехаць, чым добра ісці.
Над пешым арлом і варона з калом.
Калі павядзецца, то і лятух нясецца.
Лёгка знойдзецца — лёгка згубіцца.
Тавар у возе, надзея ў бозе.
Лізні мяне, калі я горкі, а як салодкі, дык я і сам абліжуся.
Да гатовага агню лёгка трэсак падкінуць.
Думы за гарамі, а смерць за плячамі.
Не там траціш, дзе купляеш, а там траціш, дзе прадаеш.
Не тады калодзеж капаць, як піць захацелася.
Не смейся, дзеўка, удаве, бо прыйдзе ліха і табе.
Балота без чорта не бывае.
Свайго не ўхваліш — чужога не ўганіш.
На бяду і курыца заспявае.
На бяду і рак свісне.
У чужое шчасце не ўкулішся.
Таннае мяса сабакі цягаюць.
Ганчар заўсёды ў чарапку есці варыць.
Калі розуму няма, дык і сіла не паможа.
Чужое дабро бярэць за рабро.
Чалавек без роду, бы дрэва без кораня.
Ніхто нікому ў гусце не ўказчык: адзін любіць гарбуз, а другі — свіны храшчык.
Зямлю зернем не ўгноіш.
Хто свой хлеб носіць, той есці не просіць.
Пярун б'е па высокім дрэве.
У лес дроў не возяць.
Воўк і лічанае крадзе.
Няма кароўкі — не трэба і вяроўкі.
Смерці назад не адперці.
Каму што, а курам проса.
У сваім краі, як у раі.
Каму што баліць, той аб тым і гаварыць.
Усякаму свая болька баліць.
І чорт літасць мае.,
Ціхая свіння глыбокі корань рые.
У роднай хаце і вуглы грэюць.
Бяда не па лесе, а па людзях ходзіць.
Якая работа, такая і плата.
«Можа» надвое варожа.

Нязнайства за грэх лічаць.
Чорт бы дзятла знаў, каб не яго дзюба.
З малачком можна і зямелькі глынуць.
Сэрца не камень — адляжа.
І ў ночы вушы ёсць.
Воўк хапае авечкі не выбіраючы.
Нашы козы і наша сена.
Галава лысее, а розум радзее.
Не відаць, што ва мне, а відаць, што на мне.
Пакуль жаніцца — загаіцца, а пакуль уміраць — не будзе знаць.
Сабіраў крахамі, рассыпаю мяхамі.
Гора, гора, а як падумаеш, дык роскаш.
Старым такая рэч — пад'еў ды на печ.
Нуда горш за каросту.
Жывы ў зямлю не палезеш.
Нікому свайго розуму не ўставіш.
Ніхто не ведае, хто чым абедае.
Напалоханая варона і вераб'я баіцца.
Які век, такі і чалавек.
Трэба лшць, як набяжыць.
Старасць не радасць, а смерць не вяселле.
Хто пpасткоў шукае, той дома не начуе.
Першая работа і ў агні гарыць.
За чым пойдзеш, тое і знойдзеш.
Грушка — мінутка, а навек памяць.
Як уродзіцца цяля з лысінкаю, такім яно і здохне.
Які сам, такая і работа.
Як захочаш павесіцца, дык вяроўку знойдзеш.
Не так лёгка зрабіць, як сказаць.
Хто каго нагне, той таго і паб'е.
Жартаваць можна, але не калечыць.
На ўсе хваробы ёсць лекі.
Не чалавек для грошай, а грошы для чалавека.
Пашаптухі дом губяць.
Веру не ўсякаму зверу.
Нябожчыкі ўсе добрыя.
Жывы чалавек у магілу не гіалезіць.
Добрыя жорны ўсё перамелюць.
На тое і б'юць, каб балела.
У вала язык даўгі, ды гаварыць не можа.
Дзе нянек многа, там дзіця бязнога.

Калі станіць больна, дык і гаварыць вольна.
Не лезь, жаба, дзе коні куюць — растопчуць.
Бачыць вока далёка, а розум яшчэ далей.
Добра ў людзях, ды баліць у грудзях.
Дзе многа сабак, там двор не абрэханы.
У роднай хаце і качарга — маці.
Дзе хаценне, там і ўменне.
Без кораня і палын не расце.
Што праўда, то не грэх.
Воўк казе не таварыш.
Малако ў каровы на языку.
Што качан — то галава, што галава — то розум.
Не дай — не сусед, а дай — сабе нет.
Усім добры не будзеш.
Чужую бяду і па воласу развяду, а сваю ніяк не пачну.
З песняй дружыць — ніколі не тужыць.
Ад свайго ценю нікуды не ўцячэш.
Калі розумам надтачыць, дык сіла возьме.
Што занадта, таго і свінні не ядуць.
Каб са шчасцем жыць, трэба шчасцем даражыць.
Памрэш — усё адапрэш.
Проці вады не папрэшся.
Да пары збан ваду носіць: ручка адарвецца, і збан разаб'ецца.
Людскога языка не завяжаш.
З адкладу няма ладу.
Хто ад грому ўцякае, той бліскавіцы не запальвае.
Не ўмёр Даніла, дык скула задавіла.
Пасуда чыстату любіць.
Вяло не бяло, ды ў вадзе пабыло.
Як ручкі зробяць, так плечкі зносяць.
Бачыць вока, ды ляжыць далёка.
Далёкая дарога з блізкай смяецца.
Не той злодзей, на каго паказалі, а той, што злавілі.
Шукаць смерці не трэба, яна сама прыйдзе.
Усё, што ні ёсць міла, ператвараецца ў гніла.
Каб знаў чалавек зранку, што будзе вечарам, то многія беды мінавалі б яго.
Надаеў мех, дык і торба цяжка.
Жартаваў воўк з канём, ды ў жмені зубы панёс.
Лішняе і з воза падае.
З пяску бізуна не спляцеш.

Заўтрам не накорміш.
На сваім дварэ і певень гаспадар.
Менш ведаеш — лепей спіш.
І на чорта ёсць рада.
Гукні на лес, то і лес адзавецца.
Конь дарогі не пытаем Рыбка ў рацэ не ў руцэ.
На жывой касці мяса мусіць абрасці.
Душа чалавека не кашалёк, не паглядзіш, што ў ёй схавана.
А каб жа знаў, што паваліцся, узяў бы сеў.
Застарэлую хваробу цяжка лячыць.
Доўга не раве, але і спаць не дае.
Чым чорт не гарэў, тым сеяць не будзе.
Хоць пад кустам, абы з густам.
Хлеб не нявестка, які ўдасца, такі з'есца.
Даў бог ручкі, не даў рукаўцоў.
На вылегчаным кані далёка не паедзеш.
На чорнай зямлі жыта родзіць.
Не гвагала варона, лятучы ўгары, то не будзе гвагаць, летуны з гары.
Як пражывеш, так і праслывеш.
Кабыла з ваўком цягалася — хвост ды грыва асталася.
Дзявочы век, як макавы цвет.
У чужым баку вочы па кулаку.
Яслі да каня не ходзяць.
Якая снасць, такая й сласць.
Новае сіцца пакуль навісіцца.
За новым каралём — дагары камлём.
Хочаш з печы ўпасці і не вытнуцца?
Век пражыць — не мех пашыць.
На сваім сметніку і курыцы раскошна.
Каб усе былі разумныя, дзе падзеліся б дурні.
Чужое дабро не грэе.
Няма тых граблей, якія ад сябе грабуць.
Дзе гаспадынь шэсць, там няма чаго есць.
Для старой бабы і на печы ўхабы.
Не кожны грак — птушка.
Па смерці кожны добры.
Жыве кот, жыве і сабака.
Без падлюгі дровы не гарацъ.
На сваім вяну наварыш і ў гаршку і ў гляку.
Праўду гавораць жартам.

Вада ачышчае цела, а слёзы — душу.
Люблю цябе, ды не так як сябе.
Усяк бывае на вяну: і добрага і па баку.
Адзін кладзе пячаць, а другі глядзіць, адкуль пачаць.
Бог не слухае, што свіння рухае.
Які чорт нарадзіўся, такі і здохне.
Не той ураджай, што на полі, а той, што ў засеку.
У колькі кажухоў слуп не адзявай, то ён будзе халодны.
Грошы і камень б'юць.
У вялікую суботу і пятух з яйкам.
Абойдзецца лысы і без грэбеня.
Язык без косці, што хоча, то і хвошча.
Апошняму госцю лыжка ў прыпечку.
Хто хоча — той можа.
На малога і сабака не брэша.
Сама лягчэй зганьбіць чалавека, сама цяжэй даказаць дурню, што ён дурань.
Хто свята пытае, той і сарочкі латае.
Хто з языком, той і з пірагом.
Паспытала свіння палена, памятае, дзе паела.
Лепш набіць, чым накпіць.
Прыйдзе коза і да майго воза.
Гіне кароўка, хай гіне й вяроўка.
Навуку за плячыма не носяць.
Гарбатага магіла выпрастае.
Навука вочы адкрывае.
І мудраму трэба парада.
Як знаю, так і граю.
Чужая скула нікому не баліць.
Маленькі сабачка цэлы век шчаня.
Чужыя языкі не спяць.
Змяняў кій на палку.
Старому і летам у кажусе холадна.
Вышэй галавы носа не задзярэш.
Хто хочыць зажыцца, той без вячэры спаць лажыцца.
Стрэльба і зайцы завядуць у старцы.
На дзень гайда, на век бяда.
Які госць, такое і частаванне.
Гатовы кавалак і гультай засмажа.
Укусіўшы, не заліжаш.
Жыць як набяжыць — усё роўна, што гніць.

Іграеш, як знаеш, і скачу, як хачу.
Гарох пры дарозе на ўсіх долю.
Голы пажару не баіцца.
Лес гарыць — усе бачаць, душа гарыць — ніхто не бачыць.
Калі нацерпішся гора — даведаешся, як жыць.
Гаспадар перад гасцём — нявольнік.
На галодны зуб усё смачна.
Не работа сушыць, а турбота.
У гурце і бяззубы сабака лютуе.
Лёгка пасварыцца, цяжэй памірыцца.
Нялюдская кампанія і добрага звядзе.
Роўны роўнага шукае.
Сябрамі не кідаюцца.
Дай бог шчасце — розум будзе.
Бачыць кошка лой, ды трасцу ёй.
Нягоднік не родзіцца, а робіцца.
Рана загоіцца, а злое слова ніколі.
Дроў у лес не возяць.
З свайго языка спусціш — на чужым не зловіш.
Калі сала пацячэ, дык і кошка напячэ.
Як ручкі зробяць, так спінка зносіць.
Ні ў пір, ні ў мір, ні ў добрыя людзі.
І няўмека пячэ, як з засека цячэ.
На безгалосіцу і воўк — салавей.
Ля хворага сядзець — лепш самому хварэць.
Доўг не раве, толькі спаць не дае.
Якая заслуга, такая і пашана.
Сам на сябе нож точыць.
Прыйшлося вока да бока.
Каб голас быў — і рыбка песню спела б.
Вось вам бог, а вось і парог.
Прыйдзе і на зуха праруха.
Галоднай куме хлеб на ўме, а сытай — кум.
Вочы завяжаш, а вушэй не заложыш.
Ад вока і смерць недалёка.
Як граюць, так і скачуць.
Губа не дура: знае, што прымае.
Каб не мерлі, дык бы неба падперлі.
Памёр — усё гора адпёр.
Еду не на снасці, а на шчасці.
Добрыя весці не ляжаць на месцы.

Кепскія песні лепш за добрыя слёзы.
Да чаго не дайду, тое ў кніжцы знайду.
У холад і стары молад.
Колькі ні жыві, а свайго шчасця не ўгадаеш.
Сляпы ў сляпога пытаецца, дзе дарога.
Смаляное горла ўсё з'ядае.
Якая яда, такая і хада.
Добрае чуваць далёка, а кепскае — яшчэ далей.
«Дай» любіць усякі, а «на» — амаль ніякі.
Цяперашняе пакаленне носіць да палення.
Не адзін сабака Лыска!

**Парады на розныя выпадкі жыцця**

Не вучыся разбураць, а вучыся будаваць.
Біцца не гадзіцца, абараняцца — трэба.
Шануй адзенне ў хаце, яно цябе — у людзях.
Чаго не ясі, таго ў рот не нясі.
Добра папрацуеш — і ў цыбулі смак пачуеш.
Не радуйся, знайшоўшы, не плач, згубіўшы.
Чым захварэў, тым і лячыся.
Не шукай бяды, бяда цябе сама знойдзе.
Калі здолееш узяцца за справу — і снег загарыцца, калі не здолееш — і масла не ўспыхне.
Цябе не пытаюць — маўчы, наперад не хапайся, да заду тырчы.
Новае набывай, а старога не забывай.
Сягоння зрабі — заўтра як знойдзеш.
Гняздзечка не звіў — яечак не кладзі.
Менш гавары, то больш пачуеш.
Не стаў у чужыя калёсы палку, а то гэта палка цябе па ілбе трэсне.
На чужы каравай рот не разінай — свой спячы, як хоч, так і скачы.
Даў — не адбірай.
І камень зазелянее, калі к яму з душой падысці.
Не зайздросць чужому, а прыдбай сваё.
Не пытай у старога, а пытай у бывалага.
Не кажы «глуп», пака не раскусіш.
У каго баляць косці, той не ідзе ў госці.
Рэшатом ад дажджу не схаваешся.
На пустое гулянне рукою махні.
Збіраючы — збярэш, а раскідаючы — раскідаеш.

Любіш брацць — любі і аддаць.
Гора баяцца — шчасця не відаць.
Не кусай па вялікаму куску, бо ўдавішся.
Не радуйся вялікім багаццем, і не журыся вялікай беднасцю.
Не хапай пярод бацькі.
Не жыч другому, што табе няміла.
Базар — яма, глядзі прама.
Першага торгу ніколі не цурайся.
Пакармі птушак зімой, яны адплацяць вясной.
Не радуйся — як у хату, і не плач — як з хаты.
Ушчаміўшы галаву, хваста не шкадуй.
Шыбаючы на чужы лоб — і свой падстаўляй.
Усе сілы аддай, а сябра з бяды выручай.
Не шукай сялібы, а шукай суседа.
Яму аб'едзь, а п'янага абыдзі.
Наварыў фасолі — не шкадуй і солі.
Шукай сабе прыбылі, а другому не жадай гібелі.
Не будзь ні горкі, ні салодкі: горкага праплююць, а салодкага абліжуць.
Будзь, мядок, ні горкі, ні салодкі; салодкі пражруць, а горкі праплююць.
Шануй людзей, то і цябе пашануюць.
Упаў у вароны, то кран, як і воны.
Не трэба жаліцца, жальбою поле не пяройдзеш.
Не сунь носа ў чужое проса.
Ад добрага не ўцякай, а ліхога не бяры.
Сварыся так, каб не было брыдка потым у вочы глядзецца.
Сядзіш у раду — цярпі бяду.
На бога надзейся, а свой розум май.
На бога спадзявайся, але і сам не будзь дурнем.
З чужога гора не смейся.
Працуй укупе, не будзе балець у пупе.
Не хочаш у маладосці працаваць — будзеш на старасці з торбачкай танцаваць.
Не рабі ліхога і не бойся нікога.
Шукай апанчу па свайму плячу.
Калі хочаш ведаць, што ў тваёй хаце робіцца, выйдзі на людзі.
Не паклаўшы — не шукай.
Дзяржы бруха ў голадзе, галаў у холадзе, а ногі ў цеплаце — будзе тваё жыццё ў даўгаце.
Рана ўстанеш — многа зробіш.

Кінь перад сабою, убачыш за сабою.
Каня не дагледзіш, далёка не паедзеш.
Не гавары сеўшы, а гавары з'еўшы.
Чысць каня не грабяньцом, а гаўсяцом.
Пад гару падгані, з гары пры дзяржы, па дарозе едзь — будзеш каня мець.
Згубіў — не плач, знайшоў — не радуйся.
Умеў памыліцца, умей і паправіцца.
Не садзі носа не ў сваё проса.

## Ленін.
## Партыя.
## Сацыялістычнае будаўніцтва.
## Абарона Радзімы

Дзе ўлада народа, там шчасце і свабода.
Заваявалі волю — знайшлі долю.
Ленін нашу долю вывеў на волю.
Слова Леніна — слова народа.
Пакуль людзі будуць жыць — будуць Леніна любіць.
Сілу слова Леніна ўвесь свет ведае.
Ленін навучыў — і беларус зажыў.
Слова Леніна не забудзецца: што завяшчаў ён, тое і збудзецца.
Ленін быў, ёсць і будзе, яго ніколі не забудуць людзі.
Ленін і партыя згуртавалі народы пад сцягам свабоды.
Партыі слова — усіх поспехаў аснова.
Слова партыі — закон.
Нам не страшна анідзе, бо нас партыя вядзе.
Раней жылі — слёзы лілі, а цяпер жывём — песні пяём.
Раней царква і віно — зараз клуб і кіно.
Што грамада скажа — і поп не паможа.
Дрэнна раней жылося: гора ў хвасце плялося, а як у калгас уступіў, гору на хвост наступіў.
Таму светла наша хата, што жывём цяпер багата.
Калі ў рабоце лад, то і калгас багат.
Дружная праца — крыніца багацця.
Хто не шануе калгаснага, той і свайго не мае.
Летам калгаснікі жалі, а гультаі ляжалі, зімою
калгаснікі елі, а гультаі зубы грэлі.
Гультая не трымай у сакрэце, а крытыкуй у газеце.
Сваімі як сваімі, а дзяржаўнымі рублямі не кідайся.
Бабы сеюць, бабы жнуць — мужыкі адчот вядуць.

Як старшыня розум мае, дык і калгас з ураджаем.

Як старшыня да гарэлкі ласы, дык бяда калгасу.

На савецкі каравай рота не разявай: каравай не праглынеш, а рот да вушэй раздзярэш.

Біліся з намі атаманы і паны, ды пагублялі штаны.

Смела ідзі ў бой: Радзіма за табой.

Лепш смерць на полі, чым жыццё ў няволі.

У беларускім краі не быць фашысцкай зграі.

З'еў бы фашыст беларуса, ды кішка тонкая.

Беларус не трус, ад яго Кубэ здох, як прус.

Фашысцкі салдат — разбойнік і кат.

Кожнай фашысцкай гадзіне вісець на перакладзіне.

Будзе помніць вораг партызанскі порах.

Фашысцкаму грамілу — кулю ў лоб і кол у магілу.

Паўстаў бацька Мінай — фашыст, стрэльбу кідай.

Для ўсякага фрыца хопіць кулі.

Фашыст за сталом — свіння ў карыце.

Дзе смеласць, там і перамога.

Не будзе таго ніколі, каб жылі мы ў няволі.

Хто за радзіму гарой, той сапраўдны герой.

Фашыстаў баяцца — рабамі застацца.

Нашы сябры па ўсёй зямлі.

## ПРЫМАЎКІ, ПРЫГАВОРКІ

Запалі агонь і паглядзі, ці ў печы гарыць.

Як ішла красата, дык я спала, а як ішло шчасце, дык я ўстала.

Сем гадоў нявестка жыла і не бачыла, што сучка без хваста.

Бывала, і зязюля кувала, а цяпер і варона не хоча.

Як баба да дзеда, так і дзед да бабы.

Казалі, што папа звязалі, а ён і цяпер развязаны.

З камара зрабілі слана.

Не будзеш ты, то будзе тры.

На дзень гайды, на век бяды.

Не маеш бога ў жываце.

Хваробу сабе купіў за свае грошы.

Колькі ні жыві, але туды цягне, дзе пупавіна закапана.

Там добра, дзе нас няма, а дзе мы нос пасуем, то ўсё там папсуём.

Люльку шукае, а люлька ў зубах.

Вераб'і ўгноілі поле.

Госць, як свежая рыба: на трэці дзень пачынае псавацца.

Разлічымся на тым свеце вугалькамі.

Бабовая каша — не голад.

Пайшоў, як багатаму па смерць.

З тоўстым пузам на паноў двор.

Чакай, баран, пакуль трава вырасце.

Госпадзі Ісусе, напярод не сунься, ззаду не аставайся, пасярод не балтайся.

Старое дзярэцца — на новае спадзяецца.

Бог дасць, але ў хлеў не загоніць.

Асцюк не сук: у жываце не застране.

Просьба не грозьба: носа не скусіць.

Конь худы, едзь хоць куды, пастаў хоць дзе, ніхто це ўкрадзе.

Пражыў век — ні сабака, ні чалавек.

З хлебам ясі, так у ногі цяплей, а як картошку ясі,
так у галаву мякка.

І на каўбасы трэба закрасы.

Што зарабіў, тое і ўтрубіў.

Гурок хоць і вада, а без яго — нуда.

Часы — для красы, а пара па сонцу.

Сірату дождж абмывае, а вецер сушыць.

Проса ў мяшку — каша ў гаршку.

Проса за рукі ўплялося.

Дзе ўплюнуўся драсён, там не будзе красён.
Дзеля аднаго абеду сем вёрст еду.
У Хвядоры — гуркі і памідоры, а ў Парасkі — на градзе краскі.
Рыба ваду любіць.
Просім, што ў рот носім, а што ядзім, тое не дадзім.
Бывае, што і авечка ваўка бадае.
Зарадзі, божа, мне, а суседу майму — не.
Раз гуляць, дык і круціцца.
Быў Яўхім, ды чорт ухапіў.
Калі рваць пустазелле, дык з карэннем.
Не нашаму шчаняці ваўка за хвост узяці.
Што яму законы, калі суддзі знаёмы.
Вяселле і сарочку найдзе.
Смех дураку, што рот на баку.
Я б купіў сяло, ды грошай гало.
Стагнанні ды пухначы, а хлеба напячы.
Не хадзіў шалудзівы богу памаліцца, а як пайшоў, дык і плеш згубіў.
Бывае, што і варона спявае.
Чыста ходзіць, дык нячыста жывець.
Укрой не ўдой.
Смяецца, як з гары едучы.
Сядзіць нядуж: налізаўся, як вуж.
Смяецца, бо плакаць не даецца.
Хто чужому шкадуе, хай свайго не мае.
Ласы на чужыя прыпасы.
Пацей, Мацей, калі многа дзяцей.
Рад дурань, што пірог вялік.
Увага — не блага.
І да пацёнгу, і да палёту.
Ні піску, ні віску.
З гэтага квасу піва не будзе.
На цяжкі харч — лёгкую работу.
То дождж, то пагода, а ўсё невыгода
Лася прамяняў на парася.
Ні пітуха, ні ядуха, а гладка, як аладка.
Плячысты на жывот.
У яго не ўсе дома.
У яго не ўсе клёпкі ў галаве.
Пайшоў ветру ў полі шукаць.
Хоць ты канай.

І расінкі ў роце не было.
Бач ты, анёлак нявінны.
Ні скачучы, ні плачучы.
Куды вецер, туды і ён.
Ні хадун, ні сядун.
Нам з табой дзяцей не хрысціць.
І ты ўткнуў сваіх пяць пальцаў.
Галава мякінай набіта.
Каму што: галоднаму хлеб, лысаму — расчоска.
Заступі чорту дзверы, дык ён праз вярхнік.
Пры чым міліцыя, калі пярун куры пабіў.
Суседка, бывай, з таго боку пачынай, ды і мяне не забывай.
Вочы страшацца, а рукі грабуцца.
Сем пол і жывот гол.
Мужык — свая кроў, хай будзе здароў.
Сеў, нагнуўся і ў бот абуўся.
Кашаль — хвароба не ліхая, хаця хата не глухая.
Да работы няма ахвоты..
Адабралі ў жабрака торбы.
У папа жонка апошняя.
Не па зубах гэта табе.
Пей песні, хоць трэсні, толькі не прасі есці.
Слуцкія ткачыхі могуць увесь свет спавіць.
Адна бяда, што ў агародзе лебяда.
Ён у сабакі вачэй пазычыў.
Гэты свет, як макаў цвет, як жа на тым свеце будзе.
Ад гэтага цяпла сапля пацякла.
Хмара — як шапка, а дождж — як з вядра.
Вяроўка па табе плачыць.
Хоць на воўка насунься: нічога не відаць.
Сядзіць і варон страляе.
Стаіць упоперак горла.
Садзіся: за пастой не плацяць.
Язык доўгі, ды пяты кароткія.
Так маніць, што не пралезеш.
Ехаў да абеду, а прыехаў у сярэду.
Дзеўка як дзеўка, але капуста.
Не мылься, бо брыцца не будзеш.
Развязаўся мех не на смех.
Пакажы, сава, якая ў цябе справа.
У адно вуха ўвайшло, у другое выйшла.

Каб твае словы ды богу ў вушы.
Падзякай не адплацішся.
Ён пад чужую дудку скача.
Што гадок — то і сынок.
Плач, галасі, а рады не дасі,
З вялікага пуду дома буду.
Гуляй, гуляй, абы не плакала.
Не з тваёй галавой кнігу чытаць.
Падсаліўшы, падбяліўшы — есці можна.
Не знаю, ці будзе Юрка ў споведзі, тры бліны з'еўшы.
Было добра, ды ўжо даўно.
Ой, дзеці, дзеці, куды вас падзеці?
Аснова — саснова, а ўток саламяны будзе.
Свая шапка цеснай стала.
Для хваста няма свята: махае ды махае.
Няхай звоняць, пакуль ахвоту згоняць.
Ці да яго гавары, ці да сцяны.
Я яму так, а ён мне гэтак.
І на халодную ваду не заробіш.
Каб прымеў, то з вантробамі б з'еў.
З-пад кіпцяў выскрабе.
У яго з-пад кіпцяў гразі не дапрасіцца.
Ціха, ліха, бяда, спі.
Ні людзям паказаць, ні сабе паглядзець.
Па што, воўна, ідзеш? — Па тваё апошняе.
Бачыў ты яго, як бога.
Хоць чарцей ганяй па хаце.
З плеч ды ў печ.
Наварылі кашы, ды невядома, ці паядуць.
Ад кожнай бочкі затычка.
Каб быў галодны, то і печану рэдзьку з'еў бы.
Людзі не хваляць, сам сябе хоць пахвалю.
Еў не еў — абы за сталом сядзеў.
Навучыўся на сабак брахаць.
Аскому нагоніш, пакуль ахвоту спагоніш.
Вось язык дык язык: сем разоў апераазаўся і яшчэ канец застаўся.
Дзе быў, там няма, дзе ішоў, там след.
Пажыў ад куцці да каляд.
Выйшла замуж за варону да Пясэцкага.
Жывецца, як даецца.

Хоць каралём, толькі не ў нашым царстве.
Рот без варот.
Коланаму дразду па свайму гнязду.
Пераскок — скула ў бок.
Ані хлеба, ні табакі — прападаем, як сабакі.
Сатварыў цябе бог і засмяяўся.
Перш — «гой!», а далей — «вой!»..
Як прыпячэ ў пальцы, то ўцячэш.
Каваль робіць людзьмі, а столяр грудзьмі.
Не ўсё ж на бацькавым карку сядзець.
Прадасць і грошы палічыць.
Не мужык, а сто рублёў убытку.
Як упаў, так і спіць.
Ляпае не падсяваючы.
Абы была галава на плячах.
Ні ў смык, ні ў барану.
Старасць — няволя.
Не вучэнне, а мучэнне.
Ячмень, на кукіш, каня купіш, конь іздохне, ячмень ссохне.
Наша задача — правільна звязаць, увязаць, прывязаць, а галоўнае — умела навязаць.
Піце, жылы, пакуль жывы, бо як памрэш, дык калом не ўваб'еш.
Еж, пакуль рот свеж, бо як памрэш, дык і калом не ўваб'еш.
Пасадзі на адну галінку, то адзін аднаго не пераважаць.
Там калотка, тут калотка: хлопец доўгі, дзеўка — каротка.
Дзе сем мужыкоў сядзіць, там дзве бабы не ўмесцяцца.
Лёстачкамі душу дастане..
І на чорта ёсць управа.
Нарадзіўся бык — так яму і быць.
Хто што падумаў, хай тое яму.
Чые рэчы, хай таму за плечы.
Дай табе бог здароўя ў ручкі, у ножкі і яшчэ трошкі.
Жадаю табе разам трое: шчасце, здароўе і долю!
Сядай у раду ды пляці адну бяду.
Навіна-навіначка, мядзведжая сілачка, зайцаў паварот, а ты, ягадка, у рот.
Еш, пакуль рот свеж, а завяне — і муха не загляне.
Даўней бывала, што і варона лапці абувала, а цяпер і грак ходзіць так.
Было, было, дый дно выпала.
Вочы — ямы, рукі — граблі.

Ці мая капейка шчарбатая?

То ў дуб, то ў вітку, а ўсё ж не ў маю світку.

Каб толькі месяц свяціў, а зоры калом паб'ю.

Не крычы не дома, а дома таксама не крычы.

Не сушы зубы — сонца няма.

Цярпі, Зося, так прыйшлося.

Пагуляў, як Асей у студні.

Дарваўся, як Авяр'ян да трыбуны.

Ні кала, ні двара, ні атос, ні калёс, і воўк кабылу панёс.

Калі я быў багаты, дык куды ні еду — усё вецер папушы, а калі стаў бедны, дык куды ні еду — усё вецер насустрач.

Фарсун, што тычкай носа не дастанеш.

Грэх у мех, палкай па мяху — будзеш без граху.

Хто ідзе? — Чорт.

— Добра, што не поп.

Памагай бог! — Казаў бог, каб і ты памог! — Казала багародзіца, што і сам не ўвяродзішся.

Як б'юць — няхай мяне мінуць, калі п'юць — няхай з мяне пачнуць.

Здароў, кума! — На базары была.

— Глухая, кума? — Галаву купіла.

— Не чуеш, кума? — Былі вушы, ды мяснік адрэзаў.

**Прыгаворкі-зычанні на вяселлі**

Дару табе серабро, каб было ўвесь век дабро.

Дару табе грошы, каб былі твае дзеткі харошы.

Дару вам кулак медзі, каб былі сыны як мядзведзі.

Колькі ў лесе пянёчкаў, каб у вас было столькі сыночкаў!

Колькі ў лесе почак, каб у вас было столькі дочак!

Дару табе каробачку проса, каб ты цераз год радзіла матроса!

Дару табе гектар пшаніцы — каб жала не дажала, мяне за куму пазвала.

Дару цябе дугою, каб не хадзіў твой Іванка за другою.

Дару табе клубок нітак, каб не хадзіў твой Іванка каля чужых лытак.

Дару вам пару рублёў, каб жылі як пара галубоў.

Дару табе катушку нітак, каб не прыглядаўся да чужых лытак.

Дару рубель, на які я сама працавала, хачу каб маладая маладога пацалавала.

Дару часы, каб маладыя доўга не спалі і праз год на радзіны пазвалі.

Дару пару галубоў і харошую любоў.
Дару гектар сенакосу, каб касілі — не перакасілі і мяне на лета ў бабкі папрасілі.
Дару грашыма дробнымі і буйнымі, каб малады не бегаў за другімі.
Усе дораць грошы, каб быў сын харошы, а я — золата мерку — на дачку-піянерку.
Дару мех пшанічкі, каб малады не глядзеў на другія спаднічкі.
Колькі ў марах-акіянах вады — столькі шчасця на доўгія-доўгія гады.
Дарую трыццаць рублёў на каравай: пяць на Івана, пяць на Сцяпана, пяць на Марыйку, пяць на Арыйку, пяць на Дзяніску, пяць на калыску.
Дарую карзіну сцякла, каб наша нявестка не ўцякла.
Дарую мяшок проса, каб была нявестка хароша.
Дарую карзіну буракоў, каб не любіла чужых мужыкоў.
Дарую шчасце і долю і век доўгі, гоні пшаніцы, каб жалі — не дажалі і да года за куму ўзялі.
Дарую рубель, каб была да году калыбель.
Дару табе капейкаю, каб не была дачка зладзейкаю.
Дару гузікам, каб сына назвалі Юзікам.
Дару табе міскай, каб не сядзеў з чужымі блізка.
Дару табе талеркамі, каб не хадзіў за другімі дзеўкамі.
Дару паперам, каб сын быў інжынерам.
Дару манетаю, каб не гуляў з другой кабетаю.
Дарым пакет, каб жылі сто лет.
Дарым мядніцаю, каб не цягаўся за чужою спадніцаю.
Дару пятаком, каб каля жонкі хадзіў петухом.
Дарым часнок, каб быў да года сынок.
Дарую грошы на чатыры канты, каб былі сыны і
ўсе — музыканты.
Дарую крам, каб радзіўся сын-капітан.
Дарую дзяржаўны білет, каб жылі сто лет!
Дарую маладому каня з дугою, каб не бегаў за другою, а маладой — пуд буракоў, каб не знала чужых мужыкоў.
Жадаю маладым дзевяць сынкоў, а дзесятую дачку-швачку.
Жадаю, каб былі маладыя здаровыя, як вада, багатыя, як зямля, вясёлыя, як салавейка, лёгкія, як верабейка.
Дару кусок сцякла, каб жонка да другога не ўцякла.
Дару загон пшаніцы: хочаце — жніце, хочаце — не жніце, але мяне за куму вазьміце.

Жадаю, каб штолета — то гэта, што восень — штук восем.

Колькі ў сцяне сучочкаў, каб столькі было сыночкаў, а колькі шчэлачак — каб столькі дзевачак.

Частуйцеся, госці, просім вашай мілосці, каб вы пілі і елі, вясёленька сядзелі, харошыя мыслі мелі, вясёлыя песні пелі.

**ПРАКЛЁНЫ**

Каб ты ад зямлі не адрос!
Каб ты, даў бог, у гарачую смалу ўлез!
Каб ты тое з'еў, што сказаў!
Каб ты паваліўся ды не ўстаў!
Каб твой язык скамянеў!
Каб у цябе валасы вылезлі, як у Мордухавай Соні!
Каб цябе ваўкі з'елі на той нядзелі.
Абгаліў, каб цябе голь галіла!
А каб хварэлі вашы бакі!
А няхай іх ванцач запрэ: усюды пруцца!
Дужы, дужы, каб ты дужэйшы стаў — каб ад ветру упаў!
Каб табе бог зрошчы не даў!
Каб ты аблупіўся!
Каб цябе падняло ды не апусціла!
Каб на цябе чорны вол найшоў!
Каб цябе разанка выкраіла!
Каб на цябе жаўтачка найшла!
Каб ты не даждаў лепшага!
Каб ты ў мае слядочкі ўступіла!
Каб цябе твае дзеткі не аглядалі!
Каб па табе нават сабакі не завылі, як здохнеш!
Каб ты лепшага ніколі і не знала!
Каб табе вочы павылазілі, як ты ўсё бачыш!
Каб ты не ўжыў тое, што маеш!
Каб на цябе паморак!
Каб з цябе ваўкі скуру дралі, як ты тут дзярэшся!
Каб ты дня не даждаў!
Каб цябе, як гару, зрабіла!
А каб у цябе не рыкала і не мыкала!
Ціпун табе на язык, а два пад язык!
Каб табе галаву на бок скруціла!
Каб твае дзеці трактара баяліся!
Каб твае дзеці на тэлевізар гаўкалі!

Каб твае дзеці ў халадзільніку грэліся!
Каб табе прыхавалі цяліцы, што лазяць па паліцы:
хвасты, як бічы, каб было за што валачы!
Каб ты мухі ў пасцелі пасвіў!
Каб цябе на гэтай нядзелі ў зялёныя дубкі занеслі!

Каб ты лазіў жыватом па гарачай печы!
Каб ты лыжкі да рота не данёс!
Каб цябе скруціла так, каб людзі не пазналі!
Каб ты надаеў богу і людзям!
Каб на цябе смерці не было!
Каб ты сто гадоў хадзіў, а дзвесце ракам лазіў!
Каб над табою дошкі дралі!
Каб на цябе людзі не глядзелі, чупірадла ты няшчаснае, недатопак ты праклятый!
Каб над табою вароны гракалі!
Каб цябе чэрці на тым свеце ў сто вузлоў завязалі!

## НАРОДНЫЯ ПАРАЎНАННІ

Абстарцаваў як святы Міхал д'ябла.
Галава што пусты збан.
Гуляе як той бусел з жабай.
Доля ў прымакі як у сабакі.
Дурны як Шлэхірава цялушка.
Жывуць як золата важаць.
Заваліўся як калода за пень.
Завыў як воўк у Піліпаўку.
Засопся як певень.
Здаецца як дурной авечцы.
Зубасты як конь.
Ідзе як вада на кола.
Круціцца як сабака ля разніцы.
Крычыць як варона на калку.
Любіць як стары конь матку.
Лазіць як муха па смале.
Маўчыць як карова язык аджавала.
На чужым месцы, што ў лесе.
Накурылі ў пакоі дыму, як у фашысцкай душагубцы.
Напіўся як дзячок у карчме.
Наравісты як конь.
Пагасціў як голы ў крапіве.
Папіхаюць як тую сякеру.
Пара як з самавара.
Патрэбны ты тут як цыбулька да патраўкі.
П'е як у бочку лье.
П'юць як на Лысай гара.
Пёр як Сенька з Крыма.
Пляце як кашалі з лапцямі.
Прыгаворны як сабачка дворны.
Прыліп як смала да кала.
Разбіраецца як свіння ў кроснах.
Разгулялася як свіння ў дождж.
Разгуляўся як дзядоўскі біч.
Расхадзілася як гнілыя дрожджы.
Скруціўся як сабака на кастрыцы.
Стаіць як цапільна з бічом.
Сяджу як на моры без вясла.
Тупы як падосак.

Увайшла як у восвы.
Угадзіла як сабаку варам.
Унадзіўся як верабей у каноплі.
Уплутаўся як певень у кудзелю.
Утрэскаўся як пярун у сухую грушу.
У хаце так, як уся роўна чорт іголку шукаў.
Харошая як авеча маці.
Харошая як свіння ў дождж.
Ходзіць як свіння па дварах.
Чакаў як сабака каменя з-за вугла.
Чапурыцца як свіння на дажджы.
Язык як лапата.
Язык як патэльня падвешаны дый менціць без патрэбы.
Як кроў з малаком, як на Яна ягада.
Накінуліся як блохі на мокрую анучу.
Вочкі як скочкі, губкі як трубкі.
Ціхі як мяла.
Круціцца як цыган на долаце.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Калі гусі і куры хаваюць галовы ў пер'е і стаяць на адной назе, то будзе холадна.

Калі многа ледзяшоў вісіць са страхі, то багаты ўраджай агуркоў будзе.

Цыбулю з град трэба сабраць да Спаса, а то гніць будзе.

Калі раніцай вялікая раса, то гэта на пагоду.

Калі жаўцеюць бярозы з нізу, то будзе зіма халодная, а калі з сярэдзіны — цёплая.

Якая зімка, такое і летка.

Калі пеўні пяюць з вечара, то на цёплую пагоду.

Калі ўвесну першы матыль карычневы, то ў гэтым годзе будзе многа мёду, а калі ж белы — то многа малака.

Калі на першую каляду на небе зоры — значыць, грыбы ў гэтым годзе раннія будуць, калі на другую каляду на небе зоры — грыбы сярэднія будуць; калі на апошнюю каляду зоры — то грыбы будуць познія.

А калі на каляды не было зусім зорак, то і грыбоў будзе мала, альбо зусім не будзе.

Пеўні пяюць днём у мароз — будзе адлега.

Калі вецер гудзе высока, то зменіцца пагода.

Каб гарбузы раслі добрыя, то для насеняя трэба выбіраць гарбуз з шырокай плешкаю і семкі выбіраць тыя, што бліжэй да плешкі.

Гром позняй восенню — суровая зіма.

Растуць у лесе чырвоныя мухаморы — значыць, будуць яшчэ расці і добрыя грыбы.

Зіма снежная — лета дажджлівае.

Калі ўначы быў іней — удзень снег не выпадзе.

Пчолы рана вылятаюць — на дождж.

Кусаюцца пчолы — на дождж.

Моцна парыць — на навальніцу.

Рэха па лесе ідзе — на пагоду.

Сонца заходзіць у хмару — на дождж.

Ластаўкі нізка лётаюць — на дождж.

Бусел кружыцца — чакай пагоды.

Выплыў з ячменю каласок — заняў зязюлі галасок.

Пакуль на асіне ліст не затрасецца, датуль вол не напасецца.

Калі перад калядамі ідзе снег, то перад Пятром будзе дождж, а калі перад калядамі мароз, то перад Пятром будзе пагода.

Калі выпадзе першы снег і ўтрымаецца на дрэвах, то ў

наступным годзе будзе добры ўраджай.

Калі сонца зойдзе за хмару і яна стаіць — будзе дождж, а калі хмара рухаецца — будзе пагода.

Калі ў навагоднія дні будзе іней — значыць, у наступным годзе будзе многа грыбоў.

Калі воблакі ў небе выцягваюцца, то надвор'е будзе ветранае.

Калі карова ідзе з пашы і ў роце нясе траву, то будзе дождж.

Калі грыбна, дык і хлебна.

Калі рой выйдзе перад Янам — будзе мужык панам.

Калі мята цвіце позна, будзе мёду шмат.

Калі ўлетку дождж рэдка бывае, тады ў вуллі мёд прыбывае.

Калі ласі выходзяць вясной на рунь — добры ўраджай будзе.

Калі прыляцелі жураўлі — можна выганяць скаціну ў поле.

## ЗАГАДКІ

Калісьці агромністы, багаты і разнастайны свет народных загадак быў вялікай і незаменнай школай выхавання вобразна-паэтычнага бачання і мастацкага густу для мільёнаў працоўных людзей. Гэтаксама, як і сродкам развіцця кемлівасці, і спосабам засваення пэўных элементарных ведаў аб прадметах і з'явах, што акружалі вясковага чалавека ад нараджэння і аж да смерці. (У фальклоры асноўнаму жыццёваму назначэнню кожнага жанру спадарожнічаюць іншыя, калі можна так сказаць — пабочныя грамадскія функцыі.) У нашы дні неабсяжны паэтычны свет загадак — і па аб'ектыўных і па суб'ектыўных прычынах — істотна звузіўся і ўжо не адыгрывае той ролі ў жыцці чалавека — асабліва маленькага чалавека, дзіцяці, — якую адыгрываў раней. Па-першае, загадкі ў народзе амаль перасталі складацца: новых удалых, дасканалых узораў гэтага віду паэтычнай творчасці паяўляецца зусім мала. Тлумачыцца гэта тым, што на змену фальклорнай прыйшла — для тых жа паслуг эстэтычнага выхавання — паэзія прафесіянальная, кніжная, у тым ліку, дарэчы, і паэзія кніжных, «аўтарскіх» загадак. Па-другое, вельмі многія старыя, традыцыйныя загадкі практычна ўжо не могуць існаваць і пашырацца сярод сучаснай дзятвы і моладзі па той прычыне, што з народнага побыту канчаткова зніклі з'явы і прадметы, якія ляглі ў аснову іх метафарычных ці метанімічных вобразаў. Ніякай кемлівасці і здольнасці вобразна мысліць не хопіць, каб разгадаць, напрыклад, загадку пра цэп, якім малацілі збожжа, або пра ручную мяліцу ці пра вераўчаныя лапці, калі ты ніколі ні гэтага цэпа, ні мяліцы, ні лапцей не бачыў. Такая ўжо асаблівасць самой прыроды загадкі, што яна можа існаваць толькі ў пары з разгадкай, а разгадка немагчыма без знаёмства з прадметам, які ў загадцы апаэтызаваны.

Апрача таго, прызнаемся — і гэта ўжо прычына суб'ектыўнага парадку, — што мы недастаткова клапаціліся пра папулярызацыю гэтага жанру народна-паэтычнай творчасці сярод маленькіх чытачоў, пра выкарыстанне загадак у праграмах вучэбна-выхаваўчай работы з дзецьмі дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту. Многія ж традыцыйныя загадкі, не страцілі і, трэба думаць, ніколі не страцяць сваёй дзеяздольнасці актыўна ўплываць на развіццё паэтычнага густу. Маем на ўвазе перш за ўсё загадкі пра стыхійныя з'явы і сілы прыроды, пра аб'екты расліннага і жывёльнага свету, ды і пра самога чалавека, — іхняй прадметнай аснове састарэнне не пагражае.

Што да мастацкай прыроды гэтага старажытнага жанру, то кожная загадка — гэта пэўны паэтычны троп, найчасцей — метафара

ці метанімія, гэта, можна сказаць, чыстае зерне паэзіі, у якім, як у зерні збожжа — будучае жыццё каліва і колас, тоіцца вялікі, жывы і рухомы свет. У загадкавых вобразах сувязь паміж прадметамі і з'явамі рэальнага свету, заснаваная на падабенстве або ўнутранай залежнасці, часам выяўляецца так нечакана, з такой трапнасцю і смеласцю, якія ўласцівы толькі калектыўнаму творцу — паэтычнаму генію народа.

Асобнай гаворкі заслугоўвае мова загадак, якая вызначаецца не толькі яркай вобразнасцю, дакладнасцю і ёмкасцю азначэнняў або параўнанняў, але і багаццем інтанацый, гібкасцю і рухомасцю сапраўды народнага сінтаксісу, імкненнем да абнаўлення сэнсу і гучання слова, у чым народ-моватворца дасягае непераўзыдзенага майстэрства. Колькі тут спажыўнага матэрыялу для развіцця мовы ў дзяцей, для выхавання ў іх пачуцця слова і разумення яго вобразнай сілы.

Уважлівае прачытанне народных загадак — як дзіцячым, так і дарослым «вокам» — не толькі дапаможа ўбачыць хараство і паэзію ў навакольным прадметна-рэчыўным свеце, у акаляючым асяроддзі, і праз гэта мацней палюбіць яго і мацней даражыць ім, але яшчэ і адкрые незвычайную здольнасць народа мысліць мастацкімі вобразамі, адкрые чароўную сілу і моц найкаштоўнейшага чалавечага дару — дару творчасці.

## ЗАГАДКІ

### Прырода і чалавек

Па саломе ідзе, не шастае, па вадзе ідзе, не плюхае. (Сонца)

Бяжыць, бяжыць, увесь свет аббяжыць. (Сонца)

Галубовая хустка, алы клубок па хустцы катаецца, людзям улыбаецца. (Сонца)

Над дваром, дваром стаіць чаша з малаком. (Месяц)

Зімою хаваюся, вясною з'яўляюся, летам весялюся, увосень спаць кладуся. (Рэчка)

Куды ляціш, крывая крывуліца? — Што тваё за дзела, стрыжана патыліца? (Рэчка, скошаная трава)

Ні крыва, ні проста, куды бяжыш, бясхвоста? — А што табе за дзела, патыліца? (Рэчка, скошаная трава)

Ляжыць князь-расцягнязь, як устане, дык і неба дастане. (Дарога)

Матаецца, матаецца, на клубок не зматаецца. (Дарога)

Доўгае вужышча, цераз увесь свет свішча. (Дарога)

Што каморка, тое і падпорка. (Сцежка)

Паваліўся дуб, у кожны двор сук. (Сцежкі ад дарогі да хат)

Сярод хаты стаіць кусцік мяты. (Мяжа)

Усё поле ў клубочках. (Каменні)

Зара заравала, ключы пацерала, а месяц увідзеў, што сонца ўкрала. (Раса)

Пад акном плачу, усе пазнаюць, а ў хату не пускаюць. (Вецер)

Калі ляціць, тады стаіць, як стане, тады паваліцца. (Дождж)

Ляцеў птах, на воду — бах, вады не памуціў, назад паляцеў. (Снег)

Вырас лес белы ўвесь: ні зайсці ў яго, ні ўехаць. (Малюнкі марозу на вокнах)

Мяне ніхто не відзіць, але ўсякі чуе, а верную спутніцу маю ўсякі відзіць і ніхто не чуе. (Гром і маланка)

Пакуль бацька нарадзіўся, сын у армію пайшоў. (Агонь і дым)

Пакуль бацька нарадзіўся, сын па свету нахадзіўся. (Агонь і дым)

Круціўся, вярцеўся, не знаю дзе дзеўся. (Дым)

Ідзе па саломе, не трашчыць, а па вадзе — не плюшчыць. (Цень)

Прыйшоў бык, пад акном мык, прыйшла карова, быка скалола. (Ноч і дзень)

У мацеры дванаццаць дзетак, усе дзеткі — аднагалетні. (Год і месяцы)

Рос, рос, вырас, з цёмнага вылез, на свет паказаўся, з дзяўкамі пакахаўся. (Арэх)

Рос, рос, перарос, як вырас, дык з чахла вылез. (Арэх)

Касмаціцу раздуў, горкае выплюнуў, салодкае з'еў. (Арэх)

Па чатыры, па пяць, залупіўшыся, вісяць. (Арэхі)

Усе паны паскідалі кафтаны, а адзін пан не скінуў кафтан. (Лісцевыя дрэвы і елка)

Броўкі беленькія, а вочкі жоўценькія. (Рамонак)

Ёсць такая трава, што і сляпы знае. (Крапіва)

Стаіць урода ўздоўж агарода. (Крапіва)

У нашага кныра на сем сажэнь жыла, на вярху кветкі, дзе родзяцца дзеткі. (Гарох)

Чырычыкі-панічыкі па ліповым скачуць шосце. (Гарох у рэшаце)

Білі мяне, білі, калацілі, ва ўсе чыны ўзводзілі, з каралём на трон пасадзілі. (Лён)

І мал кірмаш, і вялік кірмаш, а ўсё ў сіненькіх шапачках. (Лён)

У полі дамок, а ў дамку сынок. (Грэчка)

Сам пан у чырвоным, слугі ў зялёным. (Бурак)

Закапаўся петушок, толькі хвосцік відны. (Бурак)

Поўна хата вераб'ёў, ніводзін не пісне. (Гарбуз)

Ні шыты, ні латаны — увесь у рубцах. (Качан)

Латка на латку, а іголка не была. (Капуста)

Стаіць палка, а на ёй галка, можна прызнаць, што ў ёй тысяча. (Макаўка)

Стаіць певень на таку ў чырвоным каўпаку. (Мак)

Залатое рэшата, чорных домікаў шмат. Колькі чорных домікаў, столькі беленькіх жыхароў. (Сланечнік)

Паміж белага бярэзніка Калантай калантаіцца. (Язык і зубы)

Дзве паненачкі побач жывуць, адна да аднае палуднаваць не ідуць. (Вочы)

Сшыта, зляплена — нідзе дзірачкі ні ўколена. (Карова рабая)

Балалай бяжыць — балота дрыжыць, балалай стане — балота звяне. (Баран)

Хадзіло топало па-за плотало, пыталося ў ляпала, ці дома дзёдзяло. (Воўк, сабака, свіння)

Двайног, двайног, нясі мяне ў сіні лог, каб не найшоў чатыраног. (Курыца, яйцо, сабака)

Сядзіць на плоце ў жоўтым капоце, крычыць: «Гэй-гэй». (Певень)

Каціліся бірулiцы па вуліцы, закаціліся на двор ды заржалі, як конь. (Гусі)

Белы бок і чорны бок, толькі сядзе — ды ўверх скок. (Сарока)

Каб не тыя гакі, заелі б сабакі. (Сетка і пчолы)

Стаіць сіта круглавіта, у тым сіце шыпіць і варыцца, а вон не выліваецца. (Калода пчол)

Стаіць дом без акон, у ім салодкае вяселле. (Вулей)

Паміж гор, паміж ям звіў гняздо Купрыян. (Гарбуз)

Жоўтае цельца расце ў зямельцы, а зялёная каса глядзіць у небяса. (Морква)

Ляжыць тоўсты карапуз, адпусціўшы доўгі вус. (Гарбуз)

Адгадайце, дзеткі: на пупу кветкі. (Агурок)

Загадаю загадку: перакіну цераз градку, на «адзін год пушчу, а на другі ўзышчу. (Жыта)

Стаіць Якаў, на ім цвет макаў, хто дакранецца — слязьмі зальецца. (Дзядоўнік)

У ірзы дзве кірзы, а ў рагулі чатыры кулі. (Кабыла і карова)

Даўжэй засаўка за пуню. (Сарока)

Бег бегунец, задраўшы хвасцец, і папаў у дзірку. (Дым)

**Гаспадарка і матэрыяльны быт**

Рылася, капалася, да багоў пыталася: «Дзе тыя
багі, каб не адламіць мне нагі?» (Саха)

Усё поле ў латках. (Сляды капыцця)

Бацька — багацька, а сыны кручаныя. (Гумно, цапы)

Ехаў пан Крукоўскі, зарагатаў па-конскі. (Калаўротак)

Дыбы дыбалі, жылы ўставалі, дыбы найшоў і далей пайшоў. (Панажы ў кроснах, нічальніцы, чаўнок)

Пяць мальцаў сядзяць пад адной страхой. (Пальцы
пад кудзеляю)

Ішла свіння з пуні з сенам на рыле. (Вілы)

Сам худы, а галава два пуды. (Молат)

Стуку, груку, вядуць барыню пад руку, лемантуе,
галасуе, ніхто яе не пачуе. (Піла)

Жалезны дзедзя па жэрдзі едзе. (Скобля)

Сядзіць мядзведзь на купіне ў сваёй шарлупіне, трасецца і калоціцца, а к яму ўвесь свет коціцца. (Млын)

У істопачцы на печачцы круцяцца, трапечацца. (Жорны)

Ляцеў ваўчок, каваны лычок. (Таўкач)

Сёння замяшу, а заўтра патыцкаю. (Цеста)

З вечара заюрыў, а пад дзень праткнуўся. (Хлебнае цеста ў дзяжы)

Сярод печы ляжыць трыбух авечы. (Хлеб у печы)

Без касцей, без сустаў, як прыгрэў, дык устаў. (Блін)

Без рук, без ног, як надзьмецца — так і ўстане. (Блін на патэльні)
Б'ю, б'ю, а ў сцяну не ўваб'ю. (Яйцо)
Еш, еш, пакуль не запяеш. (Гарчыца)
Што госць — то пасцеля, што госць — то пасцеля. (Сцяна)
Поўна хата гасцей, і кожнаму пасцель. (Бярвенні і мох)
Сядзіць цыганка ў лазні, а рукі на вуліцы. (Трама)
Пасярод хаты ляжаць тры Агаты. (Бэлькі)
Сярод хаты тры магілы. (Бэлькі)
Ад кута да кута ляжыць баба напята. (Бэлька ў хаце)
З хаты мерзне, а з надворку не. (Шкло ў акне)
Само белае, а рэбры цёмныя. (Акно)
Мядзведзь ляжыць, а лапа ходзіць. (Дзверы)
Стаіць на ганку, выставіўшы паланку. (Клямка)
Стары Харытон заўсёды на хату хрыбтом. (Крук)
Бяззубай бабулі ў белай кашулі халодную ежу даюць, а цёплую забіраюць. (Печ)
Сярод хаты сядзіць мядзведзь чараваты. (Печ)
Шах, мах па кутах, стаіць баба на пятах. (Лава)
Чатыры рогі, чатыры ногі. (Стол)
Угору лезу: «Го-го-го», а дадолу лезу: «Хухці мне». (Палок у лазні)
Кладуць у печ скібы, а выбіраюць крошкі. (Дровы,
вуголле). Поўна хата нязнайцаў. (Сляды)
Нажом рэзалі, дротам вязалі, а ён не плача — па падлозе скача. (Венік)
Чорнае хварасцішча па хаце свішча. (Венік)
Сярод хаты ляжыць Сямён барадаты. (Венік)
У зялёным кабаточку стаіць паненка ў куточку. (Бярозавы венік)
Скроб, скроб ды пад прыпечак лёг. (Венік)
Патыкаўся, пасмыкаўся і па хаце пайшоў. (Венік)
Курыца старэецъ, а кіпці вастрэюць. (Венік)
Хто дбае, той не мае, а хто не дбае, той мае. (Смецце)
У адным канцы звязана, у другім — распушчана. Пасярод жывіца. Не адгадаеш — не будзеш жаніцца. (Шчотка)
Бегла свінка — перабітая спінка. (Трапкач)
Сама пані жаўтуха, на ёй шуба каратуха. (Дзяжа з векам)
Сама пані таўсценькая, а на ёй шуба караценькая. (Дзяжа)
Сярод хаты — кусцік мяты. (Дзяжа)
Каля ямы з булавамі. (Міска і лыжка)
Маленькі коню, а цэлае мора выпіў. (Лыжка і міска)
Увесь лес на падрэз, а два вышай. (Цэбар)
Увесь лес роўны, адзін сук доўгі. (Дайніца)

Жалезны конік, маляваны воз, малявану пані да касцёла вёз (Вілкі і гаршчок)

Скача, скача кульгавы ад прыпечка да лавы. (Гаршчок)

Што за загадка, што пад яйцом гладка. (Скаварада)

Дуб ясен, у сяродні засень, у баку шпілька, у носе дзірка (Самавар)

Без рук, без ног, а рубашку просіць. (Падушка)

Каля стоўпа рубяжы, хто ведае — не кажы. (Пацеркі на шыі)

За лесам лясанскім, за полем палянскім плакала-рыдала голасам татарскім. (Скрыпка)

Брат брата рэжа — бела кроў лезе. (Жорны)

Цераз каня і быка свіння лён цягне. (Шавец шые боты)

Сухая кабыла ўсё сена з'ела. (Рэзгіны)

Крыж на крыжы, а хто знае — не кажы. (Клубок нітак)

Пад адной стрэшкай чатыры дзеўкі хаваюцца. (Стол)

Два вазочкі па полі ідуць, дзве палоскі за сабою вядуць, у кожным вазочку па сто масточкаў, кожны масток пакідае слядок. (Лапаць)

Увесь лес пад абрэз, а два дубкі вышай. (Драўлянае вядро з вушкамі)

Свісне, блісне — семсот ляжа. (Каса)

Вам! Вам! басам, сем паясаў, збоку шпілька, ззаду дзірка. (Бочка пад ваду)

Па хаце гайдук скача. (Венік)

Чорная свінішча на ўсю хату свішча. (Патэльня)

Тут — падзь, там — падзь, пад прыпечкам ляжа спаць. (Ануча-атыманка)

На паповым полі папутаны коні, вузлы знаць, а не развязаць. (Замкі)

Дзед вісіць, а баба ззяе, дзед на бабу пазірае. (Студня)

Два брухі, чатыры вухі. (Падушка)

І пад бокі таўкуць, і ўпоперак мнуць, а ёй не шкодзіць — яшчэ вышай падходзіць. (Падушка)

З зямлі нават дзіця падніме, а праз хату і сілач не перакіне. (Пяро)

Як не есць, то ляжыць, як пад'есць, то стаіць. (Мяшок)

Згарэў дуб, ні жару, ні попелу. (Свечка)

Беленькі сабачка — на носіку балячка. (Запалка)

На рэчцы нямы брэша. (Пранік)

Зубоў не мае, а моцна кусае. (Пуга)

На адным шасце два моры вісіць. (Вёдры з вадой на каромысле)

Дзедаў нос лоем аброс. (Асвер)

Каб не дзедава качалка, сохла б бабіна мачалка. (Калодзеж, журавель і вядро)

Варона ляціць, з яе кроў капаціць. (Вядро з вадой выцягваюць)

Дзесяць братоў цягнуць нерат на свой двор. (Штаны)

Бяжыць — скрыпіць, стане — маўчыць. (Боты)

Сядзіць пані на ганачку, калупае каханачку. (Вязаць панчоху)

Брат з брата кашулю здымае. (Рукавіцы)

Пяць клецяў, адны дзверы. (Пальчаткі)

Дзявочае рамяство кругом галавы парасло. (Вянок)

Скрып, скрып, скрып — вырас на палцы грыб. (Парасон)

У трубачцы, у бубачцы чырвоная ягадка. (Лямпа)

Вісіць пад бэлькаю з чырвонаю кветкаю. (Лямпа)

Стаіць лятух на варотах у чырвоных ботах — косы да зямлі, а галава да неба. (Звон у царкве)

Два каты масла ліжуць. (Санкі)

Лось у лесе рос, пакінуў ногі, рогі, пайшоў у мора ваду піць. (Човен)

Чатыры сястрычкі беглі ў бруснічкі, адна другую не дагоняць. (Колы ў калёсах)

Бягуць сябровачкі, задраўшы галовачкі. (Санкі)

Бяжыць, пыхціць і ўсё скардзіцца: «Ух як цяжка! Ух як цяжка!» (Цягнік)

Ад рання да ночы на полі стукоча. (Трактар)

Гусь па вуліцы паўзе, дзюбай вуліцу грызе. (Экскаватар)

Не есць, не п'е, а ходзіць і б'е. (Гадзіннік)

Паненачка тонка, грыміць звонка. (Стрэльба)

Ляжыць паленца, а ўнутры сэрца. (Аловак)

Пад шклом сяджу, у адзін бок гляджу. (Стрэлка компаса)

**Змест-паказальнік**

Як мужык пана абдурыў. Каржанеўская Н. ад Жаваранка Сяргея (1910), в. Шахноўшчына Ушацкага р-на.

Як мужык перамог пана ў спрэчцы. Кургановіч А. ад Шамак Марылі (1903), г. Мар'іна Горка Мінскай вобл.

«Верны» слуга. Янушкевіч Я. ад Міpановіча Баляслава (1903), в. Ракаў Валожынскага р-на.

Як паны аб заклад біліся. Янушкевіч Я. ад Міpановіча Баляслава, в. Ракаў Валожынскага р-на.

Як мужык пану гісторыі расказваў. Янушкевіч Я. ад Міpановіча Баляслава, в. Ракаў Валожынскага р-на.

Панскія гусі. Раманчук В. ад Бараноўская М. (1889), в. Цудзенішкі Ашмянскага р-на.

Як панскі кухар пазбавіўся ад «злых духаў». Янушкевіч Я. ад Міpановіча Баляслава (1903), в. Ракаў Валожынскага р-на.

Як мужык пана частаваў. Ад Сярко Веры (1916), в. Войраўка Пухавіцкага р-на.

Бабчын квас. Ад Ляўковіч В. (1910), в. Замасцяны Валожынскага р-на.

У адно слова. Ад Бабкова Івана (1909), в. Солтанаўка Буда-Кашалёўскага р-на.

Мужык і разумная жонка. Кажура З. ад Каралькова Мацвея (1901), в. Маляўка Міёрскага р-на.

Мудры мужык. Ад Семаненкі Івана (1906), в. Дабрамыслі Лёзненскага р-на.

«Чорт» у панскай клуні« Зян ьковіч І. ад Бубіна Рыгора (1907), в. Альбінск Акцябрскага р-на.

Пра бабу-варажбітку. Белавусава В. ад Янкоўскай Кацярыны (1899), в. Вялікія Дольцы Ушацкага р-на.

Пра мужыка, пана і ксяндза. Талкун Л. ад Шамко Ганны (1910), в. Узрэчча Дзяржынскага р-на.

Загадка ксяндза. Янушкевіч Я. ад Міpановіча Баляслава (1903), в. Ракаў Валожынскага р-на.

«Святы Спас». Ярош І. М. ад Арцюх Б. У. (1927), в. Ціханы Ашмянскага р-на.

У што папу «аха-ха» абышлося. Мячай М. А. і Пратасеня В. А. ад Зыль Марыі Данілаўны (1913), в. Рудні Чэрвеньскага р-на.

Пра папа і касцоў. Макаўчык А. ад Коўціка Мікалая (1901), в. Вялікі Рожан Салігорскага р-на.

Яшчэ раз пра папа і касцоў. Макаўчык А. ад Коўціка Мікалая (1901), в. Вялікі Рожан Салігорскага р-на.

Служба ў папа. Сідарчук Я. ад Велясніцкай Яфіміі (1901), в.

Бухлічы Столінскага р-на.

Поп-скнара. Саленік Ж. ад Гармаза Ядвігі (1923), в. Садкоўшчына Дзяржынскага р-на.

Поп і парабак. Самец Л. ад Самец Марыі (1920), в. Боўцічы Навагрудскага р-на.

Мужык і поп. Балабановіч З. ад Шастакова Сяргея (1907), в. Курчоўская Усвейка Талачынскага р-на.

Ванька-дурачок у работніках. Балабановіч З. ад Літвінава Юрыя (1905), в. Новае Саколіка Талачынскага р-на.

Новы поп. Анішчык І. ад Рамашкі Васіля (1900), в. Колкі Ушацкага р-на.

Як папа перахітрылі. Анішчык І. ад Цыгана Дзмітрыя (1898), в. Колкі Клецкага р-на.

Бабка на абедні. Анішчык І. ад Цыгана Дзмітрыя (1898), в. Колкі Клецкага р-на.

Пра дурня-вартаўніка. Варанец З. ад Свірыдава Мікалая (1907), в. Новае Саколіна Талачынскага р-на.

Ванька-дурачок. Балавановіч З. ад Свірыдава Мікалая (1903), в. Новае Саколіна Талачынскага р-на.

Пра ўпартую жонку і папа з дзякам. Каляга І. ад Бабашынскай Захвеі (1912), в. Стар Лёзненскага р-на.

Грэх. Каляга І. ад Бабашынскай Захвеі (1912), в. Стар Лёзненскага р-на.

Як «божая» ўзнагарода мужыку дасталася. Карпович М. У. ад Бабашынскай Захвеі (1912), в. Стар Лёзненскага р-на.

Падзялілі. Кажэмскі М., в. Малая Лепельскага р-на.

Як батрак гаспадара абхітрыў. Амельчыц В. ад Лябедзька Вольгі (1908), в. Савані Стаўбцоўскага р-на.

Жонка бедняка і жонка багацея. Карповіч М. ад Бабашынскай Захвеі (1912), в. Стар Лёзненскага р-на.

Іван і карчмар. Надольская Ч. ад Гулы Іосіфа (1898), в. Ігрушка Крупскага р-на.

Пра Іванушку-дурня і пра зайздросных братоў. Гвозд М. ад Качана Васіля (1910), в. Ладасна Лепельскага р-на.

Як сын-дурань «чуда» ўтварыў. Ад Бондарава Сямёна (1902), в. Рудніца Бешанковіцкага р-на.

Як вол вала з'еў. Каранкевіч Г. ад Чайка Матруны (1914), в. Стоўпішчы Кіраўскага р-на.

Пра Іванку і братоў. Лецка Я., в. Пабрэззе Навагрудскага р-на.

Салдат, баба і дзед. Мятла М. ад Тараракі Мікалая (1896), в. Парадні Міёрскага р-на.

Пра бабу-гультайку. Копаць А. ад Кандрацьева Астапа (1896), в. Маляўка Міёрскага р-на.

Як лянівая дачка рабіць навучылася. Ластоўская М. ад Вяржбіцкай Алены (1906), в. Мазаліха Іўеўскага р-на.

Як ляснік лянівую рабіць навучыў. Сухадолец В. ад Вараксы Міхаіла (1910), в. Камень Валожынскага р-на.

Два гультаі. Кургановіч А. ад Шамак Марылі (1903), г. Мар'іна Горка Мінскай вобл.

Як Рыгорава Дарка выздаравела. Янушкевіч Я. ад Мірановіча Баляслава, в. Ракаў Валожынскага р-на.

Як мужык адвучыў сваю жонку ад ліха. Сухадолец В. ад Вараксы Міхаіла (1910), в. Камень Валожынскага р-на.

Тры разы забіты. Сухадолец В. ад Вараксы Міхаіла (1910), в. Камень Валожынскага р-на.

Як мужык цыгана абмануў. Балабановіч З. ад Кшэсінскай Браніславы, в. Серкавіцы Талачынскага р-на.

Як бабе клёпкі ўправілі. Гвозд М. ад Качана Васіля (1910), в. Ладасна Лепельскага р-на.

Злосная дзяўчына. Ад Каспяровіч Лізаветы (1907), в. Збаравічы Мінскага р-на.

А бабіна Юр з'еў. Мячай М. ад Зыля Аляксея (1910), в. Рудня Чэрвенскага р-на.

Жарабячая матка. Варанец З. ад Свірыдава Мікалая (1907), в. Новае Саколіка Талачынскага р-на.

Пра люстэрка. Грушэўскі М. ад Драко К. (1913), в. Даўматоўшчына Навагрудскага р-на.

Начлег салдата. Самец Л. ад Самец Марыі, в. Боўцічы Навагрудскага р-на.

Свайго лёсу не абмінеш. Ад Бароўскай Парасці, в. Кучын Быхаўскага р-на.

Як Сцяпан пакаштаваў шампанскага. Янушкевіч Я. ад Мірановіча Баляслава (1903), в. Ракаў Валожынскага р-на.

Аляхновіч. Ад Зубель В. М., в. Доўгая Шчучынскага р-на.

Бацькавы наказы. Ад Місевіч П., в. Доўгая Шчучынскага р-на.

Каваль і багач. Лязоўская Т. ад Бычкоўская Марыі (1886), в. Карабы Ашмянскага р-на.

**АНЕКДОТЫ**

Ці не ўсё роўна як? Басалаева Л. ад Сярко Сцяпана (1912Л в. Войраўка Пухавіцкага р-на.

Панская «квактуха». Янушкевіч Я. ад Мірановіча Баляслава

(1903), в. Ракаў Валожынскага р-на.

Самі прыйшлі. Крэпскі І. ад Кузьміна Фёдара (1911), в. Пераброддзе Міёрскага р-на.

Подлае насенне. Мардвінцава А. ад Мінько Марыі (1901), в. Волма Валожынскага р-на.

Пра пана і «мерцвяка». Шэйко Н. ад Якубчык Зінаіды (1913), в. Туча Клецкага р-на.

Панскія стравы. Журавец М. ад Журавец Софіі (1901), в. Сакаўшчына Валожынскага р-на.

Першая сустрэча з катом. Крывашэін Г. ад Крывашэй Уляны (1914), в. Маргі Пухавіцкага р-на.

Пра жмінду-кулака. К лаў су ць А. ад Кавалёнка Анатоля (1920), в. Парамец Вілейскага р-на.

Хацелася ж па-панску. Калтовіч Т. ад Ніцкага Іллі (1903), в. Буда Грэская Слуцкага р-на.

Пяць — на пяць. Калтовіч Т. ад Ніцкага Іллі (1903), в. Буда Грэская Слуцкага р-на.

Ёсць і гэткая. Калтовіч Т. ад Ніцкага Іллі (1903), в. Буда Грэская Слуцкага р-на.

Пра пана-самадура. Ад Канапавай Кацярыны (1913), в. Валяўкі Дубровенскага р-на.

Поп і гандляр. Кургановіч А. ад Шамак Марылі (1903), г. Мар'іна Горка Мінскай вобл.

Колькі каштуе свечка богу. Лысюк Н. ад Карчановіча Сцяпана (1908), в. Пераброддзе Міёрскага р-на.

Нецярплівы. Сазановіч Я. ад Карыцька М. (1914), в. Калоднае Навагрудскага р-на.

Абы выехаць. Ад Мазаніна Мітрафана (1920), г. п. Смалявічы Смалявіцкага р-на.

А людзі моляцца... Ад Канапавай Кацярыны (1913), в. Валяўкі Дубровенскага р-на.

Добра адказаў. Макаўчык А. ад Пратасені Надзеі (1947), в. Вялікі Рожан Салігорскага р-на.

Трошкі паспала. Аслюк В. ад Страх Таісы (1913), в. Папелевічы Смаргонскага р-на.

Помні, што і сам стары будзеш. Заяц А. ад Міцкевіча Вікенція (1910), в. Карабы Ашмянскага р-на.

У мяцеліцу. Чапко Я. ад Чапко Марыі (1935), г. п. Гарадзея Нясвіжскага р-на.

Ля цёшчынай труны. Чапко Я. ад Чапко Марыі (1935), г. п. Гарадзея Нясвіжскага р-на.

Падзяліла. Ганчароў І. ад Лось Г. (1914), в. Міханавічы Мінскага р-на.

П'янка прайшла адразу. Крывашэй Г. ад Зязюльчына Арцёма (1910), в. Моргі Пухавіцкага р-на.

Кемлівы старац. Рагова А. ад Раговай Вольгі (1912), в. Хацюхова Крупскага р-на.

Паквапіўся. Ад Аўтух Елізаветы (1912), в. Старыка Ушацкага р-на.

Каму горш? Ад Сярко Веры Сцяпанаўны (1923), г. Мінск.

Хітры злодзей. Амельчыц В. ад Амельчыц Серафімы (1900), в. Савані Стаўбцоўскага р-на.

А завілюшачкамі! Паўзунова Л. ад Шугалей А. (1910), в. Вяжоўка Чашніцкага р-на.

Як певень гаспадара навучыў. Барсук Н. ад Дзядзюлі Вольгі (1908), в. Дабрынёва Дзяржынскага р-на.

Як упартая жонка сваё даказала. Барсук Н. ад Дзядзюлі Вольгі (1908), в. Дабрынёва Дзяржынскага р-на.

З'есці можна... Сокал С., Маладзечанскі р-н.

Бравы салдат. Маслава Т. ад Качана Васіля (1910), в. Ладасна Лепельскага р-на.

Хітры жаніх. Каржанеўская Г. ад Жаваранка Сяргея (1908), в. Шахноўцы Ушацкага р-на.

Вясёлыя хлопчыкі. Сазановіч Я. ад Хвасцюк П. (1901), в. Калоднае Навагрудскага р-на.

Добры, ды не зусім. Цудня А. ад Дзівіной Гелены
(1908), в. Пышна Лепельскага р-на.

Памінкі ў пост. Крэўчык Т. ад Крэўчык А. І. (83), в. Малыя Азёркі Мастоўскага р-на.

Цыган і авадні. Шклянік В. ад Жмыр Валянціны (1912), в. Ладасна Лепельскага р-на.

Сварка. Карнышова К. ад Волкавай Соф'і (1913), в. Сіціна Гарадоцкага р-на.

Хітрая дзеўка. Басалаева Л. ад Сярко Антаніны (1907), в. Войраўка Пухавіцкага р-на.

Паляўнічыя. Карнышава К. ад Волкавай Соф'і (1912), в. Сіціна Гарадоцкага р-на.

Няроўная доля. Янушкевіч Я. ад Мірановіча Баляслава (1903), в. Ракаў Валожынскага р-на.

Жарт па-суседску. Янушкевіч Я. ад Мірановіча Баляслава (1903), в. Ракаў Валожынскага р-на.

Сквапнасць да дабра не давядзе. Карнышова К. ад Волкавай

Соф'і (1912), в. Сіціна Гарадоцкага р-на.

Пра хітрага салдата. Андрэйчык Л. ад Сідлярэвіч Любові (1922), в. Куляшы Шчучынскага р-на.

У школе. Паляшчук А., Дзяржынскі р-н.

Цяпер, дзедка, пяць... Крот А. І. ад Крот Марылі (1926), в. Навінкі Калінкавіцкага р-на.

Ад чаго смерць. Амялляшчык Н. М. ад Мяліца Зіновія, в. Вулька-Целяханская Івацэвіцкага р-на.

Пагаварылі. Амялляшчык Н. М. ад Мяліка Зінов'я в Вулька-Целяханская Івацэвіцкага р-на.

Салдат і бабка. Вакар Р. Л. ад Барытавай Марылі (65), в. Бортнікі Сенненскага р-на.

**ЛЕГЕНДЫ І ПРЫМХЛІЦЫ**

**ЛЕГЕНДЫ**

Чараўнік і музыка. Маляўка М. ад Тонкавіч Пятра (1911), в. Сінькі Смаргонскага р-на.

«Кум». Аргіш Г. ад Корбут Марылі (1909), г. Старыя Дарогі Мінскай вобл.

Колькі жыць чалавеку. Аляксеенка В. ад Голубевай Анастасіі (1902), в. Мацейкава Полацкага р-на.

Акамянелае вяселле. Тараскевіч М. ад Хіліцкай Стэфана (1894), в. Целяхі Стаўбцоўскага р-на.

Адчараваная нявеста. Апанасевіч І. ад Бурдунец Я. А. (1908), в. Камяніцы Смаргонскага р-на.

Пра адзінаццатае дзіця беднага селяніна. Кароткая Т. ад Руднікавай Еўдакіі (1904), в. Вішняк Лёзненскага р-на.

Пра паню і жабрачку. Ад Міскевіч Юзэфы (1902), в. Баранава Гродзенскага р-на.

Змяіны камень. Мулярчык А. ад Яснага Пятра (1918), в. Гогалеўка Чашніцкага р-на.

Пра сквапнасць. Лайкоў У. ад Бубіна Рыгора (1910) в. Альбінск Акцябрскага р-на.

Пра маладзіцу, якая чакала госця вялікага. Лугоўская Т. ад Каўзуновіч Валянціны (1920), в. Каліта Чэрвеньскага р-на.

Пра разбойніка. Саленік Ж. ад Гармаза Ядвігі (1923), в. Садкаўшчына Дзяржынскага р-на.

Камень-шавец. Янушкевіч Я. ад Пашкевіч Ніны (1914), в. Ракаў Валожынскага р-на.

Пра долю. Курыліна Т. ад Макарэнкі П. (1890), в. Ігрушка Крупскага р-на.

Чаму не аднолькава работы ва ўсіх? Янушкевіч Я. ад Пашкевіч Ніны (1914), в. Ракаў Валожынскага р-на.

Як святы Пётра пераканаўся. Янушкевіч Я. ад Пашкевіч Ніны (1914), в. Ракаў Валожынскага р-на.

Золата ў падоле. Копаць А. ад Кандрацьева Астапа (1896), в. Маляўка Міёрскага р-на.

Прыпол золата. Янушкевіч Я. ад Пашкевіч Ніны (1914), в. Ракаў Валожынскага р-на.

Адкуль узяліся крот, дзяцел і павук. Кочынскал Г. ад Макеевой Хрысціны (1895), в. Зачарэўе Міёрскага р-н а.

Пра бога і чорта. Такарэўская І. ад Дошчачкі Юзэфы (1920), в. Тарасава Стаўбцоўскага р-на.

Пра жабрака і пана. Каратаў, В. ад Петракевіча Пятра (1894), в. Пераброддзе Міёрскага р-на.

Пра камень каля возера. Ад Мікалаевіча Франца (1910), в. Налібокі Стаўбцоўскага р-на.

«Така воля божа». Ад Мікалаевіча Франца (1910), в. Налібокі Стаўбцоўскага р-на.

Усім задаволены. Баян Н. ад Дзядзюля Вольгі (1900), в. Дабрэнёва Дзярлсынскага р-на.

Купленае слова. Клімовіч А. ад Бабашынскай Захвеі (1912), в. Стар Лёзненскага р-на.

Што і за мільён не прадаецца. Клімовіч А. ад Бабашынскай Захвеі (1912), в. Стар Лёзненскага р-на.

Чаму кот пасля яды мыецца. Качынская Г. ад Макеевай Хрысціны (1895), в. Зачарэўе Міёрскага р-на.

**ПРЫМХЛІЦЫ**

Хадзілі раней чэрці. Мацкевіч А. ад Бурай Тэклі (1903), в. Рудня Чэрвеньскага р-на.

На Кулёвым балоце. Кранцэвіч Г. ад Загорскай Ядзвігі (1924), в. Малінаўка Лагойскага р-на.

У дарозе. Кранцэвіч Г. ад Загорскай Ядзвігі (1924), в. Малінаўка Лагойскага р-на.

Маці. Доста А. ад Саванец Марыі (1919), в. Хадзевічы Слонімскага р-на.

Ноччу ў гумне. Ад Кабяка Антона (1912), в. Труханкі Пастаўскага р-на.

Ведзьма. Доста А. ад Саванец Марыі (1919), в. Хадзявічы Слонімскага р-на.

«Панічы» ў лазні. У асобных выпадках пашпартызацыя

адсутнічае.

Вузялок для нявесткі. Доста А. ад Саванец Марыі (1919), в. Хадзявічы Слонімскага р-на.

Памагла варажбітка. Доста А. ад Саванец Марыі (1919), в. Хадзявічы Слонімскага р-на.

Лён выратаваў. Крэпскі І. ад Паўлоўскай Любові (1900), в. Пераброддзе Міёрскага р-на.

«Пасмяяліся». Дубік Т. ад Тараракі Мікалая (1896), в. Парадні Міёрскага р-на.

Чароўны абруч. Кароткая Т. ад Руднікавай Еўдакіі (1904), в. Вішняк Лёзненскага р-на.

Па дарозе з бровара. Мядзёлка Ж. ад Тонкавіч Алімпіяды (1918), в. Сінькі Смаргонскага р-на.

Начная госця. Канапелька А. ад Верабей Соф'і (1932), в. Даўгінава Вілейскага р-на.

Позна ў лесе. Станцаль Г. ад Місак Тафілі (1910), в. Коцькі Дзятлаўскага р-на.

Следам за «сабакам». Станцаль Г. ад Місак Тафі' лі (1910), в. Коцькі Дзятлаўскага р-на.

Незнаёмая з-пад бярозы. Станцаль Г. ад Місана Юзафа (1910), в. Коцькі Дзятлаўскага р-на.

Мужчыны ў капялюшах. Станцаль ад Місана Юзафа (1910), в. Коцькі Дзятлаўскага р-на.

Прыцемкам на пожні. Плакса Н. ад Усовіч Марылі (1911), в. Альхоўка Нясвіжскага р-на.

Пра заклятыя грошы. Крывашэін Г. ад Крывашэін Ульяны (1914), в. Маргі Пухавіцкага р-на.

Хітрая нявестка. Крывашэй Г. ад Крывашэй Уляны (1914), в. Маргі Пухавіцкага р-на.

«Дзядок». Савасцюк Г. ад Міхалковіч Соф'і (1901), в. Задашчэнне Пухавіцкага р-на.

Чараўнік. Ад Бекеш Марыі (1916), в. Гольчыцы Слуцкага р-на.

Аглобляй адвадзіў. Ад Бекеш Марыі (1916), в. Гольчыцы Слуцкага р-на.

«Свіння»-начніца. Ад Бекеш Марыі (1916), в. Гольчыцы Слуцкага р-на.

Госці на попрадках. Ад Бекеш Марыі (1916), в. Гольчыцы Слуцкага р-на.

Апоўначы ў рове... Савасцюк Г. ад Фіневіч Марыі (1907), в. Бор Пухавіцкага р-на.

Пра русалку. Савасцюк Г. ад Фіневіч Марыі (1907), в. Бор

Пухавіцкага р-на.

На начлезе. Савасцюк Г. ад Фіневіч Марыі (1907), в. Бор Пухавіцкага р-на.

Ледзь ачухаўся. Савасцюк Г. ад Фіневіч Марыі (1907), в. Бор Пухавіцкага р-на.

Па дарозе дадому. Савасцюк Г. ад Фіневіч Марыі (1907), в. Бор Пухавіцкага р-на.

У капліцы. Савасцюк Г. ад Пахомчык Зінаіды (1910), в. Глушка Пухавіцкага р-на.

Пасля лазні. Цэсарава Е. ад Грыгаровіча Мікалая (1907), в. Дубніцы Чашніцкага р-на.

Два памагатыя. Савасцюк Г. ад Пахомчык Зінаіды (1910), в. Глушка Пухавіцкага р-на.

У лазні. Цэсарава Е. ад Шумскага Рыгора (1903), в. Раманаўка Аршанскага р-на.

Пасля вяселля. Цэсарава Е. ад Грыгаровіча Мікалая (1907), в. Дубінцы Чашніцкага р-на.

Здарэнне ноччу. Ад Шэмет Евы (1911), в. Салагошч Салігорскага р-на.

Незнаёмы дзядок. Ад Шэмет Евы (1911), в. Салагошч Салігорскага р-на.

Дровы з-пад прыпечка. Ад Шэмет Евы (1911), в. Салагошч Салігорскага р-на.

Жаба ў хлеве. Ад Шэмет Евы (1911), в. Салагошч Салігорскага р-на.

Прыход суседкі. Ад Шэмет Евы (1911), в. Салагошч Салігорскага р-на.

Пра «баранчыка». Карась Н. ад Карася Іосіфа (1909), в. Каменіца Ваўкавыскага р-на.

Тройка коней у брычцы. Карась Н. ад Матуса Паўла (1908), в. Каменіца Ваўкавыскага р-на.

Пра сабаку на елцы. Шаўловіч В. ад Маркоўскай Аляксандры (1924), в. Пагост Бярэзінскага р-на.

Купальскай ноччу. Мароз М. ад Варанішчы Міхаіла (1894), б. Светач Смаргонскага р-на.

Баран — на ўвесь воз. Мароз М. ад Варанішчы Міхаіла (1894), в. Светач Смаргонскага р-на.

**Пра нябожчыкаў**

Кавалер і дзеўка. Ад Ваўчок Барбары (1898), в. Крышылоўшчына Навагрудскага р-на. Голасам мужа. Казлоўская І. ад

Крышталевіч Л. (1900), в. Пераброддзе Міёрскага р-на.

Хацеў забраць і жонку. Грушэўскі М. ад Ваўчок Аўдоцці (1902), в. Крышылоўшчына Навагрудскага р-на.

Асінавы кол супакоіў. Кіпень Л. ад Юрэні Марылі (1897), в. Калазубы Пружанскага р-на.

Пра Марылю. Лязоўская Т. ад Бычкоўскай Марылі (1886), в. Карабы Ашмянскага р-на.

Пра незнаёмую птушачку. Кавалеўская Т. ад Карповіч Марыі (1908), в. Даўгінава Вілейскага р-на.

Голас з магілы. Станцаль Г. ад Місана Юзафа (1913), в. Коцькі Дзятлаўскага р-на.

Голас пад акном. Мацкевіч В. ад Бурай Тэклі (1912), в. Рудня Чэрвеньскага р-на.

Ласункі з магілак. Ад Саўчанка Кацярыны (1913), в. Гарадзішчы Мсціслаўскага р-на.

Сарачыны на могілках. Кароткая Т. ад Рудніковай Еўдакіі (1904), в. Вішняк Лёзненскага р-на.

У ягадах. Ад Саўчанка Кацярыны (1913), в. Гарадзішчы Мсціслаўскага р-на.

Два здарэнні ў адну ноч. Наліўка С. ад Наліўкі Васіля (1898), в. Доўгае Івацэвіцкага р-на.

Пра маці і трох дачок. Колтун Л. ад Максімавіча Івана (1932), г. Чэрвень Мінскай вобл.

Пакуль не даравала дзеўка. Колтун Л. ад Максімавіча Івана (1932), г. Чэрвень Мінскай вобл.

Стук сярод ночы. Ад Вараксы Міхаіла (1910), в. Камень Валожынскага р-на.

Здань у белым адзенні. Шаўловіч В. ад Маркоўская Аляксандры (1924), в. Пагост Бярэзінскага р-на.

Дарогаю каля кладзішча. Шаўловіч В. ад Маркоўская Аляксандры (1924), в. Пагост Бярэзінскага р-на.

Вяртаючыся з вячорак. Ад Крываль Ганны (1901), в. Аснежыцы Пінскага р-на.

Спатканне на могліцах. Ад Крываль Ганны (1901), в. Аснежыцы Пінскага р-на.

На трэці дзень, ноччу... Ад Кахавец Галіны (1931), в. Краі Івацэвіцкага р-на.

Просьба дзеда. Ад Кахавец Галіны (1931), в. Краі Івацэвіцкага р-на.

За белым ценем. Дубіцкая А. ад Халопы Зінаіды (1913), в. Задвор'е Мастоўскага р-на.

**ПАДАННІ, БЫВАЛІЦЫ, АПАВЯДАННІ-УСПАМШЫ**

**ПАДАННІ**

Капліца. Кайрыс І. ад Блашкевіч Ірэны (1926), в. Бабраўнікі Астравецкага р-на.

Пра пані з Гальпанскага замка. Лязоўская Т. ад Бычкоўскай Мар'і (1886), в. Карабы Ашмянскага р-на.

Чаму Старобін называецца Старобінам. Шуневіч Н. ад Пасюка Аляксандра (1908), г. п. Старобін Салігорскага р-на.

Пра сабачую горку. Дудук А. ад Шчэрбы Іосіфа (1910), в. Чырвоная Зорка Клецкага р-на.

Кукаўка. Ролева А. ад Ліс Сцепаніды (1920), в. Мадора Рагачоўскага р-на.

Пра Нёманскі камень. Лязоўская Т. ад Місюкевіч Ганны (1886), в. Драгл'еўцы Ашмянскага р-на.

Пра курган «Гарадзішча». Санько У. ад Гіб Фрола (1903), в. Навасёлкі Маладзечанскага р-на.

Пра князя Радзівіла. Шэйко Н. ад Якубчык Зінаіды (1913), в. Туча Клецкага р-на.

У памяць пра Тэолу. Касіло Г. ад Гурскага Івана (1928), в. Загоры Ваўкавыскага р-на.

Навасёлкі. Дабравольная Т. ад Сухарукай Марыі (1910), в. Навасёлкі Мядзельскага р-на.

Пра крыж пад сасною. Іванова Л. ад Герасімавай Маланні (1901), в. Пагарэліца Шумілінскага р-на.

Пра возера Кромань. Тараскевіч М. ад Васкабоева Аляксандра (1935), в. Налібокі Стаўбцоўскага р-на.

Пра возера Нарач. Ад Катовіч А. (1905), г. Паставы Віцебскай вобл.

Пра возера Баторына. Місуна В. ад Місуна С. (1925), г. п. Мядзель Мядзельскага р-на.

Пра рэчку Йголечку. Бабіч В. ад Тройкі Андрэя (1913), в. Забор'е Вілейскага р-на.

Пра Крэўскі замак. Апанасевіч І. ад Крэсла Падзеі (1920), в. Крэва Смаргонскага р-на.

Пра назву вёскі Кашканы. Кавалеўская Л. ад Кашкан Агаф'і (1905), в. Цеплень Уздзенскага р-на.

Пра вёску Ігрушка. Пархоменка Я. ад Арцюховіча Апанаса (1898), в. Ігрушка Крупскага р-на.

«Гарбарнае Мішута М. ад Мішута Уладзіміра (1924), в. Варэйкі Пастаўскага р-на.

Пра коней у падзямеллі. Лаўшун С. ад Башун Е. (1915), а.

Задоры Лепельскага р-на.

Пра вяселле ў Радзівіла. Каракулька І. ад Буйко Пятра (1882), в. Сачыўляны Дзятлаўскага р-на.

Пра ўрочышча Звярынец. Каракулька І. ад Ліхача Фёдара (1889), в. Явар Дзятлаўскага р-на.

Пра каханне прыгоннага мулсыка і князёўны. Шахлевіч А. ад Гардзей Зосі (1905), в. Леніна Слуцкага р-на.

Пра каханне пана Батурина. Вукаціч М. ад Яскевіча Марціна (1918), в. Багута Смалявіцкага р-на.

Пра «сліва-магілу». Дамастой В. ад Машчонак Кацярыны (1901), в. Вялікія Дольцы Ушацкага р-на.

Пра каваля Сцяпана і Насцю. Дамастрой В. ад Машчонак Кацярыны (1901), в. Вялікія Дольцы Ушацкага р-на.

Пра яўрэйскі калодзеж. Шахлевіч А. ад Гардзей Зосі (1905), в. Леніна Слуцкага р-на.

Пра асілка і змеяў. Ад Лебедзь Марыі (1907), в. Руда-Яварская Дзятлаўскага р-на.

Ясеў крыж. Ад Масцяніцы Алены (1904), в. Дамуці Пастаўскага р-на.

Пра гару Дзявочую. Цырык М. ад Каранеўскай Ганны (1896), в. Дуброва Маладзечанскага р-на.

Ёўгін калодзеж. Ад Аўдод Антолі (1920), в. Вялікае Сяло Петрыкаўскага р-на.

Воўчае балота. Ад Мялько Уладзіміра (1902), в. Цвіркі Стаўбцоўскага р-на.

**БЫВАЛІЦЫ**

Як нарэшце і пану цяжка прыйшлося. Бабіч В. ад Тройкі Аляксандра (1907), в. Забор'е Вілейскага р-на.

Жыццё кавалера. Барадзіно В. ад Максімавіча Пятра (1909), в. Лань Нясвіжскага р-на.

За прыгонам. Каладзінскі В. ад Фурса Івана (1903), в. Машчаліна Чэрвеньскага р-на.

Шляхецкі кірмаш. Каладзінскі В. ад Фурса Івана (1903), в. Машчаліна Чэрвеньскага р-на.

Баўтручка паслухаў. Ад Капуцкай Агафіі (1918), в. Шынкі Вілейскага р-на.

Вяселле. Стэльмах В. ад Сазанавай Ганны (1913), в. Новая Вёска Стаўбцоўскага р-на.

Як я ажаніўся. Ад Капуцкай Агафіі (1918), в. Шынкі Вілейскага р-на.

У даўнейшыя часы. Ад Зайко Ганны (1910), в. Чарэшня Навагрудскага р-на.

Як была вайна вялікая. Ад Харэвіча Аляксандра (1896), в. Пятровічы Валожынскага р-на.

Пра вайну чатырнаццатага года. Балоціна Л. ад ГІрошкі Аляксандра (1902), в. Лу скоўшчыка Браслаўскага р-на.

Цярэшка і Давыд. Супрун Н. ад Каваленка Галіны (1942), в. Астапаўшчына Ушацкага р-на.

**АПАВЯДАННІ-УСПАМІНЫ**

Мужычая помста. Сокалаў С. ад Балыш Пятра (1910), в. Суцькава Смаргонскага р-на.

Кулацкая шчодрасць. Ад Рагіні Галіны (1916), г. Паставы Віцебскай вобл.

Сіроцкая доля. Ад Скрыцкай Вольгі (1914), в. Савічы Пастаўскага р-на.

Апавяданне паповай пастушкі. Маляўка М. ад Тонкавіч Алімпіяды (1912), в. Сінькі Смаргонскага р-на.

Ходзячы па свеце. Мароз М. ад Варанішчы Міхаіла (1894), в. Светач Смаргонскага р-на.

Я відзеў гада. Танака У. ад Фарботкі І. (1908), в. Целяхі Стаўбцоўскага р-на.

«Смачнэго». Ад Свіршчэўскай Аляксандры (1911), в. Труханкі Пастаўскага р-на.

Начлежныя забавы. Рудабелец В. ад Тоўкач Соф'і (1897), в. Рудня Чэрвеньскага р-на.

Град. Мардвінцава А. ад Мінько Марыі (1902), в. Волма Валожынскага р-на.

У лапцях — і на работу і на танцы. Мардвінцава А. ад Мінько Марыі (1902), в. Волма Валожынскага р-на.

Дзіўны Марка. Гугаль В. ад Крупенькі Аляксандра (1906), Аршанскі р-н.

Пуціла — свіння вуха адкруціла. Колтун Л. ад Максімавіча Івана (1920), г. Чэрвень Мінскай вобл.

Паслухаўшы парады. Сушчэня З. ад Кудзіновіч Надзежды (1913), в. Замасточча Чэрвеньскага р-на.

Як жонка стала паслухмянай. Мацкевіч А. ад Зыля Аляксея (1910), в. Рудня Чэрвеньскага р-на.

Сама сябе перахітрыла. Заяц А. ад Місюкевіча Вікенція (1910), в. Карабы Ашмянскага р-на.

**Апавяданні-ўспаміны з часоў Вялікай Айчыннай вайны**

У самым пачатку вайны. Санкевіч К. ад Санкевіч Арыны (1912), в. Рубежы Старадарожскага р-на.

Не разгубіліся. Санкевіч К. ад Рубчэні Мар'і (1908), в. Рубежы Старадарожскага р-на.

У палоне. Санкевіч К. ад Лехаўца Фёдара (1901), в. Сінягова Старадарожскага р-на.

Здзекі з палонных. Санкевіч К. ад Санкевіч Фядоры (1920), в. Рубежы Старадарожскага р-на.

Той раз не забілі. Санкевіч К. ад Санкевіч Арыны (1912), в. Рубсжы Старадарожскага р-на.

Узварацень дапамог. Санкевіч К. ад Санкевіч Фядоры (1918), в. Рубежы Старадарожскага р-на.

Выратаванне. Санкевіч К. ад Санкевіч Вольгі (1915), в. Рубежы Старадарожскага р-на.

Удалося выратавацца... Санкевіч К. ад Санкевіч Агапы (1910), в. Рубежы Старадарожскага р-на.

На плач-слёзы яны і не глядзелі. Санкевіч К. ад Петрушэні Кацярыны (1896), в. Сінягова Старадарожскага р-на.

Расправа. Санкевіч К. ад Санкевіч Агапы (1910), в. Рубежы Старадарожскага р-на.

І двое дзетак з жанчынамі... Санкевіч К. ад Санкевіч Галіны (1914), в. Рубежы Старадарожскага р-на.

Ад смерці — у смерць. Санкевіч К. ад Санкевіч Марыі (1926), в. Рубежы Старадарожскага р-на.

Налёт у полі. Санкевіч К. ад Санкевіч Марыі (1913), в. Рубежы Старадарожскага р-на.

І ненароджаных забівалі. Санкевіч К. ад У сен і Вольгі (1926), в. Сінягова Старадарожскага р-на.

Гарэла да самага вечара... Вукаціч М. ад Яскевіча Марціна (1918), в. Багута Смалявіцкага р-на.

Ратаваліся ў лесе. Мятла М. ад Тараракі Мікалая (1895), б. Парадні Міёрскага р-на.

Кулінін востраў. Ад Глазко Надзеі (1925), в. Бабцы Докшыцкага р-на.

Так было. Санкевіч К. ад Шашкі Алесі (1915), б. Рубежы Старадарожскага р-на.

Як я партызанаў выратавала. Санкевіч К. ад Санкевіч Агапы (1910), в. Рубежы Старадарожскага р-на.

Мужнасць маці. Ад Галоўкі Андрэя (1915), г. Паставы.

Пра настаўніка-патрыёта. Вукаціч М. ад Яскевіча Марціна

Народныя казкі-байкі, апавяданні і мудраслоўі / Укл. і рэд. Н. С. Гілевіч. — Мн.: Выд-ва БДУ, 1983. — 350 с., іл. — (Беларус. фальклор у сучас. запісах).

У зборнік увайшлі творы беларускай народнай прозы і паэзіі з фальклорнага архіва кафедры беларускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна.

Фальклорная проза прадстаўлена казкамі, бываліцамі, легендамі, прымхліцамі, апавяданнямі-ўспамінамі, народная афарыстыка — прыказкамі, прымаўкамі, прыгаворкамі, загадкамі.

Разлічаны на філолагаў, а таксама на шырокае кола чытачоў, якія цікавяцца беларускай народнай творчасцю.